ПЛОШЧА СВАБОДЫ

## Ніл Гілевіч

# Выбар



МІНСК
«БЕЛАРУСЬ»
1993

ББК 66.5 (2Б)
Г 47
УДК [323.1 + 008] (476)

*Серыя заснавана ў 1991 годзе*

Гілевіч Н.
Г 47 Выбар.— Мн.: Беларусь, 1993.—248 с.— (Плошча Свабоды).
ISBN 5-338-01106-9.

У новай кнізе публіцыстыкі народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча змешчаны найбольш значныя артыкулы, прамовы, інтэрв'ю трох апошніх гадоў, а таксама тыя з іх, якія ў свой час па цэнзурных меркаваннях у друк не трапілі. Асноўныя тэмы зборніка — лёс беларускай зямлі, адраджэнне гістарычнай памяці народа, яго нацыянальнай самасвядомасці, мовы, культуры.
Для шырокага кола чытачоў.

Г $\frac{0801000000—048}{М 301(03)—93}$ БЗ

ББК 66.5 (2Б)

ISBN 5-338-01106-9

# I

## АДРАДЖЭННЕ БЕЗ ВЫПРАБАВАННЯЎ? НАІЎНАСЦЬ!..

«Літаратура і мастацтва» *за 18 лістапада 1988 г.*

Праходзяць дні і тыдні — не праходзіць пачуццё сораму. Сораму за тое, што папярэднічала 30-му дню кастрычніка і што тады адбылося.

Напачатку было сорамна за арганізаваную ў друку атаку супраць творчай і навуковай інтэлігенцыі Беларусі — атаку неразумную, вульгарную, злобную і асабліва небяспечную тым, што яна бласлаўлялася іменем рабочага класа. Супраць інтэлігенцыі, якая ў нас — плоць ад плоці і косць ад косці народа, у якой не было і няма іншых жаданняў, апрача аднаго: паспрыяць таму, каб жыццё ў краіне стала ва ўсіх адносінах лепшым і, канешне ж, каб забяспечыць сапраўды дэмакратычныя варункі для развіцця беларускай нацыянальнай культуры і нашай роднай мовы. Апошняе асабліва важна, таму што без сваёй культуры і без уласнай мовы нацыя перастае быць сабою, а мы ўсё-такі хочам на гэтай зямлі, на гэтай рознагалосай і рознакаляровай планеце заставацца нацыяй. Зробленыя супроць беларускай інтэлігенцыі публічныя выпады ў друку і на розных форумах (канферэнцыях, нарадах, сходах), арганізаваны паход супроць яе разумных грамадскіх ініцыятыў — сёння, на чацвёртым годзе перабудовы, — гэта самае горшае, што магло быць прыдумана ў кіраўнічых вярхах. І, канешне ж, сведчанне цяжкіх шляхоў перабудовы.

Працягам і вынікам гэтых вялікіх высілкаў афіцыйных улад сталі падзеі, якія мелі месца напярэдадні 30 кастрычніка і ў самы дзень 30-га, у нядзелю. Здарылася непапраўнае: на нашай святой, паленай-

перапаленай пажарамі, мытай-перамытай крывёю народа зямлі забаранілі правядзенне старажытнага народнага абраду «дзяды» — з жалобным мітынгам, прысвечаным ушанаванню памяці ахвяр сталінізму і ўсіх, хто аддаў жыццё за светлую долю Бацькаўшчыны. Матывы забароны былі такія смехатворныя, што выглядалі проста здзекам і над здаровай логікай і, перш за ўсё, над пачуццямі людзей. І многія мінчане, у тым ліку навукоўцы, мастакі, літаратары, пайшлі ў нядзелю на Усходнія могілкі, каб хоць ускласці кветкі на магілы «дзядоў» (раз мітынг забаронены) ды пастаяць каля іх моўчкі. Зрэшты, можна вельмі шмат сказаць і маўчаннем. Але пастаяць так і памаўчаць ім не давялося: зборнымі сіламі міліцыі горада яны былі разагнаны; асобных вядомых дзеячаў мастацтва і літаратуры, як злачынцаў, заштурхалі, закручваючы рукі, у міліцэйскія машыны, адвезлі ў аддзяленні і пратрымалі там па некалькі гадзін.

Так прайшлі сёлета «дзяды» ў сталіцы Беларусі — старажытным Мінску.

Чаму ж не будзе на душы і цяжка, і сорамна, і сумна!.. Самае сумнае, што гэта здарылася на зямлі, дзе на кожным кроку магілы. І дзе тысячы магіл не проста недагледжаны, а ў дзікім запусценні. І дзе абуджэнне ў людзей пачуцця пашаны да памяці продкаў, а гэта значыць — выхаванне ў моладзі гістарычнай (чытай — патрыятычнай) самасвядомасці, — адна з архіактуальных ідэалагічных задач партыі і ўсяго грамадства. Маладыя людзі няйначай адчулі покліч і загад-патрабаванне самога часу — і пацягнуліся душой да гісторыі свайго народа, да яго памяці, іначай сказаць — да сапраўднай вялікай культуры — паколькі культуры «бяспамятнай» не бывае. Тыя, што ішлі 30 кастрычніка да Усходніх могілак, — гэта, агулам узята, лепшыя, палітычна свядомыя сілы нашай сучаснай моладзі (пра выключэнні, пра балбесаў ці правакатараў, што прымазваюцца да добрых людзей, — гаварыць не будзем). Гэта якраз на іх

можна і трэба абаперціся ў выхаваўчай рабоце, у тым ліку — у намаганні грамадства затрымаць развіццё такіх небяспечных негатыўных з'яў, як наркаманія, прастытуцыя, жорсткасць і хуліганства, балдзенне ад рокавай «чумы» і інш. Але, як бачым, для некаторых чыноўнікаў усё гэта менш небяспечнае, менш страшнае, чым рост гістарычнай і нацыянальнай самасвядомасці маладых людзей. Калі б не так — яны б горача падтрымалі ідэю штогадовага правядзення калектыўных грамадскіх «дзядоў» з абавязковым мітынгам-рэквіемам, дзе можна сказаць шчырыя словы пра свае чалавечыя і грамадзянскія абавязкі перад памяццю продкаў.

Гэтага, аднак, не адбылося. Адбылося штосьці іншае — прыкрае, непрыгожае, ганебнае... І вельмі ж неразумнае! Уяўляю маладога міліцыянера, нядаўняга школьніка, які цягне ў машыну таленавітага пісьменніка Уладзіміра Арлова і таленавітага мастака Аляксея Марачкіна... Ды яму б разжыцца на кнігу гэтага пісьменніка, уважліва прачытаць яе ды задумацца над прачытаным, ды яшчэ і аўтограф папрасіць на памяць!.. Ды яму б схадзіць і паглядзець цудоўныя карціны гэтага мастака, набрацца ад іх святла, дабрыні і радасці, узвысіцца пачуццём і думкай, акрыліцца душою!.. На жаль, на жаль!.. Кніг Арлова ён яшчэ не чытаў, карцін Марачкіна яшчэ не бачыў, а ў машыну гэтых таленавітых творцаў ужо цягнуў... Як злачынцаў. А пасля будзем здзіўляцца: чаму ў нас столькі хамства і дзікунства, адкуль яно ўзнікае?

У тым, што адбылося з сёлетнімі «дзядамі» (летась яны прайшлі спакойна), вінаваты і мы, працаўнікі мастацтва, літаратуры, навукі. Калі два гады назад гэтак жа гвалтоўна былі разагнаны дзеці, школьнікі, вучні рэспубліканскай мастацкай школы, якія рашылі правесці свята «гукання вясны», прыйшлі паказаць людзям беларускія народныя танцы, чароўныя вясновыя карагоды, — мы тады, на вялікі жаль, не выказалі адкрыта і галасна свайго пратэсту, публічна не

асудзілі тое свядома арганізаванае бясчынства. І вось, калі ласка, — першы трывожны сімптом на нашых вачах перарастае ў пачварнае з'явішча.

Калі абагульніць сэнс усіх гэтых падзей — выснову можна зрабіць адну: дэмакратыя сутыкаецца з закасцянелай бюракратычнай сістэмай, культура — з бескультур'ем. У апошні час адусюль паступаюць шматлікія сігналы аб тым, што ў дачыненні да беларускай інтэлігенцыі і перш за ўсё — да беларускіх пісьменнікаў распальваецца падазронасць і непрыязнасць як да ворагаў перабудовы і нацыяналістаў, мабілізуюцца і ўздымаюцца яўна сталінісцкія або проста цёмныя мяшчанска-абывацельскія сілы. Удумацца толькі: пісьменнікі — ворагі перабудовы! Але калі гэта абвінавачванне анекдатычна смешнае, то другое — агідна гнюснае. 60 гадоў назад пачалі кляйміць гэтым кляймом нашу літаратуру — і бачыце: курылка ўсё яшчэ жывы! Ужо ўвесь свет ведае, што няма ў беларускай савецкай літаратуры нацыяналізму, што паэтызацыя любові да роднай зямлі і роднай мовы не ачмурае нацыяналістычным чадам нашчадкаў Купалы, Коласа, Багдановіча, а тут, на месцы, усё яшчэ шукаюць, усё яшчэ нюхаюць і выследжваюць. А ў якасці доказаў спасылаюцца на брудныя правакацыйныя пісулькі з заклікам «Беларусь — для беларусаў!» ці накшталт гэтага. Калі нейкія правакатары сапраўды практыкуюць такія мярзотныя забавы, то хай імі зоймецца адпаведная арганізацыя, а пры чым тут беларуская літаратура і Саюз пісьменнікаў Беларусі? Ну канешне, канешне, калі, напрыклад, вось гэтыя радкі Пімена Панчанкі: «Ці плачу я ці пяю? Восень. На вуліцы цёмна. Пакіньце мне мову маю! Пакіньце жыццё мне!» — калі гэты крык збалелага сэрца паэта ўспрымаць як нацыяналізм, г.зн. як непавагу, пагарду і нянавісць да іншых народаў, — дык тады, канешне, ёсць у нас гэта самая зараза, ёсць!

Не проста здзіўляе, а паражае тая глухата, што становіцца на шляху шчырых і добрых памкненняў нацыянальна свядомай беларускай інтэлігенцыі, пара-

жае нейкая адчужанасць, прадузятасць, гатоўнасць загадзя абвінаваціць, замест таго каб прыслухацца. Паражае тон размовы, інтанацыі ўзору 1946—1947 гг. Пайшла спекуляцыя свабодай выказвання думак, г.зв. плюралізмам. Калі чалавека давялі да такога ўзроўню грамадскай свядомасці, што ён публічна, на старонках газеты, прызнаецца ў нянавісці да сваёй роднай мовы,— дык гэта ж не плюралізм, а звычайнае дзікунства і паталагічная амаральнасць, і калі газета друкуе падобныя заявы без свайго рэдакцыйнага каментарыя, без асуджэння, — значыць, яна пад шырмай плюралізму прапагандуе амаральнасць. Няўжо наша грамадства можа з гэтым мірыцца? Ні ў якім разе! І вядома ж, мы, літаратары, — у першую чаргу абавязаны даваць падобнаму дзікунству бой.

Мы перажываем не проста вельмі цяжкія і трывожныя дні. Драматызм сітуацыі дайшоў да той грані, за якою — або наша маральная перамога і выратаванне гонару беларускай літаратуры, або баязліўскае самапаніжэнне і ганьба. Выпрабоўваюцца нашы сумленне і мужнасць, наша права на павагу сумленных людзей Бацькаўшчыны. Але калі добрыя, сумленныя людзі, поўныя жадання садзейнічаюць перабудове, да нас, пісьменнікаў, ідуць — дык ці трэба трывожыцца? Можа, наадварот, — трэба радавацца, што добрыя, сумленныя людзі яшчэ нам вераць і давяраюць, бачаць у творчай інтэлігенцыі актыўнага абаронцу праўды, справядлівасці, чалавечай годнасці. Я двойчы паўтарыў «добрыя, сумленныя людзі» і зрабіў гэта наўмысна, бо тут таксама ёсць праблема: усякі грамадскі рух за перабудову павінен аб'ядноўваць людзей з чыстым сэрцам. Гэта мы абавязаны помніць і праяўляць прынцыповасць.

Сёння ад пісьменнікаў патрабуецца надзвычай многа, нашы магчымасці хоць і вялікія, аднак жа абмежаваныя. Законаў мы не ўстанаўліваем, указаў не прымаем. Але ўплываць на грамадскую думку, на свядомасць людзей — можам. Значыць, нам і надалей

застаецца рабіць тое, што мы можам і што абавязаны рабіць. Спакойна, без нервознасці, але непахісна і ўпэўнена ісці шляхам, якім нас вядзе сумленне і на які нас бласлаўляюць цені нашых вялікіх пачынальнікаў, нашых несмяротных настаўнікаў. А практычна — значыць, пісаць новыя, добрыя творы і як мага часцей гаварыць з людзьмі, з народам. Гаварыць з народам! У народа — сэрца чулае, а розум светлы. Дзе праўда — разбярэцца. І пойдзе за праўдай абавязкова!

*P.S. Калі артыкул ужо быў набраны, я прачытаў у рэспубліканскім друку публікацыю «Вывады камісіі» — аб выніках работы камісіі Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, у якую як дэпутат Вярхоўнага Савета быў уведзены і я. Лічу сваім абавязкам сказаць, што вывадаў камісіі ў такой рэдакцыі, як пададзена чытачам, я не падпісваў. На пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета 14 лістапада, дзе разглядаліся вынікі работы камісіі, мною было адназначна заяўлена, што забарона правядзення «дзядоў» — грубая памылка, якая абярнулася шкоднымі, дэстабілізуючымі для грамадска-палітычнай атмасферы вынікамі.*

## «УСЕ ЛЮДЗІ ЖЫТА СЕЮЦЬ...»

**Выступленне на адзінаццатай сесіі Вярхоўнага Савета БССР адзінаццатага скліканняx**
*29 ліпеня 1989 г.*

Паважаныя таварышы дэпутаты! У даўняй беларускай песні ёсць такія радкі: «Усе людзі жыта сеюць, а я сваё гора». Сёння мы можам ужо пра ўвесь наш народ, пра ўсіх нас сказаць: «Усе людзі жыта сеюць, а мы сваё гора». Адна пятая тэрыторыі, па прыблізных падліках, а можа ўсё-такі і больш (мы звычайна лічым не ў карысць сабе), забруджана радыяцыяй,

але мы на ёй сеем і здабываем прадукт. Мы сеем сваё заўтрашняе гора. Значыць, трэба адумацца, апомніцца і перастаць сеяць на гэтай зямлі гора. У нас і так была цяжкая экалагічная сітуацыя ў рэспубліцы. Цяпер, улічваючы вось гэтую новую бяду, яна ў нас неймаверна ўскладнілася, і я выкажу рад канкрэтных прапаноў.

Мая першая прапанова — аб'явіць афіцыйна, не ведаю, спецыяльнай пастановай Вярхоўнага Савета ці як іначай, але аб'явіць афіцыйна ў рэспубліцы надзвычайную экалагічную сітуацыю. Так і апавясціць увесь свет: мы — рэспубліка надзвычайнай экалагічнай сітуацыі. На доўгія гады. Не толькі на той, забруджанай, тэрыторыі, а па ўсёй рэспубліцы, таму што ўся рэспубліка бярэ на сябе адказнасць і ўвесь груз, і ўвесь цяжар, і ўсю трагедыю, якая здарылася на нашай зямлі, не па нашай віне, як тут гаварылася. Учора і сёння столькі выступіла разумных людзей з такім глыбокім усведамленнем праблемы як драмы і трагедыі народнай, што застаецца здзіўляцца, сапраўды, дзе ж мы ўсе былі раней, чаму толькі праз тры гады мы загаварылі на ўвесь голас і з тым грамадзянскім і чалавечым болем, з якім павінны былі загаварыць у свой час.

Хачу сказаць, што галасы, перш за ўсё, мне гэта вядома, галасы некаторых вучоных, пісьменнікаў, раздаваліся даўно, і гэта былі не проста галасы, а ўсё-такі гэта быў крык, калі хочаце, лямант, што трэба нешта рабіць. Да іх, на жаль, не прыслухоўваліся.

Я ўспамінаю, два гады назад на сустрэчы Бюро ЦК КПБ і прэзідыума Саюза пісьменнікаў Беларусі пісьменнікі гаварылі пра гэта, гаварылі, што гэта праблема надзвычай страшная для нас і трэба яе вырашаць. І вось у сувязі з гэтым немагчыма не сказаць, не ўзняць пытанне пра дэмакратыю і недэмакратыю. Я не буду на ім спыняцца надоўга, але давайце падумаем. Калі б да тых галасоў знізу, з наро-

2. Зак. 5434.

да, прыслухаліся своечасова, напэўна б, мы раней узяліся за вырашэнне гэтай праблемы. Але, на жаль, мы прывыклі за дзесяткі гадоў старой завядзёнкі: ёсць начальства, яму відней, яно лепш ведае, што рабіць, а мы будзем цярпець. Ну і вось дацярпеліся, усё-такі прыходзіцца рашаць усім нам і ўсяму народу. Я толькі дабаўлю да гэтага, што і ўсім нам, дэпутатам, павінна быць трохі сорамна. Маглі б мы на нашых сесіях даўно падняць гэта пытанне.

Цяпер наступныя прапановы. Я думаю, што гэту праграму сёння мы прыняць не можам. Маё меркаванне, як і многіх з тых, што выступілі, паколькі мы ствараем сёння камісію спецыяльную, даручыць камісіі ў вельмі жорсткі, зусім кароткі, сціслы тэрмін дапрацаваць праграму, а затым склікаць зноў нечарговую сесію Вярхоўнага Савета БССР, хоць сабе і праз месяц, а трэба, дык і раней. Я думаю, калі пытанне ідзе пра жыццё або смерць нацыі, народа, то тут не трэба ні з чым лічыцца і разгледзець, і зацвердзіць праграму, як толькі яна будзе гатова. Я прапаную: наконт усіх тых 508 вёсак, якія значацца ў праграме на адсяленне на тры этапы, трэба паставіць пытанне аб адсяленні жыхароў з тых вёсак неадкладна. Неадкладна! Пры гэтым даверыць, даручыць справу адсялення мясцовым уладам. Я згодзен з таварышам, які выступаў і гаварыў пра тое, што не лічацца з мясцовымі ўладамі: абласнымі, а тым больш раённымі. Даверыць пры гэтым мясцовым уладам разабрацца, якія канкрэтныя вёскі, у якой паслядоўнасці, сёння ці заўтра (там ім на месцы лепш відаць) трэба адсяліць з гэтай тэрыторыі людзей, трэба ратаваць людзей і заспакоіць усю рэспубліку гэтым самым. Калі мы адселім людзей, то праз дзесяткі гадоў гэтыя землі ачысцяцца, стануць зноў прыгоднымі для таго, каб карыстацца імі, дык на іх могуць вярнуцца хоць дзеці ці ўнукі, а так не будзе каму і вярнуцца.

І яшчэ. У сувязі з тым, што, як я ўжо казаў, адна

пятая (20 %) тэрыторыі выбыла з карыстання, адпаведна гэтаму трэба знізіць пастаўкі для нашай рэспублікі ва ўсесаюзны фонд. І яшчэ ўлічыць, што мы, астатняя тэрыторыя, ну, скажам так, 80 працэнтаў, бярэ на сябе тых жыхароў, каго трэба карміць, адселеных з адной пятай тэрыторыі. Значыць, адну пятую насельніцтва. Такім чынам, мы павінны прыняць такую пастанову, звярнуцца ва ўсесаюзны ўрад з такім патрабаваннем: знізіць нам працэнтаў хаця б на 30 пастаўкі ва ўсесаюзны фонд.

Наступная мая прапанова. Я падтрымліваю ўсіх тых, хто сказаў, што трэба адклікаць усе сілы нашых будаўнікоў і іншых арганізацый, якія сёння знаходзяцца за межамі Беларусі. Я ўпэўнены, што людзі ў другіх рэспубліках зразумеюць нас, не асудзяць і не палічаць, што мы адыходзім ад прынцыпаў інтэрнацыяналізму. Калі ўвесь Савецкі Саюз будзе ведаць, што ў нас надзвычайная экалагічная сітуацыя,— крыўды на нас не будзе.

І апошняе. Я ўчора хацеў задаць Уладзіміру Гаўрылавічу Еўтуху пытанне, але, бачыце, мы так дэмакратычна праводзім нашу сесію, што мне не далі задаць гэта пытанне — старшыня Вярхоўнага Савета Іван Якаўлевіч Навуменка не даў. Я думаю, таварышы, што мы надта спяшаемся галасаваць. Вось і ўчора, хутчэй прагаласавалі, што пытанні падаюцца толькі ў пісьмовай форме. А чаму б і не ў пісьмовай, а і ў вуснай форме не задаць пытанне? І задаць у вуснай форме — гэта не значыць, што дакладчык тут жа адказвае. Ён скажа: я адкажу на гэта пытанне пасля, як буду мець заключнае слова. Гэта — да парадку нашай работы.

Дык вось якое я хацеў задаць учора пытанне. Можа быць, не ўсе дэпутаты ведаюць, што на Украіне таксама выдадзена карта заніравання, дзе можна збіраць грыбы, а дзе зусім нельга, а дзе з дазіметрычным кантролем... На месяц з гакам пазней апублікавана на Украіне такая карта. І гэтая ўкраінская карта

істотна не супадае з нашай беларускай картай. А іменна ў прыгранічных раёнах. Скажам, вось у нас на захад ад Дзівіна ўжо ідзе зусім чыстая тэрыторыя. Можна ўсякія грыбы збіраць. На ўкраінскі бок тут жа, ля граніцы, можна збіраць, — і гэта тэрыторыя на дзесяткі кіламетраў цягнецца — можна збіраць грыбы толькі з дазіметрычным кантролем. Далей: Жытомірска-Палескі запаведнік заштрыхаваны як тэрыторыя, дзе зусім нельга збіраць грыбы. На суседняй прыгранічнай тэрыторыі з беларускага боку можна, аказваецца, збіраць грыбы з дазіметрычным кантролем. І далей на ўсход таксама ёсць несупадзенне ўжо ў супрацьлеглы бок, калі ў нас можна збіраць грыбы з кантролем, а ў Чарнігаўскай вобласці, у прыгранічнай, нельга зусім збіраць.

Паважаныя таварышы! Вы ведаеце ўмоўнасць гэтай граніцы. Ну, яе і людзі не прызнаюць. І мы не лічымся з ёй, таму што там нават і слупкоў няма, тым больш ніякай жалезнай сцяны. Але грыбы і падаўна не прызнаюць гэту граніцу. І вецер, і дождж, якія пераносяць радыеактыўныя нукліды, пераносяць забруджанне, не прызнаюць гэтых граніц. Вы ўяўляеце: адзін велізарны лясны масіў, дзе там якія граніцы? Вядома, напэўна, ёсць разыходжанні. Але вось каб так жалезна, як адрэзана, іменна па граніцы? Дайшлі гэтыя самыя нукліды да граніцы і спыніліся і далей не пайшлі? Так не бывае. Таму я хацеў бы спытаць ва Уладзіміра Гаўрылавіча, ці вядома яму пра гэта несупадзенне ў картах беларускай і ўкраінскай. А калі вядома, то чым гэта растлумачыць? Дзякую за ўвагу.

## СПАКОЙНА, РАЗВАЖЛІВА, ПА-ЛЮДСКУ

*«Звязда» за 7 кастрычніка 1989 г.*

Здаецца, што наша грамадства, калі браць агулам, сёння ўжо зусім ясна разумее: нацыянальнае пытанне ў шматнацыянальнай краіне — у выніку адступлення

ад дэмакратычных пазіцый — аказалася ў запушчаным стане, у практычным ажыццяўленні нацыянальнай палітыкі выявіліся згубныя дэфармацыі, узніклі вельмі складаныя праблемы, якія трэба неадкладна вырашаць. Гэту відочную рэальнасць прызнала кіраўніцтва краіны і партыі, па-дзяржаўнаму цвяроза ацаніла сітуацыю і намеціла канкрэтныя шляхі выпраўлення становішча — маю на ўвазе толькі што прынятую на Пленуме ЦК КПСС «Платформу».

Па звычцы, якая ўкаранілася ў нас за дзесяцігоддзі, мы ўжо гатовы пафасна аб'явіць і ў газетах і па радыё пра ўсенародную ўхвалу высокага партыйнага дакумента. А варта было б, мабыць, устрымацца ад такіх звыклых дэкламацый. Бо ці па ўсіх пунктах «Платформы» гэтая ўхвала сапраўды ўсенародная? Ну, возьмем, напрыклад, пытанне аб мове — адно з самых важных у сферы нацыянальнай палітыкі. У «Платформе» ЦК КПСС гаворыцца, што кожная рэспубліка мае права надаць мове нацыянальнасці, якая дала назву рэспубліцы, статус дзяржаўнай. І вядома ж, няма агаворкі: за выняткам БССР. І што ж? Мы можам сказаць, што гэту пазіцыю ў Беларусі падзяляюць усе дзесяць мільёнаў яе жыхароў? На жаль, на жаль!.. Пацікаўцеся, колькі ідзе ў рэдакцыі рэспубліканскіх газет пісем, у якіх людзі пратэстуюць супраць таго, каб мова беларускага народа на зямлі гэтага народа мела статус дзяржаўнай. Прычым з вялікім абурэннем пратэстуюць. Ды і людзі, як правіла, не абы-якія, а — высокаадукаваныя, дасведчаныя, палітычна актыўныя. «Незачем нам белорусский язык в роли государственного! Незачем! И не нужно этого делать. У нас должен быть один государственный язык на всю страну — русский!» Вось так: адзін і — «никаких гвоздей»! Таму і кажу: пачакаем з «усенароднай ухвалаю». Пакуль гучаць такія ваяўнічыя пратэсты — пачакаем.

Паколькі ў большасці сваёй гэтыя адукаваныя і нават дзяржаўныя таварышы ўвогуле дэкларацыйна

«за» адраджэнне беларускай мовы і культуры, за тое, каб родная мова ў Беларусі жыла і развівалася,— я хачу ім задаць элементарна простае пытанне, якое патрабуе канкрэтнага, а не дэкларацыйнага адказу: «А што трэба рабіць, шаноўныя, каб беларуская мова ў Беларусі заняла належнае становішча, каб яна, як вы ёй таго жадаеце, жыла і развівалася?» Што — канкрэтна? Вы — задумаліся? Не думайце. Бо калі адхіліць галоўнае, то што вы ні параіце, якія прапановы ні зробіце — усё гэта ў лепшым выпадку можа быць толькі пабочным, дапаможным падспор'ем, эфектыўным і дзейсным толькі тады, калі будзе галоўнае, а іменна — калі наша мова ў нашай рэспубліцы будзе дзяржаўнай, будзе функцыяніраваць ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, будзе мовай справаводства, мовай усёй сістэмы адукацыі і выхавання — ад дзіцячага сада да універсітэта, мовай на вытворчасці і ў сферы абслугі і г. д. А толькі дэкларацыямі, ці іначай — вашымі малітвамі, мова не адродзіцца, жыць і развівацца не будзе.

Калі гаварыць да канца шчыра, многія таварышы ўсё яшчэ працягваюць своеасаблівую гульню ў жмуркі — у надзеі, што ісціну нікому злавіць не ўдасца, што абманнымі воклічамі (чытай — лозунгамі) можна бясконца збіваць людзей з панталыку. Здавалася б: давайце публічна, адкрыта і без хітрыкаў паставім усе кропкі над «і». Давайце для пачатку паўторым ісціны, якія шукаць (лавіць) не трэба, бо яны сцверджаны гісторыяй і прызнаны ўсім светам.

Паўторым звышсцісла і катэхізісна — у пытаннях і адказах. «Ці ёсць беларускі народ, беларуская нацыя? — Ну, што за пытанне! Вядома, ёсць. Прычым у вялікай сям'і славян народ — далёка не з меншых: як-ніяк, а дзесяцімільённы». — «Ці ёсць у гэтага народа свая нацыянальная мова? — А як жа! Ды яшчэ якая прыгожая і мілагучная! А як дасканала вусна і пісьмова (за тысячу гадоў кніжнасці) распрацавана!» — «А ці ёсць у яго свая нацыянальная культу-

ра? — Вядома! Багатая і самабытная прычым. І матэрыяльная, і духоўная. Пагляньце адно на фальклор: у сарака аб'ёмістых тамах выйшаў збор беларускай народнай творчасці, не кажучы пра сотні іншых выданняў». — «А ці праўда, што іменна культура (у самым шырокім разуменні слова) вызначае аблічча нацыі?— Толькі так! А што ж яшчэ, калі не культура? Нацыянальнае дойлідства, разнастайная мастацкая творчасць, народныя рамёствы, традыцыі і звычаі, а першнаперш — мова». — «А чаму мова паперадзе ўсяго? — Таму што мова — першаэлемент нацыянальнай культуры, яна — аснова асноў усёй культурнай творчасці народа, яна — відочна або нябачна — ёсць ва ўсім, што мы называем культурай, яна па сутнасці фарміруе нацыянальную культуру, і нарэшце — яна арганізоўвае наогул усю жыццядзейнасць народа». — «Дык што будзе з народам, з нацыяй, калі адамрэ яго мова і, значыць, згіне яго культура? — Будзе тое, што ўжо шмат разоў было ў гісторыі чалавецтва: народа як асобнага этнасу не стане, ён сыдзе з гістарычнай арэны ў небыццё. Назаўсёды, на векі вечныя. Адамрэ мова — памрэ і народ. Нездарма ж кажуць: мова — душа народа. Народ — датуль народ, пакуль яго душа жывая».

Вось такія азбучныя, бо зусім зразумелыя, ісціны, якія сёй-той чамусьці хоча ўскладніць і заблытаць. І пытанне сёння павінна ставіцца толькі так: хочам ці не хочам мы, беларусы, захаваць сябе як нацыю? Хочам ці не хочам мы існаваць далей у гісторыі як самастойны, са сваім непаўторным абліччам, народ? Калі хочам — а напэўна ж хочам! — тады давайце, калі ласка, пачнём з галоўнага: з выратавання нашай роднай мовы.

Сёння трэба ўсім разам — усім, хто цвёрда ўсвядоміў неабходнасць адраджэння мовы і культуры беларускага народа, — брацца за канкрэтную работу, якая прывядзе да жаданых вынікаў.

У рэспубліцы створана масавае культурна-асвет-

ніцкае Таварыства беларускай мовы, якое аб'ядиае тысячы жыхароў Беларусі, нераўнадушных да лёсу роднага слова і поўных жадання паклапаціцца пра яго. Створана таксама дзяржаўная праграма «Родная мова» (яна яшчэ дапрацоўваецца), якая ахоплівае многія аспекты і напрамкі дзейнасці па захаванню і развіццю беларускай мовы. Але самае галоўнае ў шэрагу гэтых, я сказаў бы, вялікіх пачынанняў — стварэнне Камісіі Вярхоўнага Савета БССР па падрыхтоўцы прапаноў аб заканадаўчым урэгуляванні статуса беларускай, рускай і іншых моў, якімі карыстаецца насельніцтва Беларусі.

Рабочая група гэтай камісіі ўжо закончыла складанне законапраекта «Аб мовах у Беларускай ССР», які, спадзяёмся, у самы блізкі час будзе прадстаўлены шырокай грамадскасці на абмеркаванне. Хацелася б падкрэсліць, што падрыхтоўку гэтага законапраекта да яго разгляду на сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі трэба правесці без прамаруджання, бо апошняе сёння таіць у сабе палітычную небяспеку. Людзі стаміліся чакаць усякіх наабяцаных перамен на лепшае, і чаканне перамен у становішчы роднай мовы — не выключэнне. Калі вельмі доўга разварушвацца — незадаволенасць будзе ад гэтага нарастаць, асабліва сярод моладзі, якая, на хвалі абуджэння нацыянальнай самасвядомасці, усё больш і больш пераймаецца клопатамі аб роднай мове. Яна хоча бачыць, што ад слоў мы сапраўды пераходзім да справы і што, такім чынам, высокаму кіраўніцтву можна верыць.

Праект закона аб мовах у Беларускай ССР, пэўна ж, ляжа нарэшце на стол вярхоўнага органа дзяржаўнай улады, але ўжо сёння можна гаварыць аб тым, што яго шлях да ператварэння ў Закон будзе нялёгкі. Па той прычыне, па-першае, што сярод нас ёсць нямала адкрытых, так бы мовіць, прынцыповых нядобразычліўцаў беларускай мовы, ваяўнічых прыхільнікаў і праваднікоў тэорыі «зліцця нацый»; а па-другое, таму, што ў нас яшчэ моцна трымаюцца

пэўныя міфы і страхі, пераадолець якія вельмі цяжка, бо імі ахоплены і апавіты досыць шырокія пласты насельніцтва.

Адзін з такіх міфаў — праклятая спадчына ■ далёкіх часоў сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, калі працоўнага беларуса не лічылі за чалавека, а яго мову абражалі як толькі маглі — аж да таго, што абзывалі сабачай. Да гэтага часу ў многіх беларусаў жыве перакананне, што іх родная мова — горшая за іншыя. Нядаўна слухаў па радыё, як адна жанчына, вясковая паходжаннем, а цяпер гараджанка, тлумачыла, чаму яна не аддала свайго першакласніка ў беларускую школу: «А што ж яго туды аддаваць... У дзярэўню прыедзеш — дык там гэты беларускі язык... а тут хай ужо мой рабёнак вучыцца, як і ўсе, на рускім...» І тысячы, тысячы бацькоў разважаюць вось гэтак. У іх няма магчымасці пераканацца, што іх родная мова — не горшая за іншыя. Калі б была не горшая, дык бы гучала на роднай зямлі ўсюды і скрозь — і на працы, і на вуліцы, і ў магазінах, і ў канцылярыі, і ў школах, — як, скажам, літоўская ў Літве, або польская ў Польшчы, або балгарская ў Балгарыі... І начальства гаварыла б на ёй... А так...

Другі пашыраны сярод нашага добрага, працавітага народа міф — сучасны па паходжанні і мае выразную сацыяльную падаснову. «Што вы там усхадзіліся з гэтай беларускай мовай?! — з абурэннем пішуць нам, у сакратарыят ТБМ, некаторыя жыхары.— Магазіны пустыя, скора есці не будзе чаго, а вы там у Таварыства беларускай мовы гуляеце! Рабіць вам няма чаго, ці што?..» Вось такі, значыць, погляд на стан рэчаў: трэба дбаць пра напаўненне магазінаў, а не пра беларускую мову. У падтэксце: пры поўных прылаўках можна і зусім без мовы абысціся, «на мігі» пагаварыць і дамовіцца, як глуханямыя.

Нялёгка растлумачыць наіўным людзям, што магазіны і будуць у нас пустыя аж да таго часу, пакуль мы не пачуемся людзьмі — гаспадарамі свайго жыцця

і лёсу, гаспадарамі гэтай зямлі, на якой росцім хлеб і ўсё, што да хлеба. Але сапраўдны гаспадар — гэта культурны гаспадар. Абавязкова! Гэта наогул культурны чалавек, з высокай нацыянальнай і гістарычнай самасвядомасцю. Бо ён жа гаспадар не толькі зямлі, палеткаў і лясоў, заводаў і шахтаў — ён яшчэ і гаспадар збудаваных яго прапрадзедамі храмаў, напісаных за тысячу гадоў кніг, складзеных і данесеных з пакалення ў пакаленне цудоўных песень і казак, і, канечне ж, — мовы, мовы! Ён гаспадар і валадар роднага, прараслага і ўзгадаванага на яго зямлі слова, без якога культура, як мы ўжо ведаем, наогул не складваецца, не ўтвараецца.

Вось цяпер і звяжам усё адным лагічным ланцужком. Каб па-гаспадарску, ашчадна і мудра распараджацца зямлёй і яе багаццямі, плённа і з добрымі, светлымі надзеямі працаваць на ёй — трэба быць культурным чалавекам, а гэта значыць — свядомым патрыётам сваёй Бацькаўшчыны, той спадчыны, пра якую Купала напісаў: «Завецца ж спадчына мая ўсяго старонкай роднаю». Культуру і эканоміку адрываць адну ад другой нельга. Там, дзе такі адрыў ёсць,— там недамагаюць, чэзнуць і эканоміка, і культура, і чым гэты адрыў большы — тым большы агульны заняпад.

Каб быць сапраўдным гаспадаром, які забяспечыць магазіны прадуктамі і таварамі, чалавек павінен адчуваць і ведаць, што вось гэта зямля — яго адзіная, на нейкую іншую ён разлічваць не павінен, шчасце яго і яго дзяцей можа быць збудавана толькі тут, і гэту зямлю — дагледжаную, утульную, прыдатную для жыцця і радасці — ён перадасць нашчадкам сваім у спадчыну. Перадасць разам з усім, што робіць яе ўтульнай і прывабнай, — з плёнам сваёй працы і творчасці, са сваімі духоўнымі скарбамі, з паэзіяй і музыкай, і зноў жа — з мовай! Без мовы, без культуры да яго не прыйдзе ўсведамленне сваёй годнасці як

чалавека і гаспадара, адказнага за лёс Бацькаўшчыны, за яе заўтрашні дзень.

Міфічнымі з'яўляюцца і тыя страхі, якія ахопліваюць многіх нашых добрых грамадзян пры гаворцы аб тым, што беларускай мове трэба надаць статус дзяржаўнай і што дзеці беларусаў абавязкова павінны на гэтай мове вучыцца (а калі хто хоча і з небеларусаў — то калі ласка!). «Толькі без прымусу! — спяшаюцца запратэставаць нашы добрыя грамадзяне. — Толькі па выбару, па жаданню!» Ну, добра, без прымусу, ці іначай — па добрай волі, — так, як я хачу. Як мне дыктуе маё ўласнае сумленне. Па добрай волі, слухаючыся свайго сумлення, адмаўляюся ад роднай мовы. А гэта значыць — і ад сваёй культуры, ад усяго таго, што вызначае аблічча народа. А ўрэшце гэта значыць — і ад самога народа, бо: няма мовы — няма народа. Мова і народ — сінонімы. Адмаўляцца ад сваёй мовы і культуры — значыць хацець, каб гэта культура загінула, адмерла. Каб загінула ўсё, чым твае дзяды-прадзеды даражылі. Хіба гэта добрая воля? Выбачайце, але гэта — злая, нядобрая воля... Жадаць пагібелі культуры свайго народа — добрая воля? Аддаць святыні сваёй зямлі на вынішчэнне — добрая воля? Здрадзіць памяці продкаў, запаветам дзядоў і прадзедаў — добрая воля? Няўжо да такой ступені мы заблудзіліся ў трох соснах?

Шаноўныя грамадзяне, якія выступаюць супраць дзяржаўнага статуса беларускай мовы, у лепшым выпадку патрабуюць, каб гэты статус быў нададзены ў нас і рускай мове, каб ураўняць, маўляў, абедзве мовы ў правах, каб нікому не было крыўдна... Але ж у нас ужо гэта было, было! Дзесяткі гадоў абвяшчалася бадай ці не штодзённа, што ў нас і беларуская і руская мовы маюць аднолькавыя правы. Я ўсё жыццё чую гэтыя высокатрыбунныя дэкларацыі. І што ж у выніку? Да чаго дааднолькаваліся? Да чаго датрыбунілі? Якое месца займае ў Беларусі адна мова і

якое — другая? Ужо хіба што ў сабакі вачэй пазычыўшы, можна гаварыць сёння пра іх раўнапраўнае становішча ў грамадстве!.. Дык што: пакінем усё, як было і ёсць, без ніякіх перамен? А перамен не будзе, калі ў нас і руская мова атрымае статус дзяржаўнай. Усё застанецца па-ранейшаму — гэта і дзіцяці зразумела. І чаго тады варты ўсе нашы заклікі-настаўленні, што беларускую мову трэба берагчы, шанаваць і развіваць, што беларускі народ мае права на сваю нацыянальную культуру і г. д. і да т. п. А нічога не варты! Словы на вецер! І не больш!..

Наконт занепакоенасці некаторых нашых грамадзян тым, што з пераменай статуса беларускай мовы над іх воляй нібыта будзе ўчынены прымус, я хацеў бы сказаць: супакойцеся, калі ласка. Вашы трывогі і страхі дарэмныя, для іх няма падстаў. Ніхто не збіраецца прымушаць тых, што не валодаюць беларускай мовай (ніколі не ведалі яе або забыліся), каб яны заўтра ж пачалі гаварыць па-беларуску. Гаварыце, як вам падабаецца, як умееце, як лічыце патрэбным — і на рабоце, і на вуліцы, і дома. А з цягам часу навучыцеся, авалодаеце — не Бог ведае якая цяжэзная справа. Важна, каб вы прыхільна (па-інтэрнацыяналісцку!) ставіліся да гэтай мовы і да тых, хто ёю даражыць і пра яе клапоціцца. Важна, каб у вас паявілася жаданне далучыцца да яе — хоць бы, напачатку, у такой меры, каб разумець. Важна, каб вы ўсвядомілі, што засвоіць мову народа, сярод якога жывеш, — гэта не толькі справа абавязку і гонару, гэта будзе для вас каштоўны духоўны набытак — з ёю пабагацееце на цэлую нацыянальную культуру!

Што да прымусу, дык пакуль што ў нас у рэспубліцы ён іншы раз мае месца ў адносінах да тых, хто хацеў бы гаварыць па-беларуску. Або гэта прымус ускосны — маральны націск у форме нетактоўнай заўвагі, кпіны, іранічнай ухмылкі, або і зусім непасрэдны, адкрыты. Помню, як на сумесным пасяджэнні дзвюх пастаянных камісій Вярхоўнага Савета БССР

маё выступленне на беларускай мове было перапынена гучным камандзірскім вокрыкам: «Почему вы не говорите на общепонятном языке? Вы не уважаете аудиторию!» Збянтэжаны, я адказаў, што гавару на мове народа, чыё імя ў назве дзяржавы, вярхоўную ўладу якой мы тут прадстаўляем... «Ну, а вот я вашей речи не понимаю, так что же — я тут неравноправный?» — дадаў таварыш. І, аднак жа, супакоіўся. І слухаў маю беларускую мову да канца.

Вось і падумаем: у зале — грамада людзей, усе разумеюць, адзін — не разумее, і хоць толькі адзін, і падымае крык. Чаму? Ды, відаць, таму, што прызнае дэмакратыю толькі для сябе. А калі б на добры лад, па-людску, то павінен быў бы сказаць сабе: «Ну, все, сегодня же берусь за изучение белорусского языка, а то — неудобно, совестно как-то, да и теряю много, будучи жителем Белоруссии... Возьмусь, и хоть немножко овладею! Ведь не сложно: язык-то близкий, родственный, славянский...» Вось гэта і быў бы інтэрнацыяналізм, калі гаварыць высокім стылем. А калі прасцей — гэта былі б паводзіны выхаванага, культурнага чалавека.

Я ўжо неаднойчы гаварыў і паўтару яшчэ раз: тых сіл і часу, якія сёй-той траціць на пратэст супроць павышэння статуса беларускай мовы, было б болей чым дастаткова, каб гэтаю моваю авалодаць. Але таварыш праяўляе «прынцыповасць»: маўляў, не жадаю ў прынцыпе! Маю права не жадаць. Больш таго — баставаць буду, калі што якое!.. Ну, так, лепш буду баставаць, давяду край да разрухі, да хаосу, да холаду і голаду, але не пайду на тое, каб вывучыць колькі сот слоў з мовы народа, сярод якога дзесяткі гадоў жыву і які нічым мяне не пакрыўдзіў... На вялікі жаль, ёсць і такія «прынцыпы», і такая логіка. Адкуль гэта? Ад бескультур'я? Ад фанабэрыі? Ці ад таго і другога разам?

Сярод галасоў, якія сёння гучаць у дыскусіях па пытаннях мовы, ёсць і галасы трывогі, як бы наданне

беларускай мове статуса дзяржаўнай не адбілася шкодна на рускай. Некаторыя з гэтых галасоў настолькі эмацыянальныя, што можна падумаць: гэта рускія школы зведзены ў гарадах і сёлах Беларусі на нішто, гэта рускай мовы не пачуеш ні ў адной дзяржаўнай установе рэспублікі, гэта на рускай мове выходзіць за год усяго дзесяць працэнтаў ад агульнага тыражу надрукаваных у Беларусі кніг...

Яшчэ і яшчэ раз хочацца сказаць — выразна і на ўвесь голас: у Беларусі аўтарытэту і статусу рускай мовы нішто не пагражае. Немагчыма ўявіць беларуса, які захоча адмовіцца ад вывучэння рускай мовы, ад магчымасці карыстацца ёю — чытаць, гаварыць, ды і само жыццё яму не дазволіць гэтага — неабходнасць кантактавацца з людзьмі розных нацый. Немагчыма ўявіць беларуса, які згодзіцца адмежаваць, адгарадзіць сябе ад рускай Кнігі, ад вялікай рускай Культуры; беларуса, які, адарваўшыся ад рускай мовы, тым самым пойдзе на адрыў ад сусветнай Кнігі, ад сусветнай духоўнай Культуры. Думаць інакш — значыць, кепска думаць пра беларускі народ, які заслугоўвае большага даверу. Даказваць гэта, лічу, няма патрэбы, гэта засведчана ўсёй яго гісторыяй. Таму скажам так: праблем з рускай мовай у Беларусі няма і не прадбачыцца. І дададзім: праблем можа не быць і з вяртаннем ва ўсе сферы жыцця беларускай мовы, калі ва ўсіх нас хопіць мудрасці падысці да гэтай справы спакойна, разважліва, па-людску. Калі мы не захочам стварыць іх — небяспечныя для нашага мірнага разнамоўнага дому праблемы — наўмысна.

## НАШ ШЛЯХ, НАШ ГРУНТ

**Выступленне на XII сесіі Вярхоўнага Савета БССР адзінаццатага склікання**
***25 кастрычніка 1989 г.***

Паважаныя таварышы дэпутаты!

Учора па першаму пытанню парадку дня я не ўзяў слова, каб лішні раз не выходзіць на трыбуну, але ў

мяне ёсць адна прапанова, якая, мне здаецца, вартая ўвагі. Сёння мы ўжо ўсе разумеем, якая вялікая трагедыя здарылася на нашай зямлі. Трагедыя нечуваная, небывалая ў гісторыі чалавецтва. Трагедыя для ўсяго народа, для ўсёй нацыі, якая адаб'ецца не толькі на жыцці ўсіх нас, цяперашніх пакаленняў беларусаў, але і на лёсе многіх наступных пакаленняў. Мы нават не можам сказаць, калі і як мы, наша зямля, з гэтай бяды, з гэтага няшчасця выйдзем.

Дык вось, на маю думку, дзень 26 красавіка трэба аб'явіць Нацыянальным днём скрухі, ці днём смутку, ці, можа, яшчэ як іначай назваць — больш дакладна, больш адпаведна таму, якім зместам мы яго напоўнім. Мне ўяўляецца, што ў гэты дзень па ўсёй Беларусі будуць праходзіць мітынгі, сходы, маніфестацыі, дзе мы будзем падводзіць вынікі работы па ліквідацыі слядоў аварыі, будзем гаварыць зноў і зноў, чаму гэта трагедыя здарылася і што трэба рабіць, як жыць, каб яна ніколі больш не паўтарылася. Гэтаму ж павінны быць прысвечаны і ўсе ўрокі ў школе, і лекцыі ў інстытутах і універсітэтах. Дзецям і моладзі будзем гаварыць аб тым, як трэба шанаваць жыццё на зямлі, як трэба ставіцца да прыроды, да культуры... Адпаведныя перадачы, з журботнай музыкай, будуць цэлы дзень весціся па радыё і тэлебачанні. Калі хочаце, і ў цэрквах, і ў касцёлах у гэты дзень будуць гучаць адпаведныя казанні, спраўляцца малітвы... Адным словам, я прасіў бы ўсіх падумаць над гэтай прапановай — увядзенне такога дня ў рэспубліцы не перашкодзіць выкананню прынятай сёння праграмы па ліквідацыі вынікаў таго, што мы называем Чарнобылем.

Цяпер — некалькі слоў у абмеркаванне праекта Закона аб выбарах. Асноўныя спрэчкі ў нас ідуць наконт выбараў ад грамадскіх арганізацый. Пытанне гэта няпростае, і на першы погляд ёсць многа «за» — довадаў у карысць такіх выбараў. І аднак жа, калі ўдумацца... Паставім пытанне так: чаму ўзнікла сама

ідэя выбараў ад грамадскіх арганізацый? Адказ, відочна, адзін: каб гарантаваць выбранне тых, каго хацелася б бачыць у Вярхоўным Савеце. Іначай сказаць, каб назначыць пэўных асоб у дэпутаты, як гэта рабілася ўвесь час раней, калі выбары былі, па сутнасці, фікцыяй. Вось гэтых, маўляў, «пусцім» па прафсаюзах, вось гэтых — па Камітэту міру, вось гэтых — па Камітэту жанчын і г. д. У аснове такога назначэння ў дэпутаты — боязь, што іначай некаторыя заслужаныя людзі розных прафесій могуць не прайсці. А замест іх могуць прайсці крыкуны, дэмагогі, палітыканы. Я хацеў бы спытаць у прысутных: ці не перабольшаны гэты страх? Па-першае, пэўная колькасць дэмагогаў і палітыканаў усё роўна пройдзе — да іх паслуг 240 выбарчых акруг, так бы мовіць, 240 вакантных месц. Некалькі месц з гэтых 240 яны захопяць. Абавязкова! Хаця б таму, што ў іх будзе багата часу, каб ваяваць за мандат. Пакуль рабочы, або аграном, ці старшыня калгаса будзе думаць, як бы вырвацца хоць бы на адну сустрэчу з выбаршчыкамі, гэты самы дэмагог-кар'ерыст за дзень выступіць 9—10 разоў і з дапамогай хаўруснікаў навярбуе шмат галасоў. Але калі ён сапраўды хітры дэмагог, і не больш,— ён будзе хутка выкрыты, у тым ліку і тут, у гэтай зале, бо тут пераважная большасць людзей дастойных, годных высокага звання народнага дэпутата рэспублікі. Дык ці трэба, я паўтараю пытанне, баяцца, што пройдзе некалькі недастойных? Па-другое, ці такі апраўданы страх, што не будуць выбраны заслужаныя, вядомыя людзі? Напэўна, сёй-той можа не прайсці, не быць выбраным, напэўна. Але тыя, што відочна гараць, як мы кажам, на рабоце, каго людзі паважаюць, цэняць і нават любяць за чалавечыя і дзелавыя якасці, — тыя, напэўна, пройдуць.

Мне можна запярэчыць, што я недаацэньваю сілу і здольнасці дэмагогаў. Не спяшайцеся. Я «высока» цаню іх здольнасці. Не раз іх на сваёй скуры адчуў. І аднак жа давайце лепш думаць пра свае здольнасці і

вышэй цаніць свае магчымасці. І не проста лепш думаць, а лепш мабілізоўваць свае магчымасці на барацьбу з дэмагогіяй.

Праўда, я не чакаю і таго, што калі мы адхілім выбары ад грамадскіх арганізацый, дык у рэспубліцы, як тут было заяўлена адным таварышам, адразу ж значна стабілізуецца палітычная сітуацыя. Думаю, што нічога падобнага не адбудзецца. Разнамасныя псеўдадэмакраты актыўна возьмуцца за работу. Але маральная перавага будзе на баку Савецкай улады, якая прыняла дэмакратычны закон аб выбарах па акругах, і толькі па акругах.

Цяпер я хацеў бы коратка сказаць аб тым, што мяне найбольш засмуціла і на нядаўніх выбарах народных дэпутатаў СССР, і, прадчуваю, можа, не менш засмуціць на выбарах у Вярхоўны Савет рэспублікі. Вельмі прашу паверыць, што буду гаварыць не як асабіста пакрыўджаны — няма мне ўжо калі пра асабістыя амбіцыі думаць, ды і ніколі раней часу на гэта ў мяне не заставалася. Я прасіў бы тых, хто будзе пляскаць у ладкі, калі выбары ад грамадскіх арганізацый сесія адхіліць, не ўпадаць у эйфарыю. Асабліва я прасіў бы не радавацца прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі. Як вядома, у народныя дэпутаты СССР ад тэрытарыяльных і нацыянальных акруг Беларусі не прайшоў ні адзін дзеяч беларускай нацыянальнай мастацкай культуры. Ні адзін! Для параўнання: у невялікай Літве толькі пісьменнікаў выбралі ў народныя дэпутаты СССР дзевяць чалавек — толькі пісьменнікаў, не кажучы пра мастакоў, кампазітараў, артыстаў і інш. У маленькай Малдавіі — толькі пісьменнікаў выбралі восем чалавек. Падобная карціна і ў некаторых іншых рэспубліках. А ў нас — па акругах — не выбралі ніводнага дзеяча беларускай літаратуры і мастацтва! Так мы ў Беларусі прагаласавалі за нацыянальную мастацкую культуру. Такія нашы адносіны да сваёй культуры, да культуры наогул. І пры такіх адносінах мы хочам будаваць

культурнае, цывілізаванае сацыялістычнае грамадства. Грамадства, у якім павінны быць высокі ўзровень маралі і этыкі, эстэтычнай культуры, духоўнасці ў цэлым; грамадства, якое павінна вызначацца інтэлігентнасцю сваіх грамадзян. Не можа наша рэспубліка разлічваць на сапраўдны эканамічны, сацыяльны і культурны прагрэс, пакуль у нас будуць такія адносіны да нацыянальнай культуры, да беларускай мовы і літаратуры, да беларускага мастацтва, да культуры наогул. Зрэшты, праблема гэта ўсесаюзная. Была б у краіне на належным узроўні культура — не было б чарнобыльскай аварыі. Чарнобыль — гэта антыкультура. Чарнобыль — гэта амаральнасць. Чарнобыль — гэта безадказнасць, гэта разгільдзяйства, гэта нечалавечнасць!

І так атрымалася, што на з'ездзе народных дэпутатаў і на сесіях Вярхоўнага Савета СССР аб праблемах беларускай нацыянальнай культуры, беларускай мовы сказаць няма каму — нікому не баліць! Як быццам у нас такіх праблем няма, хоць яны ў нас вастрэйшыя, чым у іншых рэспубліках. Аб культуры гавораць у Крамлі рускія, украінцы, латышы, грузіны, армяне, а беларусы маўчаць. І наогул маўчаць. Сядзяць і маўчаць. Слухаюць. Добрых слухачоў мы выбралі ў Вярхоўны Савет краіны! А за беларускую культуру і мову змагаецца, дзякуй яму, Барыс Алейнік.

Дык вось, на выбарах народных дэпутатаў СССР беларуская культура даверу ў сваім жа беларускім народзе не заваявала. Ці зменяцца да яе адносіны на выбарах у Вярхоўны Савет БССР? Баюся, што і на гэтых выбарах дзеячам нашай літаратуры і мастацтва нічога не свеціць. Асабліва калі яны на сустрэчах з выбаршчыкамі будуць гаварыць па-беларуску і горача агітаваць за адраджэнне беларускай нацыянальнай культуры, за выратаванне беларускай мовы і наогул за істотнае павышэнне статуса суверэннасці нашай рэспублікі. Помню, як мне на такіх сустрэчах з вы-

баршчыкамі нецярпліва крычалі з залы: «А зачем? Зачем это нужно?!» Хачу вам сказаць — пра гэта я нідзе дасюль не гаварыў, — што свой перадвыбарчы марафон у сакавіку месяцы я да канца не прайшоў: пасля сямі-васьмі сустрэч сышоў, як то кажуць, з дыстанцыі, фактычна адмовіўся ад гэтак званай барацьбы за мандат: на шчасце, спатрэбілася паехаць у Маскву на пленум Саюза пісьменнікаў СССР, што вызваліла мяне ад далейшых пакут, ад абраз і прыніжэнняў. Пра якія абразы і прыніжэнні гаворка? Не маю часу, ды і не лічу патрэбным пра гэта расказваць. Калі хто з сумленных беларускіх пісьменнікаў будзе на выбарах у Вярхоўны Савет БССР балаціравацца ў Мінску — той, напэўна, зведае і спазнае перажытае мной не менш за мяне. Адно скажу, дам вам параду: калі хто хоча прайсці ў дэпутаты — старайцеся, каб вашым супернікам-канкурэнтам быў беларускі пісьменнік: амаль поўная гарантыя, што пераможаце.

Чуў меркаванне: на выбарах кандыдат павінен быць байцом і змагацца да канца. Вядома, павінен. Толькі — якімі спосабамі і сродкамі змагацца? Спекулятыўна даваць абяцанні, якія заведама не здзейсняцца? Арганізаваць грамаду ўдальцоў, якая на другі ж дзень пазрывае ўсе плакаты твайго канкурэнта, як гэта было ў выпадку са мною, а на сходзе будзе прыніжаць яго нетактоўнымі пытаннямі і рэплікамі? Як то кажуць, выбачайце! Кожнаму сваё. Калі інтэлігентны чалавек стане на такі шлях — чым жа ён будзе адрозніваццa ад таго самага палітыкана, дэмагога і цыніка? На гэткім шляху і да палітычнага гангстэрызму недалёка. Але, па-мойму, мы, савецкія людзі, не такімі бачым наш лад і вырашэнне палітычных праблем. Мы не трацім і, спадзяюся, не страцім веры, што наш шлях іншы — і іншы маральны грунт, хоць і паточаны чэрвямі нялюдскасці. Грунт, на якім стаіць працоўны народ рэспублікі.

Прапанова выбіраць ад грамадскіх арганізацый,

можа быць, і не выклікала б такога супраціўлення, калі б яна была больш прадуманай, але ў нас яна пададзена, выбачайце, у нейкай выродлівай форме. Колькасць грамадскіх арганізацый, якія могуць мець свайго дэпутата, да смешнага вялікая. Нават філатэлісты не забыты! Хай бы мы ўжо не смяшылі людзей і больш паважалі сябе. Але вось — творчыя саюзы рэспублікі. На восем творчых саюзаў адпушчана шэсць мандатаў. Таварышы! Творчы саюз — гэта не грамадская арганізацыя. У грамадскую арганізацыю — хто захацеў, той і ўступіў, ці, прынамсі, калі вельмі захоча і пастараецца. У творчы саюз — на работу пісьменніка, мастака, кампазітара — назначае толькі сам Бог! І вось: на восем творчых саюзаў — шэсць мандатаў. Значыць, скажам, ад Саюза пісьменнікаў можа не аказацца ніводнага дэпутата. Так што, хоць круць-верць, хоць верць-круць, у любым выпадку роля прадстаўнікоў нацыянальнай мастацкай культуры ў Вярхоўным Савеце рэспублікі звядзецца на нішто. Могуць сказаць: а колькі вы хочаце? Рабочых у Беларусі мільён, сялян — мільён, служачых — мільён, лічбы я называю прыблізна, а вас — колькі? Дарагія таварышы, колькасны прынцып тут не падыходзіць. Так, у мастацкай творчасці — на фоне тых мільёнаў — працуе людзей нямнога. Але паспрабуйце выкінуць з нашага жыцця кнігу, музыку, тэатр, кіно, мастацкую выстаўку? І ўявіць такое немагчыма. Грамадства пакрылася б карой маральнай глухаты, хаця ў нас і так з маральнасцю вельмі кепска.

## ЗАКОН О ЯЗЫКЕ — ЗАКОН О КУЛЬТУРЕ

**Ответы на вопросы журналиста С. Пятковского. «Советская Белоруссия»** ***за 19 ноября 1989 г.***

*Нил Семенович, почему именно сейчас? Ни годом раньше, ни годом позже?*

Ответ тут простой. В стране идет общий процесс возвращения к тому, что когда-то было утеряно. Бо-

лее того, в некоторых республиках вопрос о законодательном урегулировании статуса национального языка поставлен раньше, чем у нас. Мы идем следом — учитывая опыт и, как я надеюсь, стараясь не повторить ошибок. Мы вместе, сообща приходим (может быть, медленнее, чем хотелось бы) к пониманию самой необходимости возрождения национальной культуры, а следовательно — и национального языка как ее первоэлемента.

*Хотелось бы верить, что это так. Однако совсем недавно, даже на памяти нынешнего поколения молодежи, повсюду звучали оптимистичные заявления о «подлинном расцвете национальных культур», об их широком взаимообогащении, сближении, взаимовлиянии.*

Верно. Только ведь этим «сближением» очень часто, на мой взгляд, прикрывалось другое — «слияние». А это разные понятия, надо научиться различать... Скажем, сближение культур, их взаимовлияние, я даже скажу так — духовная интеграция, — все это в истории человечества всегда было делом полезным. Всякий человек со здравым рассудком поймет, что заимствовать лучшее, брать у других все здоровое, интересное и учиться, благодаря этому, понимать душу соседа, друга, да и свою собственную — дело жизненно необходимое. Но ведь у нас в стране в силу работы мощных политических рычагов на протяжении многих лет повсеместно утверждалось весьма упрощенное понимание национальных культурных процессов. Возобладали такой подход и такое понимание, которые когда-то весьма ясно выразил, стоя на крыльце Белорусского государственного университета, Никита Сергеевич Хрущев: «Чем скорее мы сольем все нации, все культуры и языки воедино, тем скорее придем к коммунизму». Вот и пришли... Причем Никита Сергеевич в проведении такой политики был не первым. И не последним. Естественно, что постепенно, с течением времени — а речь тут идет о десятилети-

жаўнай і выкліканыя гэтым пертурбацыі. Ну, наогул, для пачатку добра было б усім нам помніць, што мова народа на грошы не ацэньваецца, ні мільёнамі, ні мільярдамі рублёў не вымяраецца. Як Радзіме, як Маці, так і Мове цаны няма. Гэта скарб неацэнны. Не трэба, аднак, перабольшваць і рэальныя выдаткі на прадвызначаную нашым законам перабудову. Скажам, навучанне беларускай мове дарослых людзей, напэўна, можа абысціся без дзяржаўных выдаткаў. Друкаванне беларускіх падручнікаў для школ таксама дадатковых грошай не патрабуе, бо тут проста зменяцца суадносіны рускага і беларускага тыражоў, а агульная колькасць падручнікаў будзе выпускацца тая ж самая. На пераклад і стварэнне падручнікаў для ВНУ, як і на паступовую замену шыльд, пячатак, шрыфтоў, на дадатковую падрыхтоўку кадраў і на многае іншае, грошы, вядома, спатрэбяцца, але, думаю, не столькі, каб гэтым палохаць грамадства.

Не трэба палохаць людзей і нейкімі непрадбачанымі вынікамі ўвядзення Закона аб мовах. Закон наш — вельмі дэмакратычны, прадуманы, неаднойчы ўзважаны на шалях сэрца і розуму, нічыю нацыянальную годнасць ён не прыніжае, нікога не крыўдзіць, — значыць, усё залежыць ад нас, ад усёй грамадскасці рэспублікі, ад таго, у якой меры ўсе мы — інтэрнацыяналісты, наколькі шчыра ўсе мы хочам жыць у дружбе і брацтве. Асабіста я глыбока веру, што ў нас у Беларусі ёсць усе прадумовы, каб ажыццяўленне закона праходзіла міралюбна, спакойна і без прыніжэння чалавечае годнасці. Для гэтага ад усіх нас — і ад гарачых патрыётаў роднага слова, і ад тых, да каго гэта шчаслівае пачуццё яшчэ не прыйшло, — ад усіх нас, паўтараю, патрабуецца максімум цярплівасці, стрыманасці, узаемапавагі, добразычлівасці і жадання паразумецца. Гэтак жа моцна я веру ў падтрымку нашага закона людзьмі іншых нацыянальнасцей, нашымі іншамоўнымі братамі і сёстрамі, для якіх Беларусь стала другою Радзімай. Вера

мая трымаецца на тым аўтарытэце, які наш народ здабыў, асабліва ў гады Вялікай Айчыннай вайны, і які мы, на шчасце, яшчэ да канца не растрацілі. У падмацаванне сказанага дазвольце зачытаць радкі з ваеннага дзённіка аднаго знакамітага рускага чалавека: «Я всегда восхищался национальной чертой белорусов, чутких на беду, верных в товарищеской дружбе, готовых к самопожертвованию, храбрых и отважных в схватке с врагом... Белорусский народ мужеством и героизмом в борьбе с немецко-фашистскими захватчиками по праву снискал себе славу легендарного народа...». Словы гэтыя, якія і сёння да многага нас, беларусаў, абавязваюць, належаць маршалу Жукаву, які, дарэчы, пры зручным выпадку падкрэсліваў, што добра ведае беларускую мову, і гэта сапраўды было так. Рускі па нацыянальнасці, Жукаў служыў у Беларусі і вывучыў мову беларускага народа, не ўстанаўліваючы ніякіх тэрмінаў. А сёння многія нашы цывільныя службоўцы, каб вывучыць сваю ж родную мову, патрабуюць ужо нават не тры, а шэсць гадоў. Прычым яшчэ і выстаўляюць гэта патрабаванне ад імя народа! Міжволі падумаеш: няўжо яны не бачаць, не чуюць, што народ падымае гэтыя іх тэрміны на смех? Няўжо ім не страх, што гэтак можна страціць у народзе і апошнія рэшткі даверу?..

Паважаныя таварышы дэпутаты!

Сённяшні дзень можа стаць без перабольшання гістарычным — так многа ён будзе значыць для лёсу Беларусі і беларускага народа. Гісторыя дала нам вялікі шанц, упусціць які мы не маем права. Калі, вядома, паважаем сябе. Калі паважаем і цэнім усіх, з кім побач жывём і працуем. Калі думаем пра нашу будучыню, пра жыццё і лёс сваіх дзяцей і ўнукаў. Калі не хочам, каб нашы нашчадкі ўспаміналі нас без павагі і ўдзячнасці, успаміналі ды ўсміхаліся, як пісаў паэт, «усмешкой горькою обманутого сына над промотавшимся отцом». Падумайма пра гэта яшчэ і яшчэ раз — дый благаславім наш закон у вялікае жыццё.

# ТОЛЬКІ САПРАЎДНАЕ НАРОДАЎЛАДДЗЕ...

Адказы на пытанні журналіста і паэта Івана Рубіна. «Мінская праўда» *за 29 лютага 1990 г.* (са скарачэннямі).

*Колькі даводзілася і даводзіцца чуць і бачыць, як некаторыя дзяржаўныя кіраўнікі, адказныя чыноўнікі робяць паспешлівыя вывады ў сферы духоўнай культуры, проста не жадаюць лічыцца з грамадскай думкай, голасам творчай інтэлігенцыі.*

Гэта наша вялікая бяда, што многія кіраўнікі розных рангаў не лічацца з думкай творчай інтэлігенцыі. Гэта вельмі дрэнна. Тлумачэнне тут, відаць, можа быць адно — недахоп агульнай гуманітарнай культуры. Успомнім для параўнання: прэзідэнт Пампіду быў доктар філалогіі, склаў самую лепшую анталогію французскай паэзіі; Рэйган, чые заслугі ў развіцці ЗША несумненныя, да таго як стаць прэзідэнтам, быў знакамітым артыстам.

Там, дзе дзяржаўныя кіраўнікі і гаспадарнікі з вялікай павагай ставяцца да нацыянальнай культуры, да роднае мовы, да літаратуры і мастацтва Беларусі,— там не толькі пытанні культуры, а наогул усе справы — і сацыяльныя, і гаспадарчыя — вырашаюцца лягчэй і лепш. Але перш чым папракаць тых, хто гэтай залежнасці не разумее, я гатоў хутчэй паспачуваць ім. Віною тут пэўная палітыка, якая праводзілася досыць паслядоўна, — курс на зліццё моў, культур і саміх нацый у нашай краіне. Хто б ні быў вінаваты ў гэтай палітыцы — пара, аднак, і апомніцца, схамянуцца дый перабудавацца. Калі ты дзяржаўны дзеяч з вялікімі паўнамоцтвамі, то ты адказваеш за ўсё: не толькі за эканоміку, сацыяльную сферу, але і за духоўную культуру народа, і за яго мову, бо без уласнай мовы і культуры нацыя не будзе мець свайго аблічча. З нацыі яна ператворыцца проста ў насельніцтва, стане часткай іншага народа — і наконт гэтага не павінна быць ніякіх ілюзій.

*Кожнай нацыі, відаць, дастаецца такая доля, якую яна заслугоўвае. Але ў гісторыі чалавецтва не раз знаходзім прыклады, калі лепшыя сілы гуртаваліся ў часы ўсеагульнай бяды. А ў нас можна, і даволі часта, назіраць адваротнае — грызню, самаедства, кратовую мараль.*

Не зусім прымаю трохі фаталістычны погляд на нібыта навек наканаваную нашаму народу долю. Увогуле лёс народа ў руках самога народа. Але гісторыя — заўсёды рэч куды больш складаная, чым здаецца. На пэўных яе этапах народ бывае вымушаны — у чаканні лепшых, больш спрыяльных часоў — лічыцца з абставінамі. Вядома, і грызня, і самаедства, і ўсякае іншае гадства маюць у нас месца, і мяне асабіста гэта вельмі засмучае... Амбіцыі асляпляюць, не даюць глядзець далёка наперад, бачыць галоўнае, ісці на паразуменне — дзеля таго вялікага галоўнага. І дыктат амбіцый, і кратовыя кіпці, і звычайную дурноту я неаднойчы адчуў на сабе (не кажучы пра свядомую подласць замаскіраваных ворагаў беларусчыны). Цяжка, крыўдна, горка, што яшчэ тут скажаш?.. Паратунак ад пашырэння гэтых ганебных з'яў адзін — рост агульнай культуры. Толькі гэта не дазволіць апусціцца да грызні і самаедства. Толькі з культурай прыйдзе разуменне, што мы не маем права на самазабойчае канфліктаванне паміж сабою — сёння, калі наш народ трапіў у такую нечуваную паднвойную бяду — рэальную небяспеку згінуць і фізічна і духоўна. Усе мы пастаўлены перад экзаменам на грамадскую сталасць, на чалавечую і нацыянальную годнасць. Здавалася б, няцяжка і зразумець гэта.

*Як мы паважаем сваю гісторыю, культуру, родную мову, літаратуру, можна будзе меркаваць па тым, хто будзе прадстаўляць яе ў парламенце рэспубліцы.*

Не хацелася б рабіць невясёлыя прагнозы, але і для аптымізму падстаў небагата. Пісьменнікаў вылучана кандыдатамі ў дэпутаты, можа, не так і мала,

але колькі з іх атрымаюць перамогу? Вопыт мінулагагодніх выбараў у народныя дэпутаты СССР засведчыў, што ў нас у Беларусі адносіны да сваёй творчай інтэлігенцыі, далікатна кажучы, непаважлівыя. На Украіне летась ад тэрытарыяльных і нацыянальна-тэрытарыяльных акруг народнымі дэпутатамі СССР выбраны 9 пісьменнікаў, у невялікай Літве — таксама 9, у маленькай Малдавіі — 8, у Беларусі — ніводнага! Дый вылучаны былі толькі двое!.. Калі падобнае паўторыцца і гэты раз — значыць яшчэ няскора-няскора дойдзе наша Беларусь да сваёй эканамічнай і палітычнай самастойнасці. Бо каб змагацца за рэальны суверэнітэт рэспублікі, трэба валодаць глыбокай нацыянальнай самасвядомасцю. Не адстойваючы на ўзроўні вышэйшай дзяржаўнай улады сваю мову, культуру, школу — як можна забяспечыць трывалую будучыню нацыі?

*Мова — душа народа. Вы выступаеце за няўхільнае практычнае ажыццяўленне Закона аб мовах у БССР. Але ж у ім дужа расцягнутыя тэрміны. Сёй-той разлічвае на гэта. Маўляў, абыдзецца. Пашумяць, пашумяць і заціхнуць. Купала вунь калі клікаў нас «людзьмі звацца». І не мучыць глыбокі пякучы сорам за ганебны нацыяльны нігілізм, за разбураныя помнікі, знішчаную беларускасць. А некаторыя ва ўсіх грахах вінавацяць інтэлігенцыю, пісьменнікаў...*

Тэрміны ўвядзення канкрэтных артыкулаў Закона аб мовах у дзеянне ўстаноўлены не адвольна, а з улікам той рэальнай моўнай сітуацыі, якая ў нас у Беларусі склалася. Сітуацыя ж вельмі няпростая. Дзесяткі гадоў нацыянальна-моўная палітыка і практыка круціліся ў адзін бок — і цяпер за год-два назад не адкруціш. Каб усё патроху, паціху, спакваля перакантаваць на беларускі лад — час патрэбен немалы, і на падрыхтоўку кадраў, і на выданне падручнікаў і слоўнікаў, і на замену шыльдаў, пячатак, штампаў, і на многія-многія іншыя рэчы. На ўсё гэта патрэбен не толькі час, але і грошы. Так што тэрміны, думаю,

больш-менш рэальныя. Ну а каб прыняцце Закона не аказалася актам фармальным, каб яго, як то кажуць, не спусцілі на тармазах — гэта ўжо будзе залежаць ад пазіцыі і паводзін сумленных грамадзян рэспублікі, свядомых патрыётаў Беларусі, беларускае мовы і культуры.

Што датычыць сораму за нацыянальны нігілізм... Пачуццё нацыянальнай годнасці трэба выхоўваць, пачынаючы з ранняга маленства. Выхоўваць у сям'і, у школе, затым — у працоўным калектыве. Самі па сабе патрыёты роднага краю не нарастуць і нігілісты ў патрыётаў не абернуцца. А вінаваціць пісьменнікаў — гэта ўжо і зусім неразумна. Колькі хапае ў пісьменнікаў сіл — яны ахвяруюць іх Бацькаўшчыне. Я маю на ўвазе пісьменнікаў сапраўдных, з уласным творчым абліччам.

*У перадвыбарнай праграме вы выступаеце за бязлітаснае выкараненне структур адміністрацыйна-каманднай сістэмы. Але ці можам мы сёння смела сказаць, што беларускі народ чуецца поўным гаспадаром, можа распараджацца сваім лёсам? Ці здолее новы Вярхоўны Савет праявіць самастойнасць?*

Калі б беларускі народ чуўся поўным гаспадаром на сваёй зямлі — жыццё б у нас, напэўна, было іншае, лепшае. Народ-гаспадар змог бы яго наладзіць так, каб яно было яму ў радасць. На жаль, нам увесь час навязвалі сваю волю цэнтральныя ведамствы і міністэрствы. За эканамічную і палітычную самастойнасць Беларусі яшчэ трэба змагацца, і тут амаль усё будзе залежаць ад новага складу нашага Вярхоўнага Савета. Ці будуць пераважаць у ім людзі, якія здолеюць дабіцца гэтай самай палітычнай і эканамічнай самастойнасці. Гэта — я сказаў бы — задача задач для ўсёй грамадскасці Беларусі. Каго мы выберам?! На паслухмянае кіраўніцтва мы ў Беларусі за апошнія дзесяцігоддзі ўжо наглядзеліся. Праз яго паслухмянасць амаль ці не зусім страцілі сваю родную

мову, культуру, нацыянальную школу, свае традыцыі і звычаі, сваю гістарычную памяць і ўсё іншае, па чым нас пазнаюць у свеце. Праз яго паслухмянасць і старанне дагадзіць цэнтру мы ядзім заражаныя радыенуклідамі і ядахімікатамі прадукты, п'ём забруджаную ваду і дыхаем атручаным паветрам. Многае, напэўна, у нас рабілася б іначай, калі б кіраўніцтва перш за ўсё помніла і думала пра свой народ, пра яго нялёгкі лёс і пра яго давер таксама...

*Колькі і на якіх узроўнях сёння гаворыцца пра нашу беднасць, нішчымніцу, сацыяльную неабароненасць. Адусюль толькі і чуецца: накарміць, апрануць, абуць, абараніць... Так, без гэтага не абысціся. А далей што? Чаму мы з аглядкай і рэдка гаворым: душа, духоўнасць, святасць. Хіба наш ідэал — толькі матэрыяльны дастатак?*

Рэальныя праблемы: і накарміць, і апрануць, і абараніць... Гаворыцца пра гэтыя праблемы ўжо колькі гадоў, а плёну пакуль не бачна. Наадварот — задаволіць матэрыяльныя патрэбы становіцца ўсё цяжэй, ну і абараніць бяспраўнага чалавека скора стане зусім немагчыма, калі ад слоў не перайсці да справы. Пагромы, рабункі, гвалты, забойствы нарастаюць з кожным днём. І мы справядліва абураемся, бядуем, дзівімся... А што дзівіцца? У некультурнай краіне іншага становішча быць не можа. Там, дзе культура пасаджана на галодны паёк, дзе з нацыянальнымі духоўнымі скарбамі абыходзяцца як з непатрэбшчынай,— там для маральнасці і грамадскага парадку месца няма. Грамадства без сапраўднай культуры — гэта грамадства амаральнае. У такім грамадстве непазбежна будуць браць верх усякія антыгуманныя, нялюдскія з'явішчы — ад наркаманіі і прастытуцыі да гвалту і забойстваў. Якая недаравальная наіўнасць: не дбаючы пра асвету, пра культуру, пра духоўнасць нацыі, хочам жыць багата, заможна.

«Не хлебам адзіным жыве чалавек» — гэта было сказана даўным-даўно і на ўсе вякі, пакуль будзе

існаваць чалавецтва. А мы няйначай як рашылі, што нас гэта не датычыць, абыдземся, маўляў, і без клопату пра душу ўласную.

*Назіраецца занапад фізічнага і маральнага здароўя нацыі. Гэтыя дзве глыбы-праблемы грукаюць у нашы глухія дзверы, чэрствыя сэрцы, злавесна пагражаюць ператварыць нас у духоўных старцаў і вырадкаў без чалавечага гонару, інтэлігентнасці, сумленнасці. Дзе ж тыя крытэрыі разумнасці і гуманнасці, якія спыняць працэс распаду, дапамогуць рунна ўскаласіцца Бацькаўшчыне, вольна ўздыхнуць народу?*

Крытэрыі разумнасці і гуманнасці выпрацаваны гісторыяй развіцця чалавечай цывілізацыі, гісторыяй маральнага і эстэтычнага развіцця чалавецтва. Працэс распаду, які на ўсіх удумных людзей апраўдана наводзіць страх, можа быць спынены толькі сапраўдным народаўладдзем. Толькі яно верне нам і гонар, і сумленне, і інтэлігентнасць, забяспечыць уздым нацыянальнай культуры. Трэба дасягнуць такога палітычнага ладу ў рэспубліцы, калі сам народ будзе гаспадаром свайго лёсу і сваёй Бацькаўшчыны. Апошняе немагчыма без радыкальнага абнаўлення прынцыпаў узаемаадносін паміж рэспублікамі, і народных дэпутатаў БССР у гэтым кірунку чакае непачаты край работы.

## ОСТАВАТЬСЯ ЛЮДЬМИ!

«Правда», *6 марта 1990 г.*

С каждым днем на душе все более тревожно. Не угаснет пожар межнациональной вражды в одном регионе, как уже воспламеняется в другом. И опять дикие погромы, и опять гнусные насилия, и смерть, и увечья. И страдания тысяч невинных людей, сорванных с обжитых и уютных гнезд... Как говорится: если бы еще лет пять назад кто-нибудь сказал, что дойдет до этого... Но вот — дошло. Стало реальностью наше-

го перестроечного времени. И все честные граждане озабочены этой реальностью чрезвычайно. «Что же будет дальше? — спрашиваем мы друг у друга. — Надо же что-то делать!» — говорим. Ведь пожар действительно может охватить и еще не охваченные территории. Это свойство пожара. И, может, напрасно некоторые руководители полагают, что их территорий эта беда не коснется.

Не коснется лишь в том случае, если в нашем Союзе республик немедленно, безотлагательно будет что-то очень большое и ладное сделано. То, что надо было сделать давным-давно или хотя бы тех самых лет пять назад — в начале перестройки. Конечно же, я имею в виду решение проблемы межнациональных отношений в СССР, и точнее — проблемы федеративного устройства нашего Союза на подлинно демократической договорной основе. Сегодня, думаю, уже всем должно быть ясно, что без решения этой проблемы ни в чем другом мы сколько-нибудь серьезно вперед не продвинемся. Как, думаю, всем ясно и то, что мы наверняка избежали бы этих печальных и позорных событий последних лет, если бы в самом начале революционного обновления жизни деловито занялись переустройством своей федерации. Но мы словно, извиняюсь, дети, неспособные видеть и понимать реальное положение вещей, занялись с первого дня перестройки в сфере межнациональных отношений тем, чем преимущественно занимались долгие десятилетия до этого, — заклинаниями, увещеваниями, предостережениями и т. д. А события тем временем назревали для державных мужей невидимо.

История уже давно и настоятельно показывает на стрелки часов: пора! Пора дать республикам экономическую и политическую самостоятельность, обеспечить законом их подлинный суверенитет в большой советской федерации, ибо только это позволит нам решить насущные социальные, экологические, культурные и иные проблемы жизни и таким образом

снять напряженность в обществе. Не могу, к сожалению, сказать, что сегодня уже видно самое глубокое понимание этого вопроса «на верхах». Иначе — почему же нынешнюю сессию Верховного Совета СССР начали не с вопроса о федерации? Или кое-кто «на верхах» еще полагает, что авось как-нибудь обойдется без существенных перемен в этой сфере, авось все успокоится, уляжется и покатится дальше, как катилось? Тем более, что на сессии совсем явственно слышны голоса отнюдь не в пользу радикального обновления принципов федерации. Ох как еще далеко не все готовы мы понять насущнейшее веление времени! А главное — как далеко не все готовы услышать взывающий к небу голос братьев. Всю жизнь, со студенческих лет, удивляюсь и печалюсь этой странной глухоте, этой неспособности услышать и понять желание других воспользоваться правами, предоставленными самим господом Богом. Да, только лишь законными правами — и не более.

Вот и на проходящей сессии Верховного Совета: еле-еле, с трудом белорусским депутатам удалось вставить в число первоочередных вопрос о государственной программе ликвидации последствий чернобыльской ядерной катастрофы. Хоть на двадцать первое место, дополнительно! Позволительно спросить: как должен реагировать на это народ Белоруссии, для которого этот вопрос не двадцать первый, а первый из первейших? Потому что это вопрос о жизни и смерти народа. Потому что в нашей огромной стране, где тяжелых бедствий немало, более ужасного бедствия нет. Страшно подумать, но безразличие к судьбе десятимиллионного народа столь велико, что поневоле приходишь в отчаяние: неужели планета решила понаблюдать за последствиями Чернобыля в Белоруссии как за чудовищным научным экспериментом: выживет или перемрет это мирное и смирное славянское племя?.. Радиация движется по белорусской земле, как чума, все дальше и дальше. Нужны

миллиарды рублей на отселение сотен тысяч жителей, на лечение уже больных детей и взрослых. Эти миллиарды должен немедленно выплатить тот, кто принес неслыханное несчастье и тяжелейший урон народу Белоруссии, кто омрачил ему все мысли о своем будущем.

Я заострил внимание на трагедии моего народа потому, что если уж эта боль не до всех доходит, так что говорить о других бедах-болях наших. А их — много, и от них не избавиться, не решив вопроса о федерации. Возьмем, к примеру, нашу заботу о судьбах белорусского языка и белорусской национальной культуры. Опять же: какая стена глухоты к этой национальной трагедии, или, как теперь многие у нас говорят и пишут, к этому духовному Чернобылю на Белоруссии. Более полувека длилось на глазах всей страны умерщвление белорусского языка, убиение самобытной белорусской культуры. Разве об этом не знали ну, скажем, в Верховном Совете страны или в ЦК КПСС? Не могли не знать. По крайней мере, белорусские писатели вопили об этом и двадцать и тридцать лет назад. И что же всегда читали в ответ на страницах центральной прессы, в высоких докладах и содокладах? «Наш первейший долг — бороться с проявлениями национализма». Крик о спасении родного языка — национализм? Но — так было. Так загонялись внутрь чреватые взрывом болезни.

На заседании нынешней сессии Верховного Совета председательствующий — был такой момент — в сердцах бросил резкий упрек республикам: почему, мол, сами на местах не решаете вопроса, не наводите у себя порядок, почему все надежды возлагаете только на центр? Подумалось: так ведь сколько десятилетий приучали именно к этому — к тому, что все до мелочи решается и предписывается в центре. Сами самостоятельно — ни шагу, ни-ни! Утрируя: даже где какую пуговицу пришить — запрашивали центр. Когда года четыре назад в Верховном Совете БССР об-

суждался закон о народном образовании, я поставил вопрос о необходимости исправить ненормальное положение с белорусским языком в школах республики — с тем, чтобы законодательно хоть немного посодействовать возрождению белорусской школы в Белоруссии. И что же? Послали чиновника в Москву, в Верховный Совет СССР, за консультацией. Возвратился товарищ и доложил: нет, нет, в Москве ваше предложение не приняли, сказали, что это будет нарушением Конституции страны. Вдуматься только: на каком языке нам в Белоруссии учить своих детей, точнее — быть или не быть белорусской школе, — сам белорусский народ решить не мог, решали где-то! И после этого высказывали удивление и даже возмущение неблагодарностью «тутэйшых»!.. Недавно, по примеру других республик, в Белоруссии принят закон, давший белорусскому языку статус государственного. Хорошо, конечно. Но введение законов о языках в действие и, следовательно, температура общественного климата в республиках будут во многом зависеть от содержания закона о федерации. Вот почему очень хочется надеяться, что при решении этого главнейшего сегодня вопроса нашего общественного бытия народным депутатам хватит чувства ответственности, государственного ума и мудрости.

Естественно, пока не принят закон о федерации, нужно сделать все, чтобы нигде не разжигалась дальше национальная межусобица, чтобы люди успокоились и поверили в возможность решения сложнейших проблем законным, конституционным порядком. В этой ситуации, думается, могло бы умиротворяюще влиять на настроение взбудораженных сограждан мудрое слово авторитетнейших деятелей культуры, науки, просвещения, искусства и литературы, служителей религии, ведь у всех народов слово таких людей всегда было в чести. Впрочем, это первейший долг всех сознательных граждан любой республики, любого региона страны. Нельзя же, в самом деле,

причисляя себя к цивилизованному миру, терять рассудок настолько, чтобы терять и человеческий облик. Опомнимся, люди добрые!

## «І НЕ ЗБІЦЦА З ДАРОГІ!»

Адказы на пытанні журналісткі Н. Жалязоўскай. «Звязда» *за 15 сакавіка 1990 г.*

*Ніл Сямёнавіч, яшчэ нядаўна такое і ў сне не магло прысніцца: руйнуецца наш агульны дом — савецкая федэрацыя: то тут, то там успыхваюць міжнацыянальныя канфлікты, ліецца людская кроў, і ў наш лексікон увайшло паўзабытае з ваенных часоў слова «бежанцы»... «Дажыліся, даперабудоўваліся» — усё часцей, як дакор, гучаць горкія словы з людскіх вуснаў. Як адгукаецца на іх ваша сэрца? Каго і што вінаваціць, дзе шукаць выйсце?*

Успамінаю свае паездкі ў братнія рэспублікі Саюза, дзе ў мяне багата знаёмых паэтаў і пісьменнікаў, сустрэчы з якімі заўсёды былі хвілінамі радасці. Успамінаю і думаю пра тое, што адбываецца на радзіме маіх сяброў і пабрацімаў сёння. Страшнае штосьці адбываецца, жахлівае. І проста неверагоднае! Цяжка паверыць, што на землях старажытных цывілізацый, у народаў вялікай, прызнанай светам духоўнай культуры, даходзіць да такіх брутальных усплёскаў міжусобнай варажнечы, да такога прыніжэння ўласнай чалавечай годнасці, да такога асляплення сэрца і розуму! Незлічоныя дзівосныя сады паэзіі, музыкі, мастацтва — і тут жа забойствы, нявінна пралітая кроў, рабаўніцтва і вандалізм... У прычынах ужо, бадай, разабраліся. Тут і грубыя перакосы ў нацыянальнай палітыцы, якія мелі месца на працягу ўсіх сямі дзесяцігоддзяў, і недасканаласць палітычных і эканамічных асноў савецкай федэрацыі, і крайняе абвастрэнне многіх сацыяльных праблем — у выніку аслаблення і заняпаду эканомікі, і рэзкае пагоршанне экалагічнай сітуацыі, і недаравальнае занядбанне сфер маралі і

культуры, асветы і навукі... А галоўная прычына, можна сказаць, прычына ўсіх прычын — адсутнасць сапраўднага народаўладдзя. Калі б народ быў сам сабе гаспадаром — ён бы да ўсіх гэтых бед-няшчасцяў не апусціўся, арганізаваў бы сваё жыццё найлепшым чынам, таму што ні таленту, ні працавітасці ніякаму народу пазычаць не трэба.

Дзе цяпер шукаць выйсце? Ды напэўна ж, у вырашэнні ўсіх гэтых пералічаных і іншых, не названых, праблем. Вядома, вырашыць іх няпроста, і хутка гэта не зробіцца, але ж надзея ёсць. Галоўнае, што цяпер ад усіх нас патрабуецца, — гэта вялікае цярпенне, мужнасць, спакойная разважлівасць, уменне астудзіць раптоўна ўзбуджанае сэрца. Толькі гэтым можна стрымаць далейшую эскалацыю нянавісці, варажнечы, злобы. Ёсць жа чалавечая мова паразумення, мова згоды, мова дабрыні і справядлівасці! Няўжо яна не пераможа? Павінна перамагчы! Людзі ж мы ўсё-такі!..

*«У савецкіх народаў — лёс агульны» — гэты звыклы нам з застойных часоў лозунг сёння патрабуе дапаўнення: але ў КОЖНАГА народа СВОЙ лёс. Лёс беларускага народа прыцярушаны чарнобыльскімі радыенуклідамі. І ягоная будучыня непасрэдна залежыць ад канкрэтнай і хуткай дзяржаўнай рэакцыі на гэта жудаснае бедства. Як вы расцэньваеце той факт, што пытанне аб дзяржаўнай праграме ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы на сесіі Вярхоўнага Савета СССР разглядаць не паспяшаліся?*

Лёс нашага народа ўвогуле такі, што, мабыць, ніякі іншы народ яму не пазайздросціць. Асабліва сёння. Бяда на нашу зямлю, на нас звалілася нечуваная. Своечасовай, неадкладнай дзяржаўнай рэакцыі на гэту бяду, на вялікі жаль, не адбылося. Ці панясуць вінаватыя ў гэтым хоць маральнае пакаранне — пытанне, вядома, істотнае. Але сёння значна важней іншае — ці аказваецца рэальная дапамога людзям,

якія апынуліся ў бядзе? Ці арганізаваны належным чынам клопат пра іх здароўе?

Чытаем, чуем, што сёе-тое робіцца — і па адсяленню людзей з забруджанай тэрыторыі, і па забеспячэнню іх чыстымі прадуктамі. Ведаем, што прынятая дзяржаўная праграма па ліквідацыі паследкаў чарнобыльскай аварыі выконваецца пакуль вельмі слаба. На яе поўнае ажыццяўленне патрэбна 16,5 мільярда рублёў. Сама рэспубліка можа знайсці ў сябе толькі невялікую частку ад гэтай астранамічнай сумы.

Значыць — на каго надзеі? На ўсю краіну, зразумела. І на цэлы свет, — не будзем саромецца сказаць уголас гэта. Свет ужо ведае — хоць нарэшце, напрыканцы чацвёртага года! — у якім мы, беларусы, знаходзімся становішчы. Будзем шчыра ўдзячныя, калі яго вялікае сэрца адгукнецца болем і спагадай. Але ў першую чаргу мы чакаем дапамогі ад урада краіны. І, вядома ж, крыўдна, што на цяперашняй сесіі Вярхоўнага Савета СССР наша пытанне будзе разглядацца па парадку толькі 21-ым. Крыўдна таму, што нам дарагі кожны дзень. У што абыходзіцца дзень жыцця пад радыенуклідамі для здароўя нацыі, для лёсу яе генафонду — сёння пра гэта навука дакладна сказаць не можа. Пра гэта мы, цямнеючы душой і праклінаючы долю, можам толькі гадаць.

Гэта — па-першае. Па-другое, кожны лішні дзень прамаруджання, якое ўспрымаецца няшчаснымі людзьмі як бяздзейнасць, вельмі дрэнна адбіваецца на настроях беларускага грамадства, павышае і без таго высокую напружанасць. Вядома, легендарнае цярпенне нашага народа стрымлівае яго і гэтым разам. Але ж, пэўна, да пары да часу? І дзяржаўныя мужы павінны гэта разумець.

*Ніл Сымонавіч, цяпер усе мы, як у беспаветранай прасторы без кіслароду, задыхаемся ў атмасферы ўсеагульнай нелюбові, недабрыні, непавагі. Злачыннасць, жорсткасць, нецярпімасць да бліжняга дасягнулі апагея. Відавочна, што апроч ядзернага*

*Чарнобыля сёння Беларусі пагражае і Чарнобыль духоўны. Сярод шматлікіх прычын, якія давялі нашага суплямнніка да здзічэння, на мой погляд, самая галоўная — заняпад роднай культуры. Мабыць, ніводная рэспубліка не панесла такіх велізарных духоўных страт, як Беларусь. Ці верыце вы, што яшчэ можна нешта зрабіць, каб уратаваць беларускую культуру? Як быць, калі народ не ведае, хто такі Францішак Скарына, саромеецца роднай мовы, не давярае свайму сумленню — творчай інтэлігенцыі і наогул у будучыню глядзіць толькі праз поўны прылавак?*

Безумоўна, сучасны стан беларускай духоўнай культуры варты жалю. Як мне ўжо даводзілася гаварыць — яна існуе ў нас у выглядзе якойсьці этнаграфічнай даважкі. Яна не з'яўляецца на сваёй зямлі асноўнай, пануючай — як гэта мы бачым у любой краіне свету, яна не вызначае духоўнае аблічча нацыі, і гэта ёсць вялікая недарэчнасць, нейкая пачварная грымаса гісторыі.

Да апошняга часу ў нас, калі заходзіла — на любым дзяржаўным узроўні — размова пра неабходнасць уздымаць і развіваць духоўную культуру, то мелася на ўвазе якаясьці культура наогул, канкрэтны змест у гэта слова не ўкладаўся, а «культура наогул» на практыцы аказвалася часцей за ўсё гэтак званай культурай масавай, той страшэннай дзікай пошасцю, якая працягвае дабіваць культуру сапраўдную, высокую, нацыянальную, а разам з ёй — дабіваць і апошнія астаткі здаровай народнай маралі, эстэтыкі, духоўнасці.

Ці веру я, што нашу самабытную беларускую культуру можна адрадзіць? Глыбока перакананы ў гэтым! І мы гэта зробім, мы мусім гэта зрабіць, бо інакш ніколі не вылезем з адсталасці. Развіццё нацыянальнай эканомікі можа быць паспяховым толькі ў непарыўнай супрэжанасці з развіццём нацыянальнай культуры. Сувязь і залежнасць тут вельмі

глыбінныя, у кароткай гутарцы гэтага ўсяго не растлумачыш, але галоўнае запомніць варта: толькі тая чалавечая душа, якая выпешчана мовай, песняй, казкай, гукамі і фарбамі зямлі, дзе яна нарадзілася або прыжылася, якая адчула сваё натуральнае выяўленне ў мове і песнях гэтай зямлі, — толькі тая душа прасякнецца і сапраўдным клопатам пра зямлю-матухну, і будзе гаспадарыць на ёй абачліва, разумна, мудра, а значыць — і зажыве багата, заможна.

Цяпер ва ўсе галасы мы загаварылі аб тым, што для развіцця культуры неабходны сродкі, грошы, што трэба рэзка павялічыць лічбу ў адпаведнай графе бюджэту. Бясспрэчна, трэба, іначай размовы застануцца размовамі, і толькі. Але гэта яшчэ не ўся праўда, і калі забыць пра адну «дробязь», дык і вельмі вялікія грошы не дапамогуць. Чаму? А таму, што гэтыя вялікія грошы могуць пайсці на тую самую культуру масавую, г.зн. на бескультур'е. Прасцей кажучы — вылецяць у трубу. Грошы — і вялікія, і малыя — трэба выдаткоўваць на развіццё нацыянальнай культуры. Зразумела, не толькі беларускай. Трэба падтрымліваць і духоўную творчасць іншых нацыянальных груп насельніцтва.

І яшчэ адна элементарная ісціна, пра якую трэба абавязкова помніць: адраджэнне беларускай культуры немагчыма без адраджэння гістарычнай памяці і нацыянальнай самасвядомасці. Так што пачынаць трэба з гэтага — з вывучэння палітычнай і культурнай гісторыі беларускага народа.

Што ж датычыць даверу творчай інтэлігенцыі ў нас — дык тут застаецца толькі цяжка ўздыхнуць. Леташнія выбары паказалі, які гэты давер, сёлетнія, мяркуючы па выніках першага этапу, тое самае пакажуць. Сумна і горка! Калі ж мы станем сапраўды цывілізаванай, культурнай нацыяй?

*Нярэдка можна пачуць, што «грамадзянская вайна» перакінулася ўжо і на творчыя саюзы, у прыватнасці на літаратуру, і што не выключэнне і*

*Саюз пісьменнікаў Беларусі. Якая ваша думка наконт гэтага?*

Тое, што сёння адбываецца ў вялізнай (звыш 4 тысяч членаў) пісьменніцкай грамадзе РСФСР, асабліва — у яе маскоўскай і ленінградскай арганізацыях, мяне асабіста засмучае надзвычай. Раскол там паглыбляецца з кожным днём, і ўсё больш абвастраецца тое, што вы называеце «грамадзянскай вайной». Не ўнікаючы ў прычыны гэтай вельмі шкоднай для грамадства міжусобіцы, скажу толькі адно: прыйдзе час, калі за некаторых сённяшніх «змагароў» іх нашчадкам будзе сорамна. За тых, хто дазваляе сабе цынічнае зубаскальства, ёрнічанне там, дзе павінен быць шчыры і глыбокі боль, за тых, хто відочна пераступае мяжу ўласцівай сапраўднаму інтэлігенту талерантнасці і даходзіць да небяспечных абагульненняў. На вялікі жаль, «водападзел» праходзіць не паміж талентам і бяздарнасцю і не паміж культурай і невуцтвам... Характар спрэчак паказвае, што прычыны канфрантацыі трэба шукаць па-за межамі эстэтычнага — яны там, дзе ўжо трэба гаварыць пра светапогляд і мараль, пра ідэалогію і палітыку...

Ці не ахапіла такога ж характару «вайна» і Саюз пісьменнікаў Беларусі? Я не сказаў бы гэтага. Не трэба механічна пераносіць грамадска-літаратурную сітуацыю аднаго нацыянальнага рэгіёна на іншыя. Бо — выбачайце за банальнасць — у кожнага народа свая, сфарміраваная гістарычным лёсам маральная філасофія, псіхалогія, культура, свае норавы, звычаі, традыцыі. У тым ліку — што асабліва хацелася б падкрэсліць — традыцыі міжнацыянальных узаемаадносін, за якія нам, беларусам, ніколі не было сорамна.

Гэтым я зусім не хачу сказаць, што на нашым літаратурным алімпе, як на той Шыпцы, «усё спакойна». Ні ў якім разе! Ёсць свае, і вельмі вострыя, жыццёвыя праблемы, свае супярэчнасці ў развіцці жывога літаратурнага працэсу, свае асобныя цяж-

касці, абумоўленыя ўсенароднай трагедыяй Беларусі — заложніцы чарнобыльскай катастрофы. Але «вайны», падобнай на тую, што вядзецца на старонках многіх усесаюзных выданняў, у нас яшчэ няма, і справа гонару ўсёй беларускай інтэлігенцыі — не дапусціць, каб дайшло да такога ганебнага з'явішча.

Я сказаў, «вайны» яшчэ няма, але спробы кінуць подлае д'яблава насенне на выбухованебяспечную глебу, на вялікі жаль, робяцца. І не толькі ў выглядзе вульгарных самавыдавецкіх лісткоў правакацыйна-чарнасоценнага зместу. Не менш небяспечную правакацыйную ролю адыгрываюць і некаторыя выступленні высокаадукаваных аўтараў на старонках выданняў усесаюзных, ды яшчэ і якіх аўтарытэтных! Уражанне такое, нібы гэтыя аўтары паставілі за мэту неадменна даказаць, што і сярод вядомых беларускіх літаратараў ёсць носьбіты галавешак з атрутным шавіністычным чадам. «Не можа быць, каб іх не было! Павінны быць!» — ледзь не крычаць яны, смакуючы загадзя, які ў выніку можа падняцца вэрхал, колькі гэтакім чынам можна нарабіць у чыстай вадзе муту ды і ўсплыць наверх самім у якасці «герояў нашага часу».

*Больш дзевяці гадоў вы былі першым сакратаром СП БССР. Ваша просьба аб «адстаўцы» многімі ўспрынята з засмучэннем і, я б сказала, з неадабрэннем. Упэўнена, лёс пісьменніцкай арганізацыі вам неабыякавы і цяпер.*

Вялікая і цяжкая для мяне тэма. Пачну з таго, што я доўга і ўпарта адбіваўся ад прапановы пайсці на працу ў штат СП БССР. З ідэолагамі ЦК КПБ мы ў вуснай форме дамовіліся, што праз тры гады я змагу, калі пажадаю, гэту пасаду пакінуць. Прыйшоў я на працу ў СП у час самы што ні ёсць горшы — на закаце брэжнеўскай эпохі, калі міязмы маральнага распаду і загнівання адчуваліся з кожным днём мацней. Усё мацней, хоць і глуха, амаль у падполлі, нарастала ў грамадстве і супраціўленне гэтаму распаду,

ад якога, як вядома, не ўбераглiся i творчыя саюзы краiны.

Мой погляд на ролю пiсьменнiкаў i iхняй арганiзацыi ў тагачасных умовах нi для каго сакрэтам не быў — дастаткова прыгадаць апублiкаваны вясной 1978 года ў «Правде» артыкул «Именем и честью дорожа», не кажучы пра дзесяткi падобных публiкацый у рэспублiканскiм друку. Прыняўшы кiруючую пасаду ў СП, я трапiў у пэўны, усталяваны за дзесяцiгоддзi, маральна-псiхалагiчны «кантэкст», якi ўжо даўно меў сваю рэпутацыю як жыццёва ўтульнае «месца пад сонцам» (на мове больш пашыранай — «каля карыта»), як магчымасць забяспечыць сябе ўсялякiмi выгадамi i прывiлеямi.

Паколькi такi «кантэкст» мяне не толькi не задавальняў, але i абражаў як чалавека i пiсьменнiка, я з першых жа дзён стараўся даць зразумець калегам, якую i ў якi бок усiм нам патрэбна весцi працу. Мэты i накiрунак новага курсу выкладалiся мною зусiм ясна: усю грамадскую i творчую дзейнасць Саюза пiсьменнiкаў трэба падпарадкаваць вялiкай культурнай палiтыцы, а менавiта — адраджэнню беларускай нацыянальнай культуры, мовы, школы, гiстарычнай памяцi, народнага мастацтва, традыцый i наогул усяго нацыянальнага стылю жыцця. Пiсьменнiкi павiнны быць духоўнымi павадырамi народа, а для гэтага трэба думаць i клапацiцца не пра асабiстыя выгады, а пра творчы i грамадскi аўтарытэт лiтаратара, пра аўтарытэт усяго СП, трэба павышаць ролю i актыўнасць яго камiсiй, секцый i ўсiх iншых падраздзяленняў, трэба развiваць у пiсьменнiцкiм асяроддзi дух дэмакратызму, iнтэлiгентнасцi, сацыяльнай справядлiвасцi...

У сваю чаргу з першых жа дзён сёе-тое далi зразумець i мне, а iменна, што працаваць мне будзе вельмi i вельмi цяжка i што мяне чакае тут «худая доля». Паявiлiся «ценявыя сакратары», хадакi ў высокiя iнстанцыi — са скаргамi i парадамi. «Звысоку» праса-

чыліся чуткі: «Не ко двору», «Неуправляемый», «Создает проблемы».

Ну а пакольні праблем у тыя часы страшна не любілі — хто ж будзе спрыяць і дапамагаць іх «стваральніку»? Ужо ў 1982 годзе мяне пачалі настойліва «сватаць» на высокую пасаду ў іншае месца, у 1983 і 1984 гадах гэта «сватанне» працягвалася. Тыя ярлыкі, якія былі начэплены на мяне ў часы яшчэ і хрушчоўскія, і брэжнеўскія, ніхто здымаць не спяшаўся. Колькі прыйшлося перажыць абраз і прыніжэнняў — пра гэта можна расказваць доўга.

Гэта — з аднаго боку. Адносіны зверху. Ну а што было з другога боку — знізу? Колькі разоў на партыйным сходзе вылазіць бессаромны паклёпнік, бэсціць тваё імя, тваю добрасумленную працу — і каб хоць хто адзін у зале заступіўся! Няйначай як усім даспадобы чуць такое плявузганне агрэсіўнага хама. А апляваны слуга творчага калектыву ідзе пасля гэтага ў Савет Міністраў прасіць-кленчыць, каб дапамаглі закончыць будаўніцтва Дома творчасці, ідзе ў гарсавет выбіваць для пісьменнікаў кватэры і ўсё такое іншае. А самому яму пісаць няма калі, задумы гадамі ляжаць некранутыя.

Мяркуйце самі: з 1970 па 1980 год як навуковец-фалькларыст і літаратуразнаўца я выдаў дзевяць кніг (дарэчы, восем з іх — безганарарныя), з 1980 па 1990 — толькі адну, і тая была падрыхтавана раней. А ў фальклорным архіве дома — яшчэ па некалькі тамоў запісаў народнай творчасці, якія трэба давесці да ладу. Ад аднаго ўсведамлення, што тваё жыццё ідзе міма адпушчаных табе Богам творчых радасцей, — учарнееш. Так што, думаю, папракаць мяне за просьбу аб «адстаўцы» не трэба. Просьба была задаволена толькі па чацвёртай маёй заяве на дзесятым годзе службы.

Людзям у вочы глядзець мне не сорамна, я ўсё рабіў так, як дыктавала сумленне, жыў тымі ж клопатамі, што і да прыходу на працу ў СП. Цешу сябе

думкай, што за гэты час сёе-тое для Саюза пісьменнікаў, для беларускай літаратуры і культуры, для выратавання нашае мовы зрабіць удалося. Нягледзячы на вар'яцкі рытм жыцця і пастаянныя фізічныя перагрузкі, прыняў чынны ўдзел у стварэнні Таварыства беларускай мовы і выпрацоўцы «Закона аб мовах у Беларускай ССР». Таварыства пачынае разгортваць вялікую living рознабаковую дзейнасць — і гэта цяпер мой найпершы грамадскі клопат. Ну а працягваць далей працу ў Саюзе пісьменнікаў ёсць каму — нараслі, падняліся маладыя і таленавітыя людзі, поўныя сіл і натхнення. Калі яшчэ на іх не ўспадзе, як на папярэднікаў, корць самаедства — дык і зусім будзе добра. Паздароў іх Божа! І не дай ім збіцца з дарогі, якая вядзе да храма!..

## ШТО Ж НАС АБ'ЯДНАЕ?

**Выступление на X з'ездзе пісьменнікаў Беларусі**
***26 красавіка 1990 г.***

Сёння — 4 гады чарнобыльскай трагедыі. Для нас — 4 гады новага летазлічэння. Да гэтага часу лік гадоў мы вялі ад нараджэння Хрыста — і налічылі амаль 2000. Цяпер будзе справядліва, як бачым, пачаць нам, на Беларусі, новае летазлічэнне. У тым ліку — і ў дачыненні да літаратуры, да яе гісторыі. Я паўтараю тое, што сказаў яшчэ ў кастрычніку 1986 года ў Балгарыі, у Сафіі, на міжнародным форуме пісьменнікаў «Мір — надзея планеты»: для беларускай літаратуры пачынаецца новая гістарычная эра — настолькі вялікая і страшная падзея здарылася. Гэта ўсенародная бяда прымусіла, ці павінна прымусіць, нас па-іншаму паглядзець на ўсю гісторыю Беларусі і на гісторыю беларускай літаратуры ў прыватнасці. А менавіта паглядзець на нашу гісторыю як на несупынную, непарыўную трагедыю. Калі нават пачнём не з самай глыбокай старажытнасці — першым яе страшным актам была Люблінская унія 1569 года, за-

тым — Берасцейская унія 1596 года, затым — забарона беларускай мовы ў 1697 годзе, пасля — разгром паўстання Каліноўскага, пасля — грамадзянская вайна 1918—20 гадоў, пасля — усё тое жахлівае, што суправаджала калектывізацыю, пасля — дзікі гвалт над душой народа ў акупіраванай палякамі Беларусі, пасля — пагалоўнае вынішчэнне нацыянальнай інтэлігенцыі і наогул цвету нацыі ў рэпрэсіях 30-ых гадоў, пасля — Вялікая Айчынная вайна і жахлівая фашысцкая акупацыя Беларусі з масавым вынішчэннем насельніцтва, а праз увесь гэты час — апусташэнне і нявечанне мільёнаў душ няпраўдай, хлуснёй і страхам. І вось, нарэшце, — Чарнобыль — нешта настолькі страшэннае для лёсу нашага народа, чаго і ў самых кашмарных снах прысніць не маглі мы...

Вось чаму на ўсю нашу літаратуру трэба глядзець як на трагічную ў самой яе змястоўнай сутнасці. У якіх бы жанрах яна ні стваралася — гэта трагедыя. Такой яе і трэба ўсведамляць. Так трэба нанава напісаць і яе гісторыю — як шматвяковую трагедыю перш за ўсё. Такога яна чакае новага прачытання, такой павінна быць, на мой погляд, новая навуковая канцэпцыя. Праўдзівая, г. зн. сапраўдная беларуская літаратура — немінуча трагічная, бо глыбока трагічнаю была сама праўда нашага гістарычнага існавання.

Прыйшоў час рашуча і канчаткова адкінуць ненавуковыя, фальшывыя і вульгарызатарскія канцэпцыі гісторыі Беларусі, беларускай грамадскай думкі, беларускай культуры, распрацаваныя ў нашай Акадэміі навук і на кафедрах ВНУ пасля 1930 года, г.зн. пасля пагрому і вынішчэння сапраўдных навуковых сіл. Чым хутчэй мы гэта зробім — тым лепш, бо для вялікай работы па адраджэнню Беларусі патрэбен сур'ёзны навуковы грунт.

Непасрэдна пра літаратуру гаворка на з'ездзе пакуль што, можна сказаць, не вядзецца. Што зробіш! Відаць, вельмі баліць, турбуе і займае думкі іншае. І калі ўжо працягваць гаворку пра іншае, дык, у маім

разуменні, перад беларускімі літаратарамі стаяць дзве галоўныя задачы. Па-першае, ратаваць нашу зямлю і жыццё на ёй, жыццё людзей нашых; колькі хопіць сіл у нас — трэба рабіць усё, каб дапамагчы, пасадзейнічаць гэтаму выратаванню. Учора Вярхоўны Савет СССР зацвердзіў Чарнобыльскую праграму на бліжэйшыя два гады — на першы этап, праграму-мінімум. Добра вядома, але нават само абмеркаванне, я лічу, было крыўдным для беларускага народа, на долю якога дасталося 70 % ад усёй тэрыторыі, забруджанай смертаноснымі радыенуклідамі.

Па-другое, ці другая задача, на якой я спынюся трохі больш, гэта — выратаванне нашай мовы і культуры, каб праз гэта жыццё на Беларусі зрабіць беларускім. Я не агаварыўся — іменна беларускім. Да гэтага часу мы яго рабілі савецкім, сацыялістычным, інтэрнацыянальным, усё гэта добра, і было б зусім добра, калі б пры гэтым яно не рабілася ўсё менш беларускім. Дык вось — трэба вярнуць яму нацыянальнае беларускае аблічча, трэба ўвесь стыль жыцця паступова перайначыць на наш адметны, самабытны беларускі лад, які ў нас калісьці быў. Без гэтага, як вы разумееце, уласнай будучыні ў нас, у нашага народа быць не можа. Як мы дапаможам свайму народу ў гэтым яго духоўным адраджэнні — пытанне няпростае. Тут ад нас, пісьменнікаў, патрабуюцца не толькі добрыя, таленавітыя, праўдзівыя творы, але і вельмі вялікая грамадская праца, і, калі хочаце, стойкасць, і мужнасць, і цярпенне, — і цярпенне, якое таксама не трэба траціць. Адносіны да беларускай культуры ў нашым грамадстве калі і пачалі мяняцца, дык толькі чуць-чуць — і, можа быць, перш за ўсё тут, у Мінску, у сталіцы. Ствараюцца курсы па вывучэнню беларускай мовы, праводзяцца семінары і лекторыі. У Савеце Міністраў распрацоўваецца дзяржаўная праграма ажыццяўлення Закона аб мовах у рэспубліцы. Напомню, дарэчы, што ў сілу Закон уступае з 1 верасня. Вядома, менавіта тады самыя вялікія цяж-

касці ў сваёй працы мы і напаткаем. Тым больш што Вярхоўны Савет СССР абвясціў рускую мову афіцыйнай мовай СССР — і мы не наіўныя, разумеем, што гэта значыць «дзяржаўнай». Вы ведаеце, як далёка ў нас зайшло руйнаванне беларускай нацыянальнай культуры. Мабыць, ні ў аднаго народа ў гісторыі не было такіх гнюсных здзекаў з народнае душы, як у Беларусі — і пры шматлікіх каралях-царах, і доўга пасля... Пачытайце ў «Камунісце Беларусі», № 4, архіўную публікацыю-пісьмо ЦК КПБ ад 25.01.1929 года наконт нацыяналізму ў асяроддзі беларускіх навукоўцаў і літаратараў. Малапісьменныя жандары ад мастацтва і навукі нават прозвішчы нашых слаўных паэтаў і пісьменнікаў правільна напісаць не ўмелі, а як яны здзекаваліся з іх! З іх — і з нас, нашчадкаў тых, каго загналі ў Курапаты або на Калыму. Калі які народ і мае права крыкнуць — «Бог, няма цябе!», ды крыкнуць так, каб неба здрыганулася, — то гэта наш народ. Бо калі б Бог быў — ён бы не дапусціў да гэтага.

У сувязі са сказаным справядліва было б, на маю думку, забараніць у нас у Беларусі карыстацца сёння кляймом «беларускі нацыяналізм». Іначай — нейкі абсурд: нацыянальная культура ў страшным заняпадзе, вытраўлена з душ мільёнаў нацыянальная самасвядомасць, выхавана ў тых жа мільёнаў абыякавасць, а то і пагарда да роднай мовы — і ў такой сітуацыі крычаць пра пагрозу беларускага нацыяналізму.

Гэтаксама нельга гаварыць, а тым больш крычаць, пра рэальнае двухмоўе ў Беларусі, бо гэта святатацтва і здзек з народа, мова якога знаходзіцца ў такім трагічным становішчы. Не трэба і такіх высокіх слоў, як інтэрнацыяналізм, хоць яны і вельмі добрыя самі па сабе, не трэба. Лепш хоць на нейкі час устрымацца ад іх — з элементарнага пачуцця прыстойнасці.

З гэтай трыбуны справядліва крытыкаваліся выданні, якія некаторымі сваімі артыкуламі па сутнасці спрыяюць абуджэнню міжнацыянальнай непрыязні і

варажнечы. Брыдка ўсё гэта, непрыгожа і вельмі крыўдна, што гэта мае месца на зямлі народа, адвеку слыннага сваёй талерантнасцю, міралюбнасцю і дружалюбнасцю, чым мы заўсёды даражым і, спадзяюся, будзем даражыць. Ну, але добра, што ў гэтых выданняў хоць тыраж невялікі, за межы рэспублікі, бадай, і не выходзяць. А вось што рабіць мне, якога месяцы тры назад абвясціла ваяўнічым шавіністам многамільённая ўсесаюзная «Литературная газета»? У публікацыі двух бойкіх на пяро супрацоўнікаў Інстытута літаратуры АН БССР сцвярджаецца, што нібыта я ў вершы «На новым вітку» патрабую выгнання з Беларусі «некоренного населения». Ні больш ні менш. Уяўляеце, калі б таварышы крытыкі апублікавалі такое ў 1937-ым? Абвінавачванне настолькі недарэчнае і абсурднае ў сваёй несправядлівасці, у сваёй паклёпніцкай зададзенасці, што лепш за ўсё было б ніяк на яго не рэагаваць. Але і не рэагаваць нельга. Калі ніхто не абараняе — трэба самому абараняцца. Я [illegible] абурэннем адмятаю гэты паклёп. Ні адзін [illegible] маіх рускіх, украінскіх, яўрэйскіх, татарскіх і інш. па нацыянальнасці сяброў і таварышаў, побач з якімі я жыву і працую тут, у нашым агульным доме, не паверыць гэтай подлай інсінуацыі. Навошта ж яна спатрэбілася паважанай «Литературной газете»? Я думаю, для таго, каб падтрымаць тых «патрыётаў» Беларусі, якія дзесяткі гадоў вешалі на мяне падобныя ярлыкі. Але гэта яшчэ не ўсё. Месяц з гакам назад ужо наша рэспубліканская газета «Знамя юности» апавясціла сваіх чытачоў, што ў тым жа вершы «На новым вітку» ёсць «спекуляция на национальных чувствах»,— вядома ж, у артыкуле аднаго з тых самых акадэмічных аўтараў. Уявіце сабе: цяжка хворы чалавек знаходзіцца ў крытычным стане, калі нічога не рабіць — то можа пачацца перадсмяротная агонія, і родныя-блізкія, якім гэты чалавек бясконца дарагі, кідаюцца шукаць хоць якой-небудзь рады, хапаюцца ў роспачы за любы сродак, каб толькі ўратаваць, ні

ўдзень, ні ўночы не адыходзяць ад хворага, знебыліся ад пакут, выбіваюцца з апошніх сіл, а ім — дасведчаныя адукаваныя людзі заяўляюць: што вы спекулюеце на стане яго здароўя? Што вы без падстаў падымаеце паніку?

Якое ж трэба мець сумленне і сэрца, каб дазволіць сабе такое!

Уся прычына ў тым, што для адных пытанне аб беларускай мове і культуры — пытанне іх уласнага лёсу, сэнсу жыцця, а для другіх — толькі «предмет досужих разговоров», кажучы па-руску, практыкаванне ў пустаслоўі. У гэтым і ўся розніца. Мне няма чаго баяцца, каб сказаць, што ўсё свядомае жыццё, з маладых гадоў, ува мне несціхана крычыць адзін боль — боль за нашу бяспраўную, занядбаную, адціснутую на задворкі жыцця мову. І нічога больш. Ведаю, што гэта і боль многіх маіх сяброў-паплечнікаў, бо гэты боль майго і нашага народа. Праз гэта мне заўсёды было цяжка знаходзіць агульную мову як з раўнадушнымі чыноўнікамі, так і з беспардоннымі цынікамі.

Хацеў бы ў сувязі з гэтым нагадаць пра адзін факт з нашай нядаўняй літаратурнай гісторыі. Вядома, што пасля XX з'езда КПСС некаторыя крытыкі з каманды Лукаша Бэнды хадзілі па публічных бібліятэках, бралі старыя падшыўкі газет і, па-зладзейску азіраючыся, выразалі свае артыкулы, у якіх яны выкрывалі «беларускіх нацыяналістаў», — каб не засталося слядоў іх подлай работы. Ці не прыйдзецца аднойчы і сяму-таму з нашых сучаснікаў заняцца такой жа зладзейскай справай?

Таварышы, калі нават Чарнобыль не аб'ядпае нас — не вызваліць душы ад нядобрага, злаславага, пошлага, жорсткага — дык што ж тады аб'яднае?.. Помню, у гады вайны над усімі намі вісела пагроза — жыць ці не жыць... Усе думалі пра агульную бяду, як яе пераадолець, як перамагчы... Дзяліліся апошнім. Дапамагалі адзін аднаму. Цяпер — трагедыя не менш страшная.

Няўжо мы яшчэ гэтага не зразумелі?

# СЛАВЯНСКАЕ СЛОВА

**«Звязда», сувенірны спецвыпуск,** *май 1990 г.*

У гісторыі развіцця чалавецтва, сусветнай цывілізацыі вельмі вялікая роля належыць славянству і яго культуры. Шматлікая сям'я славянскіх народаў займае неаглядныя прасторы Еўропы і Азіі. Гэта народы старажытныя па паходжанню, пісьмовая гісторыя якіх налічвае звыш паўтары тысячы гадоў, і ў той жа час — маладыя па самапачуванню, па жыццяздольнасці, па магутнаму і нерастрачанаму творчаму патэнцыялу.

Духоўная культура славянскіх народаў, іх мастацтва, літаратуры, у сукупнасці сваёй — гэта дзівосны свет дабра, праўды і справядлівасці, спагады і міласэрнасці, гасціннасці і зычлівасці. Цяжка пераацаніць заслугі славянства ў развіцці сусветнай цывілізацыі, уклад славянскіх народаў у скарбніцу сусветнай культуры, навукі, мастацтва. Чалавецтва [redacted] удзячнасцю цаніла і цэніць гэтыя заслугі, гэты ўклад, сведчаннем чаго — незлічонае мноства знакаў удзячнасці, павагі і шанавання. Няма патрэбы ў гэтым кароткім слове спасылацца на іх, называць вялікія імёны тых, хто сваёй творчасцю, сваёй самаахвярнай духоўнай дзейнасцю так прыкметна падвысіў неба над галавой чалавецтва. Так, многа імён нагадаць я тут не змагу, але адно імя ўспомніць і назваць павінен, паколькі сённяшняе свята праходзіць на беларускай зямлі і ў юбілейны год таго, каму гэта імя належыць,— у юбілейны год найвялікшага сына гэтай зямлі і сына славянства. Імя гэта — Францыск Скарына, 500-годдзе з дня нараджэння якога мы сёлета адзначаем. Значэнне і роля Скарыны як асветніка і вучонага-гуманіста, заснавальніка кнігадрукавання на Беларусі і на землях усходніх славян наогул — з цягам часу вырысоўваюцца ўсё больш яскрава і паўстаюць у вачах нашчадкаў усё больш значнымі. Ягоны жыццёвы і творчы подзвіг належыць да ліку самых маштабных

здзяйсненняў у сферы агульналюдской культуры, да самых высокіх праяў інтэлектуальнай моцы і стваральнай энергіі чалавека і ў гэтым сэнсе можа быць па справядлівасці прыроўнены да таго подзвігу, якім абяссмерцілі сябе першанастаўнікі славянскай асветы, славутыя сыны балгарскага народа, браты Кірыла і Мяфодзій, даўшы славянству і многім іншым народам свету цудадзейнае кірылічнае пісьмо.

Цяжка пераацаніць ролю славянскіх народаў у барацьбе за мір і сацыяльны прагрэс, у супрацьстаянні сілам зла і цемрашальства. Успомнім Грунвальд, успомнім трагічнае поле Косава і пераможнае поле Кулікова. Успомнім гады другой сусветнай вайны, у якой на плечы славян выпаў асноўны цяжар перамогі над фашызмам і самыя вялікія ахвяры ў якой панеслі славянскія народы: рускія, беларусы, украінцы, палякі, югаславы і ўсе астатнія. І пра гэта ўдзячнае чалавецтва помніць да сённяшняга дня таксама.

Ці заўсёды на вялікім гістарычным шляху мы, славянскія народы, былі мудрымі братамі — жылі душа ў душу, ішлі плячо да пляча, узаемна разумеючы адзін аднаго і адзін другому дапамагаючы? На вялікі жаль, было і не так, было па-рознаму. Але не самі нашы народы былі вінаватыя ў гэтым, а той гістарычны час, які нараджаў нямудрых правадыроў, неразумных лідэраў... А ці дастаткова мудрасці ў нашых узаемаадносінах сёння? Ці з дастатковай павагай і шчырасцю мы адзін да другога ставімся? Ці дастаткова мы ўзаемна клапатлівыя? Як бы хацелася сказаць: так, вядома! На вялікі жаль, і тут прыходзіцца рабіць сумныя агаворкі. Як, напрыклад, можа мірыцца ўвесь славянскі свет, што ў яго на вачах сыходзілі з жыцця мовы такіх вялікіх славянскіх народаў, як украінскі і беларускі, каціліся да поўнага заняпаду іх непаўторна-самабытныя нацыянальныя культуры? Кажу пра сапраўды вялікія славянскія народы, ну а лёс мовы і культуры сербаў-лужычан або кашубаў? Хіба ўсе дужэйшыя, большыя, упэўненыя ў сваім заўтрашнім дні

набрацімы могуць сказаць, што прынялі іх лёс блізка да сэрца?

Ці дастаткова — хочацца прадоўжыць пытанні — клапоцімся мы, каб скарбы духоўнай творчасці славянскіх народаў рабіліся вядомымі ўсяму вялікаму свету? А перш за ўсё, ці дастаткова мы, славянскія народы, ведаем адзін аднаго, сённяшні стан культуры, асветы, мастацтва, галоўныя клопаты, якімі кожны з нас жыве? Ці дастаткова мы дзелімся між сабой духоўнымі багаццямі? Ці не дапускаем ва ўзаемаадносінах нячуласці і несправядлівасці, прытрымліваючыся старых догмаў і міфаў? І ці не даём часам свабоду пачуццям, якія не робяць нам гонару, пачуццям нацыянальнага эгаізму, замест таго, каб кіравацца інтарэсамі, агульнымі для ўсіх нас — народаў-братоў, народаў-суседзяў?..

Як я разумею, гэтыя, перш за ўсё, клопаты і мэты меліся на ўвазе, калі гады чатыры назад у асяроддзі рускай інтэлігенцыі — літаратараў, мастакоў, навукоўцаў — нарадзілася ідэя, па-першае, штогадова праводзіць Свята славянскага пісьменства і славянскіх культур, а па-другое, стварыць адпаведны міжнародны фонд у якасці арганізацыйнага цэнтра, які будзе аб'ядноўваць і падтрымліваць намаганні ўсіх, хто шчыра жадае, каб месца і значэнне вялікай, міралюбівай і гуманнай культуры славянства на планеце яшчэ больш узрастала, каб векавечнае славянскае слова разыходзілася ўсё шырэй і шырэй, несучы мільёнам людзей праўду і святло.

Славянскае слова! Якое невымернае шчасце — валодаць ім і адначасова служыць яму! Якая радасць і асалода слухаць яго — слухаць і пераконвацца, што яно — табе роднае, што яно адгукаецца ў самых патаемных глыбінях тваёй душы, калі нават трохі і адрозніваецца ад таго, што ты ўпершыню пачуў з вуснаў маці! Менавіта пра гэта і мой даўні, прывезены калісь з Балгарыі верш, якім я і хацеў бы закончыць свой невялікі святочны роздум:

А ў Радопах суніцы завуць па-радопску «зуніцы» —
Як і ў нас, толькі першая літара трошкі званчэй.
Як і ў нас, тут вясёла бруяцца лясныя крыніцы.
І ў дзятвы, як і ў нашай, праменіцца сонца з вачэй.

Як і ў нас, тут паветра сунічным прапахла настоем.
А яшчэ — баравою, здаровай, смалістай сасной.
Як і ў нас, палавее на доспеве жыта густое
І вясёлыя жаўранкі путаюць вецер струной.

Ах, напэўна ж, усё — і зямля тут, і неба, і сонца,
І ўсе гукі лясныя, і водар, і фарбы наўсцяж —
Мне таму і здаліся сваімі, што роднае слоўца,
Беларускае слоўца я раптам пачуў у гасцях!

Ці ж не варта было ў гэты край старажытны забрацца,
Каб не толькі па сэрцах, а нават па слове адным
Распазнаць і адчуць векавечнае кроўнае брацтва,
Не адолець якога нікому, ніколі, нічым!

## АД НАЦЫЯНАЛЬНАЙ СМЕРЦІ РАТУЕ ВЕРНАСЦЬ РОДНАМУ СЛОВУ

**Прамова на адкрыцці Свята славянскага пісьменства і культуры**
***24 мая 1990 г.***

Вялікая падзея ў духоўным жыцці беларускага народа, сведкамі і ўдзельнікамі якой мы з'яўляемся, мае сваю дакладную назву: Свята славянскага пісьменства і культуры. Мы называем гэту падзею святам, хаця сёння ў Беларусі гаварыць «народ святкуе» — не вельмі выпадае, бо не ўвязваецца з клопатамі і настроямі, якія ў нашых сэрцах ужо даўно пераважаюць. Шчыра кажучы, не можа народ безаглядна святкаваць, на ўсю шырыню душы весяліцца, калі над яго лёсам навісла страшная, чорная бяда, — такая бяда, паследкі якой ніхто і прадбачыць не бярэцца. Таму і ўдзел у Свяце шаноўных і дарагіх гасцей з многіх славянскіх краін наш народ успрымае не толькі як знак павагі да яго культуры, яго духоўных набыткаў, але і як сведчанне сардэчнай спагады і не-

раўнадушнасці братоў-славян да яго лёсу. На маё разуменне, гэта, апрача ўсяго іншага, яшчэ і падтрымка нам у бядзе, а таксама падтрымка ў нашым змаганні супраць духоўнага Чарнобыля, супраць заняпаду нашай роднай мовы і культуры.

Зрэшты, аказанне такой падтрымкі тым, хто ў ёй мае патрэбу, заўсёды было маральным абавязкам, няпісаным законам цывілізаваных грамадстваў, і перш за ўсё — абавязкам інтэлігенцыі. Успомнім тое, што сёння асабліва прыемна ўспомніць. Адразу ж пасля заканчэння грамадзянскай вайны, калі Савецкая Беларусь рабіла першыя крокі свайго дзяржаўнага станаўлення і праблемы адраджэння нацыянальнай культуры, развіцця беларускай асветы і навукі былі праблемамі першаступеннай значнасці, да нас, у край апустошаны, зруйнаваны гадамі ліхалецця, прыехалі сотні вядомых рускіх вучоных, каб дапамагчы нашаму нацыянальнаму адраджэнню. І хачу падкрэсліць: многія з іх сталі патрыётамі нашай культуры, хутка авалодалі беларускай мовай, чыталі на ёй лекцыі і вялі ўсю навуковую і педагагічную працу.

Беларускі народ заўсёды са шчырай удзячнасцю прымаў і прымае дзеі і словы братняй падтрымкі, увагі і павагі і ў сваю чаргу рупіцца аб тым, каб не застацца ў даўгу. У нас прыкметна нарастае цікавасць да духоўных скарбаў іншых славянскіх народаў, да іх вопыту ў галіне асветы і культурнага будаўніцтва і, вядома ж, да іх мастацтва і твораў іх прыгожага, ці, як у нас гаварылі раней, краснага пісьменства.

Што дае знаёмства з гісторыяй і культурай іншых славянскіх краін? Вельмі многа! Хіба, напрыклад, не цікавы для нас гістарычны вопыт Балгарыі? Амаль пяцьсот гадоў над гэтым таленавітым жыццястойкім народам панавалі чужынцы-заваёўнікі. Што ўратавала Балгарыю, балгарскі народ як этнас ад канчатковай гібелі, ад смерці? Слова! Роднае балгарскае слова! Слова ярма не прыняло! Слова жывіла дух. Будзіла сілы.

Слова вуснае — у паданнях і легендах, у казках і прыказках, у непаўторных і несмяротных народных песнях, і слова пісанае — у тых тысячах рукапісных фаліянтаў, што стваралісся і захоўваліся ў манастырах і цэрквах! Вуснамі вялікіх балгарскіх асветнікаў — а яны былі пераважна і святарамі — сцвярджалася: усе мовы на зямлі роўныя ад Бога, ад прыроды, і кожную з іх трэба берагчы! Роднае слова гучала ў балгарскіх цэрквах усе пяцьсот гадоў няволі! А што ўратавала ад асіміляцыі, ад нацыянальнай смерці колькасна немнагалікі славенскі народ, які каля тысячы гадоў знаходзіўся пад уладай чужынцаў? І зноў жа Слова! Гэта ж можна сказаць і пра славакаў, і пра чэхаў, і пра сербаў, і пра многія іншыя народы. Вось толькі адзін з урокаў, якія дае нам знаёмства і культурнае супрацоўніцтва з братнімі славянскімі народамі.

Свята ў гонар Слова, якое пачало праводзіцца ў нашай краіне, несумненна дасць багаты плён. Яно дапаможа ўскалыхнуць патрыятычныя пачуцці людзей, абудзіць жывую цікавасць да сваёй гісторыі, да каранёў і вытокаў духоўнасці свайго народа, да тых глыбокіх нацыянальных традыцый і звычаяў, якія, на вялікі жаль, занядбаны і адрадзіць якія — наш супольны святы абавязак. У гэтым сэнсе мы, беларусы, страцілі надзвычай шмат, хаця і шмат змаглі ўсё-такі захаваць — на шчасце для сябе і на радасць для чалавецтва. Разам з намі шмат са сваёй духоўнай культуры страцілі і этнічныя групы, якія здаўна жывуць на Беларусі. Віны беларускага народа ў гэтым няма — трацілі разам. Трацілі не толькі мову, традыцыі, звычаі, скарбы мастацтва, сацыяльнага і гаспадарчага вопыту, багацці душы і памяці народнай, — трацілі пад прэсам нялюдскай бюракратычнай сістэмы і самае каштоўнае, што ёсць у людзей: пачуццё братняй еднасці, братняй узаемапавагі і братняй любові.

Вось чаму сёння найпершы абавязак дзеячаў асветы, навукі, культуры — працаваць не пакладаючы рук на ідэю яднання народаў і нацый, на ўзаемаразуменне і

давер. Адраджэнне і ўзвышэнне любой нацыянальнай культуры, мовы, нацыянальнай і гістарычнай самасвядомасці ні ў якой меры не павінны азначаць паслабленне духоўных сувязей паміж народамі, паслабленне нашай роднасці, нашага адзінства. Наадварот, і толькі наадварот! Нельга не думаць пры гэтым пра ролю інтэлігенцыі сёння. Калі на яе вачах ідзе разрыў духоўнай повязі паміж людзьмі розных нацый, адбываюцца акты вандалізму, разбураюцца і зносяцца помнікі героям вызвалення ад фашызму, калі знішчаюцца сімвалы такою высокай цаной здабытай свабоды, сімвалы нашай духоўнай еднасці, калі набываюць сілу працэсы адчужанасці і азлобленасці, — калі, паўтараю, усё гэта адбываецца на вачах інтэлігенцыі,— хіба яна можа маўчаць? Калі б такое маўчанне апанавала ёю, то гэта было б самае горшае, што магло з ёю здарыцца, да чаго можна дайсці ў трагічным разладзе з уласным сумленнем. Будзем, аднак, спадзявацца, што верныя гуманным запаветам вялікіх папярэднікаў, такіх, як геніяльныя стваральнікі нашага пісьма Кірыла і Мяфодзій, як наш нацыянальны геній Францыск Скарына, чый вобраз гэтак сонечна азарае нашу сённяшнюю ўрачыстасць, — сучасныя дзеячы асветы і культуры апраўдаюць сваё высокае прызванне, праявяць волю да барацьбы за яднанне пад сцягам міру, разумнай згоды і чалавекалюбства. Што такое жаданне ў інтэлігенцыі славянскага свету ёсць, сведчыць і гэта Свята.

## І ЎСЮДЫ — КРЫК БОЛЮ, КРЫК РОСПАЧЫ

**Выступленне на першай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР дванаццатага склікання** ***28 чэрвеня 1990 г.***

Паважаныя таварышы! З групай народных дэпутатаў я ездзіў у Хойніцкі раён. Пабывалі ва ўсіх зонах, у тым ліку і ў зоне адсялення, і ў зоне адчужэння, і нават там, на беразе Прыпяці, адкуль добра відаць

карпусы Чарнобыльскай АЭС. Ніколі, з гадоў вайны, не было ў мяне такіх цяжкіх уражанняў, як тыя, з якімі я вярнуўся заўчора з Палесся. Пустыя, мёртвыя вёскі, пустыя, без вокнаў хаты, начыста абрабаваныя марадзёрамі, бязлюдныя, адзічэлыя палеткі, лугі, сядзібы. Ніколі не было ў мяне і такіх цяжкіх сустрэч з людзьмі. Што ні сустрэча — балючы крык, крык роспачы, крык «Ратуйце!». Слухаць проста не было сілы, ён раздзіраў сэрца. Крык цяжарных жанчын, якіх ахоплівае жах за дзяцей, што народзяцца, крык маці, у якіх на руках па трое-чацвёра малых, якім ні разу за ўсе гады пасля катастрофы не далі пуцёўку ў санаторый для лячэння. Плач, слёзы з першай хвіліны размовы: «Памажыце, людзі дарагія. Жыць жа хочацца, хоць дзяцей выратуйце».

Паважаныя дэпутаты! Выснова можа быць толькі адна: перасяленне, і неадкладнае. Проста не верыцца, што толькі ў кастрычніку з Масквы нам дадуць навуковую канцэпцыю, пры якім узроўні радыяцыі перасяляць, дзе правесці мяжу зоны адсялення. Значыць, самі мы вызначыць не можам. Кажуць, патрэбна дэталёвае вывучэнне сітуацыі. А колькі яно будзе цягнуцца, гэта вывучэнне? У дзяржаўнай саюзна-рэспубліканскай праграме, якую мы атрымалі, сказана: няма поўнай і дэталізаванай інфармацыі аб забруджанні тэрыторыі рыдыенуклідамі. А інфармацыя такая...

Зайшлі мы на ферме ў кароўнік, замералі фон. Лічбы на дазіметры 25—30. Замералі нарыхтаваны корм — 50 з гакам. Выйшлі з фермы, замералі ў двух метрах ад варот, там, дзе вадасцёк — з даху, у траве, лічбы — 1170—1460. Значыць, амаль у сто разоў больш дапушчальнай дозы. Вось я і пытаюся, якімі ж паказчыкамі кіравацца? Тымі нейкімі сярэднімі, афіцыйна аб'яўленымі па гэтай тэрыторыі, ці канкрэтнымі, рэальнымі?

З гэтай трыбуны было выказана шмат слушных прапаноў наконт перасялення. Не буду паўтараць сказа-

нае, вылучу толькі два моманты, пра што асабліва гаварылі людзі. Перасяляць трэба вёскамі, вуліцамі, калектывамі. Ва ўсякім разе так, каб побач былі блізкія, свае людзі. І другое: у першую чаргу перасяляць трэба сем'і з дзецьмі, паколькі на дзяцей радыяцыя дзейнічае ў шмат разоў мацней.

Далей, трэба неадкладна спыніць на забруджанай тэрыторыі ўсялякае будаўніцтва і вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі. Пра гэта тут гаварыў літаральна кожны дэпутат. Ідзе нейкае недаравальнае злачыннае ашуканства. На першым плане не людзі, а вытворчасць. Хто ў гэтым зацікаўлены? Дзеля гаспадарчых планаў мы не ратуем людзей. Простыя людзі, механізатары, даяркі, кажуць: «Труцім сябе, бо ядзім тое, што маем. Але за што мы труцім людзей там, куды наша прадукцыя пасылаецца?» Для іх, простых людзей, гэта яшчэ і маральныя пакуты, іх сумленне не можа змірыцца з тым, што іх нехта робіць, па сутнасці, саўдзельнікамі злачынства. І, вядома, на час да перасялення, паколькі яго за месяц-два не правядзеш, трэба забяспечыць людзей чыстымі прадуктамі, вітаміннай гароднінай, садавінай і медыкаментамі.

Што яшчэ трэба сёння? Трэба гаварыць на ўвесь голас праўду, што Беларусь у вялікай бядзе і што гэта бяда датычыць усяго насельніцтва, да апошняга чалавека. Трэба сказаць, што на пэўны час, можа на некалькі гадоў, нам будзе вельмі цяжка, цяжэй, чым было дагэтуль. Цяжэй, бо, па-першае, на адну пятую скарачаюцца сельгасугоддзі. Па-другое, вялікія грошы патрэбны на выратаванне людзей. Колькі б сродкаў ні даў урад СССР, як бы ні дапамагалі добрыя людзі з усяго свету, перш за ўсё мы павінны разлічваць на свае сілы, на свае магчымасці. Значыць, давядзецца тэрмінова пераглядзець гаспадарчыя планы, у прыватнасці планы будаўніцтва.

Прычына таго, чаму на сёння ўсё-такі мала зроблена па ліквідацыі паследкаў Чарнобыля, хоць, здаецца, і стараліся рабіць нешта, усё там жа, у тармазным дзе-

янні механізма нашай грамадскай сістэмы. Вось паважаны міністр аховы здароўя сказаў: «Запланавалі чатыры дзіцячыя санаторыі і, на жаль, ніводнага не пабудавалі». А чаму? Хто вінаваты? А ці ёсць у нас інфармацыя, колькі пабудавалі за гэтыя гады шыкоўных будынкаў, кожны на многа мільёнаў коштам, для раённых і гарадскіх камітэтаў партыі, для раённых і гарадскіх выканкомаў, для іншых дзяржаўных установ? Давайце пачнём з гэтага: перададзім пад бальніцы і санаторыі гмахі, якія занялі пад кабінеты нашы партыйныя апараты. Хто ж дасць прыклад, калі не самыя свядомыя, самыя ідэйныя сярод камуністаў? Аўтарытэт партыйнай арганізацыі залежыць не ад таго, у якім будынку засядае камітэт, а ад таго, і толькі ад таго, што добрае ён робіць для людзей.

Трэба ж, каб людзі ўбачылі і паверылі, што да іх гора павярнулася тварам уся рэспубліка. Трэба па тэлебачанні, па радыё, у друку, з усіх трыбун сказаць народу, сказаць самім сабе, чаго ж мы вартыя як людзі, як нацыя, як дзяржава, калі мы ведаем, што ў небяспецы жыццё кожнага пятага, што пагібель можа напаткаць усіх нашых нашчадкаў, і мы церпім. Мы мірымся з тым, што бачым, пра што ведаем. Больш таго, перасяленцы, як ужо пра гэта гаварылі і іншыя таварышы, вяртаюцца назад пакрыўджаныя, абражаныя нячуласцю і чэрствасцю. Людзі шукаюць паратунку, а на іх глядзяць як на рабочую сілу, і толькі. Як бы яны прыехалі па вярбоўцы, нават пачынаецца своеасаблівы гандаль: маладых возьмем, старых — не. Тыя, хто ўсё жыццё сумленна працаваў і жыў нялёгка, сёння нікому зусім не патрэбны. І гэта ў нас, у Беларусі, жыхароў якой адвеку паважалі за спагаду і міласэрнасць. Проста сорамна думаць пра гэта. Сорамна, што так бязладна, так бяздарна мы страцілі чатыры гады і працягваем траціць дарагі час.

Шкада, што наша сесія не пачала работу з гэтага пытання, што мы не паставілі яго першым. Але сёння ўжо справа не ў маіх ці кагосьці асабістых эмоцыях.

Мы гаворым пра канкрэтную дзяржаўную праграму, якую павінны прыняць. Я заклікаю вас, паважаныя калегі, праявіць вялікую прынцыповасць і сёння, і заўтра. Кажу, і заўтра, бо мне вельмі трывожна, што праграму мы прымем, абавяжам урад да дзеяння, а ці будзе яно, гэта самае дзеянне? Пэўнасці ў гэтым няма. І вы ведаеце чаму. Калі б панеслі пакаранне, хаця б маральнае пакаранне, вінаватыя, тады б, можа, іначай ставіліся да ўсёй чарнобыльскай праблемы, да сваіх абавязкаў тыя, хто надзелены ўладай сёння. Але па даўняй завядзёнцы ў нас ніхто ні за што не адказвае. Дакладней, ніхто не баіцца, што панясе пакаранне, нават паніжэннем на пасадзе. Так што трэба, відаць, пачынаць з гэтага. Ці ёсць у нас законнасць? І калі ёсць, дык для каго яна?

І апошняе. Калі ў хаце цяжка хворы, там не пяюць, не скачуць, не весяляцца. Прашу зразумець правільна. Гаворка не аб тым, каб нагнятаць цяжкі настрой, пачуццё роспачы. Але, думаю, трэба ў тэатрах, у філармоніях, па тэлебачанні, на радыё і гэтак далей адмяніць усе ўвесяліцельныя праграмы, хаця б на год. А далей час пакажа. Наогул трэба істотна змяніць увесь стыль жыцця: сам характар нашага мыслення, накірунак нашых жыццёвых клопатаў. Як гэта было, старэйшыя помняць, у гады вайны. У нашай агульнай хаце гора, пра гэта трэба помніць кожную хвіліну. Значыць, ніякага дурнога аптымістычнага пафасу, да якога мы прывыклі. Ён недарэчы, не да месца, ды і шкодзіць справе. Трэба перайсці на дзелавы, рабочы лад усюды і скрозь. Як я разумею, гэта і будзе сапраўды чалавечы стыль, стыль натуральнага чалавечага жыцця, да якога нам даўно пара вярнуцца. Дзякую за ўвагу.

## ДЗЯРЖАЎНЫ СУВЕРЭНІТЭТ — ЦІ ЗОНА СВАБОДНАГА ЭКАНАМІЧНАГА РАЗВІЦЦЯ?

**Выступленне на II сесіі Вярхоўнага Савета БССР 12-га скліканння** *26 ліпеня 1990 г.*

Шаноўныя калегі дэпутаты!

Паводле ўсіх слоўнікаў, якія ёсць на свеце, суверэнітэт азначае «незалежнасць дзяржавы ад іншых дзяржаў у яе ўнутраных справах і міжнародных адносінах». Суверэнны — значыць незалежны, самастойны. Суверэнны ўрад — урад, які ажыццяўляе вярхоўную ўладу, — безагаворачна вярхоўную! Ці такім будзе ўрад, які мы тут, на сесіі, назначаем? Ці такою будзе беларуская дзяржава, суверэнітэт якой мы збіраемся абвясціць?

Сумняваюся, і нават больш чым сумняваюся — не веру. Сумняваюся, таму што слаба праглядваецца і адчуваецца ў нас, у Беларусі, тое галоўнае, без чаго дзяржаўнага суверэнітэту не можа быць. Усякаму рэальнаму дзяржаўнаму суверэнітэту, інакш сказаць — рэальнай эканамічнай і палітычнай незалежнасці, папярэднічае суверэнітэт або незалежнасць духу, душы народа, незалежнасць самапачуцця нацыі, суверэнітэт нацыянальнай самасвядомасці. Рэальнаму дзяржаўнаму суверэнітэту патрэбен духоўны грунт, духоўны хлеб, духоўнае забеспячэнне. Без гэтага мы створым у лепшым выпадку вялікую — ад Буга да Дняпра і Сожа — зону свабоднага эканамічнага развіцця, а не суверэнную дзяржаву.

Незалежнасць духу, незалежнасць самасвядомасці — гэта, апрача ўсяго іншага, незалежнасць слова, свабода слова, паўнаўладнасць роднага слова на сваёй роднай зямлі. Як мы баімся гэтага апошняга — сведчыць адзін факт, які мяне ўразіў надзвычайна. Учора я трымаў у руках новую рэдакцыю Закона аб мовах у БССР, распрацаваную ў кабінетах Вярхоўнага Савета, паводле якой наш Закон падганяецца пад нядаўна

прыняты ўсесаюзны Закон аб мовах, якім руская мова абвешчана афіцыйнай, г.зн. дзяржаўнай мовай краіны. Новая рэдакцыя, па сутнасці, паралізуе важнейшыя артыкулы нашага Закона аб мовах — артыкулы, якія гарантуюць рэальную дзяржаўнасць беларускай мовы. Што самае сумнае ў гэтым факце? Тое, з якою хуткасцю таварышы кінуліся рэвізаваць Закон сваёй рэспублікі, насуперак кроўным інтарэсам беларускага народа, з якою гатоўнасцю мы падымаем рукі ўгору і капітулюем перад націскам збоку. Вось вам і ўвесь суверэнітэт, і ўся самастойнасць нашай нацыянальнай свядомасці, вось вам і наша здольнасць пастаяць за вяршэнства законаў Беларусі! Не кажу ўжо пра маральны бок справы — тут застаецца толькі горка-цяжка ўздыхнуць ад такой маралі. Гэта мараль, заснаваная на самаедстве, на самагубстве і самавынішчэнні. Вось чаму, помнячы пра сваю адказнасць за лёс нацыі, мы абавязаны сёння яшчэ і яшчэ раз задумацца: што мы хочам абвясціць і затым ажыццявіць? Дзяржаўны суверэнітэт Беларусі — ці эканамічна-гаспадарчы суверэнітэт пэўнага тэрытарыяльнага рэгіёна, ну, скажам, паўночна-заходняга краю, накшталт краю Стаўрапольскага ці, скажам, Прыморскага? Калі мы сапраўды зразумелі, што нам, беларусам, беларускаму народу, гісторыя дала, можа быць, апошні шанц для свайго нацыянальнага самасцвярджэння, і калі мы сапраўды намераны дабіцца рэальнай дзяржаўнай незалежнасці, то нашу Дэкларацыю аб суверэнітэце Беларусі трэба зрабіць больш канкрэтнай — на ўзор Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Украіны. Я рад, што апошні варыянт праекта Дэкларацыі, які вы атрымалі сёння, досыць блізка стаіць да ўкраінскага. Ён больш дэталізаваны, каб нашы людзі, нашы выбаршчыкі, ужо цяпер, не чакаючы новай Канстытуцыі сваёй нацыянальнай дзяржавы, маглі ўбачыць, наколькі рэальны будзе суверэнітэт гэтай дзяржавы. Дарэчы, самы першы варыянт нашага дакумента быў таксама вельмі блізкі да ўкраінскага.

7.Зак.5434.

Канкрэтна я прапаную ў артыкул 9, абзац першы, дадаць словы «забяспечвае функцыяніраванне беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця». І яшчэ — дзеля дасягнення неабходнай нацыянальнай згоды, без чаго мы можам зайсці з нашай Дэкларацыяй у тупік, — я хацеў бы прасіць дэпутатаў — аўтараў праекта Дэкларацыі ад БНФ — не настойваць сёння на адным сваім патрабаванні. А менавіта — на патрабаванні аб тым, каб «пацвердзіць» незалежнасць Беларусі паводле Трэцяй Устаўной Граматы Рады БНР ад 25 сакавіка 1918 г. Нам трэба думаць і клапаціцца аб суверэнітэце той дзяржавы, якая ёсць. А адкуль будзе пачынацца радаслоўная нашай суверэннай дзяржавы — ці з сакавіка 1918-га, ці са студзеня 1919-га, ці з XIII або XIV стагоддзя — гэта пакажа час. Іншая справа, што погляд нашых афіцыйных гісторыкаў на абвяшчэнне БНР не вытрымлівае крытыкі. Ён навукова неаб'ектыўны, гэты іх погляд на той гістарычна несумненна прагрэсіўны акт 25 сакавіка 1918 года.

## ВЯЛІКІ СЫН БЕЛАРУСІ

**Слова на ўрачыстым вечары**
**ў гонар 500-годдзя Ф. Скарыны** *06.09.90 г.*

Выдатны гуманіст і асветнік, мысліцель і вучоны-энцыклапедыст, усходнеславянскі першадрукар, самабытны мастак-графік, таленавіты пісьменнік, паэт і перакладчык, высакародны грамадзянін і патрыёт — усё гэта цалкам справядлівыя характарыстыкі, якімі ўшаноўваецца сярод людзей дасведчаных наш зямляк, беларус са слаўнага горада Полацка Францыск, або Францішак, Скарына.

500-ыя ўгодкі яго нараджэння, якія мы разам з многімі добрымі людзьмі адзначаем, выпалі на час вельмі незвычайны, на час, які ў пэўных вымярэннях супадае або адчувальна пераклікаецца з ягоным часам. Яго, скарынаўская, эпоха ў гісторыі чалавечай

цывілізацыі называецца эпохай Адраджэння. Сёння гэтае слова зноў стала адным з самых назыўных — прынамсі, у дачыненні да многіх народаў свету, у тым ліку і да нас, беларусаў. Што ж гэта быў за час, які належаў яму, Скарыне, час, за межы якога ён ступіў у вечнасць, час, які на землях усходняга славянства ўвасобіўся ў ім, у яго справах і дзеях найбольш прыгожа, найбольш поўна і ярка?

Тры адметныя рысы характарызуюць тую непаўторную эпоху, што прыйшла на змену застойным, як бы мы сказалі сёння, сярэднім вякам, — эпоху Адраджэння. Першая — гэта свабоднае пачуццё чалавечнасці, узвышэнне і самасцвярджэнне асобы, яе права на зямныя радасці жыцця; другая — гэта вызваленне чалавечага розуму ад усялякіх догмаў, бунтоўны і неадольны дух вальнадумства; трэцяя — гэта арыентацыя і апора на антычнасць, на старажытныя аўтарытэты. Дабавім, што гэтыя памечаныя гуманізмам духоўныя працэсы суправаджаліся ростам этнічнай і нацыянальнай свядомасці, крышталізацыяй і станаўленнем нацыянальных культур, увагай да жывой мовы народа. На дарозе Адраджэння, а значыць — развіцця навукі, асветы, літаратуры і мастацтва, стаяла косная сіла сярэднявечча, усталяваныя за тысячу гадоў традыцыі, мараль і светапогляд, і каб гэтыя перашкоды расхістаць і пераадолець — патрэбна была сіла волатаў, тытанаў духу. Эпоха, як мы ведаем, задаволіла гэту патрэбу. Нагадаем, што сучаснікамі Скарыны былі такія геніяльныя вучоныя, мастакі, пісьменнікі, як Капернік, Мікеланджэла, Леанарда да Вінчы, Рафаэль, Батычэлі, Дзюрэр, Рабле і іншыя, у сузор'і якіх дастойна свеціцца і воблік нацыянальнага генія Беларусі.

Нагадаем таксама, што малады палачанін, да таго як пайсці па навуку ў славутыя еўрапейскія універсітэты, атрымаў належную адукацыю дома, на Бацькаўшчыне, дзе яшчэ ад часоў Еўфрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага пашыралася і была ў вялікай па-

шане рукапісная кніга і наогул пісьменнасць. Што ён нарадзіўся і вырас не ў адсталым, апавітым цямнотай, духоўна паралізаваным краі. На яго радзіме ў той час ужо славіліся актыўным гаспадарчым, грамадска-палітычным і культурным жыццём такія буйныя гарады, як Полацак, Віцьбеск, Берасце, Гародня, Наваградак, Менск, Слуцак, а таксама Орша, Магілёў, Тураў, Пінск і іншыя. Тон у жыцці ўсё больш пачыналі задаваць новыя сацыяльна-грамадскія сілы — шляхта і заможныя гараджане, купцы і рамеснікі. Час Скарыны — гэта час інтэнсіўнага фарміравання беларускай нацыянальнай мовы, росквіту рукапіснага мастацтва і ўзнікнення прыватных бібліятэк, час шырокага бытавання апакрыфічнай і перакладной літаратуры, найбольш актыўнага стварэння беларускіх летапісаў — такіх, як знакамітая «Хроніка Быхаўца», час першага Статута Вялікага княства Літоўскага, як тады называлася наша магутная дзяржава. Час Скарыны — гэта час масавага паяўлення на Беларусі царкоўных і свецкіх хораў, капэл і аркестраў, час выдатных дасягненняў у мастацтве (іканаграфія, дрэварыт, манументальны жывапіс) і асабліва — у галіне нацыянальнага дойлідства (цэрквы-крэпасці ў Сынковічах, у Супраслі, у Заслаўі, у Малым Мажэйкаве, замак у Міры і многае іншае). Час Скарыны — гэта час, калі маладыя беларусы атрымлівалі вышэйшую адукацыю ва універсітэтах Кракава, Прагі, Падуі, Балоньі, Базеля, Лейпцыга, Кёнігсберга, калі ў дзяржаве высока шанаваліся пачуцці патрыятызму і грамадзянства, калі найвышэйшым заканадаўчым і кантрольным органам быў вальны сейм, які ўнаследаваў традыцыі даўніх вечавых сходаў, калі ў краі панавала канфесійная талерантнасць і яшчэ было далёка ад адкрытых агрэсіўных выпадаў супроць іншаверцаў.

Галоўны патрыятычны подзвіг Францішка Скарыны ў тым, што ён першы даў свайму народу друкаваную кнігу і гэтым самым зрабіў невымерны ўклад у

развіццё асветы, навукі і культуры на Бацькаўшчыне. Ужо само разуменне ролі кнігадрукавання ў развіцці чалавечай цывілізацыі гаворыць пра многае. Наўрад ці можна сумнявацца, што Скарына яшчэ ў Кракаве — адным з тагачасных цэнтраў кнігадрукавання — загарэўся ідэяй паставіць геніяльнае вынаходніцтва Гутэнберга на службу свайму народу, і гэта ідэя стала яго найпершым маральным абавязкам перад Бацькаўшчынай, яго галоўным і неадступным клопатам, яго палымянай і светазарнай мэтай, дзеля ажыццяўлення якой ён безразважна ахвяраваў спакойным і забяспечаным жыццём чалавека з двума вучонымі тытуламі доктара навук, не збаяўся беднасці і іншых неймаверных цяжкасцей і нягод, на якія асуджаў сябе, ступаючы на шлях асветніцкай і навуковай дзейнасці. Яго самаадданасць і самаахвярнасць у гэтым сэнсе — рэдкі прыклад сыноўскага клопату пра свой народ і яго будучыню.

Але мы выказваем пачуццё нашай усенароднай удзячнасці гэтаму найвялікшаму з сыноў Беларусі не толькі як першадрукару, але і як выдатнаму мысліцелю, вучонаму і пісьменніку, чый творчы плён раўназначны яго пачынальніцкаму подзвігу. Скарына ўзяў на сябе задачу даць суайчыннікам на Радзіме не проста кнігу, а найвялікшую кнігу чалавецтва — Біблію. Вядома, светапогляд Скарыны, як і кожнага з тытанаў Рэнесансу, не быў цалкам свецкі. Але не толькі яго шчырае шанаванне хрысціянскай веры забяспечыла гэты выбар, а і ўзровень яго адукацыі і культуры, праніклівасць, маштабнасць і глыбіня яго розуму. У Бібліі Скарына бачыў перш за ўсё крыніцу самых разнастайных ведаў, неабходных народу, які хоча сацыяльнага і культурнага прагрэсу, неабходных чалавеку, які турбуецца пра сваё духоўнае развіццё і маральнае ўдасканаленне. Зведзеныя ў адно цэлае дзесяткі прадмоў і пасляслоўяў Скарыны да перакладзеных і выдадзеных ім кніг Бібліі — гэта не ардынарны, звычайны каментарый да зместу Святога пісання; гэта сапраўдны навуковы трактат выдатнага вучонага і мысліцеля, у

якім на ўзроўні ідэй Адраджэння выяўлены яго смелы, наватарскі погляд на ўсё — на рэлігію, на асвету і навуку, на мову, на мастацтва, на бытавую і грамадскую мараль, на прававую сістэму і на многае іншае. Дасведчаны ў розных галінах навукі — у медыцыне і батаніцы, у мастацтвазнаўстве, у геаграфіі і астраноміі, у геаметрыі і арыфметыцы, у гісторыі і філасофіі, у правазнаўстве і логіцы, у граматыцы і асновах красамоўства, — Скарына бачыць іх пачаткі ў паасобных кнігах Бібліі, якія адпаведна і рэкамендуе чытачам. Але галоўны яго клопат, пра што ён гаворыць зноў і зноў амаль не ў кожнай прадмове, — гэта праўда і справядлівасць, дабрыня і міласэрнасць, гэта клопат пра тое, каб людзі «научившися мудрости добре жили на свете». Ужо ў прадмове да першай надрукаванай ім у Празе ў 1517 годзе кнігі «Псалтыр» Скарына піша: «Там ест справедливость, там ест чистота, душевная и телесная. Там ест наука всякое правды. Там мудрость и разум досконалый. Там ест милость и друголюбство без льсти, и вси иншии добрые нравы якобы со источника оттоле походять.

И видечи таковые пожитки в так малой книзе, я, Франтишек, Скоринин сын с Полоцька, в лекарских науках доктор, повелел есми Псалтырю тиснути рускими словами а словенским языком напред ко чти и к похвале богу (...), а потом к пожитку посполитного доброго, наболей с тое причины, иже мя милостивый бог с того языка на свет пустил».

Зноў і зноў Скарына паўтарае, што пакладзеная ім боганатхнёная праца прызначана «людем посполитым к пожитку», «к доброму научению», дзеля «размножения добрых обычаев», дзеля мацавання згоды паміж людзьмі і ў краіне, паколькі «незгода и наибольшие царства разрушаеть». Міласэрнасць і праўда не пакінуць людзей, калі яны спасцігнуць навуку і мудрасць, што схавана ў біблейскіх легендах і прытчах, «якобы моц в драгом камени, и яко злато в земли, и ядро у ворехy», калі ім перадасца і ўсталюецца

ў іх душах «дух разумности», для якога аўтар знаходзіць цэлую нізку дакладных і яркіх эпітэтаў: «В ней воистину ест дух разумности святый, единый, различный, смысленый, скромный, вымовный, движющийся, непоскверненый, истинный, сладкий, чистый, сталый, добротливый и всякую иную имеющий в себе добрую цноту».

Дух разумнасці!.. Як ён усім нам сёння патрэбен! І нам у Беларусі, і ўсёй нашай краіне, і ўсёй нашай заселенай людзьмі планеце! Як па-сучаснаму, як актуальна гучаць галоўныя, вызначальныя пастулаты маральнага вучэння Скарыны, яго філасофіі, яго патрабаванні духоўнай свабоды для чалавека, яго ўстаноўка на высокую этычную культуру, на сумяшчэнне грамадскіх і асабістых інтарэсаў людзей — каб усім добра было!

Дарэчы, вельмі сімвалічна, што і да гэтага часу не высветлена, якога ж веравызнання быў Скарына: праваслаўнага, каталіцкага ці пратэстанцкага? Ці пераходзіў з аднае веры ў другую? У гэтым таксама хочацца бачыць яго своеасаблівы мудры запавет нам, нашчадкам: людзі, хай веравызнанне вас не раздзяляе, не самае важнае — да якой канфесіі належаць, галоўнае — служыць дабру і міласэрнасці, праўдзе і справядлівасці, міру і згодзе і — быць патрыётамі той зямлі, на якой вы нарадзіліся і выраслі!.. «Понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; птици, летающие по возъдуху, ведають гнезда своя; рибы, плавающие по морю и в реках, чують виры своя; пчелы и тым подобная боронять ульев своих,— тако ж и люди, игде зародилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають».

І так, да таго месца, дзе ты нарадзіўся, і, як мы помнім, да тае мовы, з якое міласцівы Бог цябе ў свет пусціў... Скарына ведаў добры дзесятак моў, у тым ліку лацінскую, старажытнагрэчаскую і старажытнаяўрэйскую, цаніў і шанаваў мовы іншых народаў, але найпершай яго любоўю была мова роднага

краю, да якое ён і стараўся наблізіць мову сваіх перакладаў. Калі такую складаную і зместам, і жанрава, і стылёва кнігу, як Біблія, ён узяўся агучыць жывою мовай сваіх бацькоў — дык якую ж высокую думку пра гэту мову трэба было мець, якія цудоўныя яе магчымасці і ўласцівасці бачыць!

У мове Скарыны, кажучы словамі Марселя Пруста, — «формы старажытнай душы» нашага народа. Па старонках яго ных выданняў «праходзіш» — як па старажытных вуліцах і вулачках Полацка, Гародні, Вільні (хацеў бы, ды не магу сказаць — Менску...). Калі б да нас не дайшла мова кніг Скарыны і яго паслядоўнікаў — мы не адчулі б душой і сэрцам, якія глыбокія нашы духоўныя карані, як далёка мы пачаліся і — насуперак усім трагічным ударам лёсу — засталіся вернымі сабе.

Такія постаці беларускага Адраджэння, як Францішак Скарына, Мікола Гусоўскі, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Леў Сапега, Андрэй Волан і іншыя, увесь стан тагачаснай беларускай культуры, літаратуры, дойлідства пераканаўча засведчылі, што мы, беларусы, на магістральны шлях гістарычнага прагрэсу выйсці не спазніліся, што ад тагачаснай Еўропы мы не адставалі, а ў сім-тым нават ішлі наперадзе, — напрыклад, у верацярпімасці, у дасканаласці і гуманнасці дзяржаўнага заканадаўства. Трагічным паваротам у лёсе беларускай культуры быў паступовы адыход ад гуманістычных прынцыпаў Адраджэння. Трагедыя пачалася тады, калі знакамітыя магнацкія роды, прадстаўнікі буйной шляхты, багатага купецтва і нават царквы сталі на шлях здрады нацыянальных інтарэсаў, калі ўслед за імі навукоўцы, асветнікі, кніжнікі адступіліся ад наказаў Скарыны і пачалі друкаваць кнігі на польскай мове, што катастрафічна падарвала і ўрэшце амаль зусім перапыніла скарынаўскую традыцыю кірылічнага друкавання на беларускай. Колькі было ў XVII—XVIII стагоддзях на

нашай зямлі друкарань, у тым ліку вельмі вядомых, якія не выдалі ніводнай кнігі па-беларуску!..

Гаворачы пра гэту трагічную акалічнасць у гісторыі нашага нацыянальнага станаўлення, мусім, аднак, падкрэсліць, што, калі б не творчы подзвіг Скарыны, калі б не магутны размах і маштаб яго кнігавыдавецкай і асветніцкай дзейнасці, — трагедыя магла б быць непараўнана больш страшнай, яна магла б аказацца для нас непапраўнай. Калі б не той духоўны, нацыянальна-культурны грунт, які так умацавалі Скарына і яго паслядоўнікі, супраціўленне апантанаму напору чужаземнай культуры і мовы на Беларусі было б значна слабейшае, асіміляцыя нашых няшчасных прашчураў ішла б тэмпамі намнога большымі, — і, хто ведае, які наогул быў бы лёс нашага народа, ці дыхалі б мы сёння найздаравейшым, найчысцейшым і найсаладзейшым паветрам роднае мовы? Ці абудзілася б калі-небудзь у забітых душах ідэя нацыянальнага адраджэння і ці пачаўся б калі-небудзь беларускі нацыянальна-вызваленчы рух?

Агульнавядома, якая велізарная роля Скарыны ў развіцці беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання. Несумненна, што яго друкарска-выдавецкую школу прайшлі і Сымон Будны, і Васіль Цяпінскі, і заснавальнік кнігадрукавання ў Расіі і на Украіне Іван Фёдараў, і яго паплечнік і сябар Пётр Мсціславец, і многія-многія іншыя. Праўда, не заўсёды і не ўсім братам нашым хапала мужнасці пра гэта сказаць, а ў нас саміх — не заўсёды хапала пачуцця годнасці пастаяць за свае нацыянальныя аўтарытэты. Стрымліваў ганебны халуйскі страх, як бы нас не абвінавацілі, што мы занадта добра думаем пра сябе, пра лепшых людзей сваёй нацыі, пра высокія і гераічныя моманты сваёй гісторыі, што нібыта гэтым пачуццём уласнай годнасці і гонару мы камусьці нашкодзім або кагосьці пакрыўдзім... Горка, але гэта так. А між тым цану нашаму геніяльнаму земляку ўжо пры яго жыцці добра ведалі некаторыя адукава-

8.Зак.5434.

ныя замежнікі. Так, брандэнбургскі герцаг Альбрэхт у рэкамендацыйнай грамаце, выдадзенай Скарыну ў 1530 годзе, характарызаваў яго як «выдатнага мужа непараўнанага розуму і мастацкага дару, светлага лекарскага таленту і слаўнага вопыту».

Вывучэнне творчай спадчыны Скарыны пачалося звыш двухсот гадоў назад — сіламі навукоўцаў розных краін, перш за ўсё славянскіх. Шмат з таго часу было зроблена для стварэння навуковай Скарыніяны. Але шмат было на гэтым шляху і цяжкіх, нават небяспечных перашкод. Асабліва — у нас, у Беларусі, у гады пагромаў гэтак званага «беларускага буржуазнага нацыяналізму», духоўнай апорай якога пагромшчыкі лічылі, сярод іншага, і плён працы Скарыны. Так, вядомы партыйны дзеяч Вільгельм Кнорын, той самы, які ў 1918 годзе публічна, у афіцыйным друку, адмаўляў існаванне асобнай беларускай нацыі і асобнай беларускай мовы, у 1928 годзе пісаў: «Права беларускіх працоўных на беларускую мову выцякае зусім не з таго, ці жыў, ці працаваў на беларускай мове сярэдневяковы манах Скарына, але ад рэвалюцыйнага раўнапраўя ўсіх народаў». У наступныя гады абразлівыя мянушкі «сярэдневяковы манах», «беларускі езуіт» і іншыя, раз-пораз вылятаючы з-пад пяра партыйных, вучоных і літаратурных аўтарытэтаў, фактычна спынілі развіццё беларускай Скарыніяны. Для чаго гэта рабілася? А для таго, каб адабраць у народа гонар, каб яму не было чым ганарыцца. Так лепш — для тых, хто хацеў бы выхоўваць людзей у рабскай пакорлівасці. Згадваецца гэта не для таго, каб лішні раз развярэдзіць балючыя раны, а для таго, каб засцерагчы: той, кнорынскі, узровень разумення гісторыі цывілізацыі і культуры да канца яшчэ не пераадолены, той прымітыўны, зручны для абывацеляў і жандараў, погляд на гісторыю беларускага народа, яго мову і культуру трымаецца сям-там яшчэ даволі моцна.

На працягу першых пасляваенных дзесяцігоддзяў

імя Скарыны, агулам кажучы, вымаўлялася ў нас з пашанай. Больш таго: часта і гучна заяўлялася аб тым, што наша грамадства — дастойны спадкаемца і прадаўжальнік яго задум і здзяйсненняў. На жаль, у такіх абвяшчэннях было больш дэкларацыйнай рыторыкі, чым праўды, падмацаванай фактамі і лічбамі.

Усе гэтыя акалічнасці і спрычыніліся таму, што адкрыццё Скарыны для вялікага свету бязбожна зацягнулася, што па-за межамі Бацькаўшчыны ён і дагэтуль належным чынам невядомы.

Падобна, аднак, на тое, што наступіла пара рашучых перамен. У апошнія гады ўклад у навуковую і літаратурна-мастацкую Скарыніяну адбываўся з вельмі прыкметным і адчувальным нарастаннем. Бачыць і ўсведамляць гэта ўцешна, бо гэта — канкрэтныя, рэальныя дзеі, сведчанне таго, што мы нарэшце пачынаем разумець павучанне апостала Паўла, якое Скарына зрабіў сваім крэдам: «Слова без справы мёртвае». Сёння мы на ўвесь голас гаворым пра новы этап нашага нацыянальнага адраджэння — адраджэння беларускай мовы, культуры, гісторыі, школы і інш. Усё гэта мы можам здзейсніць толькі тады, калі ў цэнтр нашай увагі і клопатаў мы паставім тое, што нам першы даў Скарына, — кнігу. Беларускую кнігу. Калі мы зробім сапраўды нацыянальным кнігадрукаванне на Беларусі. Гэтаксама — калі мы зробім сапраўды беларускай нашу школу. Гэтаксама — наш тэатр і культасвету.

У нетрах нашага грамадства выспяваюць новыя настроі, якія прадвяшчаюць рашучы паварот у гістарычным лёсе беларускага народа. У ліпені Вярхоўны Савет рэспублікі прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі. 1 верасня ўступіў у дзеянне Закон аб мовах, згодна якому беларускай мове нададзены статус дзяржаўнай. Нядаўна Савет Міністраў БССР прыняў рашэнне аб стварэнні ў Мінску Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны, які, хочацца верыць, стане буйным асяродкам

навуковай, асветніцкай і культурнай работы. Думаецца, што зусім не за гарамі час, калі ў нашым стольным горадзе, на рагу вуліцы Акадэмічнай і праспекта Скарыны, які працягваецца ну, прынамсі, ад плошчы Незалежнасці аж да Маскоўскай шашы, будзе стаяць прыгожы і велічны помнік яму — можа быць, самы прыгожы з усіх пастаўленых калі-небудзь на беларускай зямлі.

Благаслаўлёнае імя Скарыны сёння з тымі, хто клапоціцца пра адраджэнне душы чалавечай, хто дбае пра вялікую будучыню народа.

Тая вера, што калісьці вяла яго пакутніцкім шляхам да высакароднай мэты і асвятляла яму гэту дарогу, — з намі!

Тая любоў да роднага краю, што натхняла яго, і акрыляла, і падымала над крыўдамі і нягодамі, — з намі!

Тая прага тварыць дабро «людзям паспалітым», якая жывіла яго сілы, прыдавала яму мужнасці, стойкасці і цярпення, — з намі!

Будзем жа дастойнымі ў сваіх словах і справах яго памяці, яго спадчыны, яго запаветаў!

## І СУВЕРЭНІТЭТ ДУХУ!

«Народная газета» *за 2 кастрычніка 1990 г.*

Гады два назад на старонках усесаюзнай газеты была змешчана прысланая з Беларусі аб'ява: на пасаду кіраўніка сельскага Дома культуры запрашаўся спецыяліст, якому, натуральна, сёе-тое абяцалася пры гэтым. Паколькі «дошка аб'яў» усесаюзная — значыць, запрашалі спецыяліста па культуры хоць з-за сямі тысяч вёрст, па аналогіі, як запрашаюць многія нашы калгасы механізатараў і жывёлаводаў. Не ад лёгкага жыцця, вядома, кінулі людзі кліч на ўвесь Саюз: рэспубліка не забяспечвае клубы і дамы куль-

туры патрэбнымі кадрамі. Гэта — горкая праўда, канешне. І ўсё ж я міжволі задумаўся: запрашаецца не механізатар і не ветэрынар, а той спецыяліст, які, прыехаўшы з-за краю свету, будзе займацца жывымі душамі мясцовых, тутэйшых людзей, будзе гэтыя душы культываваць і выхоўваць, жывіць іх духоўным хлебам, будзе развіваць у раёне культуру... Ну і добра, скажаце, хай развівае. Згода, хай развівае. Але — на якой глебе? З чаго зыходзячы будзе ён рухаць у Беларусі культурны прагрэс? Якую мастацкую культуру будзе расціць, якія духоўныя традыцыі будзе працягваць? Беларускія? Калі ён на беларускай культуры вырас — пытання няма, а калі ён і элементарнага ўяўлення не мае пра асаблівасці гэтай культуры і гэтых традыцый? Значыць, будзе не працягваць, а перарываць іх і разбураць, падменьваць нечым іншым?..

Глядзеў я на тую аб'яву, і ўжо, можа, у тысячны раз мне цяжка-горка ўздыхнулася: «Прыйдзіце і апрацуйце нашы душы, калі ласка! Стварыце для нас культуру!..»

Старая-старая песня! Колькі давялося за жыццё яе наслухацца! Прыйдзіце!.. Самі мы тварыць культуру на ўласным нацыянальным грунце не ўмеем. Не ўмеем і па ўласных школьных праграмах вучыць сваіх дзяцей — і таму тысячы беларускіх школ перарабілі на рускія, каб былі, як блізняты, падобныя на тыя, што ў Кастраме ці ў Разані... Самі не ведаем, якія часопісы і газеты выпісаць для калгаснага ці заводскага клуба, — і таму ў бібліятэцы на адно беларускае перыядычнае выданне паўсотні небеларускіх... Самі не здольныя рабіць беларускае мастацкае кіно — і таму дзесяткі гадоў залётныя ўмельцы пастаўлялі нам кінапрадукцыю, паказвалі — паводле свайго залётна-пералётнага разумення, які мы народ, як мы ваявалі-змагаліся, як мы жылі-былі на сваёй роднай зямельцы... І шмат-шмат чаго іншага, што датычыць душы, мы самі не ўмеем. Прыйдзіце і апрацуйце!..

Не думаю, што трэба рабіць наўмысную агаворку і прасіць чытачоў, каб не спяшаліся абвінаваціць «у адрыве, у адасабленні, у нацыянальнай замкнутасці, у правінцыялізме» і іншых грахах смяротных. Можа, перастанем ужо, нарэшце, карыстацца гэтымі гнюснымі стэрэатыпамі? Размова аб тым, што, беручы, і шчодра беручы з сусветнае культуры, трэба ўсё ж помніць, што ўзятае духоўнае багацце павінна не забіваць сваё, а наадварот — як жыватворная вада, павінна спрыяць яго росту і росквіту. Але менавіта — свайго! Таго адметнага і самабытнага, чаго не дасць, не вырасціць аніякі іншы народ у свеце!..

Да многіх з нас усё ніяк не даходзіць, што клопат пра развіццё беларускай мовы і культуры мае першаступеннае значэнне для лёсу нашай нацыі наогул. Калі мы хочам быць самі сабою, зразумела. Культура, духоўнасць — гэта тая вельмі тонкая матэрыя, якая непарыўна і моцна яднае нас. Нас — гэта значыць усіх жыхароў Беларусі. Натуральна, каб людзі прыезджыя маглі ўжыцца ў яе, урасці душою, зрабіць сваёю роднай — на гэта патрэбна і вялікае жаданне, і багата часу. Для добрых людзей умова гэта зусім зразумелая, бо, не ўжыўшыся, не адчуўшы гэту культуру сваёй, роднай, — плённа супрацоўнічаць з ёю не зможаш. Скарэй за ўсё будзеш насаджаць усесаюзнашэры псеўдакультурны стандарт.

Хацелася б думаць, што сёння ўжо ўсім ясна: каб стрымаць эканамічна-сацыяльны рэгрэс у рэспубліцы, стабілізаваць спажывецкі рынак, навесці парадак і лад і затым пайсці абноўленым шляхам далей, наперад, — патрэбна яднанне ўсіх здаровых сіл грамадства, незалежна ад партыйнасці, нацыянальнасці, веравызнання, прафесіі, адукацыі... Інакш кажучы — патрэбна нацыянальная згода, патрэбна адзінства нацыі ў галоўным. А па чым вызначана, што мы — нацыя, калі найпершы вызначальны прызнак — культура, наша, беларуская, у сваім уласным доме, на сваім уласным падворышчы,

на сваёй роднай зямлі, — варты жалю экзатычны даважак?

Паўтараю: для рашучага выпраўлення становішча ў рэспубліцы, апрача неадкладнага прыняцця пэўных законаў, трэба мабілізаваць духоўныя сілы народа — так, як гэта было ў час вайны, старэйшыя людзі помняць. Трэба абудзіць усё лепшае, што ёсць у яго душы, у яго маралі, аднавіць усе яго прыгожыя і плённыя традыцыі, звычаі... А што — у нас — лепшае? Ці ведаем мы самі гэта?

Я думаю, гэта тое, што складае апору народнага характару: надзейная маральная чысціня, трываласць душы і сэрца. Непрымальнасць здрады, адступніцтва, фальшу і крывадушнасці, блазенства і юродства, цынізму. Прыроднае патрабаванне — ад сябе і іншых — маральнай чыстаплотнасці, элементарнай чалавечай прыстойнасці, пачуцця абавязковасці. Прыроднае адчуванне высокага, духоўна прыгожага, чалавечага і — нізкага, нікчэмнага, нялюдскага.

У нашым народзе яшчэ шмат гэтай маральнай сілы, духоўнай самастойнасці, незалежнасці, свабоды самапачування. Не даць растранжырыць гэтыя сілы даастатку, абудзіць іх, падтрымаць і памножыць — вось задача задач для ўсіх, хто сёння шчыра зацікаўлены ў адраджэнні нашай нацыі.

Жыццё кожнага народа мае свой адметны характар, вызначаецца сваім уласным стылем, які бачым ва ўсім: у асаблівасцях гаспадарання, у абыходжанні з прыродай, у характары народных майстроў, само сабой — у побыце, у звычаях і абрадах, у сям'і і ў адносінах з суседзямі, у мастацкай творчасці. Усё гэта мае вельмі вялікае значэнне. Такі народ можа сказаць: «Вось — я, і падобны на іншых, і ўсё ж адметны ад іх, маю сваю культуру і мову, сваю галаву на плячах, жыву сваім уласным розумам — хаця і люблю параіцца з суседзямі і запазычыць у іх што-небудзь мудрае, трымаюся сваіх маральных правілаў, якія мне дасталіся ў спадчыну, умею тое, чаго не ўмеюць

іншыя, чуюся гаспадаром тут, на сваёй зямлі, і я здольны зрабіць сваё жыццё і заможным, і цікавым...»

Такім народам быў, ёсць і будзе наш беларускі народ, хоць сёння яго долю інакш як праклятай і не назавеш. Нацыянальную годнасць яго, што была так хораша загаварыла ў 20-ыя гады, прынізілі, заглушылі, а сям-там і зусім вытравілі, культуру яго, падрэзаўшы крылы, пасадзілі на галодны паёк, нацыянальную школу знішчылі, мову ператварылі ў прадмет насмешак і крыўляння. Мала гэтага — нашы першыя актыўныя высілкі, скіраваныя на дзяржаўнае і духоўнае адраджэнне Беларусі, у значнай меры паралізаваны Чарнобылем. Здавалася б, перад гэткай страшнай бядой ідэя нацыянальнай згоды аб'яднае нас, грамадзян рэспублікі, цесна-моцна. На вялікі жаль, такога не назіраецца. Сляпыя пачуцці, неразумныя амбіцыі, бяздумнасць, безадказнасць і ўсё, што хочаце, толькі не самаадданая мазольная праца, толькі не жаданне згуртавацца ў адзіным клопаце пра будучыню Беларусі, нашых жа дзяцей і ўнукаў. Ну і, канешне ж, адкрытае і замаскіраванае супраціўленне суверэнітэту рэспублікі, нашаму нацыянальнаму адраджэнню. Ды яшчэ якое супраціўленне! Чаго варта адно нядаўняе публіцыстычнае выступленне А. І. Салжаніцына («Как нам обустроить Россию? Посильные соображения»). Калі нават ён, пісьменнік, адмаўляе нам, беларусам, у праве на дзяржаўны і духоўны суверэнітэт, на самастойнае гістарычнае жыццё, — дык што ж тады хацець ад іншых, скажам, ад чыноўнікаў, ад абывацеляў?..

Дык Бог з імі з усімі! Няхай шчыруюць! Тыя, што не хацелі прызнаваць нас трыста, і дзвесце, і семдзесят гадоў назад, шчыравалі не менней. І ўсё-такі мы жывема! І глядзім у будучыню аптымістычна. Верым у свой вялікі лёс гэтак жа моцна, як верылі Францішак Скарына і Васіль Цяпінскі, Кастусь Каліноўскі і Францішак Багушэвіч, Янка Купала і Якуб Колас, Максім Багдановіч і Цётка, Алесь Гарун і Максім Гарэцкі, і

многія іншыя апосталы, духі-заступнікі Беларусі, чые імёны сёння на нашым сцягу.

## ПРЫКЛАД ПАВІННА ДАВАЦЬ ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ

**Слова на адкрыцці рэспубліканскага форуму «Інтэлігенцыя ў нацыянальным адраджэнні і ажыццяўленні суверэнітэту Беларусі».**
*1 снежня 1990 г.*

Шаноўная грамада! Паважаныя калегі!

Колькі месяцаў назад рэспубліканская рада Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны пастанавіла правесці сход інтэлігенцыі рэспублікі з мэтай — абмяняцца думкамі, як нам лепш супольна садзейнічаць ажыццяўленню Закона аб мовах у Беларускай ССР, як з большай карысцю і плёнам прыкладаць свае сілы і намаганні да справы нацыянальнага адраджэння Беларусі, яе асветы і мовы, яе гісторыі і культуры. Ідэя гэта ўзнікла не на пустым месцы. Яшчэ ў 1988 годзе абмяркоўвалася пытанне аб правядзенні аб'яднанага пленума творчых саюзаў рэспублікі — у мэтах згуртавання разрозненых сіл мастацкай інтэлігенцыі дзеля вялікай агульнай справы. Пленум, аднак, не адбыўся — належнай зацікаўленасці ў ім не было. У ходзе падрыхтоўкі гэтага сходу тэму размовы на арганізацыйным камітэце рашылі пашырыць.

Пытанняў, якія дазваляе закрануць абвешчаная ў запрашэнні тэма, вельмі шмат. Галоўнае вынесена ў загаловак: «Інтэлігенцыя ў нацыянальным адраджэнні і ажыццяўленні суверэнітэту Беларусі». Іншымі словамі — роля і месца інтэлігенцыі ў духоўным, культурным і грамадска-палітычным жыцці рэспублікі, яе правы, яе абавязкі, яе магчымасці і як яны ёю выкарыстоўваюцца.

Сабраліся мы ў час настолькі трывожны, настолькі складаны і адказны, калі ўсякае эгаістычна-бяздумнае самапачуванне раўназначна злачынству. Час, калі, склаўшы рукі, сядзець і маўчаць нельга. Час, калі трэ-

ба дзейнічаць і дзейнічаць. Але толькі пытанне — як? Як будзем дзейнічаць? Як людзі культуры і цывілізацыі — як у самыя цёмныя часы нашай гісторыі? Навукоўцам, педагогам, літаратарам, мастакам, дзеячам культуры Беларусі належыць вытрымаць экзамен на грамадзянскую сталасць, на годнасць інтэлігента. У сённяшніх умовах справіцца з гэтай задачай неймаверна цяжка, асабліва — калі не адчуваць, што ты не адзінокі, што побач з табою калегі і таварышы, якія таксама пранікнуты гэтым клопатам, хаця і не ўсе яны твае аднадумцы, і не ўсе твае адзінаверцы.

Зрэшты, вытрымаць гэты экзамен на сталасць належыць не толькі інтэлігенцыі, але і ўсяму грамадству, якое або знойдзе сілы супыніцца на краі бездані, або не справіцца з напорам нядобрых сляпых пачуццяў, самавыбухне і абрынецца ў апраметную. Хто дапаможа грамадству апомніцца, задумацца і схамянуцца? Думаю — перш за ўсё інтэлігенцыя, як гэта было і заўсёды.

У Беларусі, як і па ўсёй краіне, працягваецца працэс падзення дысцыпліны, парадку і — заняпаду маральнасці, культуры, духоўнасці. Гэта не можа не трывожыць кожнага сумленнага грамадзяніна рэспублікі, а тым больш — сумленнага інтэлігента. Пытанне: што будзе з нацыяй? што яе чакае ў недалёкай і самай блізкай будучыні? — паўстала, як ніколі раней, пагрозліва. І не думаць пра гэта, не глядзець у будучыню мы проста не маем права.

«Этыка нігілізму» панавала ў нас 70 гадоў; цяпер мы абвясцілі адраджэнне, значыць — аднаўленне, будаўніцтва, аднак жа зноў бачым той жа самы нігілізм, толькі з адваротным значэннем, і таксама з праявамі экстрэмізму. Дык што — іначай мы ўжо не можам? Выходзіць — рабы аднае псіхалогіі, аднаго настрою назаўсёды, на ўсё жыццё? Прымірыцца з гэтым немагчыма, ні ў якім разе! Трэба выпрацоўваць іншы маральны светапогляд. Гэта будзе неймаверна цяжка, гэта дасягнецца хіба што праз колькі пака-

ленняў, але іншага шляху, думаецца, няма. І, вядома ж, работа гэта кладзецца перш за ўсё на плечы інтэлігенцыі — навукоўцаў, настаўніцтва, дзеячаў літаратуры і мастацтва. І пачынаць трэба з усведамлення неабходнасці такога павароту ў самім светапоглядзе. Адна з нашых бед — недастатковая дасведчанасць, кепскае веданне гісторыі станаўлення розных сацыяльна-эканамічных сістэм, іх асаблівасцей з улікам такіх фактараў, як нацыянальныя традыцыі, псіхалогія мас і інш. І адсюль — няўменне зазірнуць наперад, прадбачыць вынікі, выпрацаваць стратэгію і цвярозую тактыку. І адсюль жа — механічны перанос чужых мадэлей на нашу рэчаіснасць. Інтэлігенцыя абавязана бачыць, адчуваць і разумець рэальны стан рэчаў, рэальныя вытворчыя, палітычныя, духоўныя і іншыя жыццёвыя сувязі, дакладней — узаемасувязі, якія складваюцца паступова і на працягу доўгага часу; узаемасувязі на розных узроўнях і самага рознага характару, не лічыцца з якімі, раптам, з ходу разарваць, разбурыць якія — значыць асудзіць грамадства на разлад, развал і хаос, значыць — наклікаць бяду і трагедыю. Для народа, для простых працоўных людзей перш за ўсё будзе гэта бяда і трагедыя, і надоўга. Гісторыя XX веку засведчыла гэта неаднойчы і дастаткова пераканаўча.

Вось чаму — раней, чым падхопліваць пэўны сацыяльны або палітычны лозунг, кідацца на падтрымку той або іншай эканамічнай праграмы, — трэба вельмі і вельмі сур'ёзна ацаніць рэальную сітуацыю, вельмі ўдумліва ўзважыць усе «за» і «супраць», каб не стаць на шлях палітычнага авантурызму, які можа занадта дорага ўсім нам абысціся, можа каштаваць народу не толькі пакут, але і крыві. На вялікі жаль, у генах многіх змагароў за перабудову, як правых, так і левых, сядзіць схільнасць да крайніх высноў і ўчынкаў, праяўляецца дух самаўпэўненасці, нецярпімасці і экстрэмізму, што сведчыць, несумненна, аб неінтэлігентнасці, нізкай маральнай культуры, абмежаваным узроўні духоўнасці.

Сёння нам перш за ўсё патрэбна стабілізацыя грамадска-палітычнай атмасферы, а гэтага не дасягнуць, калі ва ўсім і ўсюды не будзе пераважаць цвярозы, разважлівы падыход. Вельмі хочацца верыць, што ў нас, у Беларусі, ■ увагі на прыродную талерантнасць нашага народа, гэта зусім магчыма. І што прыклад такой разважлівасці, спакойнай і ўдумлівай працы будзе падаваць менавіта інтэлігенцыя. У сённяшнім друку нашу інтэлігенцыю, якая жыла і працавала ў часы ад Сталіна да Чарненкі, усё часцей і агулам называюць угодніцкай, паслужлівай. Наколькі гэта справядліва — вердыкт вынесе толькі гісторыя. Яна вызначыць беспамылкова, дзе была прыслужлівасць, а дзе — шчырае служэнне ідэалам дабра і справядлівасці. Але што несумненна ўжо сёння — дык гэта тое, што становішча беларускай інтэлігенцыі доўгі час было ў поўным сэнсе трагічным. Калі іншыя пласты насельніцтва вынішчаліся часткова, то беларуская нацыянальна свядомая інтэлігенцыя была высечана амаль цалкам уся і пад корань. І калі яна сёння ўсё-такі ёсць зноў — дык гэта таму, што не забіць і не знішчыць тую ідэю, якою яна жыве, тую веру, якую яна вызнае, што гэтая ідэя і гэтая вера — несмяротныя.

Паважаныя калегі! Я выказваю спадзяванне, што наша размова пройдзе ў добрай рабочай атмасферы, што абмен думкамі і поглядамі будзе цікавы, змястоўны і, само сабой зразумела, узаемашаноўны і што ён паслужыць справе, да якой мы ўсе прызваны.

## ДАВАЙЦЕ Ж ГЛЯДЗЕЦЬ УПЕРАД!

**Выступленне на III сесіі**
**Вярхоўнага Савета Беларускай ССР**
**12-га склікання** *20 снежня 1990 г.*

Я цалкам падтрымліваю выступленні дэпутатаў, якія гаварылі пра лёс нашай асветы і культуры.

Амаль усе мы тут — бацькі або ўжо дзяды, і ўсе мы хочам, каб нашы малыя дзеці і ўнукі, тыя, што

сёння падобны на анёлкаў і таму такія мілыя і любыя нам, мы хочам, каб яны выраслі добрымі, слаўнымі людзьмі... Але нас можа чакаць вялікае расчараванне. Нашы мілыя дзеці і ўнукі могуць стаць тымі патлатымі, бруднымі, няўцямнымі трасунамі, якіх нам няспершна бачыць на тэлеэкране ці на падмостках сцэны, на вуліцы, тымі алкаголікамі, наркаманамі, прастытуткамі, рабаўнікамі і забойцамі, што сталі для сваіх бацькоў цяжкім праклящцем. І здарыцца гэта толькі таму, што мы ўвесь час шкадавалі і шкадуем грошай на адукацыю і культуру.

Настаўнік даведзен да становішча парыя, жабрака... Мы хочам, каб ён укладаў у наша дзіця сваю душу, але гэта настаўніцкая душа атручана крыўдай і несправядлівасцю, ёй цяжка акрыліцца любоўю і ласкай. Такога няма нідзе ў свеце, каб настаўнік зайздросціў дабрабыту людзей літаральна ўсіх прафесій, хіба што — толькі работнікам культуры не зайздросціць. Настаўнікі — самыя цярплівыя людзі на гэтай зямлі — пагражаюць абвясціць забастоўку. Ёсць нешта асабліва горкае, каб не сказаць ганебнае, у тым, што наша настаўніцтва даведзена да стану, калі вымушана гаварыць пра такую крайнюю меру пратэсту супроць несправядлівасці... Я, відаць, не магу растлумачыць, чаму, але ніколі не было так сорамна за наша грамадства, за нелады і непарадкі ў краіне, як сёння, — пры думцы, да якой жа ступені мы адзічэлі, як жа гэта мы так нізка, выбачайце, апусціліся ў сваім стаўленні да асветы і культуры; скажу больш — як мы так катастрафічна пачалі траціць элементарны здаровы сэнс. Мы спрабуем глядзець у будучыню і кажам, што краіне патрэбны высокакваліфікаваныя кадры на ўсіх франтах гаспадарчай і іншай грамадска карыснай дзейнасці. Але ж усе інжынеры, урачы, аграномы, палітыкі і г. д. — усе яны спачатку школьнікі і вучні. Раней чым стаць спецыялістам — вучань павінен стаць чалавекам, а гэта школа зможа зрабіць толькі тады, калі яна будзе

сапраўдным храмам духоўнасці, калі дзіцячая душа будзе ў ёй кожны дзень багацець і акрыляцца на добрыя справы.

Настаўнікам прадугледжана павышэнне зарплаты амаль на 50 %, ну і работнікам культуры трохі дадаецца. Але настаўнікі ў сотнях пісем і тэлеграм патрабуюць павышэння на 100—150 % — і справядліва, бо, дабавіўшы 50 %, мы толькі дацягваем зарплату настаўніка да сярэдняй у сферы матэрыяльнай вытворчасці. А трэба — каб сярэдняя настаўніцкая зарплата была намнога вышэй. Падкрэсліваю — намнога вышэй, таму што гэта — Настаўнік. Гэта — той, ад каго залежыць шчасце або няшчасце нашых дзяцей, наша будучыня. На вялікі жаль, гэта ісціна да нас усё яшчэ не даходзіць. І таму праблема застаецца нявырашанай. Яна вырашыцца, калі ў свядомасці грамадства адбудзецца карэнны перапом на карысць асветы і культуры.

Хто-небудзь скажа: што вы ў нашых сённяшніх умовах хочаце? Вы ж бачыце, які наш нацыянальны даход і які бюджэт! Бачу, вядома, і таму хацеў бы, каб мы тут усе разам больш думалі і ўрэшце нешта прыдумалі, як забяспечыць рост нацыянальнага даходу і павелічэнне бюджэту. Перш за ўсё — тут не павінна быць пацёмкаў: людзям трэба даць поўную, да апошняй капейкі, раскладку, што і куды, і колькі з нашых нацыянальных багаццяў ідзе? Можа, ідзе ў тую прорву, якую мы ніколі не загацім? Калі ж мы не вызначым і не скажам канкрэтна, як і за кошт чаго будзе наша рэспубліка багацець, то людзі не будуць бачыць перспектывы і ў грамадстве будуць нарастаць няўпэўненасць, страх за заўтрашні дзень і нават паніка і роспач, праявы чаго мы ўжо назіраем і сёння. Значыць, пытанне пытанняў — у гэтым: якім шляхам ці якімі шляхамі будзем выходзіць з цяжкай эканамічнай сітуацыі? Бачым мы гэтыя шляхі ці не бачым? Робім што-небудзь для выпраўлення становішча ці коцімся далей па інерцыі? У выступленнях

дэпутатаў ужо прагучалі некаторыя канкрэтныя прапановы. Напрыклад, аб перадачы саюзна-рэспубліканскіх прадпрыемстваў рэспубліцы, аб скарачэнні выдаткаў на ракеты, танкі і крэйсеры, на бюракратычныя крэслы і на сёе-тое іншае. Тут нішто не будзе лішняе для эканоміі народных сродкаў. Давайце ўсёй сесіяй падтрымаем іх, гэтыя прапановы, і тым самым дапаможам ураду. Без дапамогі Вярхоўнага Савета урад такіх пытанняў не вырашыць.

## МОВА — ДЛЯ ТАГО, КАБ АБ'ЯДНАЦЬ НАС

**Даклад на II з'ездзе Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны** ***14 чэрвеня 1991 г.***

Два гады назад на першым устаноўчым з'ездзе ў Мінску было створана Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Гэта падзея ў культурным і грамадска-палітычным жыцці рэспублікі мела і працягвае мець значэнне надзвычайнае — хто б што ні думаў і ні гаварыў наконт яе і тады, напачатку, калі Таварыства ўзнікала, і сёння, калі завяршаецца этап яго станаўлення. Што дае падставы менавіта гэтак глядзець на стварэнне і жыццядзейнасць нашай культурна-асветніцкай арганізацыі? Каб адказаць на гэта пытанне і — каб зразумець справядлівасць такой ацэнкі таго, што ўсе мы, сябры Таварыства, робім, — для гэтага неабходна вельмі ясна ўяўляць рэальны стан Беларусі на сучасным этапе гісторыі, рэальнае палітычнае, сацыяльнае і культурнае становішча нашага народа, яго духоўнае жыццё-быццё, становішча яго мовы, што значыць — лёс яго будучыні. Гісторыя — паўторым гэту відавочную ісціну яшчэ раз — дала нам шанц, упусціць які мы, беларусы, і ўсе, хто жыве побач з намі, па-брацку спагадае нам, не маем права. Больш таго — упусціць гэты шанц было б проста ганебна, бо гэта было б з нашага боку здрадай жыццёвым інтарэсам беларускага народа, яго адвеч-

ным запаветным марам і спадзяванням. Беларусь — у каторы раз за сваю трагічную тысячагадовую гісторыю — ставіць перад сабой задачу нацыянальнага Адраджэння, здабыцця дзяржаўнага, эканамічнага і духоўнага суверэнітэту. Беларусь уступіла ў вельмі адказную паласу свайго гістарычнага развіцця. Без усведамлення гэтага, без асабістай гатоўнасці кожнага падключыцца да Адраджэння, да беларусізацыі ўсяго нашага жыцця — беларускі народ як нацыя не ўваскрэсне, Беларусь як дзяржава не здзейсніцца. Вось чаму дзейнасць Таварыства беларускай мовы найцесным чынам звязана з беларускай ідэяй у яе агульным сэнсе і практычна падпарадкавана задачы нацыянальнага адраджэння Беларусі. У гэтым — адметнасць нашага Таварыства сярод аналагічных моўных таварыстваў у цывілізаваным свеце. У адрозненне ад іншых народаў мы ўсё яшчэ вымушаны змагацца за жыццё мовы. Ні ў адной цывілізаванай краіне свету гэткай праблемы — жыць або не жыць сваёй роднай мове — няма. Там ёсць іншыя праблемы, на якія скіроўваецца клопат навукоўцаў, дзеячаў асветы, культуры і ўсёй шырокай грамадскасці, а іменна: удасканаленне правапісу літаратурнай мовы, узбагачэнне і ачышчэнне нацыянальнага слоўніка, культура мовы, узаемаадносіны літаратурнай мовы і мясцовых гаворак і іншае. Але — паўтараю — няма праблемы: жыць або не жыць мове.

Вось і я задаю пытанне — сабе, усім вам, дэлегаты і госці з'езда, усім сябрам Таварыства і ўсім добрым людзям — сумленным грамадзянам Бацькаўшчыны: колькі яшчэ мы будзем змагацца за жыццё нашае роднае мовы? Калі мы пачнём радавацца і толькі радавацца, што яна ёсць, і ёсць менавіта такая, якая ёсць, і што ёй нішто не пагражае? Колькі стагоддзяў назад за жыццё нашай мовы змагаліся Скарына, Будны, Цяпінскі, Сапега і іншыя вялікія, паўтараста ці трохі менш гадоў назад за яе жыццё змагаліся Дунін-Марцінкевіч, Каліноўскі, Багушэвіч і іншыя вялікія,

на пачатку XX стагоддзя за жыццё роднага слова змагаліся Купала, Колас, Цётка, Багдановіч, Гарэцкі і іншыя вялікія, пазней — за яе жыццё пайшлі на Калыму, на Салаўкі або ў Курапаты тысячы і тысячы іншых і вялікіх, і радавых патрыётаў Бацькаўшчыны. Прайшло яшчэ паўстагоддзя, завяршаецца XX век — і што ж? А ўсё тое ж: барацьба працягваецца! І сёння наша мова застаецца на асобым становішчы. І сёння мы думаем і клапоцімся аб тым, як яе ўратаваць, што маем рабіць, каб наш беларускі народ не страціў сваю мову канчаткова. Што ж гэта за такая праклятая доля, калі на працягу цэлых стагоддзяў мы вымушаны адваёўваць для роднае мовы права на жыццё? Ці не задоўга гэтае змаганне цягнецца? Ці не пара рашуча пакончыць з гэтым бяспраўным становішчам народа і яго культуры? Ці не пара ўсім зласліўцам-нядобразычліўцам нашым, як і ўсім тутэйшым слепакам, зразумець, што геній нашае мовы несмяротны, што яе сіла і моц неадольныя і што ўсе намаганні паглынуць яе, растварыць у стыхіі іншай мовы — марныя?

У такой гістарычнай сітуацыі, у такой грамадска-палітычнай атмасферы і ўзнікла і пачало працаваць наша Таварыства.

Якія галоўныя задачы ставіла і старалася яно вырашаць?

Па-першае, стварэнне суполак і арганізацый Таварыства на ўсёй тэрыторыі рэспублікі і за яе межамі — там, дзе жывуць беларусы. На сёння нашы арганізацыі створаны амаль ва ўсіх гарадах і раёнах Беларусі — прынамсі, хоць першасныя разрозненыя суполкі, калі не раённыя і гарадскія арганізацыі. Раённых сябрын — па апошніх звестках — 90. Заснаваны і жыццядзейнічаюць суполкі і сябрыны Таварыства ў Маскве і Ленінградзе, у Сібіры і на Украіне, у Эстоніі, Латвіі і Літве, а таксама ў ЗША, Канадзе, Італіі, Аўстрыі, Польшчы. Існаванне філій Таварыства па-за межамі Беларусі мае асаблівае значэнне — бо гэта працуе на вялікую беларускую ідэю, спрыяе абуд-

жэнню нацыянальнай самасвядомасці, садзейнічае згуртаванню ўсіх патрыётаў Бацькаўшчыны вакол ідэі адраджэння.

Па-другое, нашым клопатам было стварэнне курсаў і гурткоў па вывучэнню беларускай мовы — на прадпрыемствах, у дзяржаўных установах, у грамадскіх арганізацыях, у ВНУ, тэхнікумах і вучылішчах. Справа гэта аказалася нялёгкай, маштабы і плён гэтай працы задаволіць нас, на жаль, не могуць. Якія, спытаеце, таму прычыны? Галоўнае — слабае выкананне Закона аб мовах у Беларускай ССР: людзі ў большасці сваёй яшчэ не адчулі, што названы Закон пачаў здзяйсняцца, што беларускую мову сапраўды і ўсур'ёз неабходна вывучаць: авось, маўляў, і абыдзецца, ці мала ў нас прымалася розных законаў, якія не дзейнічалі. Апрача таго, тармозіць справу і недахоп кадраў выкладчыкаў на курсах беларускай мовы; тут жа патрэбны свядомыя, шчырыя, калі хочаце, апантаныя энтузіясты, а яны не ўсюды знаходзяцца.

Трэцяе, што мы лічылі і лічым надзвычай важным, — выдавецкая дзейнасць Таварыства. Перш-наперш нам патрэбна было сваё перыядычнае выданне — у дапамогу ўсёй практычнай рабоце і, галоўнае, для размовы з чытачамі пра наш агульны вялікі клопат аб роднай мове і культуры. Такім выданнем, як вы ведаеце, стаў бюлетэнь «Наша слова», які ў мінулым годзе выходзіў цалкам на апякунскія сродкі Дзяржкамдруку БССР раз у месяц, а сёлета — ужо на дзяржаўным фінансаванні, раз у тыдзень, праўда, пакуль што ўдвая меншым аб'ёмам. Паставіць на ногі выданне, якое б адпавядала свайму прызначэнню і набыло свайго вернага чытача, — нялёгка. Але іншага лёсу мы нашаму тыднёвіку не жадаем. І мы ўскладаем на яго вялікія спадзяванні. Цяжкасць задачы, якая стаіць перад рэдакцыйным калектывам і рэдкалегіяй, вынікае з таго, што наша выданне ў вядомым сэнсе павінна быць узорным і, калі хочаце,

непераўзыдзеным. Маю на ўвазе культуру мовы, бляск стылю, эстэтычны і маральны ўзровень матэрыялаў, якія ў ім публікуюцца. Каб — ні ценю пошласці, каб і на дух нічога ад дэмагагічна-таннай і вульгарнай мітынгоўшчыны, ад дробязнага абывацельскага крытыканства і ўжо, крый Бог — ад элементарнай непісьменнасці. Спадзяюся, дэлегаты і госці скажуць, якой яны хочуць бачыць сваю галоўную газету. Гэтаксама, як і іншыя выданні Таварыства, што пачалі выходзіць у некаторых раёнах і гарадах рэспублікі (напрыклад, у Навагрудку, у Маладзечне). Надзвычай важна, каб такія бюлетэні мясцовых арганізацый Таварыства хоць зрэдку выходзілі — не забудзем, што друкаванае слова ўсё яшчэ валодае вялікай магічнай сілай.

Апрача газеты «Наша слова», ТБМ распачало выданне беларускіх слоўнікаў і навуковых кніг, а таксама пэўнай сувенірнай прадукцыі. Праўда, магчымасці нашы тут вельмі і вельмі нязначныя. Патрэбны грошы, патрэбна папера, а найперш — патрэбна добразычлівае стаўленне да гэтых нашых клопатаў з боку дзяржавы і грамадскасці.

Яшчэ адзін вялікі важны аспект нашай працы — непасрэдны ўдзел і дапамога ў пераводзе справаводства на беларускую мову, у тым, каб беларуская станавілася рабочая, службовая мова на прадпрыемствах і ва ўстановах, у набыцці беларускага аблічча візуальным афармленнем нашых гарадоў і вёсак, вуліц і рэкламы... А ў першую чаргу — у пераводзе на беларускую мову школ, тэхнікумаў і ПТВ, інстытутаў і універсітэтаў. Тут перад намі яшчэ непачаты край работы. Хаця ёсць і вельмі ўцешныя прыклады, якія пацвярджаюць недарэмнасць нашых намаганняў і ўсяляюць у сэрца надзеі. Так, на цагляным заводзе ў Радашковічах справаводства ўжо даўно пераведзена на беларускую мову. Паспяхова беларусізуецца навучанне ў сталічным тэхналагічным інстытуце. Не сумняваюся, што прамоўцы парадуюць нас інфармацыяй і пра многія іншыя падобныя факты.

Асобна належыць сказаць пра немалыя заслугі ТБМ у справе дэмакратызацыі нашага беларускага парламента. Можа, не ўсім зразумела, што маецца на ўвазе? Гаворка аб тым, што па нашай тэбээмаўскай, так бы мовіць, «курыі» ў Вярхоўны Савет рэспублікі прайшло больш дзесяці народных дэпутатаў, якія, не пабаімся папроку ў нясціпласці, вылучаюцца ў дэпутацкім корпусе дэмакратызмам поглядаў, парламентарнай ініцыятыўнасцю і актыўнасцю і набываюць вядомасць у якасці палітычных дзеячаў.

Трохі аб тым, што перашкаджала і не дазволіла Таварыству ва ўсіх названых аспектах яго дзейнасці зрабіць больш. Тут я перш за ўсё назваў бы нашу агульную ўсенародную бяду — нізкую нацыянальную самасвядомасць, або нацыянальны нігілізм, з якога вынікае негатоўнасць шырокіх колаў грамадскасці зразумець значэнне ТБМ, жыццёвую неабходнасць яго ўтварэння. Калі чалавек абыходзіцца без роднай мовы і не адчувае ў ёй ніякай патрэбы — дык навошта яму яшчэ нейкае Таварыства, дзеля чаго, маўляў, і кім яно прыдумана? Горшы варыянт такой пазіцыі — а ці не будзе гэта Таварыства асяродкам «беларускага нацыяналізму», якога трэба баяцца як чорт крыжа. На вялікі жаль, неадназначныя, няроўныя былі адносіны да ТБМ з боку тых дзяржаўных і грамадскіх сіл, ад якіх многае залежала. Там, дзе ідэю стварэння Таварыства зразумелі правільна — як народжаную самім часам патрэбу ў грамадскай чыннасці дзеля адраджэння роднай мовы і культуры, — там ТБМ з першых крокаў атрымала належную арганізацыйную і маральную падтрымку. Пераканаўчы прыклад таму — актыўная пазіцыя за ТБМ тагачаснага Мінскага гаркама КПБ, дзякуючы якому ў сталіцы хутка ўзніклі гарадская і дзевяць раённых арганізацый Таварыства, а рэспубліканскі кіраўнічы штаб ТБМ атрымаў досыць прыстойнае памяшканне. Другі не менш паказальны прыклад, аб чым я ўжо гаварыў сёння, — гэта фундатарская шчодрасць Дзярж-

камдруку БССР, які цалкам узяў на сябе на цэлы год выдаткі ад выдання «Нашага слова». Разам з тым у некаторых гарадах і раёнах партыйнае і савецкае кіраўніцтва паставілася да нашага Таварыства насцярожана, і нават больш чым насцярожана. Паколькі нашы людзі прывыклі на ўсякую грамадскую дзейнасць атрымліваць дазвол зверху, то па гэтай — не ў апошнюю чаргу — прычыне ў больш чым 40 раёнах рэспублікі і да гэтага часу не створаны раённыя арганізацыі ТБМ. Як то кажуць: сумна, але факт! Дзеля справядлівасці трэба дадаць, то не толькі зацятыя «антыдэмакраты-партакраты» так непрыхільна сустрэлі ідэю стварэння ТБМ, але і некаторыя «радыкалы-дэмакраты». Помніцца, як яшчэ задоўга да ўстаноўчага з'езда ТБМ сёй-той з крайніх левых змрочна прарочыў, што з узнікненнем Таварыства ў рэспубліцы стане на адну казённа-бюракратычную арганізацыю больш — і толькі.

Зрэшты, і да гэтага часу адносіны да ТБМ з боку палітычных партый, грамадскіх рухаў і арганізацый у большасці выпадкаў такія, што радавацца нам няма чаго. Скажам, з новастворанып і зарэгістраваных партый хіба што толькі БСДГ спрабуе ад першых крокаў сваіх даць прыклад шчырага шанавання беларускай мовы і прынцыпова патрабуе выканання Закона аб мовах. Сярод недасведчаных шырока ходзіць памылковая думка, што БНФ як рух аб'ядноўвае адных шанавальнікаў беларускай мовы, і больш таго — амаль адных «беларускіх нацыяналістаў». Рэальнасць гаворыць пра іншае. Помню, напрадвесні мінулага года актывісты БНФ сабралі на вуліцы мітынг, на якім заклікалі выбаршчыкаў галасаваць за свайго кандыдата ў народныя дэпутаты БССР. Беларускім словам і наогул беларускім духам там нават і не патыхала — ні ад кандыдата ў дэпутаты, ні ад яго давераных асоб. І менавіта гэтыя давераныя і іх сябры зрабілі ўсё, каб у дэпутаты не прайшоў канкурэнт іхняга кандыдата, сябар рэспубліканскай рады ТБМ прафесар Іван Міхай-

лавіч Жарскі. Галоўны козыр у руках бэнээфаўцаў быў такі: Жарскага вылучылі ў кандыдаты камуністы. Дастаткова, каб ні з чым іншым не палічыцца. Для чаго я запыніўся на гэтай ужо даўняй падзеі? А для таго, каб сказаць: тут прычына нашага нацыянальнага няшчасця. У нашым самаедстве. Замест таго каб усяляк падтрымаць кандыдатуру патрыёта беларускага слова — спадары «дэмакраты» безаглядна «рэжуць» яе нібыта ў імя дэмакратыі і свабоды. Свабоды — для каго і для чаго? Скажыце: вам трэба свабода, дзе не будзе гучаць беларускае слова? Дзе ад «свабоды» задыхнецца апошняя беларуская песня? Дзе будзе свабодна паміраць Беларусь? Мне такая свабода непатрэбна. І не трэба напускаць тэарэтычнага туману, што, так бы мовіць, спачатку здабудзем свабоду, здабудзем хлеб і каўбасу, а тады падумаем і пра беларускую мову. Дазвольце ў гэтыя байкі не паверыць. Свабоду для Беларусі і для беларускай мовы можа здабыць толькі народ, узброены родным словам! І ваяваць гэтым словам трэба цяпер, а не некалі пасля, тады, калі... Як жа, з увагі на сказанае, зразумець, што кіраўнікі дэмакратычных партый Беларусі апублікавалі ў «Народнай газеце» зварот да народных дэпутатаў рэспублікі на рускай мове? А чаму ж, шаноўныя спадары, не на мове народа, ад імя якога ўвесь час вяшчаеце? Што — для выказвання беларускіх клопатаў і беларускага болю іншая мова падыходзіць лепш, чым свая родная, беларуская? Значыць, вы такой думкі пра найкаштоўны скарб беларускага народа.

Вось пра што, дарагія дэлегаты і госці, трэба нам усім думаць. Не партыйным і не сацыяльна-класавым крытэрыем трэба нам, дбаючы пра ТБМ, кіравацца, а толькі любоўю да роднага слова і верай у яго прыгажосць і сілу!.. І радыкал-дэмакрат, раўнадушны да лёсу нашай мовы, а значыць, і нашай нацыі, нічуць не лепшы для нас, чым гэтакі ж раўнадушны партакрат-камуніст. Гэтаксама, як абыякавы да роднай мо-

вы беларус праваслаўнай веры не менш грэшны перад Богам, як гэтакі ж абыякавы беларус-католік. Мова павінна яднасць усіх нас, мова!..

Дарэчы, можа быць, не ўсе прысутныя звярнулі ўвагу на адзін досыць прыемны факт. Колькі дзён назад бюро ЦК КПБ абмеркавала пытанне пра ажыццяўленне Закона аб мовах у Беларусі і паставіла перад партарганізацыямі задачу — зрабіць на працягу паўтара года беларускую мову сваёй рабочай мовай. Не будзем рабіць выгляд, што мы вельмі ўзрадаваны гэтым крокам ЦК КПБ, які можна было зрабіць і даўным-даўно, тым не менш — крок паказальны, сімптаматычны, ён сведчыць, што трохі-патрохі ў нашым грамадстве бурацца апоры нацыянальнага нігілізму, набірае сілу тэндэнцыя росту нацыянальнай самасвядомасці народа, а гэта — неабходная перадумова для поўнай у хуткім часе перамогі беларускай мовы на беларускай зямлі.

Якія, падсумоўваючы сказанае, можна зрабіць высновы? Па-першае, скажам так: Таварыства ёсць, яно жыве і працуе, дакладней — разгортвае працу, плён, вядома, яшчэ невялікі, вопыту накоплена яшчэ небагата, але будзем даражыць тым, што напрацавана, што дасягнута, і ісці наперад, паколькі і галоўныя цяжкасці, і галоўныя перамогі яшчэ наперадзе.

Па-другое, усім, каму сёння балюча за стан нашае мовы, трэба ясна ўсвядоміць неабходнасць кансалідацыі і згуртавання нашых шэрагаў, зразумець тую вялізную шкоду, якую прычыняе справе адраджэння беларускай мовы і культуры неразумная канфрантацыя, разлад і нязгода...

Па-трэцяе, нам трэба вызначыць найбольш важныя канкрэтныя задачы і галоўныя накірункі дзейнасці ТБМ на блізкую і на далёкую перспектывы. Не прэтэндуючы на ўсеахопнасць, абазначу сёе-тое з таго, што ўяўляецца значным і важным. Тут не будзе нейкай іерархічнай паслядоўнасці, а проста свабодны накід думак, якія здаліся мне ў большай ці ў меншай меры слушнымі.

Трэба ўсімі магчымымі, зразумела, канстытуцыйнымі спосабамі дабівацца ажыццяўлення Закона аб мовах у Беларускай ССР, каб беларуская мова заняла ў Беларускай дзяржаве сапраўды дзяржаўнае становішча.

Трэба патрабаваць ад усіх дзяржаўных і іншых службоўцаў хутчэйшага авалодання імі беларускай мовай і пераходу на гэту мову на працы, ставячы ім у прыклад... ну хаця б сабе цяперашняга папу рымскага, які, у адрозненне ад дзяржаўных татаў беларускіх, гаворыць з беларускімі дзецьмі па-беларуску.

Трэба асабліва настойліва змагацца за беларусізацыю школ, дзіцячых садкоў і ясляў, помнячы, што скрозь, на ўсім свеце выхаванне дзіцяці яшчэ ад калыскі пачынаецца ў гуках роднай мовы, што, напрыклад, у заможнай і культурнай Швецыі вывучэнне іншай, другой мовы ўводзіцца ў школе толькі з 5-га класа, калі ўжо дзіця ў стыхіі сваёй роднай мовы плавае, як рыбка ў вадзе.

Трэба зрабіць нашым, я сказаў бы, дзяржаўным і ўсенародным клопатам — клопат пра культуру роднай мовы, пра яе чысціню і прыгажосць, вучачыся гэтаму ў іншых высокакультурных нацый, напрыклад у французаў, якія яшчэ ў 1634 годзе прынялі закон аб ахове чысціні мовы, у якіх, не кажучы пра шматлікія моўныя таварыствы і асацыяцыі, створаны ажно тры спецыяльныя дзяржаўныя органы, што кантралююць стан мовы, і якія перакананы, што ўзвелічэнне і ўзвышэнне Францыі і яе культуры залежыць ад мовы, здзяйсняецца праз культуру, прыгажосць і велічнасць мовы. Больш таго, у Францыі ад валодання роднай мовай можа залежаць вынік палітычнай барацьбы ў перадвыбарчай кампаніі, абвінавачванне: «Ён не ведае граматыкі французскай мовы» — вельмі моцнае, яго можа быць дастаткова, каб кандыдат у дэпутаты праваліўся.

Трэба вярнуць нашай роднай мове яе сапраўднае беларускае аблічча, страта якога пачалася яшчэ ў пра-

клятыя часы сталіншчыны і працягваецца дагэтуль, помнячы, што ворагамі нашай культуры, яе свабоды і самабытнасці стаўка была зроблена менавіта на гэта — пазбавіць беларускую мову яе ўласнага аблічча, яе непаўторнага цудоўнага гучання. Зрабіць нам гэта будзе няпроста і нялёгка, бо перашкодай тут будуць не толькі афіцыйна замацаваныя пачварныя нарматывы, не толькі казённы дагматызм, але і тое разгульнае моўнае свавольства, якое пачынае набываць у нас небяспечныя памеры і сведчыць не пра што іншае, як пра нізкі эстэтычны густ, прыродную глухату да слова і звычайную непісьменнасць.

Трэба пакончыць з гвалтоўнай палітызацыяй і ідэалагізацыяй у мове, у нашай тапаніміцы і антрапаніміі, зрабіць жыццё мовы і развіццё яе жывога арганізма свободным і натуральным, што магчыма толькі тады, калі ў сваіх адносінах да мовы, да яе граматыкі, да яе слоўніка, сінтаксісу і фразеалогіі будзем абапірацца на навукова-аб'ектыўныя асновы, будзем паважаць вялікую навуку лінгвістыку, помнячы, што гэта навука не толькі пра законы развіцця мовы, пра структуру і жыццядзейнасць Слова, якое было напачатку і якое даў Бог, але і навука пра законы развіцця чалавека, пра строй і жыццё душы чалавечай, душы народа.

Трэба павесці вялікую выхаваўчую работу сярод тых людзей — а іх у нас вельмі многа, — у галовах якіх усё яшчэ сядзіць недарэчнае, нялюдскае перакананне, што шанаваць і любіць беларускую мову — гэта нацыяналізм і адсталасць, а вось выракацца сваёй мовы, пагарджаць і грэбаваць ёю — гэта інтэрнацыяналізм і адзнака культуры; такую работу мы павінны весці не толькі сярод беларусаў, але і сярод людзей іншых нацыянальнасцей, пераконваючы гэтых апошніх, што ад іх адносін да беларускай мовы і культуры вельмі залежыць агульны грамадска-палітычны клімат у рэспубліцы, што справа гонару кожнага з іх спрыяць нашаму нацыянальнаму адраджэнню, толькі

9. Зак. 5434.

справядлівасць у адносінах да мовы і культуры беларускага народа абернецца выйгрышам на карысць іх нацыянальнай культуры.

Трэба наогул шырэй і актыўней заняцца філагічна-лінгвістычным выхаваннем насельніцтва Беларусі, асабліва моладзі, моладзі і яшчэ раз моладзі, чыя моўная практыка і культура іншы раз не проста засмучае, а выклікае пачуццё, блізкае да роспачы: гэта ж няшчасныя людзі, як ім жыць, абяздоленым, асуджаным на такі бездухоўны прымітыў, на такое ўбогае бязмоўнае існаванне! З пачуццём пашаны і любові да роднае мовы трэба выхоўваць у людзей і веру ў яе несмяротнасць, напамінаючы залатыя словы Вісарыёна Бялінскага, што «лёс мовы не можа залежаць ад нораву той ці іншай асобы. У мовы ёсць ахоўнік надзейны і верны: гэта яе ж уласны дух, геній...».

Будзем жа і мы ўсе верыць у гэты геній і пакланяцца несмяротнаму духу нашай роднай беларускай мовы.

Будзем усім сэрцам і кожнай клетачкай душы слухаць, што ён нам, дзецям Маці-Беларусі, гаворыць.

Жыве Беларусь!

## КАБ ЖЫЦЬ ПА-ЛЮДСКУ!

**Даклад на шостай нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
***19 верасня 1991 г.***

Шаноўны старшыня!

Паважаныя калегі, народныя дэпутаты!

Я хачу пачаць з таго, што пытанні, якія мы пачынаем абмяркоўваць, далёка не ўсімі ў нашай рэспубліцы разумеюцца як жыццёва важныя, актуальныя, а ўспрымаюцца як нешта такое, на што не варта сёння траціць ні час, ні сілы, ні сродкі. Асабіста я амаль усё свядомае жыццё, ужо колькі дзесяцігоддзяў адчуваю, наколькі гэтыя пытанні непапулярныя і ня-

выгадныя для тых, хто імі жыве, наколькі гэта няўдзячная тэма. Тэма, якую многія або зусім не ўспрымаюць, або ўспрымаюць з глухім ці адкрытым раздражненнем, з нейкай прыкрасцю або ў лепшым выпадку — з недаўменнем: маўляў, што гэта, для чаго і каму патрэбна? Самае сумнае, што сказанае датычыць і людзей, якія не сумняваюцца ў сваёй інтэлігентнасці, людзей з дыпломам у кішэні. Куды выгадней ставіць пытанні эканамічныя, экалагічныя, сацыяльныя, гаварыць пра хлеб надзённы, пра ўсё, што на патрэбу жывата нашага, але не душы, не духа. Мы дзіўныя ў гэтым сэнсе людзі: да святынь у нас вульгарна-спажывецкі падыход. Нідзе ў свеце і ў галаву нікому не прыйдзе разважаць так: спачатку — каўбаса, а потым — культура, або — спачатку цукар, цыгарэты, панчохі, а потым — нацыянальны сцяг, герб, гімн і г. д. Нідзе ў свеце проста не дапусцяць такога — з павагі да сябе, да сваёй чалавечай і нацыянальнай годнасці. А ў нас — мы галасуем нават супраць уключэння ў парадак дня пытанняў культуры, не кажучы пра тое, каб іх спакойна і, канешне ж, станоўча вырашыць. Мы ствараем праблемы там, дзе ў добрых людзей на свеце іх няма і не можа быць.

Асаблівасць сённяшняй палітычнай сітуацыі на Беларусі ў тым, што працэс арганізацыі незалежнай дзяржавы супадае з працэсам нацыянальнага адраджэння беларускага народа, адраджэння яго духоўнасці, яго мовы, культуры і яго гісторыі — Гісторыі з вялікай літары і ў самым дакладным значэнні гэтага слова. Чаму — іменна адраджэння? Чаму іменна гэтым словам, гэтым тэрмінам мы карыстаемся? Таму што на працягу стагоддзяў пад сцягам імперыі і пад лозунгам роскіту нацый уся гэта наша нацыянальная духоўнасць, наша гісторыя, мова, культура забіваліся, тапталіся, падвяргаліся планамернаму вынішчэнню і генацыду. Цяпер нам патрэбна ўсё гэта адраджаць, аднаўляць, падымаць з руін, вяртаць да жыцця, вяртаць у нармальнае, натуральнае становішча.

Рабіць гэта няпроста, але рабіць трэба — для таго, каб лягчэй вывесці наша грамадства з агульнага крызісу.

Мы аб'явілі незалежнасць сваёй Беларускай дзяржавы — з упэўненасцю, што гэта самы верны шлях, каб нарэшце зажыць па-чалавечы, па-людску. Але ж гэту дзяржаўнасць трэба арганізаваць, усталяваць, а перш за ўсё — абазначыць яе абсалютна неабходнымі атрыбутамі. Дзяржаве трэба мець сваё імя, свой Сцяг, свой Герб, свой Гімн. Што трэба мець — не прадмет для дыскусій. Дыскусіі могуць узнікнуць з разыходжанняў у поглядах, якімі павінны быць назва і сімвалічныя атрыбуты нашай дзяржавы. У вас на руках, шаноўныя дэпутаты, праекты законаў аб назве, Сцягу і Гербе рэспублікі. Аб Гімне мы будзем тут гаварыць пазней — калі пройдзе конкурс на яго новы тэкст і музыку, такое рашэнне Прэзідыума. Разам з праектамі законаў вы маеце і навуковыя абгрунтаванні — высновы вучоных-гісторыкаў, якія пацвярджаюць прадуманасць, узважанасць, навуковую і палітычную абгрунтаванасць прапануемых праектаў назвы дзяржавы, яе Сцяга і Герба. Да вашых паслуг — змястоўная выстава ў фае, экспазіцыя малюнкаў і фотаматэрыялаў — яны дапамагаюць наглядна ўявіць прадметы, якія мы разглядаем. Абмеркаванне законапраектаў прайшло ў камісіях, прынцыповых пярэчанняў не паступіла, апрача як з Камісіі па таварах народнага спажывання, гандлю і паслугах насельніцтву, якая прапануе пытанне аб назве, Сцягу і Гербе рэспублікі разглядаць адначасова з праектам новай Канстытуцыі Беларусі. Нашай камісіі гэтая прапанова не здаецца слушнай, яна мае хутчэй фармальны характар. У новую Канстытуцыю якраз і павінны ўвайсці прынятыя ўжо Вярхоўным Саветам палажэнні аб атрыбутах дзяржавы. Камісія па заканадаўству прапанавала абазначыць тэрміны, калі законы павінны ўступаць у сілу, — гэта заўвага нашай камісіяй улічана.

Зазначу таксама, што пытанні аб назве, Сцягу, Гербе і Гімне Беларусі шырока абмяркоўваліся на старонках рэспубліканскага друку, і думка грамадзян, якія выказаліся, у большасці выпадкаў, рашуча на баку менавіта тых узораў Сцяга і Герба, якія прапануюцца ў законапраектах.

Шаноўныя дэпутаты, вельмі не хацелася б, каб мы тут з якіх-небудзь, можа і самых лепшых, меркаванняў ускладнілі і зацягнулі прыняцце законаў пра назву, Сцяг і Герб рэспублікі. У мяне асабіста, не буду ўтойваць, ёсць наконт гэтага пэўная трывога, і яна ўзнікла пасля таго, калі не было падтрымана і не стала ў парадак дня сесіі пытанне аб назве сталіцы Беларусі — Менску. Гэта мяне, вядома, засмуціла. Але я мушу засмуціць і вас — тых народных дэпутатаў, якія галасавалі супраць таго, каб паставіць пытанне аб адмене рэпрэсіўнага рашэння Вярхоўнага Савета БССР ад 29 ліпеня 1939 года ў дачыненні да сталіцы нашай рэспублікі, у якой адабралі яе гістарычную назву — Менск. Не думайце, што пастаўленае пытанне не прайшло. Яно прайшло, дарагія таварышы, прайшло! Як і многае іншае, яно прайшло і праходзіць у самім жыцці, і нам з вамі застаецца толькі выступіць у ролі нямудрых рэгістратараў. Ужо даўно многія людзі, асабліва маладыя, і ў пісьмовай і ў вуснай практыцы карыстаюцца назвай Менск — карыстаюцца таму, што не могуць мірыцца з гвалтам, які быў учынены невукамі і вандаламі над старажытнай назвай нашай сталіцы ў 1939 годзе. І вось аб чым варта помніць: на баку тых, хто за назву Менск, мільёны людзей многіх-многіх пакаленняў, пачынаючы з часоў заснавання горада, з X стагоддзя, калі ён яшчэ быў Менеск, і аж да XVII стагоддзя, калі польскія феадалы, тагачасныя душыцелі беларускай незалежнасці, ператварылі яго ў Міньск-Літэвскі, а ў XIX стагоддзі расійскія картографы гэту назву, як і многія іншыя перакручаныя на польскі лад назвы нашых паселішчаў, перанеслі на геаграфічныя і палітычныя

карты Расіі. На іх баку і сотні тысяч тых, што леглі ў Курапатах і іншых брацкіх магілах, якія жылі ў Менску і за межамі Менска і не збіраліся мяняць старажытную назву сваёй сталіцы. Назву Мінск нам навязалі гвалтам. Наогул, уся наша гісторыя — гэта, можна сказаць, гісторыя рэпрэсій; рэпрэсій супроць народа і яго творчага духу, яго мовы і культуры, яго нацыянальных інтарэсаў. Прыкладаў можна прыводзіць безліч, але за недахопам часу нагадаю толькі два: год 1697-ы — калі Сойм Рэчы Паспалітай забараніў беларускую мову як дзяржаўную, і год 1840-ы — калі царскі ўрад забараніў саму назву Беларусь і нашу краіну пачалі называць «Северо-Западным краем». Элементарнае пачуццё годнасці павінна падказаць нам: нельга сёння дзейнічаць так, каб нашы нашчадкі, дзеці і ўнукі нашы горка пасмяяліся з нас, абвінавацілі нас у бескультур'і і амаральнасці, паколькі непавага да гісторыі свайго народа, сваёй дзяржавы ёсць несумненная адзнака бескультур'я і амаральнасці. Нельга ісці на павадку ў тых, хто займаецца свядомай палітычнай спекуляцыяй на неразуменні пэўнай часткай насельніцтва важнасці пазначаных праблем. Пара зразумець, што прабіў час здзейсніць гэту важную гістарычную акцыю, што іншага выйсця ў нас проста няма.

Шаноўныя дэпутаты!

Наконт новай назвы нашай суверэннай дзяржавы — Рэспубліка Беларусь — ніякіх пярэчанняў не паступіла. У друку была прапанова прыняць назву Беларуская Народная Рэспубліка, але камісія лічыць яе менш дакладнай, бо, па-першае, у слове «рэспубліка» этымалагічна заключана паняцце «народ», а па-другое, лепш, каб у назве дзяржавы галоўнае слова мела форму назоўніка, а не прыметніка, а іменна: Беларусь, а не Беларуская, не Беларуская Рэспубліка, а Рэспубліка Беларусь.

Што датычыць законапраектаў аб Сцягу і Гербе, якія маюць стаць дзяржаўнымі, то ў друку, а таксама

ў некаторых выступленнях тут па іншых пытаннях парадку дня крытычныя заўвагі былі выказаны. На некаторых я коратка спынюся.

Спачатку — наконт бел-чырвона-белага сцяга. Самую ўразлівую заўвагу зрабіў, выступаючы па пытанню аб выбарах Старшыні Вярхоўнага Савета дэпутат Мікалай Іванавіч Дземянцей, які назваў усе клопаты аб атрыбутыцы нашай дзяржавы гульнёй у сімволіку і флажкі і патрабаваў, каб гэтыя пытанні рашыў сам народ, усе жыхары рэспублікі рэферэндумам. Асабліва ўразіла таму, што хто-хто, а чалавек, які займаў вышэйшыя партыйна-дзяржаўныя пасады ў рэспубліцы, павінен ведаць, што Дзяржаўны сцяг — гэта не флажок, флажкамі абкладаюць ваўка на паляванні, а Дзяржаўны сцяг — гэта тое, без чаго ты не можаш сесці за стол перамоў з іншымі дзяржавамі, бо з табой не стануць гаварыць.

Хто-небудзь спытае: ■ чым вам не падабаюцца Сцяг і Герб, якія былі дагэтуль? Справа не ў тым, падабаюцца ці не падабаюцца, хаця, на мой погляд, новыя сімвалы дзяржавы з эстэтычнага боку значна выйграюць. Справа ў тым, што цяперашнія Сцяг і Герб Беларусі не адпавядаюць новай гістарычнай рэальнасці, яны былі зроблены па адным стандарце з усімі іншымі сцягамі і гербамі рэспублік — так, як гэта вымагалася імперскай дактрынай зліцця ўсіх народаў і нацый у адно аморфнае цэлае. Гэтая дактрына, бадай, нідзе не мела такой сілы, як на Беларусі, якую, пад апекай партыйнага кіраўніцтва і КДБ, пераўтварылі ў палігон гэтага пачварнага нялюдскага эксперымента. Сённяшні Сцяг і Герб не маюць свайго ўласнага аблічча і ніяк не звязаны з нацыянальнымі традыцыямі, з гісторыяй Беларусі. Пагадзіцеся: не вялікі гонар, калі твой Дзяржаўны сцяг і твой Герб — амаль дакладна такія ж, як яшчэ цэлых пятнаццаць.

Наконт старажытнага беларускага герба «Пагоня», які прапануецца зацвердзіць у якасці дзяржаўнага, — галоўная, бадай, заўвага зводзіцца к наступнаму: на-

вошта ў руцэ конніка меч? На каго ён падняты? З кім збіраецца ваяваць наша Беларусь? Чаму не даць гэтаму конніку ў руку ну, скажам, паходню ці вярбовую галінку? Будзе, маўляў, больш адпавядаць мяккаму, добраму характару народа і яго міралюбівай сучаснай палітыцы. Што можна адказаць на гэта? Тое, што контраргумент крытыкі не вытрымлівае. Па такой логіцы можна паставіць пытанне перад многімі народамі свету, якія таксама не вызначаюцца ваяўнічасцю, але дзяржаўныя гербы якіх зусім не з анёльскімі выявамі. Так, многія краіны маюць на сваім гербе выяву страшнага драпежнага звера льва. Чаму — леў, а не, скажам, рахманая бязрогая авечка? У некаторых дзяржавах, у тым ліку і ў нашых суседзяў, на гербе — драпежны крывадзюбы арол. Зноў жа — чаму арол, а не той жа міраносец голуб ці, скажам, бяскрыўдны бусел? А таму, што і адзін і другі вобраз увасабляюць дзяржаўную сілу-моц і дзяржаўную мудрасць, яны сталі выявамі на гербах менавіта тады, калі трэба было падкрэсліць і сваю моц, і сваю мудрасць, і з таго часу народы не ўсумніліся ў правільнасці выбару гэтых вобразаў, — з павагі да сваёй гісторыі, а гэта значыць да саміх сябе. Не ўсумніліся — і не сталі ў іншым гістарычным часе абнаўляць, перарабляць, мяняць свае дзяржаўныя атрыбуты на іншыя.

Яшчэ адна заўвага па законапраектах у тым, што гэта замена дзяржаўнай атрыбутыкі будзе вельмі дорага каштаваць рэспубліцы. У каторы раз на сесіях гэтага склікання, як і дзесяць, і дваццаць гадоў назад, калі толькі заходзіць гаворка пра пытанні, што датычаць нацыянальнай культуры, нацыянальнай самабытнасці, нашай гістарычнай памяці, — пачынае гучаць занепакоенасць: а ў што гэта, у якую капейку, нам абыдзецца? Дзесяткі, сотні мільёнаў рублёў — з-за халатнасці, з-за жахлівай безгаспадарчасці — вылятаюць у трубу, на вецер, і нікому не баліць, ніхто не пакутуе ад страт. А тут — адразу ж

пачынаем хапацца за кішэнь. Між іншым, цікава было б ведаць, як дарага нашы фінансісты цэняць нацыянальны гонар Беларускай дзяржавы, за якую суму яны будуць таргавацца? Ці трэба тлумачыць — адкуль гэта, адкуль такі меркантылізм там, дзе гаворка ідзе менавіта пра гонар нацыі? Ды ўсё адтуль — ад недаацэнкі нацыянальнага моманту і, скажам мацней, ад нацыянальнага нігілізму, ад глыбокай раўнадушнасці да лёсу нацыі. Калі гаварыць зусім проста, дык гэта пазіцыя зводзіцца да прымітыўнага махання рукой: маўляў, ды кіньце вы гэту сваю беларускасць і беларушчыну, жылі мы без усяго гэтага і будзем жыць далей! Ва ўсякім разе, нам гэта вельмі мала абыходзіць — ёсць у нас сваё нацыянальнае аблічча ці няма, ёсць свой уласны, адметны, непадобны на іншыя сцяг, герб, гімн ці няма, маюць нашы гарады і вёскі свае, адвеку родныя імёны ці — чужыя, пакінутыя заваёўнікамі.

Шаноўныя народныя дэпутаты, ■ свой невялікі даклад заканчваю. Я выходзіў на гэту трыбуну з ясным разуменнем, што ў нас такія пытанні вырашаюцца неймаверна цяжка: занадта багатыя традыцыі нацыянальнага самаедства, занадта вялікая практыка барацьбы з нацыянальнымі беларускімі сімваламі і клейнотамі. Успомніце: нават за бяскрыўдныя малюнкі-вобразы роднай прыроды і стужкі-пасачкі ■ беларускім арнаментам, у дзень загукання вясны, у Траецкім прадмесці Менска тагачасныя амонаўцы збівалі дзяцей. І гэта было не так даўно — ужо ішла перабудова... Да таго ж вырашаць падобныя пытанні нам замінае ўсё ячшэ непераадолены страх: а ці не запрацуе зноў машына па фабрыкацыі «ворагаў народа», яна ж яшчэ дарэшты не зламана?!

Прымаць станоўчае рашэнне па такіх пытаннях цяжка і таму, што нам не хапае гістарычнай самасвядомасці і дзяржаўнага мыслення, дзяржаўнага самапачування. Наколькі мы ведаем і шануем сваю гісторыю, наколькі мы дзяржаўныя людзі — краса-

10. Зак. 5434.

моўна сведчыць адзін факт. Мы адкрылі сваю нечарговую сесію ў дзень вялікага свята беларускага народа — і ніхто з нас, ні адна душа нават не ўспомніла пра гэта, і мы не павіншавалі ні саміх сабе, ні ўсіх грамадзян рэспублікі. Пра якое свята ідзе гаворка? Пра Свята ўз'яднання Беларусі і беларускага народа, сэрца якога на доўгі час было па-жывому разрэзана ўдзельнікамі бандыцкага Рыжскага дагавору.

Пакідаю трыбуну са спадзяваннем, што законапраект аб назве, Сцягу і Гербе Беларусі сёння стане Законам.

## ПЕРШАЯ ВЯХА ПА ДАРОЗЕ ДА СВЯТА

«Літаратура і мастацтва» *за 26 ліпеня 1991 г.*

За доўгія дзесяцігоддзі існавання партакратычна-бюракратычнай дзяржаўнай сістэмы ў нас у кіраўнічых органах усіх узроўняў выпрацавалася вельмі дрэнная звычка: пакласці закон, або пастанову, або рашэнне «пад сукно» і на другі ж дзень забыцца, што такая чарговая дэкрэтыўная папера паявілася. Успомніце: «Бюро ЦК КПБ разгледзела пытанне аб ходзе падрыхтоўкі да... і прыняло пастанову...» Колькі на працягу аднаго года праводзілася такіх «разглядаў» і прымалася адпаведных пастаноў! Людзі прывыкалі да іх, наперад ведаючы, што выконвацца яны не будуць, што гэтакім чынам толькі ствараецца бачнасць працы і заклапочанасці гаспадарчымі ці якімі іншымі праблемамі жыцця, а на самай справе — як ішло-ехала дасюль, так будзе ісці-ехаць і далей. Ну пагаварылі, ну прынялі пастанову — і яно сабе! Ніхто ж з «пастаноўшчыкаў» за невыкананне не адказвае і пакаранню не падлягае. Так і ўсе мы прывыклі да фабрыкацыі падобных дэкрэтыўных папер, якія нікога ні да чога не абавязваюць. Гэта — паперы наогул. Папяровая рыторыка. Мы прывыклі абвяшчаць, заяўляць, агалашаць дэкларацыі...

Ага, вось і тое слова, якое павінна было тут прагучаць, — дэкларацыя, — бо менавіта наконт адной з дэкларацый, у сувязі з гадавінай яе прыняцця, мне і хацелася б трохі паразважаць.

Год назад у жыцці народа Беларусі адбылася вялікая гістарычная падзея: сесія Вярхоўнага Савета БССР прыняла Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце рэспублікі. Я назваў гэту падзею «вялікай гістарычнай», але скажыце, паважаны чытач, вы гэта адчулі і ўбачылі — што сапраўды так, што падзея сапраўды надзвычайная? Што гэта — паваротны момант у гісторыі народа? А як і па чым вы маглі гэта ўбачыць і адчуць? Па-першае, прэса і іншыя сродкі інфармацыі тады ж адразу падалі гэту падзею як з'яву зусім звычайную, радавую, а праз дзень-другі і зусім на яе забыліся. Па-другое, і адразу, і пасля мала хто з дзяржаўных мужоў паспяшаўся засведчыць, што ўся яго чыннасць, як і само мысленне, з гэтага часу набывае прынцыпова іншы характар, што ён пачынае працаваць на абвешчаны суверэнітэт, на ажыццяўленне Дэкларацыі. Па-трэцяе, і гэта галоўнае, нам (г.зн. нам з вамі, браткі-беларусы) цяжка было што-небудзь убачыць і адчуць таму, што мы ўнутрана, у душы сваёй, у большасці зусім не гатовы да належнага ўспрымання і асэнсавання такіх падзей, мы проста не ўяўляем, а што гэта такое — дзяржаўны суверэнітэт рэспублікі, і, выбачайце, не верым, што гэта можа стацца рэальнасцю. Мы прывыклі, што за нас усе нашы жыццёвыя праблемы і наш лёс наогул вырашаюць недзе, у нашу плоць і кроў увайшла звычка глядзець на цэнтр і чакаць загаду-распараджэння адтуль. Мы яшчэ не навучыліся, як ні горка гаварыць пра гэта, пачувацца гаспадарамі на сваёй зямлі, гаспадарамі свайго лёсу, не прыйшлі да рашучага ўсведамлення, што наш дабрабыт залежыць у першую чаргу ад нас саміх, ад таго, як мы самі распарадзімся сваімі прыроднымі багаццямі і сваімі талентамі, сваім інтэлектуальным патэнцыялам.

Я сказаў «не навучыліся» не для таго, каб больш пасеяць грамадскай апатыі, каб мы і зміркаліся з гэтым сваім няўменнем, а, наадварот, для таго, каб мы, беларусы, масава, усенародна пачалі праходзіць гэту школу дзяржаўнай самастойнасці, незалежнасці, суверэннасці, каб мы троху-патроху пазбаўляліся шкоднай псіхалогіі нацыянальна закамплексаваных і набывалі самапачуванне гаспадароў, пачуццё ўпэўненасці ў сваіх сілах і магчымасцях. Менавіта з гэтага трэба пачынаць, ■ гэтага — з псіхалагічнага пераўзбраення, з глыбока ўсвядомленага павароту да новых — на ўзроўні чалавечай і нацыянальнай годнасці — адносін з блізкімі і далёкімі суседзямі. Зразумеем жа нарэшце: да таго часу, пакуль нам будуць аднекуль навязваць і дыктаваць сваю волю, ■ мы будзем паслухмяна яе выконваць, — добра, па-людску жыць на сваёй зямлі, у сваім уласным доме мы не зможам. Ці, можа, трэба яшчэ дзве сотні гадоў, каб пераканацца ў гэтым?..

Увесь апошні год і сёння наша афіцыйная прэса, тэлебачанне і радыё на ўвесь голас заклікаюць хутчэй падпісаць Саюзны дагавор з яго галоўным артыкулам аб захаванні федэрацыі і амаль ні слова не кажуць аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, аб пераходзе да цалкам самастойнай, незалежнай палітыкі гаспадарання, эканамічнага, сацыяльнага і культурнага развіцця. Ну, ■ чуць хто загаворыць пра неабходнасць такой незалежнай дзяржаўнай пазіцыі ва ўзаемаадносінах з суседзямі — адразу ж лямант: караул! Нацыяналісты-адасабленцы хочуць парваць нашы векавыя эканамічна-гаспадарчыя і духоўна-культурныя сувязі! І ўжо зусім на ўзроўні абывацельскіх фантазій: хочуць выжыць з Беларусі небеларусаў — ну а нас жа тут больш за два мільёны — нетутэйшых паходжаннем! Што ж яны сабе думаюць, гэтыя праклятыя сепаратысты?!

Такі, выбачайце, лямант працягвае гучаць і сёння з вуснаў некаторых высокапастаўленых чыноўнікаў, і

паколькі менавіта з вуснаў чыноўных — ігнараваць яго нельга. А запытацца — трэба. Скажыце, калі ласка, хто, па-першае, заклікае рваць гэтыя нашы гаспадарчыя і культурныя сувязі? Ніякі хоць трохі сур'ёзны палітык гэтага сабе не дазволіць. А па-другое: чаму вы лічыце, што курс на дзяржаўную самастойнасць ёсць курс на згортванне і разрыў эканамічных, духоўных і іншых узаемасувязяў? А чаму — не наадварот? Думаю, што якраз наадварот. Набыццё рэальнага суверэнітэту дасць магчымасць — больш таго, прымусіць — пашыраць і паглыбляць гэтыя сувязі, — каб не проста выжыць або трымацца на належным узроўні, а падымацца ўсё вышэй і вышэй, адпаведна прызнанай светам працавітасці і сумленнасці нашага народа. Уся розніца будзе ў тым, што мы будзем ажыццяўляць гэтыя шматгранныя ўзаемасувязі і супрацоўніцтва як сапраўды раўнапраўныя партнёры, што нас, проста кажучы, будуць больш паважаць, будуць больш з намі лічыцца.

Дык навошта ж, шаноўныя, палохаць суверэнітэтам як прывідам нейкай пагібелі?

Вельмі хацелася б, каб у нялёгкіх думах аб тым, як ажыццяўляць абвешчаны суверэнітэт, нашы дзяржаўныя мужы непараўнана больш, чым дагэтуль, аддавалі ўвагі, сіл і часу нацыянальна-культурнаму адраджэнню Беларусі, аднаўленню нашай гісторыі, народных традыцый і звычаяў, развіццю беларускай літаратуры і мастацтва, а найперш — законнаму пераводу беларускай мовы ў становішча дзяржаўнай. Менавіта ўсё гэта дапаможа развіць нашу нацыянальную самасвядомасць да такой ступені і ў такіх маштабах, якія толькі і дазволяць Беларусі набыць у рэшце рэшт рэальны суверэнітэт. Падкрэсліваю: Беларусі, а не «Северо-Западному краю». І — рэальны, а не фіктыўны, не папяровы. Іншымі словамі, трэба пачынаць з душы народа: як толькі даспее да суверэннасці яго вялікая, дзесяцімільённая душа — тады і вырашацца практычна, і ажыццявяцца ўсе праграм-

ныя пункты прынятай год назад Дэкларацыі. Бяда, аднак, у тым, што нацыянальнае абязлічванне беларускага народа працягваецца: больш таго — ва ўмовах пераходу да рыначных адносін працэс дэнацыяналізацыі беларускай культуры ўзмацніўся, беларускае друкаванае слова аказалася літаральна прыдушаным пад грузам соцень новых рускамоўных выданняў, у тым ліку беларуская кніга — пад манбланамі выдаваемай у нас на рускай мове пошласці, дурману і дурноты. Не лепшае становішча з родным словам і на рэспубліканскім тэлебачанні. Трохі больш шчыруе на яго карысць Беларускае радыё. На шматлікіх эстрадных пляцоўках таксама пануе небеларускае слова (нязначныя выняткі пагоды не робяць). Пералік падобных фактаў можна доўжыць і доўжыць, але ў гэтым няма патрэбы: яны так на кожным кроку б'юць у вочы, што застаецца адно — здзіўляцца нашай нехлямяжасці, нашай пачварнай раўнадушнасці да свайго лёсу.

Дык з вялікім нацыянальным святам, сябры! Сёння яно яшчэ толькі ў нашых думках, але, калі мы ўсе разам моцна захочам, — яно будзе і на нашай беларускай вуліцы.

## «НАМ ДОЛЖНО ХВАТИТЬ СОВЕСТИ И КУЛЬТУРЫ»

**Ответы на вопросы журналистки И. Гуринович. «Советская Белоруссия»** *за 11 сентября 1991 г.*

*Присутствуя на внеочередном Съезде народных депутатов СССР, вы стали свидетелем чрезвычайных событий. Очевидно, это объективная реальность — империя рухнула. Власть в нашей стране в очередной раз переменилась. Мы оказались в «переходном периоде». Есть ли у вас слова успокоения людям, которые с затаенной тревогой ждут каждый новый день?*

Давайте кое-что уточним. То, что произошло «на просторах родины чудесной», что «империя рухнула» и возникла новая объективная реальность, — это, в моем понимании, не означает, что всего-навсего «власть в очередной раз переменилась». Власть на моей памяти не однажды менялась и раньше! Одна партийно-государственная клика сменялась другой: сталинская — хрущевской, хрущевская — брежневской, брежневская — андроповской и т. д. Но при этом оставалась прежней природа власти, устройство государства, его главные структуры и механизмы. Произошедшие же сейчас перемены имеют для белорусского народа судьбоносное значение: это — обретение Беларусью государственной независимости, превращение ранее декларированного суверенитета в историческую реальность.

Что в связи с этим я хотел бы сказать уважаемым согражданам? Тем, у кого на душе тревога и сомнения, надо постараться понять, что государственная независимость есть для нашей дорогой и милой Батьковщины и для всех нас великое благо. Это единственно реальный путь национального спасения и возрождения белорусского народа, вернейшая порука тому, что наша жизнь будет постепенно налаживаться и разворачиваться к лучшему. Да, на это нужно определенное время, нужен так называемый «переходный период». Если нас не оставит спокойствие и благоразумие (не боюсь этого опороченного архиреволюционерами слова), он не будет столь трудным и страшным, как многим из нас сегодня кажется. Но, повторяю, нужно непременно сохранить спокойствие, осознать крайнюю необходимость дисциплины и порядка во всем и всюду. А это значит — обязательность исполнения принятых в республике законов. И тогда до хаоса, до всеобщей беды не дойдет. Хватит ли у нашего, уже предостаточно издерганного народа необходимой выдержки? Хватит ли совести всем тем, кому народ доверил и доверит в это время реальную

власть, ее практическое — на всех уровнях — осуществление? Не могу допустить мысли, чтобы наш спокойный, рассудительный, талантливый народ и его представители в органах власти не справились с этой исторической задачей.

Сегодня говорить о сохранении Союза, не пояснив, какого, нельзя. Возврата к прошлому не будет, даже если какие-нибудь безумцы попытаются это сделать, такой шаг обречет народы на братоубийственную войну. Вместо прежнего Союза будет содружество суверенных государств — с прочными экономическими и культурными взаимосвязями, с активным взаимовыгодным сотрудничеством, что будет благоприятствовать возрождению и расцвету каждого из них. Только не надо пугаться и запугивать других обретенной суверенностью. Нельзя — ибо преступно — нагнетать и разжигать по этому поводу страсти. Не надо считать, что случилось что-то такое, чего свет никогда не знал, не слышал, не видел. Сколько за историю человечества было распадов империй, расчленений государств-конгломератов, «уходов» из-под общего государственного крова «неблагодарных детей, братьев, сестер»! И ничего — развитие человеческой цивилизации не остановилось. Всякое противодействие процессу преобразований у нас только отодвинет решение острейших экономических и социальных проблем.

*Наряду с экономическими проблемами, возникающими перед Беларусью, стоят и национальные, ведь республика населена людьми разных национальностей. Как вам видится решение этой сложной проблемы? К сожалению, у нас мало опыта и не хватает культуры...*

Что касается проблем национальных, то уверен, что у нас, в Беларуси, следуя давним и прочным традициям толерантности, нашего природного интернационализма, каких бы то ни было межнациональных трений можно избежать. Согласен, что при этом нам действительно очень недостает высокого уровня куль-

туры, самого надежного гаранта мира и согласия во взаимоотношениях между людьми и народами.

Кстати, магистральный курс развития нашего Белорусского государства мне видится в направлении, где главным будет забота о культуре, науке, образовании, нравственности, духовности.

*Дмитрий Лихачев на съезде выразил серьезную озабоченность о судьбе культуры бывшего Советского Союза. Его страшит, что парад суверенитетов может окончиться еще и возведением тысячекилометровой новой берлинской стены между народами, имеющими общую культуру. А это, как известно, грозит деградацией...*

Понимаю озабоченность знаменитого ученого, но думаю, что опасность расторжения и отчуждения культур он преувеличивает. Невозможно поверить, чтобы в наше время в какой-нибудь республике воцарилось правительство, которое станет возводить берлинскую стену между культурами, что такое правительство народ потерпит. Не только в экономике, но и в культуре, в духовности никуда мы, народы-соседи, народы-братья, друг от друга не уйдем. Мыслимо ли отвернуться, отгородиться от Пушкина и Толстого, от Шевченко и Райниса, от Чайковского и Чюрлёниса, от Третьяковки и Киево-Печерской лавры? Или мы перестанем взаимно переводить книги, приглашать театры и певцов на гастроли, налаживать выставки произведений искусства? Если всего этого с нами не случится — а этого не случится с нами никогда! — тогда откуда тревога, о какой стене речь? Кому же в голову придет стать на путь духовной самоизоляции? И разве государственный суверенитет какой-либо страны повредил развитию ее культуры? По моему убеждению, наоборот.

Между прочим, мне очень не нравится выражение «парад суверенитетов», точнее — заложенная в нем ирония. Из него торчат уши великодержавного пре-

небрежения к священному праву народов на свободу и независимость.

*Наша республика первой приняла Закон о культуре. Это не случайно. Ведь возрождение национальной культуры, ее защита стали для белорусской нации актуальнейшей проблемой. В новых экономических условиях, которые, к сожалению, почти ежемесячно меняются в сторону ухудшения, этот процесс усложнится. Есть ли новые концептуальные разработки в этом направлении?*

Мы спешили принять Закон о культуре, чтобы определить правовые и материально-финансовые основы ее развития и тем самым хоть немного помочь ей. Ведь национальная культура у нас в республике находится в тяжелейшем положении, которое с каждым годом все больше ухудшается. Причина — национальный нигилизм, возведенный в государственно-политический принцип и повсеместно насаждаемый в обществе, полное атрофирование чувства национального достоинства у поголовного большинства партийно-советского руководства, его манкуртовское рвение неукоснительно проводить линию на слияние наций и языков. Кстати, это одна из главных причин поражения КПСС — игнорирование национального вопроса. Около года назад в одной из статей я писал о том, что ЦК КПБ практически умышленно делает все для того, чтобы от партии отвернулась вся национально сознательная белорусская интеллигенция. Какое-то преступно-бездарное непонимание того, что есть душа народа, что она — в его языке, культуре.

Но можно ли сказать, что сегодня, в новых условиях, мы заметно продвинулись на этом направлении вперед? К сожалению, нет. Стало больше надежд на возрождение белорусского языка и белорусской национальной культуры, но пока их реальное положение по-прежнему очень тяжелое.

Не думаю, что можно изобрести какие-то новые

концептуальные подходы и решения. О культуре, а это значит о своем духовном совершенстве, должно заботиться само общество. Если оно этого не понимает — плохо культуре и плохо обществу. Ни одно разумное государство не жалеет средств на культуру. Будет ли именно таким государством наша Беларусь, зависит от всех нас. Найдутся ли у нас в достаточном количестве богатые спонсоры, понимающие, что культуру надо поддерживать рублем? Будем надеяться. Ведь другого выхода у нас просто нет. Если мы не возьмемся всенародно за возрождение своей национальной культуры, не возродим свою нацию, то добытый суверенитет будет просто ни к чему. Суверенная Беларусь без своей культуры, т.е. без своего лица? И что же это будет за Беларусь? Так что не новые концепции нужны, а нужно всем и каждому понять старую-старую истину: культура — это то, что делает человека Человеком.

*Вопрос к вам уже не как к депутату, а писателю. Сейчас на головы людей обрушиваются новые политические, экономические, социальные мировоззренческие данности. Они трудно поддаются осмыслению из-за новизны, неожиданности, сложности. Как говорят, «простой человек» их осмысливать может неспешно и может даже позволить себе отказаться от такой работы ума и души. Писателю это сделать невозможно. Он должен быть всегда готов высказать свою позицию, и главное, определить основную магистраль своего творчества. Скажите, лично вы пересматриваете свои творческие позиции? Меняетесь? Или философия вашего творчества неизменна?*

Плохо, если «основную магистраль своего творчества» писатель пересматривает и изменяет вслед за изменением общественного строя или политического курса страны. Видимо, в таком случае этот писатель без «основной магистрали» вообще, т.е. без своей философской и нравственной позиции. Конечно, боль-

шие события в жизни страны и мира влияют, и иногда очень сильно, на душу писателя, на его мировоззрение, но в главном он все-таки остается самим собой, свое человеческое «верую» другим не заменяет. Мне свои творческие позиции пересматривать нет необходимости. Что говорил людям, то и продолжаю говорить. Это по большому счету. Ну а некоторые уточнения во взглядах на порядок вещей — так это дело вполне естественное, и оно не обязательно вызывается только лишь большими творческими событиями.

*И последний вопрос. С какими мыслями вы сегодня проснулись?*

С мыслью: Господи, может, хоть сегодня ни радио, ни печать не сообщат, что опять где-то в Южной Осетии или Хорватии обезумевшие люди убивают друг друга.

## «МОЙ БОГ — МАЁ СУМЛЕННЕ»

**Адказы на пытанні журналіста Алеся Палынскага. «Чырвоная змена»** ***за 29 верасня 1991 г.***

*Вы верыце ў Бога, Ніл Сямёнавіч?*

Я веру ў сваё сумленне. Так, як людзі, што ходзяць у царкву маліцца, вераць у Бога. Я выхаваны на матэрыялістычным светапоглядзе. Але ў мяне Бог ёсць. Гэта народ і яго сумленне. Хачу спадзявацца, што маё сумленне з ягоным не разыходзіцца, не разыходзіцца з сумленнем простых, шчырых, добрых людзей, якія жывуць са свайго мазаля, жывуць так, каб тым, хто побач, было добра.

*А адкуль вы сам і дзе вашы карані?*

Я з Лагойшчыны, і наколькі я здалеў прасачыць свой радавод — да прапрадзеда, мае карані там сядзяць досыць глыбока. У тым куточку заходняй Лагойшчыны, дзе мая вёска, прозвішча Гілевічаў досыць пашырана, відаць, даўным-даўно ўкараніўся там наш род: ва ўсякім выпадку, ніякіх звестак аб тым, што мае продкі аднекуль прыехалі, няма.

*А вершы пісаць вы пачалі яшчэ там, у вёсцы?*

О-о, пісаць вершы я пачаў у 8 ці 9 гадоў, яшчэ да вайны.

*Якія ж былі яны, вашы першыя радкі?*

Ну, вядома, пераймальныя, не варта і гаварыць пра тое... Памятаю, прыйшоў у захапленне ад шэдэўра Тараса Шаўчэнкі «Садок вішнёвы каля хаты», ён тады быў на беларускай мове ў чытанцы, здаецца, для другога класа, і настолькі мне спадабаўся, што ўявілася, быццам гэта пра нашу вёску, пра нашу сям'ю — а нас было восем дзяцей у хаце, — і пад уражаннем гэтага верша я і напісаў першы свой... Гэта сведчыць, што з самага маленства цягнулася душа да паэтычнай мовы... Падчас вайны, падлеткам гадоў 11—12, таксама пісаў нейкія сатыры з сялянскага жыцця, а з 1945 года пяро ўжо не адкладваў надоўга. У сорак шостым пачаў друкавацца ў часопісе «Бярозка». Праз год, летам сорок сёмага, мяне выклікалі ў Мінск на першую рэспубліканскую нараду маладых пісьменнікаў. Уявіце, хлапцу няпоўных 16 год, а там — усе былыя франтавікі, партызаны, у тым ліку Шамякін, Макаёнак, Аўрамчык, Алена Васілевіч, усе ўжо досыць вядомыя... Яны ўжо і публікацыі мелі, і ў Саюз іх аднаго за адным прымалі, а я быў самым-самым зялёным... Прынамсі, гэта было калі не далучэннем да прафесійнай работы — пра гэта яшчэ рана гаварыць, — дык узыходжанне на тую прыступку, дзе ўжо трэба было не вачыма дзіцячага захаплення глядзець на рыфмы, на тое, што ты пішаш, а вачыма дарослага чалавека.

*А калі вы першы раз завіталі ў «Чырвонку»?*

У «Чырвонку» я першы раз завітаў ці ў снежні 50-га, ці ў студзені 51-га. Справа ў тым, што я саромеўся хадзіць у рэдакцыі — увогуле саромеўся, а яшчэ і проста таму, што не было чаго апрануць. У мяне была старая латаная ватоўка. Памятаю, аднойчы я набат пазычыў у аднакурсніка чыгуначны шынель, каб схадзіць у рэдакцыю. Як на сённяшняе маё разумен-

не, дык гэтага не трэба было рабіць, трэба было ў той ватоўцы ісці... Напрыканцы 50-га ў «Чырвонцы» ўтварылася літаб'яднанне, кіраваў ім Мікола Аўрамчык, па тым часе яшчэ малады чалавек. Пачаў я хадзіць на гэтае літаб'яднанне, і вясной 51-га там абмеркавалі мае вершы... А надрукаваўся я першы раз у «Чырвонцы» ў снежні 50-га. Ведаеце, студэнтам універсітэта я так часта друкаваўся ў «Чырвонцы», што ў 1956 годзе на 25-ую гадавіну газеты мяне нават узнагародзілі Ганаровай граматай ЦК ВЛКСМ.

*Ніл Сямёнавіч, раней усе маладзёжныя, ды і не толькі маладзёжныя газеты трымаліся на адных лозунгах, ва ўсякім выпадку, склаўся такі стэрэатып. Але ж і тады людзі сваю душу вылівалі на гэтыя старонкі.*

Ну чаму на адных лозунгах? Мяне здзіўляе такое ўяўленне! Можна падумаць, што тады не было жыцця, што тады людзі не працавалі, не кахалі, што тады не было танцаў, вечарынак, іншых забаў. Гэта ж проста смешна. Было жыццё! Вядома, лозунгі былі і наіўныя, тыя, што не вытрымалі выпрабавання часам, але ж былі заклікі і вечныя, якія ніколі не старэюць! Хіба лозунгі, што заклікалі маладога чалавека на грамадскую чыннасць, заклікалі быць грамадзянінам, а не запечным абывацелем, спажыўцом, заклікалі да чыстаты кахання, да пашаны бацькоў, — хіба такія лозунгі могуць састарэць? Вядома, трэба зрабіць карэктывы на час, і карэктывы значныя. Але крыўдна, калі хочуць перакрэсліць наша жыццё наогул, быццам яно было толькі недарэчным... Ды нічога падобнага! Жылі мы не толькі лозунгамі. Ва ўсе часы ўсё вырашае ўласнае сумленне.

*А калі вы ўсвядомілі, што паэзія — ваш шлях?*

Я хачу думаць, што зразумеў гэта вельмі рана, і ўсведамленне таго, што я павінен гаварыць з людзьмі мовай верша, мяне не пакідала. Ва ўсякім выпадку, пасля той першай нарады маладых пісьменнікаў я ўжо ў сваім шляху не сумняваўся. Дарэчы, у той жа

год я падаў дакументы ў Мінскае педагагічнае вучылішча, раней яно называлася Белпедтэхнікум імя Ігнатоўскага, пакуль гэта імя не выкінулі з гісторыі. Падаў я ў гэта вучылішча дакументы не таму, што мне так ужо хацелася стаць настаўнікам. Я ведаў, што гэтае вучылішча ў свой час скончылі паэты, якія былі для мяне прыкладам, — Паўлюк Трус (а гэта незвычайны лірык, я і зараз яго вельмі цаню), Пятро Глебка, што там выкладаў Якуб Колас, — і мне гэтае вучылішча ўяўлялася нейкім літаратурным ліцэем.

*Ёсць два паняцці: паэт і палітык. Іншым часам гэтыя паняцці настолькі адасабляюцца, што іх лічаць антонімамі. А вы аб'ядноўваеце ў сабе і паэта і палітыка. Паэта, які выдаў вялікую колькасць зборнікаў, якога ведаюць далёка за межамі краіны, і палітыка, які мае свой кабінет у вышэйшай установе рэспублікі, стол, завалены паперамі...*

Ну, каб быць палітыкам, не абавязкова патрэбны кабінет і стол, можна пісаць свае палітычныя выступленні, адозвы і гэтак далей, паклаўшы аркуш паперы ці нататнік на калене. Я ў гэтым сэнсе не выключэнне. Прыгадайце гісторыю і Беларусі, і Расіі, прыгадайце паэтаў, якія займаліся палітыкай, настолькі займаліся, што нават галаву паклалі на гэтым. Прыгадайце Рылеева, якога павесілі за палітыку, а ўжо 200 гадоў народ ад Сахаліна да Брэста пяе яго песню «Ревела буря, дождь шумел...». А хіба Янка Купала не быў вялікім палітыкам? Ды ўжо з першых вершаў сваіх ён не раздзяляў сябе надвое — паэт асобна, палітык асобна. А вазьміце яго публіцыстыку: перыяду грамадзянскай вайны, ранейшую — перыяду «Нашай нівы», дзе ён працаваў як рэдактар і публіцыст. На маё разуменне, ён быў выдатны палітык, буйнейшы ідэолаг нашага беларускага адраджэння! Сцяганосец яго! А хіба не за палітыку Алесь Гарун пайшоў у Сібір, на катаргу? Можа, і ёсць іншыя краіны, дзе іншая літаратурная гісторыя, дзе больш шчаслівым быў народ, дзе не вымагалася ад паэта ісці на барыкады, адкрыта займацца

палітыкай... А ў нашай, беларускай літаратуры, ды і рускай, украінскай, спалучэнне паэта і палітыка — гэта натуральная з'ява.Што і казаць, вельмі добра было б, калі б мовай, дадзенай паэту, можна было б гаварыць аб дабрыні, аб каханні, каб ён толькі аб гэтым з людзьмі і гаварыў... Але ж не паэт вызначае лёс народа, ды і свой уласны лёс... Гісторыя дыктуе, і паэт не можа быць раўнадушным. Ён кіруецца боскім прызначэннем — гаварыць мовай паэзіі, бярэ Слова — і гаворыць... Я не шкадую, што мая работа ў літаратуры мае такі характар: сёння — верш пра родную зямлю, пра добрыя, пяшчотныя пачуцці да маці, да каханай жанчыны, а заўтра — верш-заклік: давайце абярэм шлях, давайце прачнёмся!

*Ніл Сямёнавіч, у вас было шмат нядобразычліўцаў. Ці хочаце вы адпомсціць ім?*

Я не думаю, што так ужо і многа было ў мяне ў мінулым нядобразычліўцаў, можа, больш іх зараз... Але хачу вам сказаць, ніколі, ніколі, ні тады, ні сёння, не нараджалася ў мяне пачуццё помсты. Я кожны раз гаварыў: Бог вам суддзя. Час рассудзіць, ацэніць. Ну, а што да дробных зласліўцаў, аматараў напаскудзіць... Проста ў мяне не хапала часу звяртаць на іх увагу. Такія людзі-чалавечкі круцяцца звычайна вакол літаратуры, мастацтва. Калі я стаў першым сакратаром Саюза пісьменнікаў, запрасілі мяне ў ЦК і ў такім добрым тоне размовы паведамілі, што ў іхнім сейфе на мяне папер ляжыць цэлы стос. Тады яшчэ Сяргей Законнікаў працаваў у ЦК, дык ён мне кажа: «Ну, Ніл Сямёнавіч, тут пішуць на вас і пішуць...». Такое гісторыя літаратуры заўсёды ведала, калі той ці іншы літаратар не толькі аб кветках піша, але і мае свой палітычны твар — доля яго такая, і пісьмы будуць, і даносы. Трэба стаяць вышэй гэтага, яно адпадзе, хаця і вельмі непрыемна адчуваць вакол сябе гэты бруд...

*Відаць, нялёгка было столькі часу ўзначальваць такую буйную ўстанову, як Саюз пісьменнікаў?*

Цяжка... У мяне нават супярэчлівыя думкі на-

конт таго, ці трэба было даваць тады згоду... Але што было, тое было, я адчуваў, што трэба нешта зрушыць, адчуваў, што мы коцімся кудысьці. Падчас хрушчоўскай адлігі ў маім светапоглядзе шмат што змянілася. Так, я застаўся «верны ідэалам», але ўсвядоміў, што трэба менш слухаць высокія і пустыя лозунгі, а больш прыглядацца да жыцця, да лёсу простага чалавека, і менавіта тады — а гэта можна прасачыць па маіх публікацыях — я пачаў уздымаць голас у абарону мовы, культуры, нацыянальнай беларускасці. У 56-ым, калі я пісаў сваю кандыдацкую дысертацыю, перагарнуў шмат прэсы 20-ых гадоў, перада мной адкрылася жудасная карціна, я ўбачыў, якая расправа ўчынялася над нацыянальнай культурай, дзеячамі беларускай літаратуры... Тады я з кожным днём рабіўся ўсё больш свядомым у гэтым сэнсе чалавекам, і калі пачаліся новыя замаразкі і на нашу культуру пачаўся новы наступ — нават ніводнай беларускай школы не засталося ў гарадах і гарадскіх пасёлках — я не мірыўся, выступаў, калі хочаце — крыкам крычаў... Бывала так, што заставаўся адзін, бывала, што, паціскаючы руку, некаторыя азіраліся... Былі страшэнныя дні роспачы... І тут раптам такая прапанова — заняць пасаду першага сакратара Саюза. На гэтым вельмі настойваў Машэраў Пётр Міронавіч, і я падумаў, што мне ўдасца многа зрабіць менавіта ў гэтым сэнсе, гаворачы з пісьменнікамі, сваімі калегамі, пабрацімамі, тлумачачы ім... Будзіць, абуджаць думку — гэта ж трэба! У той час ні ў адным творчым саюзе беларускасцю і не пахла. Гэта цяпер Саюз мастакоў такі патрыятычны, а 25 гадоў таму назад проста жах ахопліваў... Цяпер гавораць: вось Ніл Гілевіч нешта зрабіў у саюзе — «Ісллач» пабудаваў, хадзіў, не баяўся — кватэры выбіваў для пісьменнікаў, машыны... Усё гэта, вядома, я рабіў, але не гэта было галоўнае. Галоўнае — я спадзяваўся, што нейкім чынам удасца актывізаваць вялікую работу па выратаванню беларускай мовы, культуры, нацыі нашай.

*У пэўным сэнсе вам гэта ўдалося. Менавіта*

*цяпер вам паднеслі падарунак на дзень нараджэння — бел-чырвона-белы сцяг над Домам урада. Як жа пачынаўся шлях да гэтай перамогі?*

— Такое пытанне можна задаваць кожнаму з тых, хто і ў Вярхоўным Савеце, і на плошчах змагаўся за гэта. Прыйшоў час — і гэта адбылося, але ў кожным часе павінны быць людзі, якія лепей за іншых свой час разумеюць, якія распараджаюцца гэтым часам так, каб было на карысць народу і дзяржаве. На жнівеньскай надзвычайнай сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі была атрымана перамога — Дэкларацыя аб незалежнасці стала законам. З гэтага выцякае неабходнасць паставіць сябе належна, з годнасцю перад суседзямі, блізкімі і далёкімі, якія будуць паважаць нас толькі тады, калі ўбачаць, што мы ўсё задуманае робім сур'ёзна, а не гуляем у незалежнасць, маўляў, давайце пацешымся, а далей усё пойдзе, як ішло. Калі мы хочам, каб нас паважалі, свой закон аб незалежнасці мы павінны праводзіць у жыццё. З чаго пачынаць? Бясспрэчна: трэба было падумаць пра ўласныя дзяржаўныя атрыбуты, сімвалы, без якіх мы элементарна не можам весці перамовы, без якіх нас проста не прызнаюць у свеце. На жаль, цяпер, можа, нават большасць нашых мілых, добрых, слаўных людзей гэтага не разумеюць, яны думаюць, што мы спяшаемся рабіць не тое... Але ж дзяржава павінна мець сваё аблічча, яна павінна мець свой сцяг, герб, гімн, назву, якія дапамогуць нам згадаць свае карані, адчуць, што мы сапраўды дзяржава. Кожны зараз павінен адчуць, што ён жыве ў Беларусі, што мы не аднекуль, а адсюль, што род адвеку-вякоў жыве на гэтай зямлі! Усё гэта павінна надаць жыхарам Беларусі ўпэўненасць у заўтрашнім дні, упэўненасць, што з намі лічацца. Не трэба баяцца перамен, казаць, што яны надта рэзкія. Гэтыя перамены рыхтаваліся ўсёй нашай гісторыяй. Але я хачу звярнуцца да моладзі, якая настроена найбольш рэвалюцыйна — маўляў, усё, што было да гэтага, трэба зруйнаваць,

зламаць, знішчыць, парваць на шматкі і гэтак далей. Гэта памылка! Гісторыю перакрэсліваць ніхто права не мае, якая б яна ні была — цяжкая, трагічная, нават змрочная. Тым больш што гісторыя наша ішла палосамі — было трагічнае, але было і светлае. Людзі ж жылі, было ў іх і гора, былі і радасці, і таму нельга крыўдзіць тых, хто жыў пад тым сцягам, які зараз зняты... Іх нельга крыўдзіць, іх трэба зразумець. Я застаюся пры глыбокім перакананні, што толькі сумленне, культура дапамогуць нам, толькі маральнасць выцягне з багны... Як жа не разумеюць тыя, хто ганьбіць ветэранаў вайны, што яны за незалежнасць, за жыццё гнілі ў акопах, пакутавалі ў шпіталях... Многія з новага пакалення ставяцца з непавагай да перажытага ветэранамі вайны і працы. Гэта сведчанне іх уласнай невысокай маральнасці і культуры. Хіба старыя людзі — а я кажу пра людзей добрых, сумленных, шчырых — у нечым вінаватыя? Гэта лёс іх — і яго ўжо не пераменіш. Я б хацеў проста прасіць маладых людзей больш аб гэтым думаць. Без гэтага нас таксама не будуць паважаць, тут законы вельмі жорсткія. Хіба можна, напрыклад, лічыць ворагамі людзей, якія зараз яшчэ не гатовы прыняць новы Сцяг або Герб Беларусі? Не спяшайцеся вінаваціць, дайце людзям падумаць, асэнсаваць, звыкнуцца!

*Ніл Сямёнавіч, калі б Бог даў вам магчымасць пражыць адзін дзень вашага жыцця яшчэ раз, які б дзень вы абралі?*

З усяго пражытага я, відаць, выбраў бы дзень абвяшчэння незалежнасці Беларусі. Тое, да чаго я ішоў усё жыццё праз вялікія душэўныя пакуты, праз незлічоныя знявагі і абразы, — пачало здзяйсняцца. Гэта самае вялікае шчасце. Праўда, асноўная барацьба яшчэ наперадзе, і я хачу спадзявацца, што яна будзе бяскроўнай. Тут я вельмі спадзяюся на характар нашага народа, на яго мудрасць.

## СВЯТА — ЧАС ВЯЛІКАЙ РАБОТЫ ДУШЫ

**З даклада на VII сесіі Вярхоўнага Савета РБ**
*24 кастрычніка 1991 г.*

Пытанне аб святочных, нерабочых днях — зусім не другараднае ўжо хаця б таму, што датычыць літаральна ўсіх людзей, усіх жыхароў рэспублікі. Гэта толькі здаецца, што яно не такое ўжо і важнае, каб разглядаць яго менавіта на гэтай сесіі.

Мы прынялі Закон аб дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. Закон, які вельмі і вельмі да многага нас, усіх грамадзян Бацькаўшчыны, абавязвае. Мала абвясціць незалежнасць. Яе трэба зрабіць рэальнай. Калі яна стане рэальнасцю, тады іншай, лепшай рэальнасцю стане і само наша жыццё. Зрабіць жа гэта можа толькі чалавек добры і мудры, чалавек, які ўпэўнена чуецца на гэтай зямлі, чалавек, душа якога не абкарнана і не знявечана. Чалавек, які ўсведамляе сябе працягам шматвяковага духоўнага развіцця народа. Чым багацейшы будзе духоўны свет нашых людзей, тым скарэй і лягчэй мы зробім сваё жыццё такім, каб яно нам падабалася; іначай сказаць — тым больш паспяхова будуць вырашацца ў нас эканамічныя, сацыяльныя і іншыя задачы. Гэта — ісціна, даказваць якую няма патрэбы. Не ўсе, аднак, усведамляюць, што чалавечай душы, для таго каб яна была багатай і прыгожай, апрача многага іншага, патрэбна свята. Абавязкова! Для гэтага яшчэ спрадвеку і былі ўсталяваны ў народным побыце нерабочыя, святочныя дні. Так, гэтыя святы ўводзіліся не толькі для адпачынку пасля цяжкіх дзён працы. У святочны нерабочы дзень адпачывала цела, затое больш актыўна працавала душа. Свята — гэта час вялікай работы душы. У дзень свята чалавек знаходзіцца ў коле сям'і, сярод родных і блізкіх, або ў коле сяброў, сярод песень і забаў, або на ўлонні прыроды, або сам-насам са сваімі запаветнымі думкамі і — у залежнасці ад свята — сам-насам з усёй гісторыяй свайго народа. Ча-

лавек святкуе не толькі пэўныя паваротныя моманты ў жыцці прыроды — скажам, Новы год ці прыход вясны, але і дарагія яму даты ў гісторыі краіны, а таксама і іншае, асабліва дарагое і любае яму, ну, скажам, свята ў гонар маці або свята ўшанавання продкаў.

Чаму ўзнікла патрэба нанова паглядзець нам на нашы святы і ўзаконіць пэўныя перамены ў іх календары? Таму, што мы ўступілі ў новую гістарычную рэальнасць, адбываецца пэўная пераацэнка духоўных і маральных каштоўнасцей, дакладней — мы вяртаемся да некаторых сапраўдных каштоўнасцей, якія былі абясцэнены і занядбаны, ад чаго ўсім нам стала горш жыць. Нарэшце мы схамянуліся і агледзеліся, што далей так нельга. Што ёсць няпісаныя законы, традыцыі і звычаі, якія трэба шанаваць. А найлепш яны будуць шанавацца тады, калі іх узаконіць. З векавымі традыцыямі абавязкова трэба лічыцца — інакш выходзіць нешта ненатуральнае і нават пачварнае, нешта такое, што не на здароўе душы чалавечай. Напрыклад, больш 70 гадоў назад быў узяты курс на выцясненне з жыцця, на выкараненне такіх традыцыйных народных свят, як Каляды, Вялікдзень, Купалле і некаторыя іншыя. І што ж мы бачым? А тое, што намаганні былі дарэмныя: людзі ў пераважнай большасці ўсё адно святкавалі гэтыя святы — толькі ў панявечанай форме, іншы раз амаль у падполлі, і не на ўсю — як мае быць — шырыню душы. Гэта быў, калі хочаце, здзек і над святам, і над душою. Законна спытаць: а дзеля чаго? У імя якой высакароднай мэты? Адказу няма. Апраўдвалі гэта барацьбой з г. зв. «рэлігійным дурманам». Цяпер усім зразумела, што гэта была вялікая памылка. Або: узяліся былі адвучваць і ад традыцыі памінання продкаў, наведання іх магіл у спецыяльна вызначаны дзень. Гэта была ўжо не проста памылка, а сапраўднае злачынства; дзякуючы такой барацьбе з рэлігіяй, з міфалагічнай даўніной, якую абзывалі забабонамі, са старымі адвечнымі звычаямі, чарсцвела душа чалавечая, людзі ўсё больш

трацілі ў сабе тое, што траціць нельга, — дабрыню, пашану да тых, хто нас пакінуў, пачуццё святасці памяці. І людзі не змірыліся. Вы ведаеце, што ўвесь гэты час усе мы хадзілі на могілкі — каб ушанаваць памяць дарагіх і блізкіх нам людзей: або на Радаўніцу, або на Сёмуху (Троицу), або на трэці дзень па Вялікадні, або на Усіх Святых восенню. Людзі вымушаны былі хлусіць, каб атрымаць права на адгул, выдумлялі прычыны, чаму не могуць быць на працы, — адным словам, ставілі сябе ў няёмкае, прыніжанае становішча. У апошнія гады гэты ўсенародны звычай стаў асабліва прыкметны. І дзякаваць Богу! Дык чаму ж у такім разе не ўзаконіць дзень памінання продкаў — каб усё рабілася па-людску, па-чалавечы?

Вось чаму наша камісія, пры падтрымцы некаторых іншых камісій і асобных народных дэпутатаў, прапануе ўзаконіць і Каляды (як праваслаўныя, так і каталіцкія), і Вялікдзень (таксама для абедзвюх канфесій), і Дзень памінання продкаў. Для вернікаў іншых канфесій парадак святкавання іхніх галоўных рэлігійных свят павінен распрацаваць урад рэспублікі. Натуральна, святочнымі, нерабочымі днямі камісія прапануе пакінуць у календары першае студзеня — першы дзень Новага года, восьмае сакавіка — Дзень жанчын, 25 сакавіка — Свята Рэспублікі, 1 Мая — Свята працы, 9 Мая — Дзень Перамогі, 27 ліпеня — Дзень Незалежнасці... Паступілі ад дэпутатаў прапановы — зрабіць святочнымі, нерабочымі некаторыя іншыя дні года, звязаныя са значнымі гістарычнымі датамі; напэўна, узнікнуць і яшчэ прапановы. Усе яны, спадзяюся, будуць спакойна тут абмеркаваны — з усведамленнем таго, што ў рэшце рэшт прымусіць чалавека святкаваць — калі сам ён не хоча гэтага — нельга, але яму можна і трэба даць права на святкаванне. Для гэтага і патрэбен Закон.

# «НЕБЯСПЕКА ДА ЖУДАСЦІ РЭАЛЬНАЯ. ПАТРЭБНА НЕАДКЛАДНАЯ ДЗЯРЖАЎНАЯ ДАПАМОГА»

**Даклад на VII сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь** ***4 снежня 1991г.***

У студзені 1990 года быў прыняты Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь. Услед за гэтым была зацверджана Дзяржаўная праграма развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларусі. Часу прайшло няшмат, але не так і мала. Трэба прызнаць, што сеё-тое робіцца па ажыццяўленню гэтай Дзяржаўнай праграмы, перш за ўсё — у галіне адукацыі. Зрэшты, пра гэта сведчыць і работа нашага Вярхоўнага Савета: усё больш дэпутатаў у сваіх выступленнях спрабуюць карыстацца беларускай мовай. І ўсё ж вельмі марудна ідзе перабудова ў гэтым кірунку — сказаць, што тут адбыўся прыкметны зрух, а тым больш пералом, — на жаль, яшчэ нельга.

Але мы не абмяркоўваем моўную сітуацыю агулам і выкананне Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. Мы разглядаем толькі адно пытанне — аб беларускай мове ў сродках масавай інфармацыі, у першую чаргу, вядома, — у дзяржаўных. Чаму ўзнікла неабходнасць паставіць гэта пытанне і прасіць прыняць спецыяльную пастанову? Гэта абумоўлена тым, якое велізарнае значэнне мае друкаванае слова і слова, што гучыць па радыё і з блакітнага экрана, у культурным і духоўным жыцці народа. Чалавек кожны дзень бярэ ў рукі газету або часопіс — і чытае або гадзінамі сядзіць перад тэлевізарам ці каля радыёпрыёмніка — і слухае. Пацікавімся, аднак, што чытае і што слухае? Якое слова? Якую мову? Наўрад ці трэба тлумачыць, наколькі гэта важна — для існавання і развіцця нацыянальнай культуры, для лёсу нацыі наогул.

Законам аб мовах пастаўлена задача — кожны гра-

мадзянін Рэспублікі Беларусь абавязаны авалодаць дзяржаўнай мовай. У Законе распісаны і аптымальныя, на наш погляд, тэрміны для авалодання. Але як гэтаму грамадзяніну авалодаць дзяржаўнай мовай, калі ён увесь час знаходзіцца ў стыхіі іншай мовы — калі і газеты, і часопісы, за невялікім выключэннем, і тэлебачанне, і радыё — усё пераважна ідзе на рускай мове? Возьмем, напрыклад, тэлебачанне: мы маем тры асноўныя каналы, тры праграмы — дзве цалкам рускамоўныя, і толькі па адной ідуць перадачы на беларускай мове. Але колькі іх? Прасачыце, калі ласка, хоць бы на працягу аднаго дня — і вы ўбачыце, колькі: варты жалю мізер! Скажам больш: вялікія тэрыторыі рэспублікі наогул не ахоплены беларускай праграмай тэлебачання. Ужо, бадай, гадоў 20 гаворым пра гэта — а справа ні з месца.

Асабліва ў цяжкім становішчы апынуліся сёння беларускі перыядычны друк і беларуская кніга. Тое, што рынак імгненна наступіць на горла беларускаму друкаванаму слову, — нам было ясна з самага пачатку. Так і здарылася. І паперы, і паліграфічных магутнасцей раптоўна стала не хапаць перш за ўсё для беларускіх газет, часопісаў, кніг. Кааператары, прадпрымальнікі развілі такую бурную дзейнасць — што адно падзівіцца. За год-два накапілі прыбытку дзесяткі мільёнаў рублёў — на тым, што не мае ніякага дачынення да беларускай культуры і часам наогул да культуры. А тыражы беларускіх выданняў — маленькія, аб прыбытках і гаворкі не можа быць. Чаму такія тыражы нашых выданняў — мы ведаем: гэта вынікі пэўнай палітыкі, згубнай для беларускай мовы і культуры, — палітыкі, якая праводзілася жалезнымі людзьмі жалезна.

Ужо колькі месяцаў не выходзіць «Вясёлка» — адзіны любімы дзятвой часопіс для дашкольнікаў і малодшых школьнікаў... Няма афсетнай паперы! І дзяржава глядзіць праз пальцы! Выбачайце, але гэта толькі ў нас магчыма такое... — каб дзеці засталіся без адзінага свайго часопіса.

Вось у мяне ў руках зварот калектыву рэдакцыі газеты «Чырвоная змена» да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, у якім мы чытаем: «Чырвоная змена» — старэйшая беларуская маладзёжная газета перажывае сёння, як і іншыя беларускамоўныя выданні, цяжкі крызіс. Прычынай таму — «моўная» сітуацыя ў рэспубліцы, камерцыйны бум пры разбуранай эканоміцы (у тым ліку ў газетна-выдавецкай дзейнасці), агульная нестабільнасць грамадства.

Наша «Чырвонка» не памкнулася за спакуслівым двухмоўем, пры якім у некаторых двухмоўных выданнях ад іхняй беларускасці засталіся толькі назвы».

Вакол газеты гуртуецца творчая моладзь. Духоўная выхаваўчая дзейнасць штотыднёвіка — сапраўднае падзвіжніцтва. Пры рэдакцыі створана аб'яднанне маладых літаратараў «Крыніца», якое параўноўваюць з колішнім «Маладняком». Ну а просьба газеты — крык душы калектыву — дапамажыце!

Шаноўныя дэпутаты! Патрэбна гарантаваная дзяржаўная падтрымка ўсім беларускім перыядычным выданням і беларускай кнізе — і мастацкай, і навуковай, і беларускім падручнікам, вучэбным дапаможнікам і іншым!

Горкая ісціна, але ісціна: Камуністычная партыя Беларусі слаба падтрымлівала беларускае друкаванае слова і гэтае ж слова на радыё і тэлебачанні. Ну а што ж цяпер — калі КПБ не дыктуе сваю волю, калі прыняты дэмакратычны Закон аб друку і многія іншыя дэмакратычныя законы? А цяпер стала непараўнана горш! Мала таго, што Дзяржаўная праграма па беларускай мове амаль не выконваецца, дык выстаўляюцца патрабаванні перагледзець сам Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь. І хто ж патрабуе? Як ні парадаксальна — дэмакраты! Днямі адбыўся чарговы з'езд АДПБ (Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі), дэлегаты якога патрабавалі прыняць пастанову — каб Вярхоўны Савет абвясціў дзяржаўнымі ў Рэспубліцы Беларусь дзве мовы — і беларускую і ру-

скую. Раней, калі прымаўся Закон аб мовах, на такіх пазіцыях стаялі некаторыя найбольш рэакцыйныя партакраты, цяпер іх пераемнікамі з'яўляюцца аб'яднаныя дэмакраты — г. зн. ворагі партакратаў. Так змыкаюцца нібыта правыя і нібыта левыя. Як толькі даходзіць да вырашэння лёсу беларускай мовы, імгненна аб'ядноўваюцца непрымірымыя ворагі! Вось хто, аказваецца, самы страшны для ўсіх — наша няшчасная родная мова!

Паважаныя дэпутаты! Зразумела, на падтрыманне далейшай жыццядзейнасці беларускага друкаванага слова, як і слова на тэлебачанні і радыё, патрабуюцца дадатковыя грошы. Думаю, не так многа, як напісалі нам з некаторых міністэрстваў і ведамстваў. Рэч аб тым, што ўсе беларускія выданні, за выключэннем двух-трох, і раней увесь час карысталіся датацыяй дзяржавы. Натуральна, зараз гэта датацыя мусіць быць большай. Але іншага выйсця няма. Калі не прадугледзець першачарговае і поўнае забеспячэнне паперай перыядычных выданняў на беларускай мове — яны проста спыняць сваё існаванне. Калі гэта ж самае не прадугледзець да выдання мастацкай, грамадска-палітычнай, навукова-тэхнічнай, вучэбнай і навукова-пазнавальнай літаратуры на беларускай мове — кніжны рынак на Беларусі можа канчаткова страціць нацыянальнае беларускае аблічча. Небяспека гэта да жудасці рэальная. Але мала забяспечыць выданне газет, часопісаў, кніг і іншай друкаванай прадукцыі на беларускай мове — не менш важна забяспечыць прыярытэтныя ўмовы для гандлю і рэкламы, а таксама льготныя тарыфы па аплаце за экспедзіраванне і распаўсюджванне і інш. І тут у Савеце Міністраў павінны быць зроблены дакладныя падлікі, бо не выключана, што якое-небудзь міністэрства ці ведамства захоча і пажывіцца трохі за кошт беларускіх выданняў. Цяпер жа амаль ніхто не саромеецца, калі справа заходзіць пра грошы!

Не здзіўлюся, калі і сёння хто-небудзь скажа, што

мы абмяркоўваем малаважнае, другараднае пытанне. Пагадзіцца з гэтым я нізашто не магу. Пытанне гэта надзвычай важнае — бо гэта пытанне будучыні самой беларускай нацыі, і даводзіцца горка шкадаваць, што далёка не ўсе дзяржаўныя мужы гэта разумеюць. Пытанне гэта, шаноўныя дэпутаты, заўсёды важнае — і калі чалавек сыты, і калі галодны. Вядома, не ў лепшы, не ў спрыяльны час выпадае ставіць у парламенце пытанне аб мове. Але што ж рабіць? Мы хочам, каб нас прызналі ў свеце. Дык вось, нас прызнаюць і стануць паважаць толькі тады, калі мы будзем мець пачуццё ўласнай годнасці, калі мы навучымся паважаць самі сябе. Мяркуючы па колькасці беларускіх выданняў — газет, часопісаў, кніг, па тым, колькі гучыць наша слова на тэлебачанні і радыё, — мы не нацыя, а нацыянальная меншасць. Нам адведзена невялічкая частачка — як крошкі з панскага стала. Хаця — чаму адведзена? Гэта мы самі адвялі сабе столькі. Што ж гэта, скажыце, за нацыя, калі яна нават не можа абараніць сваю ўласную мову? Зрэшты, мова абараняе сябе сама. Ужо амаль паўтысячы гадоў нядобразычліўцы нашы стараюцца не даць ёй ходу, не даць ёй жыцця, — а яна ўсё-такі жыве, не загінула. І будзе жыць, шаноўныя, абавязкова будзе! Толькі будзе крыўдна, калі мы, ад каго сёння так многа залежыць, не дапаможам ёй. Вельмі хацеў бы спадзявацца, што мы, без вялікіх і гарачых дыскусій, прымем пастанову, якая абавяжа ўрад паклапаціцца пра лёс беларускіх выданняў, Беларускага тэлебачання і радыё, пра беларускае слова ў сродках масавай інфармацыі — ва ўмовах пераходу да рыначнай эканомікі, у вельмі цяжкі і неспрыяльны для культуры, для духоўнага росту чалавека час.

# НАША ТРЫВОГА НАРАСТАЕ З КОЖНЫМ ДНЁМ

Выступленне на VII сесіі
Вярхоўнага Савета БССР *10 снежня 1991 г.*

Паважаны прэзідыум, шаноўныя калегі народныя дэпутаты! Калі б за гэту работу, якую мы пачалі рабіць сёлета, мы ўзяліся пяць гадоў назад, і ў краіне, і ў рэспубліцы сёння былі б відавочныя вынікі. Але што цяпер пра гэта гаварыць, час упушчаны, і трэба рабіць тое, што мы яшчэ здольны зрабіць.

Агульная выснова Камісіі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны — праект Дзяржаўнай праграмы пераходу да рыначнай эканомікі трэба дапрацоўваць з улікам таго, што запісана ў абвешчанай Дэкларацыі аб поўным суверэнітэце БССР, і з улікам прыярытэтнай увагі праблемам адукацыі і культуры. Наша трывога за стан адукацыі і культуры нарастае з кожным днём. Вельмі прывабна гучаць лозунгі і тэзісы пераходу да рыначнай эканомікі, але што чакае ва ўмовах пераходу і пасля — ва ўмовах ўсталявання рыначных адносін — адукацыю і культуру? І паводле праграмы, і паводле ўсіх выступленняў, адукацыя і культура не ставяцца ў цэнтр, не кладуцца ў аснову, а застаюцца пабочным дадаткам, нейкім даважкам. Тое, што было і заўсёды дагэтуль. Вось, маўляў, галоўнае, самае важнае, ну а там яшчэ ёсць адукацыя і культура, сёе-тое з нашай увагі ўдзелім і ім. На маё перакананне, гэта памылка з катастрафічнымі вынікамі. Недаравальная наіўнасць спадзявацца на ўздым эканомікі, гаспадаркі, дабрабыту ў неадукаванай, цёмнай краіне. А ўзровень адукацыі, культуры, духоўнасці, маралі ў нас працягвае падаць. Нас абганяюць нават слабаразвітыя краіны. Пра якія сучасныя тэхналогіі можа быць гаворка? Як мы забяспечым развіццё рынку, такога рынку, каб з ім, гэта значыць з намі, лічыліся высокаразвітыя, эканамічна моцныя краіны?

Падмурак усёй эканомікі — адукаваны і культурны чалавек, яго інтэлектуальная сіла. Рынак сёння — гэта рынак розуму, рынак інтэлектуальнай працы. Можна здзіўляцца, як мы не хочам зразумець тое, што разумеюць у цэлым свеце і што ў цывілізаваных краінах з'яўляецца даўно рэальнасцю. Там сярэдняя заработная плата настаўніка і работніка культуры вышэй сярэдняй заработнай платы ў краіне. Спецыяліст, талент павінен каштаваць удвая-утрая даражэй. Гэта галоўны рэзерв у развіцці эканомікі. Яго сярэдняя зарплата павінна ў нас быць вышэй сярэдняй агульнай заработнай платы. Яна ў нас намнога ніжэй. Зразумеем жа нарэшце, што самы дарагі тавар — інтэлект, розум чалавечы, веды і ўменне, талент. Дык паклапоцімся, каб гэты тавар не сыходзіў за бясцэнак. Патрэбна гарантаваная датацыя дзяржавы на адукацыю і культуру, патрэбны не лічбы ў мільёнах, а цвёрдая доля нацыянальнага бюджэту, і такая доля, як у высокаразвітых краінах свету. Датацыя дзяржавы — гэта адно. У новых умовах гэтага, аднак, недастаткова. Трэба знайсці механізм, каб кожны гаспадарнік быў зацікаўлены падтрымліваць адукацыю і культуру. Якія гэта могуць быць механізмы? Напрыклад, ільготнае падаткаабкладанне прадпрыемства, прыярытэтнае матэрыяльнае забеспячэнне і, відавочна, многа што іншае. На думку камісіі, трэба стварыць нацыянальны фонд адукацыі і культуры і разумна ім распараджацца. У высновах камісіі шмат канкрэтных прапаноў, як, напрыклад, адмена абавязковай усеагульнай сярэдняй адукацыі, запрашэнне на працу ў сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы замежных спецыялістаў, падрыхтоўка спецыялістаў рыначнай эканомікі. Самастойнасць адукацыі і культуры ў расходаванні бюджэту, стварэнне шэрага прадпрыемстваў, такіх, як завод грампласцінак, студый гуказапісу і інш., якія забяспечаць развіццё пэўных галін культуры і дадуць фінансавыя сродкі.

Паважаныя таварышы! Калі мы перавядзём культуру цалкам на рэйкі камерцыі, мы даб'ём, даканаем і тыя рэшткі духоўнасці, маральнасці, якія ў нашым грамадстве яшчэ засталіся, на якіх яно яшчэ трымаецца. Фактаў, якія сведчаць, што можа чакаць нашу асвету і культуру ва ўмовах пераходу да рыначных адносін, калі дзяржава не паклапоціцца, не возьме пад абарону гэтыя сферы, ужо многа. Напрыклад, у два разы падняліі цэны на часопісы і газеты. І вось бібліятэкі, і школы, і школьныя кабінеты застаюцца на 1992 год без жыццёва неабходнай літаратуры, бо грошы ж былі выдзелены без уліку павышэння цэн. І ў першую чаргу гэта б'е па беларускіх выданнях, якія апынаюцца літаральна ў катастрафічным становішчы. Нават партыйныя выданні, спасылаючыся на новыя эканамічна-фінансавыя ўмовы, тыя выданні, што 50, 60 і нават 70 гадоў выходзілі на беларускай мове, пачынаюць пераходзіць на двухмоўе, аб'яўляюць сябе руска-беларускімі. Дарэчы, дазвольце не паверыць, што наша магутная партыя раптам так абяднела, што рашыла сэканоміць і паправіць свае фінансавыя справы за кошт беларускай мовы, яе выцясненне з ужытку ў партыйных выданнях. Значыць, прычыны ці матывы іншыя. Проста вялікія патрыёты рэспублікі выкарыстоўваюць магчымасць, каб аслабіць працэс нацыянальнага адраджэння Беларусі, яе мовы і культуры. І гэта, заўважце, тады, калі Вярхоўны Савет абвясціў Дэкларацыю аб суверэнітэце Беларусі, калі прыняты Закон аб дзяржаўным статусе беларускай мовы і Савет Міністраў зацвердзіў Дзяржаўную праграму ажыццяўлення Закона аб мовах у БССР. Я прашу прабачэння, можа быць, за залішне рэзкія словы, але мне асабіста бачыцца ў гэтым нешта вельмі непрыгожае, як бы чыніцца нейкае адступніцтва, нейкая здрада, адным словам, нешта з гэтага роду, паўтараю, вельмі непрыгожае. Што ж чакаць ад гаспадарнікаў, калі тэарэтыкі, ідэолагі ідуць на такое? Сёння я атрымаў ліст трох рэдактараў бела-

рускіх часопісаў — «Полымя», «Нёмана» і «Беларусі». Гэта трагічны дакумент, таварышы, гэта суцэльны боль і крык, але гэта і прысуд дзяржаве, грамадству, якія не клапоцяцца пра будучыню нацыі, такія абыякавыя да лёсу нацыянальнай культуры. Выснова аўтараў пісьма: мы не можам глядзець на культуру вачыма недальнабачных фінансістаў. Рэдакцыйныя калектывы гэтых часопісаў пад пагрозай распаду. Часопісы могуць перастаць існаваць, зусім рэальная перспектыва на самы бліжэйшы час.

Хачу закончыць тым, з чаго пачаў. Калі дзяржава не стварае ўмоў для развіцця інтэлекту нацыі, гэта, выбачайце, не мудрая дзяржава, яна асуджана на заняпад.

І зусім на заканчэнне — аб некаторых прапановах.

Давайце, таварышы, спакойна і больш разважліва ўсе рашаць пытанні, дзеля чаго мы сабраліся. Калі мы прымем некаторыя зробленыя тут прапановы, калі мы іх прымем сёння, рэзка наблізім хаос, і толькі. Што значыць, напрыклад, сёння прымусіць Урад рэспублікі пайсці ў адстаўку? Хіба ў нас дастаткова падстаў, каб выказаць яму недавер? Хіба мы пераканаліся ўжо ў гэтым? Што значыць сёння, ці заўтра, ці нават паслязаўтра аб'явіць у рэспубліцы новыя выбары? Хоць трохі рэальна мы ўяўляем гэта ці не? Народ пойдзе на гэта ці не? Ці ён зойдзе ў поўны адчай і роспач ад нашай бездапаможнасці і ад таго, што не ведае, што ж рабіць і як быць? І пачнецца нечуваны хаос. Няўжо мы ўсе не здолеем паразумецца, з'яднаць усё лепшае, разумнае, плённае, што напрацавана ўсімі намі? Ці помнім мы, што рынку ў нас такога, пра які гаворым, яшчэ няма? Што мы толькі ўступаем у паласу пераходу да рыначных адносін? І гэты пераход не будзе марш-кідок. Жыццё будзе падказваць новыя рашэнні, а Вярхоўны Савет павінен будзе заканадаўча рэгуляваць. Таму яшчэ і яшчэ раз я заклікаю ўсіх вас, вельмі паважаныя таварышы, да ўзгодненай, разумнай працы, верачы, што ўсе мы ўсведамляем адказнасць перад народам і ўсе мы хочам зрабіць так, каб нашым людзям стала лепш.

## ЧАЛАВЕЧНАСЦЬ НАС НЕ ПАКІНЕ

Адказы на пытанні журналісткі Д. Чаркасавай «Голас Радзімы» *за 2 студзеня 1992 г.*

*Як вы ставіцеся да пагаднення, падпісанага кіраўнікамі трох славянскіх дзяржаў у Белавежскай пушчы?*

Да сустрэчы пад Брэстам і рашэнняў, прынятых на ёй, стаўлюся станоўча, з разуменнем, што такі крок быў неабходны і зроблены ён у выніку аналізу рэальнага становішча ў краіне. Саюз, які існаваў дзесяцігоддзі, разваліўся, развальваюцца эканамічныя і іншыя сувязі. Атрымалася тупіковая сітуацыя.

*А ці дапаможа нам з яе выйсці стварэнне Садружнасці Незалежных Дзяржаў?*

Я думаю, што рэальная самастойнасць, незалежнасць кожнай з рэспублік проста дапамогуць узняць настрой людзей, дух народа, паверыць у свае сілы і магчымасці. Я не падзяляю той трывогі і страхаў, што ахапілі многіх. Так, парваліся старыя сувязі, але хто каму можа перашкодзіць аднавіць іх — культурныя, эканамічныя. Усё гэта мы будзем развіваць, але ўжо з новым імкненнем, з пачуццём уласнай годнасці. Будзем гаварыць на роўных з усімі сваімі партнёрамі, вызначаючы, што можам даць мы і што атрымаем узамен.

*Я цалкам згодная з вамі, што, стаўшы незалежнымі, мы не прападзём фізічна. Але ці не адбылося ў нашай свядомасці нейкай дэфармацыі, ці не развучыліся мы адрозніваць дабро і зло? Учора я была на вечары Максіма Багдановіча. Добры, урачысты вечар, выступленні ад сэрца. Але ці не занадта ён быў палітызаваны? І яшчэ падалося мне, што заклікі прадстаўнікоў Ноўгарада і Яраслаўля да дружбы не знайшлі адпаведнага водгуку ў зале.*

Можа, заклікі былі занадта эмацыянальныя? Калі нехта крычыць «я галодны», а яды, здаецца, хапае, то міжволі задумваешся: можа, і сапраўды ў нас няма

чаго есці? Адбывалася, мусіць, нешта падобнае. І адна госця з Расіі нават сказала, што адчувае гарчынку, бо будзе жыць цяпер за мяжой. Гэта ўяўленне спрошчанае, неразуменне таго, як мы збіраемся жыць. Я магу толькі іранічна ўсміхнуцца, калі нехта ўсур'ёз дапускае, што з таго дня, калі перастане існаваць Саюз у ранейшай форме, мы атрымаем поўную незалежнасць, што з гэтага дня ў мяне хоць на ёту паменшае цікавасці і павагі да Пушкіна, Талстога, Лермантава, Глінкі, Чайкоўскага, да ўсёй вялікай рускай культуры, літаратуры. За каго ж тады мяне як прадстаўніка народа і ўвесь мой народ мець? Няўжо мы такія недаразвітыя, што пойдзем на такі духоўны разрыў?

Лозунгі і заклікі да дружбы ў свой час нарабілі шмат шкоды. Пад гэтымі лозунгамі ў беларускіх гарадах не засталося ніводнай беларускай школы. Пачалі знікаць яны і ў вёсках, тыражы беларускіх кніг падалі і падалі, засталося на ўсю рэспубліку толькі тры беларускія тэатры.

Таму, можа, і добра, што ўчора гаварылі пра Багдановіча, пра яго паэзію і ў той жа час — пра апошнія палітычныя падзеі. Яны адпавядалі тым грамадскім, дзяржаўным, палітычным ідэалам Багдановіча, за якія ён змагаўся ўсё сваё нядоўгае жыццё.

Але ж вы прыйшлі ў Камісію па культуры, а мы яшчэ і не пачалі пра яе гаварыць. Дык вось, тут праблем столькі, што іншы раз даходзіш да роспачы. Я ўжо казаў вам, што на сесіі не прайшла прапанова нашай камісіі аб беларускай мове ў сродках масавай інфармацыі.

*А якія меркаванні супраць гэтай прапановы?*

Выказванняў было нямнога — два-тры. Мы, маўляў, фарсіруем падзеі, ёсць Закон аб мовах, і няхай ён працуе. А дэпутат Лукашэнка абвінаваціў нас у тым, што мы быццам бы «бяром за горла, насаджаем» беларускую мову.

*Хіба можна гаварыць аб «насаджэнні» роднай мовы ў сябе дома?*

Вось і я думаю, навошта такія моцныя словы? Закон аб мовах прыняты, але, на вялікі жаль, належным чынам не працуе, як, дарэчы, не выконваюцца ці дрэнна выконваюцца многія іншыя законы. Калі такое становішча захаваецца і надалей, то навошта тады гэты Вярхоўны Савет, гарачыя спрэчкі на яго пасяджэннях? Прыняццем пастановы аб мове ў сродках масавай інфармацыі мы хацелі забяспечыць беларускамоўным выданням хоць бы нейкія прыярытэты.

Калісьці я пераклаў для беларускага тэатра п'есу Шукшына «Энергічныя людзі». Дык вось мне здаецца, што зараз, калі мы ўступаем у рынак, «энергічныя людзі» адчулі смак жыцця і наўрад ці збіраюцца лічыцца з беларускай кнігай, газетай, часопісам. Пры абмеркаванні пастановы я спаслаўся на пісьмо з часопіса «Вясёлка». Адзіны дзіцячы часопіс на беларускай мове не выходзіць ужо чатыры месяцы — няма афсетнай паперы, у той жа час чытаю, што ў кааператараў праблем з паперай няма...

Добра было б, каб грамадскасць наша раптам схамянулася, падрасла духоўна і душэўна, разумова, усвядоміла б нарэшце свой абавязак перад нацыянальнай культурай, мовай, адукацыяй, мастацтвам, літаратурай. Схамянулася б і выйшла на вуліцы з лозунгамі «Ратуйма нашу мову, нашу культуру!», як выходзіла і мітынгавала вясной па эканамічных, палітычных пытаннях. Дык гэтага ж няма. У родным горадзе я не бачу прыкметных зрухаў на карысць роднай культуры. Пра ўсё трэба клапаціцца дзяржаве. А дзе дзяржава возьме сродкі на культуру, асвету, выданне кніг, калі столькі мільярдаў траціцца на армію. У Амерыцы пяць-шэсць працэнтаў нацыянальнага бюджэту траціцца на ваенную справу, а ў нас 25—30. А колькі грошай ішло на падтрымку так званых брацкіх камуністычных партый?! Ці разумна ўсё гэта?! За дзесяцігоддзі я ўжо стаміўся гаварыць: мы бедныя, але калі мы сёння дадзім належныя грошы на культуру і адукацыю, то ў нас хоць з'явіцца надзея, што мы

пабагацеем. Не зрабіўшы гэтага, так і застанёмся жабракамі.

*Многія кіёскі «Саюздруку» не хочуць браць для продажу беларускамоўныя выданні. У той жа час мы даволі часта чуем скаргі, атрымліваем пісьмы, у якіх людзі пішуць, што не могуць знайсці ў кіёсках беларускую газету або часопіс. Чаму такое здараецца?*

Гэта можа быць сабатаж палітычнага характару. А ёсць жа яшчэ людзі, якіх чамусьці раздражняе наша беларуская мова, і яны ставяцца да яе з пагардай.

*Дык патрэбны супраць іх нейкія дзяржаўныя захады?*

Але ў законе не напісана, і не можа быць напісана, што, калі чалавек не любіць беларускую мову, яго можна прыцягваць да нейкай адказнасці. Гэта справа сумлення, выхавання, культуры. Для мяне ясна, што такому чалавеку бракуе культуры, хоць у яго можа быць тры дыпломы аб вышэйшай адукацыі. Ён не паважае мову цэлага народа. А калі трапіў такі мованенавіснік у газетны кіёск, то чаго ад яго чакаць? Гэта адна прычына. А другая заключаецца ў тым, што ніхто не хоча несці страты. Ёсць рызыка, што беларускамоўнае выданне не разыдзецца. А паколькі кіяскёр цяпер сам сабе гаспадар, на яго ніхто не можа «націснуць», то ён заказвае газеты і часопісы, якія хутчэй раскупляюцца. Вось тут і зноў жа патрэбна дзяржаўнае рэгуляванне, патрэбна праверка выканання Закона аб мовах. Калі чалавек не ўспрымае закон і не выконвае яго, то, відаць, ён не спраўляецца са сваімі абавязкамі. Тое ж самае і з распаўсюджвальнікамі прэсы.

*Апублікаваны праект новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Як раней, то адразу б пачалося яго ўсенароднае абмеркаванне. А ў нас пакуль — цішыня. Ці не здаецца вам, што ў народзе з'явілася нейкая апатыя, нават абыякавасць да новых законаў, пастаноў?*

Давайце трошкі пачакаем, спадзяюся, што людзі яго

яшчэ чытаюць, а потым пойдзе і абмеркаванне. Падзеі апошняга часу настолькі незвычайныя, што не даюць людзям магчымасці засяродзіцца на такіх вялікіх дакументах. У краіне ўвесь час адбываюцца новыя значныя перамены. Любая Канстытуцыя — Асноўны Закон, па якім жыць народу, — прымаецца не на адзін год. Канстытуцыя разлічана на стабільнасць у грамадстве. А пра якую стабільнасць можна гаварыць, калі сёння ў нас адно, заўтра другое, а пасляззаўтра трэцяе. Таму я не спяшаюся абвінавачваць наша грамадства ў пасіўным стаўленні да новай Канстытуцыі. Хаця наогул пасіўнасць вялікая, я б сказаў, нават апатыя. Гляджу часам, як тэлежурналісты пытаюцца ў людзей на вуліцы, што яны думаюць пра наша жыццё. Адны нявесела ўсміхаюцца, другія безнадзейна махаюць рукой. «Жывём, пакуль жывецца,— адказваюць трэція,— а ці будзе што заўтра даць дзецям есці, у што апрануцца, Бог ведае».

*У такіх умовах культуры, мусіць, асабліва цяжка. Як пераканаць людзей, што культура — гэта не толькі кіно, музыка, літаратура. Не будзе культуры паводзін, высакароднасці — яшчэ больш «расцвіце» махлярства, злачыннасць. Да чаго дойдзем?*

На жаль, у нас культуру так і прывыклі разумець як культурную ўстанову: тэатр, Палац культуры, ну яшчэ бібліятэка. Спрошчаны падыход да самога паняцця культуры. А культура — гэта перш за ўсё сам чалавек, яго духоўны ўзровень, нарэшце, чалавечае ў чалавеку. Культурны чалавек вызначаецца сваімі адносінамі да іншых людзей, да працы. Толькі некультурны чалавек можа сабе дазволіць кепска працаваць. Культура праяўляецца ў адносінах чалавека да зямлі, да прыроды. Варвар знішчае сваё ж асяроддзе замест таго, каб зрабіць яго лепшым. Культура відаць у адносінах да спадчыны, да мінулага свайго народа, само сабой — і да мовы. Цэлы комплекс самых розных аспектаў дае магчымасць меркаваць, культурны перад намі чалавек ці не.

*Як жа ў нашых нечалавечых умовах захаваць чалавечнасць? Што нам дапаможа выратаваць культуру?*

Дапамагчы захаваць культуру можа толькі культура. Скажам, на развіццё культуры патрэбны грошы, але недастаткова культурны дзяржаўны дзеяч не здольны гэта зразумець, і пытанне з фінансаваннем культуры амаль не рушыцца з месца. Мы тут сёння згадвалі і тых, ад каго залежыць выданне кніг, і распаўсюджванне прэсы, і будаўніцтва тэатраў. Мала сярод іх высокакультурных людзей. А каб яны з'явіліся, пачынаць трэба з калыскі, з дзіцячага сада, гадаваць і выхоўваць. Будзе дастаткова свядомых працаўнікоў — і паступова культура пераможа.

Паглядзіце, якія сялянскія падворкі ў Францыі, Чэхаславакіі, нават у Прыбалтыцы. Парадак, як у храме. А ў нас?..

*А як вы лічыце, што прывяло беларусаў да такога культурнага заняпаду? Ці мо тут праяўляюцца нейкія нацыянальныя рысы?*

Ну не! Наконт нацыянальных рыс давайце будзем больш асцярожнымі, а то можна напаклёпнічаць на свой жа народ. І наогул я не стаў бы гаварыць так ні пра адзін народ. Хто сумняваўся ў цэлым у высокай культуры нямецкага народа? Ніхто! А паглядзіце: памяняліся палітычныя ўмовы, і мільёны людзей удалося збіць з панталыку, пазбавіць элементарнай культуры. Замест таго каб браць у рукі плуг, касу, музычны інструмент, кнігу, людзі бралі аўтаматы і ішлі вайной на іншыя краіны. У кожным народзе ёсць людзі менш, больш і высокакультурныя. Прычым вельмі часта гэта прыродныя якасці. Колькі мне за жыццё даводзілася бачыць людзей зусім неадукаваных, але якая ў іх была культура,які такт, які густ!

*Дык што ж нас так сапсавала?*

У гэтым сэнсе, я думаю, вялікую шкоду прыносяць так званыя рэвалюцыі ўвогуле на зямлі і на нашай таксама. Культура збіраецца па кропельцы, як

мёд у сотах. Культура — гэта традыцыя і яе пастаяннае развіццё, а не ломка. А мы ў 1917 годзе адным махам рашылі перакроіць усё жыццё, увесь наш быт, светапогляд, усе нашы звычаі, абрады, завядзёнкі.

Мы столькі пісалі на працягу дзесяцігоддзяў пра росквіт культуры, а перамагло бескультур'е. Парадокс. Наша вялікая трагедыя.

*І сёння мы таксама ў пэўным сэнсе перажываем рэвалюцыю. Можа, таму так цяжка нашай культуры?*

Так, нешта падобнае мы зараз перажываем. Я, напісаўшы ў свой час нямала вершаў у гонар рэвалюцыі і рэвалюцыйных пачынанняў, пераконваюся, што ёсць вартасці больш значныя ў лёсе кожнага чалавека. Гэта праца, дабрыня, праўдзівасць, прыстойнасць, сумленнасць. А рэвалюцыя не дала таго, чаго ад яе чакалі.

*І ўсё ж, калі можна, давайце скончым на больш аптымістычнай ноце. Можа, ёсць нейкая надзея на выратаванне?*

Не скажу, што я ў жыцці вельмі вялікі аптыміст, але ўпадаць у роспач не збіраюся. Думаю, што ў нашага народа хопіць розуму і сумлення, каб выйсці з гэтага становішча з чалавечай годнасцю. Каб не дайшло ў нас да таго, што мы бачым у многіх рэгіёнах краіны. Папросту кажучы, каб не дайшло да крыві. Бо гэта ўжо самае яркае сведчанне, што людзей пакінуў розум — і розум, і сумленне. Я веру, што мы застанёмся ў гэтым сэнсе сапраўднымі людзьмі і чалавечнасць нас не пакіне.

## НАРОДЫ ПРАЧНУЛІСЯ І БУДУЦЬ СЦВЯРДЖАЦЬ СВАЕ ПРАВА НА НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

**Даклад на сесіі Вярхоўнага Савета БССР**
***17 студзеня 1991 г.***

Шаноўны Прэзідыум, паважаныя дэпутаты!

Перш за ўсё я мушу выказаць пэўнае здзіўленне

прапановай Старшыні Вярхоўнага Савета Мікалая Іванавіча Дземянцея нічога не абмяркоўваць тут па літоўскай сітуацыі. Маўляў, дэлегацыя ад Прэзідэнта СССР з'ездзіла ў Літву, ва ўсім разабралася і больш гаварыць няма пра што. Я разумею падтрымку залы, а іменна — неабходнасць неадкладна пагаварыць аб тым, што ўсіх нас хвалюе і проста не дасць нам спакойна працаваць і рашаць іншыя пытанні.

Наша дэлегацыя прыехала ў Вільню к вечару заўчора. Мы, на жаль, толькі частка дэлегацыі, паспелі яшчэ пабываць у Вярхоўным Савеце, сустрэцца і пагаварыць з кіраўнікамі Вярхоўнага Савета, у прыватнасці з намеснікам Старшыні і сакратаром, а таксама са старшынёй Камісіі па нацыянальных пытаннях, з міністрам аховы здароўя Літвы і з некаторымі дэпутатамі.

Назаўтра было пахаванне ахвяр, і на гэта пайшоў амаль увесь дзень — з ранку да вечара, паколькі і мы прымалі ўдзел у пахавальным рытуале. Тым не менш, пасля жалобнага мітынгу, мы паспелі спаткацца з работнікамі ЦК Камуністычнай партыі Літвы, а вечарам прынялі ўдзел у пасяджэнні Вярхоўнага Савета Літоўскай рэспублікі, дзе нашай дэлегацыі было дадзена слова. Выступіў кіраўнік дэлегацыі, выказаў ад імя нашага Вярхоўнага Савета адносіны да падзей, тое, што можна было сказаць за некалькі прадастаўленых хвілін.

Вельмі цяжка пераказаць уражанні, якія ўсе мы і кожны з нас прывезлі. Я спадзяюся, што апрача мяне выступяць і члены афіцыйнай дэлегацыі, і дэпутаты, якія не ўваходзілі ў афіцыйную дэлегацыю, але таксама пабывалі ў гэтыя дні ў Вільні. Маё першае ўражанне — гэта ненатуральнасць, нейкая недарэчнасць, уродлівасць самой гэтай сітуацыі, а іменна таго, што мы ўбачылі. Гэтыя абарончыя збудаванні з магутных бетонных блокаў вакол будынка Вярхоўнага Савета, барыкады на вуліцах, якія вядуць да Вярхоўнага Савета, усе гэтыя загароджы, завалы, сцены. Гэтаксама і вогнішчы, якія гарэць дзень і ноч, каля якіх грэюцца, якімі вечарамі асвятляюцца. І

вогнішчы з узброенымі людзьмі каля афіцыйных будынкаў, танкі, бронетранспарцёры. І тая зацятая непрымірымасць, якая адчувалася паўсюдна. Усё гэта, паўтараю, здаецца нейкай вялікай ненатуральнасцю, недарэчнасцю ў горадзе, які з'яўляецца адным са старажытных цэнтраў культуры ў Еўропе, у тым ліку — калыскай нашай беларускай культуры.

Я ўспамінаю выступленне прэзідэнта Гарбачова 14 снежня на сесіі Вярхоўнага Савета ў Маскве — перадавалася вечарам па тэлебачанні. У мяне ўжо тады было ўражанне, што мне не даводзілася раней слухаць такой непераканаўчай прамовы прэзідэнта, як гэта. У мяне было ўражанне, што палітыка нашай краіны — і ўнутраная, і міжнародная — як бы правалілася ў нейкую яму, выбрацца з якой вельмі няпроста. Яму трэба выраўняць. Што гэта значыць, як я разумею? А так, што трэба выраўняць усе рэспублікі і народы нашай краіны ў правах, зрабіць раўнапраўнымі, суверэннымі дзяржавамі на справе, а не на словах.

На маё разуменне, прычына прычын тых сумных падзей, што адбыліся ў нашай краіне раней, у іншых рэспубліках, і што адбыліся ў Літве, — недаацэнка нацыянальнага пытання напрыканцы дваццатага стагоддзя. Глухата і слепата да нацыянальных праблем проста невытлумачальныя, нармальнаму разуменню не паддаюцца.

Дарэчы, гэтая глухата характарызуе не толькі пазіцыю афіцыйных вышэйшых улад краіны, але і пазіцыю многіх палітычных і грамадскіх сіл у рэспубліках. Я думаю, што такая ж, я сказаў бы, шкодная пазіцыя і ў многіх нашых радыкалаў у Беларусі, радыкалаў, якія змагаюцца за дэмакратыю, за справядлівасць, і пры гэтым — поўнае ігнараванне клопатаў пра беларускую школу, пра беларускую культуру, мову, пра ажыццяўленне Закона аб мовах. І пры гэтым — асабістая непавага да беларускай мовы.

Я многа ў гэтыя дні думаў, як і ўсе вы, і пры-

ходжу да высновы, што тым, хто задумаў і абвяшчаў перабудову ў нашай краіне, трэба было пачынаць, па-першае, з нацыянальнага пытання як аднаго з найбольш складаных і цяжкіх для вырашэння. Затым — з выратавання аўтарытэту Камуністычнай партыі і з навядзення сацыяльнага парадку, сацыяльнай справядлівасці ў краіне. Я ўпэўнены, што тады не дайшло б у рэспубліках да самой ідэі сепаратызму, дзяржаўнай адасобленасці. Проста ў гэтым не было б патрэбы, калі б праблемы вырашаліся і былі дэмакратычна вырашаны раней. Народ любой рэспублікі бачыў бы, што мы ў Саюзе рэспублік, але — поўныя гаспадары на сваёй адвечнай зямлі, і жывём так, як лічым лепш, як лічым разумным.

Паважаныя дэпутаты, карысць ад абмеркавання сітуацыі ў Літве, і не толькі ў Літве, а ў цэлым у Прыбалтыцы і ў другіх рэспубліках, будзе тады, калі мы будзем рабіць высновы з гэтых падзей і з таго, што мы пра іх ведаем, калі мы будзем выводзіць нейкія ўрокі. А ўрокі вельмі цяжкія і вельмі горкія, пакутныя. І мабыць, галоўны ўрок — што ніякія ўрокі гісторыі нам не ідуць на карысць.

Сумленныя, добрыя грамадзяне краіны спадзяваліся, што пасля сумных падзей у Тбілісі падобнае больш ніколі нідзе ў нашай краіне не паўторыцца. І аднак жа гэта паўтарылася. Зноў пралілася кроў — і зноў па віне тых жа самых антыдэмакратычных сіл.

Таму, што пралілася кроў і ў многіх людзей адабрана жыццё, як вы разумееце, апраўдання не будзе. І даравання таксама.

Чаго дабіліся або чаго могуць дабіцца ў такіх сітуацыях пераможцы, дакладней — нібыта пераможцы? Яшчэ большай нянавісці і непрыязні з боку пакрыўджаных. Яшчэ большага абвастрэння напружанасці палітычнай сітуацыі, у чым наша дэлегацыя і пераканалася ў Літве. Як, напрыклад, пачнуць глядзець адзін на аднаго літоўцы і нелітоўцы з гэтага часу? Недавер яшчэ больш вырасце, і выправіць стано-

вішча стане яшчэ цяжэй. Хіба гэта ўваходзіла ў задачу Прэзідэнта і Вярхоўнага Савета СССР ці ЦК КПСС — павялічыць у грамадстве напружанне, яшчэ больш абвастрыць сітуацыю? Хіба гэта ўваходзіла ў абавязкі так званага камітэта нацыянальнага выратавання? Хіба тыя, што пайшлі на гэты крок, не разумелі, які можа быць вынік? Яны павінны былі гэта зразумець. Павінны былі зразумець, што гэта можа стаць пэўным паваротным момантам для ўсёй палітыкі ў нашай краіне. А ў пэўнай меры, калі хочаце, і для сусветнай палітыкі. Мы ўжо ведаем водгукі свету на гэтыя падзеі. Калі ж людзі гэтага не разумеюць, дык якія ж тады яны палітыкі і дзяржаўныя дзеячы, што прымаюць рашэнні, не заглядваючы нават на адзін, два дні наперад?

Якія яшчэ, на маю думку, урокі напрошваюцца з сітуацыі, што склалася? Я хацеў бы гаварыць пра памылкі Вярхоўнага Савета Літоўскай рэспублікі, якія заключаюцца, я сказаў бы, у недаацэнцы рэальнага стану рэчаў. Мне думаецца, над гэтым павінны думаць ва ўсіх рэспубліках, і мы з вамі ў прыватнасці. Працэс суверэнізацыі, набыцця дзяржаўнай самастойнасці — гэта працэс доўгі, разлічаны на многія гады. Адразу, з ходу, нейкім адным дзеяннем такіх пытанняў не вырашыш. У мяне ўражанне, што ў Літве і ў некаторых іншых рэспубліках, не лічачыся, паўтараю, з рэальным станам рэчаў, рашылі вырашыць гэтыя пытанні як найхутчэй. Мне думаецца, што больш дзяржаўнага розуму было і ёсць у тых дзяржаўных дзеячаў Літвы, якія якраз хацелі б спакайней і паступова вырашаць гэтае пытанне. Заканадаўча і практычна, паўтараю, паступова, без націску, без гвалту забяспечыць эканамічную, палітычную і культурна-духоўную самастойнасць у рэспубліцы. Падзеі, як бачыце, развіваюцца так, што такія людзі (я маю на ўвазе перш за ўсё Бразаўскаса, Прунскене) наогул адхілены сёння ад высокіх пасад у краіне.

Другі ўрок таксама датычыць не толькі Літвы,

Прыбалтыкі, але і нас з вамі. Не трэба распальваць нянавісці да Савецкай улады, да асноў таго ладу жыцця, які дзесяткі гадоў меў месца ў нас, — да сацыялістычнага ладу жыцця, гэтаксама, як да камуністаў і Камуністычнай партыі агулам. Бо гэта таксама авантурызм і нежаданне ўлічваць рэальную сітуацыю. Мільёны людзей пражылі дзесяткі гадоў у пэўных сацыяльных умовах, у пэўных палітычных умовах. Людзі вераць, як і верылі, што гэта іх жыццё, іх лёс. Гэта, паўтараю, мільёны людзей, і калі іх крыўдзіць непрадуманымі, безадказнымі заявамі, гэтым самым можна толькі выклікаць варажнечу, нянавісць і давесці справу да грамадзянскай вайны. Я вымушаны пра гэта гаварыць таму, што ўжо стала настолькі звыклым абвінавачваць усіх камуністаў агулам, што проста лічыцца ненармальным, калі ты не сказаў нічога рэзка адмоўнага, негатыўнага ў іх адрас. Нядаўна (пра гэта паведамлялася ў друку) забілі рэдактара адной з абласных газет Расіі Івана Іванавіча Фаміна. Я не сумняваюся, што забілі сапраўднага камуніста. Гэта да ведама тых, хто спяшаецца перш за ўсё абвінавачваць камуністаў. Я амаль не сумняваюся, што забілі прадстаўнікі тых самых сіл, якія б хацелі зрабіць самы горшы пераварот у нас і давесці да канчатковага развалу нашу краіну.

Я хачу сказаць, што людзі, якія жывуць у Прыбалтыцы, — маю на ўвазе не літоўцаў, не латышоў, не эстонцаў, а людзей, якія прыехалі туды жыць, — яны не вінаваты. Гэта — савецкія людзі, выхаваныя ва ўмовах сацыялістычнага ладу. Гэта — людзі пэўных пераканнняў, у тым ліку і камуністычных, і з гэтым трэба лічыцца. Яны таксама маюць права на павагу, на талерантныя адносіны, на спачуванне. Ім надзвычай цяжка. Не заўсёды яны па сваёй уласнай волі туды паехалі, але калі і па ўласнай волі, то яны паехалі з поўным даверам, што гэта нашы, савецкія сацыялістычныя рэспублікі і яны там будуць жыць і працаваць, як савецкія людзі. І ствараць ім сёння гор-

шыя ўмовы жыцця нельга. З гэтым, аднак, не ўсе ў Прыбалтыйскіх рэспубліках, ды і ў іншых, як мы ведаем, хочуць лічыцца, і не лічацца.

Маё асабістае агульнае ўражанне пра сённяшнюю Літву — нейкая тупіковасць сітуацыі, якая склалася. Ідэя самастойнасці, суверэннасці, незалежнасці ахапіла, бадай, усіх літоўцаў і многіх нелітоўцаў. Розніца толькі ў разуменні спосабаў і тэрмінаў атрымання гэтай незалежнасці.

Учарашняе пахаванне ахвяр у Вільні засведчыла, што масы літоўскага народа рашуча настроены адстойваць сваё права на самастойнасць. Мне цяжка сказаць, ці іх было 200 тысяч, ці 300 тысяч, ці паўмільёна, ці мільён, таму што былі запруджаны народам літаральна ўсе вуліцы, усе плошчы. Я ў сваім жыцці ніколі падобнага не бачыў і сумняваюся, ці давядзецца яшчэ калі-небудзь убачыць такое пахаванне, такую ўзбуджанасць народа. І разам з тым — такую гатоўнасць спакойна, стрымана вырашаць свае праблемы. Дарэчы, прыемна ўразіла нас і работа літоўскага парламента — вельмі спакойная, без ніякіх эмацыянальных перахлёстаў: і абмеркаванне, працэс галасавання па-дзелавому стрыманыя — так, як, мне ўяўляецца, і павінна быць.

Рашаць пытанні, якія абвастрыліся, — нацыянальныя пытанні — трэба было нашмат раней, але іншага выйсця ў нас няма, як рашаць іх зараз. Хоча хто ці не хоча, міла каму ці не міла, а вяртання назад не будзе. Народы і рэспублікі прачнуліся і будуць сцвярджаць свае права на суверэннасць, на самастойнасць і незалежнасць. Калі гэтага не зразумець і не павярнуцца да гэтай праблемы душой і сэрцам, гаварыць пра падпісанне Саюзнага дагавора, пра заключэнне гэтага дагавора проста, на маё перакананне, няма сэнсу. Ён не будзе падпісаны. Відаць, падпісанне яго не такое блізкае, як нам уяўляецца.

## ИСПЫТАНИЕ НА ДОСТОИНСТВО

«Правда», *20 января 1992 г.*

Человек за свою жизнь — особенно в такие эпохи, как наша, — неоднажды пересдает экзамен на человеческое и гражданское достоинство. Оно же — для всякого, имеющего определенный род занятий, — есть и достоинство профессиональное. Скажем, достоинство учителя, достоинство хлебороба и инженера, достоинство писателя, художника, журналиста... Всегда ли, каждый ли раз человек выдерживает этот экзамен — испытание на совесть, на принципиальность, на нравственное мужество? Нет, конечно. Печально, когда такое случается. Особенно печально, когда чувство гражданского и профессионального достоинства изменяет интеллигенту.

Вот уже который год с тревогой замечаю, что в среде художественной интеллигенции происходит что-то неладное по части гражданского достоинства и чести. Например, известный писатель (художник, артист, кинорежиссер и т. д.) с легкостью необыкновенной меняет свои политические взгляды, идейные убеждения. Понимаю: товарищ долго-долго, целые десятилетия, находился в заблуждении и внезапно прозрел. Ну что ж: вполне возможно и такое. Ныне многие прозревают. Это, повторяю, понять не трудно. Но как понять, почему этот товарищ так рьяно начал публично изобличать других, якобы не прозревших и не покаявшихся своих собратьев? Что дает ему право выступать в роли судьи или, скажем мягче, общественного обвинителя? Разве вы сами, уважаемый коллега, десятки лет не работали на то же заблуждение или на ту же ложь-неправду? Ах, несколько меньше, чем некоторые другие? Возможно. Но зато, не отпирайтесь, больше, и, может, гораздо больше, чем уже не некоторые, а многие другие. И что же мы не видим, не слышим вашего личного покаяния, глубокого сожаления о содействии — творчеством, и не

только, — распространению и утверждению в нашей жизни лжи-неправды? Где ваше личное страдание от того, что замысел, увлекший миллионы доверчивых граждан, и вас тоже, повлекший миллионы смертей и крушений судеб, оказался неудачным, несостоятельным? Ведь настоящий художник, серьезный, честный, совестливый, не может отреагировать всего лишь легким огорчением, мимолетным чувством досады. Для талантливого художника это — если не трагедия, то большая драма всей его жизни. Вот и попытайтесь выразить эту свою, и не только свою, драму в предпочитаемых вами художественных жанрах. Это будет интересно и полезно для общества. А что же вы? Занялись «охотой на ведьм»? В конце августа — начале сентября ушедшего года многие московские газеты пестрели заголовками с этим с закавыченным словосочетанием. «Отстреливать не будем, но отловить надо!» — с непонятным сладострастием изощрялись хоробрые журналисты. «Ладно, Распутина пожалеем, — добавляли снисходительно,— а вот прочих...» Оказывается, уже можно и так — со снисхождением к тому, кем должно гордиться Отечество. И такой фразеологией, такой лексикой — можно.

Это что же — достижение процесса демократизации общества, прекраснейшие плоды нашего духовного обновления?

Читал, встречал, видел — в газетах и журналах 20—30-х годов, в статьях о талантливых писателях — совсем такой же беспощадный прокурорский тон и подобную фразеологию. И такую же готовность отодвинуть, оттиснуть на задворки «инакомыслящих» — с тем, чтобы потом и совсем вытеснить, убрать из литературы.

Странно, не правда ли? Ведь перестройка задумывалась не только во имя экономического прогресса, но и для возрождения духовного, нравственного. В моем понимании, так прежде всего именно для этого. Что же не прибавилось в обществе этого самого духовно-нравственного начала? Что же происходит с нами?

От просмотра иных телепрограмм остается впечатление, что окололитературные и околотеатральные скоморохи и юродивые полностью завладели экраном и рьяно, со свойственным им цинизмом, приглашают многомиллионную аудиторию к соучастию в оплевывании трагической судьбы народа. Добрых мыслей и чувств на этой земле как будто совсем уже не осталось. Как будто на многотрудном пути сограждан добрых, хороших дел и деяний тоже никогда не было. Самое печальное — как большинство из сидящих в зале на пошлое скоморошество реагирует. Не возмущается, не протестует, а приемлет и даже благодарит аплодисментами.

Почему мы не пытаемся активно выступать против этого и подобного ему очевидного зла? Или не понимаем, что творится? Да понимаем, конечно! Тогда — что же? Неужели до такой степени социальная апатия поразила нас? Лично я убежден: накипь с нашей духовной жизни будет постепенно удалена. Очень долго терпеть ее мы не станем, будем понемногу избавляться. Лишь совершенно непонимающие, что есть душа народа, могут питать иллюзию, что эту душу можно окончательно убить ложью и грязью, что она не воспрянет и не возвысится, не очистит себя от гадкого, отвратного, что наплыло в наши края Бог весть откуда.

Процессы демократизации в сфере духовно-нравственной у нас во многих случаях обретают уродливые формы, потому что люди природно не готовы к заимствованным новшествам, навязанное чужое обрушилось очень бесцеремонно и многих сломило. Идет развращение народа, в определенном смысле младенчески незакаленного. Все наглее, все циничнее, все агрессивнее являет себя пошлость. Да, надо учиться рыночным отношениям, надо уметь торговать — но не душами же, не душами! Мы всегда, испокон веку презирали это занятие, это дьявольское ремесло — куплю-продажу душ человеческих. Разве это чувство презрения оставило нас? Не доведи Господи!

Впечатление таково, что с обретенной свободой духа и слова, с полученной возможностью более полно выразить себя и свое отношение к реальностям мира мы пока что справляемся плохо. Дело, как я разумею, в эстетической несостоятельности, политическом бескультурье, в примитивной жадности самоутверждения, в вульгарном стремлении к власти. Последнее дает о себе знать все сильнее. Вот где обнаруживает себя подлинное, неподдельное желание иной очень уж артистической особы. Власть, оказывается, нужна, власть! Ну и все, что с нею приходит, гарантом чего она является. Так что, молодые-юные таланты, к борьбе за власть будьте готовы!..

Если демократические реформы, перемены в экономическом и политическом строе государства не на пользу нравственному благополучию общества, его культуре, искусству, литературе, то считать их прогрессивными оснований не имеется. Не знаю, как в других государствах Содружества, а у нас в Беларуси положение белорусской книги, белорусских журналов и газет становится с каждым днем все хуже. Полиграфические и прочие материальные мощности захватывают «энергичные люди», не имеющие никакого отношения к нашей национальной культуре. Раньше бесчетное количество бумаги расходовалось впустую на партийно-политическую псевдонауку и лжепублицистику. Теперь, вместо той несъедобной, отупляющей сознание печатной продукции, зеленой улицей идет якобы деидеологизированная халтура, оккультическая, полупорнографическая и прочая пошлость. Да так идет — что не продохнуть!.. Пошлость, дающая баснословные доходы ее распространителям.

Кажется, еще никогда государство не стояло так далеко в стороне от забот о душе человеческой, не было в такой степени безучастным к тому, что с нею, этой душой, делают обезумевшие от первых миллионных удач воротилы «культурного» и прочего бизнеса. Как будто государственные мужи всерьез верят, что

можно построить правовое, цивилизованное общество на нравственно порочной основе. Главный же порок в том, что жадные, бесстыжие люди имеют возможность, ни на копейку не производя товара, огребать фантастические суммы, мгновенно превращаться в миллионеров. За счет всех честных людей, разумеется, за счет тех, кто живет с трудовой мозоли, кто воровать не способен.

А что же эти честные люди? Что они думают? У них есть исторический опыт. Они знают: все указы всех президентов рано или поздно будут опрокинуты, если они — вразрез с моралью человека труда, с совестью народа. Потому что эта совесть была, есть и будет. Она — не химера. И она — неубиенна. Непобедима. И подлинная культура зиждется токмо на ней.

Но — трудно говорить о таких понятиях, как совесть, когда вокруг так бурно бушуют-кипят политические страсти. Правда, за последние месяцы в нашем общем душевном состоянии что-то начинает меняться. Не так глаз, как внутреннее чутье улавливает первые приметы протрезвления. Или, может, это еще всего лишь предчувствие грядущих перемен? Ощущение таково, как будто борцы-герои в конфронтующих станах достаточно устали от взятой на себя миссии и призадумались. Дай Боже, чтобы было именно так. Ведь только в спокойной эмоционально-психологической атмосфере могут родиться решения в пользу национального согласия, благополучия и благосостояния граждан. Ибо только в такой атмосфере может властвовать нравственность. Это и будет ее победой. Это и будет означать, что экзамен на достоинство выдержан.

## ВЕЧНАЕ СУМЛЕННЕ БЕЛАРУСІ

**Слова на ўрачыстым вечары, прысвечаным 100-годдзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча** *9 снежня 1991 г.*

У гэтыя незвычайныя, сапраўды гістарычныя дні, калі вырашаецца лёс нашай дзяржавы, нашай «краіны-

бранaчкі», на беларускай зямлі завяршае сваё шэсце вялікае свята паэзіі і культуры. Свята ў гонар аднаго з самых слаўных сыноў Бацькаўшчыны, геніяльнага паэта, выдатнага мысліцеля і бліскучага літаратурнага крытыка Максіма Багдановіча. Сёння — эпагей святкавання, менавіта сёння спаўняюцца сотыя ўгодкі з дня яго нараджэння. Год, які неўзабаве спадзе з календара вечнасці, напэўна, увойдзе у гісторыю чалавецтва з многімі адметнымі назвамі. Ну а для нас, беларусаў, як і для культурнай грамадскасці многіх іншых краін свету, гэта яшчэ і год Максіма Багдановіча. Пачаўшыся на зямлі, дзе паэт нарадзіўся, свята Максіма празіхацела прыгожымі яркімі водбліскамі і далёка па-за межамі Беларусі — у гарадах Расіі і Украіны, у Прыбалтыцы і Польшчы, у Парыжы і Нью-Йорку. Наперадзе — вялікі ўрачысты вечар у Маскве. І мы, ведаючы, што значыць імя Багдановіча ў беларускай, усеславянскай і сусветнай літаратуры, не здзіўляемся гэтаму: усё справядліва. І аднак жа — ці так ужо мы ведаем таго, чыё свята святкуем? Хто ён і што ён — Максім Багдановіч — у духоўным жыцці беларускага народа і для кожнага з нас? Якія адказы пачулі б мы сёння на гэта пытанне? Найбольш частымі, сярод іншых, думаю, былі б наступныя: Максім Багдановіч — гэта вечнае сумленне беларускай паэзіі і самой Беларусі. Чым больш жыву — тым часцей і мацней яно стукаецца мне ў сэрца... Максім Багдановіч — гэта непераўзыдзены ў гісторыі беларускай культуры ўзор інтэлігента.

Максім Багдановіч — гэта мой пажыццёвы непазбыўны боль.

Ну, а многія, напэўна, адказалі б зусім проста. Багдановіч — гэта:

> «Здароў, марозны звонкі вечар!
> Здароў, скрыпучы мяккі снег!»

Або:

> «Народ, Беларускі Народ!
> Ты цёмны, сляпы, быццам крот.
> Табою ўсягды пагарджалі,

цябе не пушчалі з ярма,
І душу тваю абакралі, —
У ёй нават мовы няма».

Або:

«Бійце ў сэрцы іх — бійце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!..»

Або:

«Беларусь, твой народ дачакаецца
Залацістага яснага дня».

Думаю, што вось такія адказы — адказы ягонымі ж радкамі — засведчылі б самае галоўнае, а менавіта: яго паэзія і сёння жывая, як само жыццё, і абыйсціся без яе — проста немагчыма!..

Дасканала выхаваны на вялікай рускай літаратуры і культуры, на класічнай і сучаснай літаратуры свету, на літаратуры і народнай творчасці Беларусі, Багдановіч стаў узорам гарманічнай еднасці ўсяго гэтага шчаслівага спалучэння, і ў гэтым сэнсе застаецца прыкладам для ўсіх нас, для ўсёй беларускай інтэлігенцыі.

Бадай, яшчэ ніколі яго ўрокі і запаветы не адкрываліся чытачам з такой глыбінёй, як сёння, і ніколі не ўспрымаліся з такой удзячнасцю, як сёння, — сёння, калі збываецца векавечная мара беларускага народа аб свабодзе і незалежнасці.

Ні адно паэтычнае, мастакоўскае і наогул нацыянальнае імя ў Беларусі не называецца з такім светлашчымлівым пачуццём, як яго. З усіх дарагіх, запаветных у памяці народа імён ягонае імя па-асабліваму патрабавальна напамінае кожнаму з нас пра наш галоўны чалавечы і грамадзянскі абавязак. Нашы адносіны да Багдановіча, нашы пачуцці да яго не падлягаюць параўнанню, як непараўнаны яго творчы дар, яго паэтычны геній.

Як быццам адчуваючы віну перад ім за ўсіх тых, хто не спяшаўся да яго на працягу доўгіх дзесяцігоддзяў, мы прыносім сёння яму ў вянок столькі любові і ласкі, столькі ўдзячнасці і малітоўнай паша-

ны, як, здаецца, ніколі нікому. Несумненна, адна з прычын гэтага — трагічны лёс паэта. Такі ўжо мы народ, беларусы, — чулы да болю, да гора і няшчасця, да трагедый чалавечых, і, можа, якраз гэта нас і ратуе, бо дабрыня, праўда і справядлівасць у рэшцэ рэшт непераможныя.

Як вядома, трагедыя паэта са смерцю яго на 26-ым годдзе жыцця не скончылася. Трагічны лёс напаткаў яго творчую спадчыну. Як драпежылі і ахайвалі — нават у школьных падручніках — прыгожы плён яго душы, — без таго, каб не скалануцца ад гневу, успомніць немагчыма. Але ў нас сёння свята — свята несмяротнасці паэзіі і паэта, — і гнеў недарэчы. Можна было б і зусім абмінуць увагай гэты момант, калі б не пагроза, што той пракляты час можа на нашу зямлю, у наша жыццё вярнуцца.

Мы шчыра радуемся сціплым знакам прызнання яго творчасці, яго імя ў вялікім чытацкім свеце, і ў той жа час разумеем, што сапраўднае адкрыццё Багдановіча — такое, якога ён заслугоўвае, — яшчэ наперадзе. Яно прыйдзе да паэта тады, калі прыйдзе і да яго Бацькаўшчыны Беларусі. І ў гэтым сэнсе можна сказаць, што пасмяротная трагедыя Багдановіча працягваецца. Таму што працягваецца трагедыя культуры, якой ён належыць, трагедыя мовы, якою ён пісаў, і, значыць, трагедыя народа.

Так, нават і ў гэты святочна-ўрачысты дзень, мы мусім помніць, што трагедыя нашага народа працягваецца. Першапрычына яе — у нашай нацыянальнай раз'яднанасці. У тым ліку і ў першую чаргу — у раз'яднанасці творчай і навуковай інтэлігенцыі Беларусі. Настолькі моцнае і глыбокае праклящце панявечыла нас, што дробныя эгаістычныя інтарэсы нярэдка бяруць верх, асляпляюць і не даюць праявіць волю добрую і разумную. Наша бяда — у неразуменні таго, чым трэба даражыць і ганарыцца. Удумаемся, шаноўныя: вуліца, на якой нарадзіўся геніяльны сын народа, да гэтага часу не названа яго імем. Нават наконт

пераносу праха паэта на Радзіму няма еднасці, хаця паэтычнае завяшчанне яго бадай усе мы ведаем на памяць.

Бяда яшчэ і ў тым, што ў нашым небе няма Бога, які пачуў бы наш голас. Пачуць жа ён зможа толькі тады, калі загаворыць з намі на мове гэтай зямлі, на мове народа, які жыве тут адвеку. Пакуль яго няма — нас на добрыя справы блаславўляюць вялікія паэты і вялікія мужы нацыі — такія, як Францішак Скарына, Кастусь Каліноўскі, Францішак Багушэвіч, Янка Купала, Якуб Колас, Максім Гарэцкі. Нас блаславўляе несмяротны дух Максіма Багдановіча. Прымем жа і сёння яго бласлаўленне, паклонімся-падзякуем яму і — за працу, дарагія сябры, — за адраджэнне Бацькаўшчыны, роднай мовы і культуры, нашай панявечанай духоўнасці. Менавіта на гэта блаславўляе нас ён — нябачна, але вечна існы тут, сярод нас, і сярод тых, што прыйдуць за намі, — што прыйдуць і праз дзесяткі і праз сотні гадоў, бо ва ўсім, што ёсць беларуская зямля і беларускае неба, яго душа, яго імя, яго боль, яго вера і надзея раствораны на вечныя векі!

## ОПАСНОЕ ЗАБЛУЖДЕНИЕ ОСТАЕТСЯ (О ТОМ, ЧТО ПРИНЕСТИ В ЖЕРТВУ НЕВОЗМОЖНО)

«Народная газета», *23 января 1992 г.*

Распался Союз нерушимый. Как мы, родившиеся и дожившие до сплошной седины в этом Союзе, верили, что он действительно нерушимый! И вот — все-таки распался. И образовалось Содружество Независимых Государств. Точнее — еще образовывается, потому как — что может случиться завтра или послезавтра — лично я ничего определенного сказать не могу. Тем не менее — реальность на сегодня такова. Одиннадцать из бывших пятнадцати республик Союза, объявив себя независимыми государствами, согласились сосуществовать — экономически, политически и ду-

ховно — в Содружестве. Надолго ли? Ненадолго? Навсегда? Вряд ли сегодня стоит искать однозначный ответ на этот вполне естественный вопрос. Впрочем, ответ зависит от того, чего кто из нас хочет. Кто хотел бы, чтобы совсем не надолго, а кто — чтобы на веки вечные. Ну а рассудит и решит только сама жизнь. У нее — своя логика, совершенно независимая от наших мнений и желаний. Хотя предвидеть ход событий, как мы знаем, в принципе возможно.

Вскоре после 8 декабря — после принятия Соглашения о Содружестве — у меня был краткий разговор с одним россиянином, отставным офицером, давно, прочно и с благодарностью судьбе осевшим в Беларуси. Товарищ был явно опечален и даже возмущен. «Ну как это можно так, как это можно? Беларусь и Россия — каждая сама по себе, по отдельности? Нет, это просто немыслимо!..» И я сказал пребывающему в смятенных чувствах товарищу: «Можно ли немного пошутить? Ну так вот: не расстраивайтесь, пожалуйста. Если уж вам станет так невмоготу без Беларуси — вы нас опять присоедините, как это сделала двести лет назад Екатерина Вторая. А теперь — позвольте нам почувствовать себя народом державным и независимым». — «Да вы скоро сами под наше крыло попроситесь», — ответил на мою горькую шутку товарищ. И тогда я продолжил: «А вы знаете, что, если бы у нас в стране нормальным образом, по-человечески осуществлялась национально-культурная политика,— ничего этого могло бы не быть вообще. Об этом вы хоть сегодня задумываетесь или попрежнему — нет? Ведь люди от добра добра не ищут. Все экономические трудности, все экологические и социальные неурядицы мы бы переносили вместе с вами — поскольку они у нас общие. Но как перенести убиение живой души нашей — родного языка и культуры, умерщвление нашей национальной духовности? Это принести кому бы то ни было в жертву — невозможно! Пока жив народ — с этим он не смирится никогда. Поймите же это, ради Бога!..»

Похоже, однако, что именно вот это понять труднее всего.

Сколько уже наговорено и написано за последние два-три года о том, что в республиках ущемляют права русскоязычных граждан Законом, согласно которому язык народа, давшего название республике, утвержден в качестве государственного. Да, конечно, этим людям приходится теперь трудновато. И надо идти им навстречу, помогать по возможности, тем более не злоупотреблять Законом. Но вот что удивительно. Люди прожили по 20—30—40 лет среди народа, который их гостеприимно принял, на земле, которая стала им второй родиной, и не удосужились за такое время хоть бы немного научиться языку этого народа, этой земли! Хоть бы детям своим внушили: учите, милые, непременно учите! Так нет же! Напротив, чад своих настоятельно освобождали от этой «ненужной химеры». Более того, подбивали местных, аборигенных жителей на это же нехорошее, а точнее — позорное, дело. Чтобы и их дети не изучали и не знали родного языка. Особенно преуспели в этом отношении у нас в Беларуси. К середине 80-х ни в одном городе, ни в одном городском поселке республики не осталось ни одной белорусской школы! Подчеркиваю: ни одной. Как и ни одной на всю республику канцелярии — от совминовской до колхозной, — в которой делопроизводство велось бы на белорусском языке. Если это не трагедия народа — тогда что же это?

И вот теперь наши русскоязычные сограждане обижаются. Зачем же и на кого обижаться? На то, что унижаемый, оскорбляемый и уничтожаемый в течение десятилетий язык наконец обретает права? Что вместе с языком возрождается национальная культура народа? Что народ становится на родной земле сам себе хозяином? Разве это что-то противоестественное или противоправное?

Беда в том, что значительная часть нашего населения в вопросах национального и интернациональ-

ного поразительно безграмотна. Во всяком случае, до самого последнего времени в этом печальном невежестве пребывала.

Что такое, к примеру, твой родной народ, какой исторический путь прошел он, каковы отличительные черты и особенности твоей нации? Разве этому в школе или университете должным образом учили? Что есть жизнь нации как исторически сложившегося социального организма? Только ли хозяйственно-экономическая деятельность народа? А деятельность его души — не в счет? Жизнь нации без... жизни души, что ли? Но душа народа — это его язык, его культура, его историческая память, его национальное самосознание. Особенно велика роль языка — ведь это основа основ души. Совсем не преувеличивая, можно утверждать, что нация жива до тех пор, пока у нее есть свое собственное «культурное лицо». Как же мы хотели — например, мы в Белоруссии — организовать свою национальную жизнь, ее поступательное саморазвитие? Без участия души? При почти полном игнорировании национальной культуры? Национальной — ибо это единственная естественная форма существования культуры; вненациональная культура, т.е. культура без своего природного языка, — это не культура, это — не жизнь, [redacted] смерть. Не физическая, разумеется. Физически люди продолжают жить, они приобщаются к культуре другого народа, т.е. ассимилируются. Люди — да, продолжают жить, но нация — умирает, исчезает, уходит в историю. Отсюда — неизбежные взрывы национального чувства, акции во имя национального самоспасения. Этого никак не хотели понять, к великому сожалению, вожди руководящей партии. Социально-классовый догматизм не позволил им взглянуть на положение вещей в мире иными глазами.

Но — не стало Союза, не стало КПСС, много чего не стало, а жить, как говорится, надо. Назад колесо истории не открутить. Точнее: открутить на какое-то

время возможно, но делать это не имеет смысла, и именно потому — что только на время, потому что потом — все равно жизнь пойдет дальше по-новому, с учетом того, что произошло в стране и мире за последние годы. И задача здравомыслящих политиков, государственных деятелей не в том, чтобы ход событий повернуть вспять, а в том, чтобы не дать возобладать тенденциям взаимного отчуждения, духовного разъединения народов, еще недавно именуемых единым, или же «новой исторической общностью». Об экономической дезинтеграции не говорю вообще — это было бы прямым путем к самоубийству. Но — как распорядиться ныне возможностями, чтобы не ширилось и не углублялось духовное разобщение?

Не исследовав, не проанализировав обстоятельно и глубоко причины, приведшие к распаду Союза, невозможно построить прочные дружественные взаимоотношения в рамках нового межгосударственного объединения. А следовательно — невозможно обеспечить народам наших государств достойную человеческую жизнь. Наверное, общими усилиями необходимый всесторонний анализ будет сделан, и будет при этом учтено все — и все грехи, и все ошибки.

Говоря о том, как важно в новых условиях мудрое, продуманное решение вопросов из сферы национально-культурной, хотел бы выделить один момент, затрагивать который вообще-то мне очень горько и тяжело. Но и не высказаться — тоже нельзя. Ведь сколько живешь — столько веришь, что если твои слова говорятся искренне и во благо всем, то их обязательно поймут. И примут. И не обидятся на тебя.

Странным, непонятным, загадочным остается для меня и сегодня то, как не воспринимаются национальная кривда и боль нашими кровными братьями — представителями русской интеллигенции. О чиновниках не говорю: они сознательные проводники определенной линии в национальной политике — курса на слияние языков и наций, на ассимиляцию. О простых

рабочих людях тоже не говорю — во-первых, их не учили тому, насколько это деликатный и сложный вопрос — межнациональные отношения, во-вторых, они, как правило, берут пример с начальства и интеллигенции. Говорю именно о последней — об интеллигенции. Ибо на кого же, если не на нее, рассчитывать? Всю жизнь — начиная со школьных лет — встречаюсь, общаюсь с нею, имею немало знакомых, товарищей и друзей, и как редко, как редко случается услышать то, что хочешь услышать, — хотя бы слово понимания и сочувствия, если уж не угрызения совести и возмущения. Да, вспоминаю, как на пленуме Союза писателей в Москве, в ответ на мое выступление, прозвучал голос неподдельной озабоченности нашей белорусской бедой — состоянием языка нашего, белорусской школы, белорусской книги, национального театра. Это был голос большого писателя и замечательного интеллигента Сергея Павловича Залыгина, — поздоровь его, Боже! Прозвучали тогда же и сочувственные голоса некоторых иных моих собратьев. Но это — скорее исключения. Зато как часто встречаешься с поразительной глухотой к тому, что тебе болит. Да как нестерпимо болит! Какой мучительной — ибо от унижения и оскорбления — душевной болью! Сколько раз, даже от близких знакомых, приходилось слышать в ответ на крик души какое-нибудь такое рассуждение: «Да бросьте вы этот свой национализм! Мы же один народ! Да, три славянских племени, и есть племенные различия, наречие у каждого свое, но народ-то мы один — русский! И нам надо быть вместе, вкупе, ведь из одного же корня мы и все у нас едино».

Вот такое тебе братское успокоение. Один народ — и все тут!

Почти слово в слово то же, что в прошлом столетии говорили нам и о нас господа Катковы и Победоносцевы. Все уроки истории — побоку!

Итак, народ един — и мы будем делать все, что на пользу этого взгляда, этой позиции. Будем содейство-

вать ассимиляции вашего языка и — всеми возможными способами препятствовать вашему национальному возрождению. И то, что практически многие делают именно так, — это очень плохо. Это — опасное заблуждение с неизбежными трагическими последствиями. Дружбе нашей это отнюдь не на здоровье.

Хоть и с превеликим опозданием, надо все же понять наконец, что никогда — никогда! — на этой земле не будет благостного братского дружелюбия, пока все, живущие здесь, не научатся уважать достоинство, язык и культуру народа, оказавшегося в национально-культурной реанимации, и не почувствуют своего естественного человеческого долга перед ним. Такого же естественного, как чувство необходимости прийти на помощь человеку, с которым на твоих глазах стряслась беда-несчастье. Но, увы, до такого нравственного самочувствия и состояния многим у нас еще, кажется, очень далеко. Судя, например, по тому, как в некоторых республиканских (естественно, русскоязычных) газетах злобно-издевательски, неприлично изощряясь в остроумии, пишут о тех, кто прилагает усилия к возрождению своего родного белорусского языка. И ведь делают это люди образованные, политически грамотные, несомненно считающие себя интеллигентами. И конечно же — ратующие за гражданский мир в республике, за национальное согласие. А как же! Вот только интересно знать: как они думают этот гражданский мир обеспечить? Глумлением над национальным достоинством белорусской интеллигенции? Или наглой — известной со времен оных — самоуверенностью, что она эти обиды проглотит молча, стерпит, как это многожды бывало раньше? Ну а если не проглотит и не стерпит? Какой разговор может получиться дальше? Этого ли хотите, уважаемые сограждане и дорогие сородичи? Если этого — то снимите, пожалуйста, цивильные сюртуки, которые так облагораживают вас, — пусть будет видна скрываемая под ними жандармская униформа. Если же вы не хо-

тите этого и, следовательно, униформы на вас нет, — тогда вам предстоит решительно изменить свое отношение к судьбе белорусского языка и культуры, тогда вы будете делать все от вас зависящее, чтобы помочь создать необходимые им условия для свободной естественной жизни. Для такой жизни, какою живут на своей родной земле ваш язык и ваша культура.

## «ПАРА, НАРЭШЦЕ, АЧНУЦЦА І РАСПРАВІЦЬ СПІНУ, І ПАДНЯЦЬ ГАЛАВУ НЕЗАЛЕЖНА...»

**Адказы на пытанні карэспандэнта Івана Гарнаўца. «Народная газета» *за 19 красавіка 1991 г.***

*Ніл Сямёнавіч, давядзецца пачаць з палітыкі. Кожны раз, калі вы падымаецеся на трыбуну сесіі Вярхоўнага Савета, як піша нам чытачка з г. Полацка, верыш, што гэты чалавек будзе гаварыць тое, што патрэбна для згоды паміж людзьмі, для іх дабрабыту.*

*Аднак многія людзі незадаволены работай Вярхоўнага Савета, зменшыўся давер да яго. Што, на вашу думку, перашкаджае вышэйшаму органу ўлады ў рэспубліцы больш плённа працаваць?*

Перш за ўсё — адсутнасць паразумення і згоды паміж рознымі палітычнымі плынямі ў нашым дэпутацкім корпусе, узаемнае непрыманне пазіцый, поглядаў, думак. Занадта шмат у зале спрэчак, запальчывых выступленняў, абвінавачванняў і водпаведзяў, што выбаршчыкамі ўспрымаецца агулам адмоўна. Што магло б аб'яднаць народных дэпутатаў — пры ўсіх разыходжаннях у падыходах да вырашэння той ці іншай праблемы? Толькі адно: яснае ўсведамленне, што ўсе мы працуем дзеля нацыянальнага адраджэння Беларусі, дзеля шчасця і дабрабыту яе народа, што гэта наш агульны, галоўны і найпершы клопат. Іншай ідэі, іншай асновы для згуртавання, а значыць —

для плённай працы на карысць нацыі, няма. Гэта пацверджана гісторыяй розных дзяржаў і народаў, пацвярджаецца і сёння — варта толькі пацікавіцца «цудам» эканамічнага і сацыяльнага прагрэсу колісь адсталых краін, нават былых калоній. Галоўны сакрэт іх уздыму і росквіту — нацыянальны энтузіязм, разбуджаная — для працы і творчасці — энергія народнага духу; гарачае жаданне сцвердзіць сябе ў свеце як нацыю, вартую людской павагі; цвёрдае пераканне, што мы — народ таленавіты, працавіты, мужны, і мы зробім сваё жыццё такім, каб яно радавала нас. Ну а мы, беларусы? Не адчуўшы сябе сапраўднымі гаспадарамі на сваёй роднай зямлі, не развіўшы ў сабе як належыць пачуццё нацыянальнага адзінства, мы хочам перайначыць свой лёс, дасягнуць станоўчых перамен і поспехаў? Дарэмныя спадзяванні, дарэмныя! Але пра гэта я ўжо гаварыў і пісаў сотні разоў і таму — запынюся.

Што ж адбываецца ў нашай дэпутацкай зале? Мы не слухаем, што гаворыцца, а глядзім, хто гаворыць. Няхай і разумнае, слушнае кажа прамоўца, але, раз ён «не наш», — галасуем супраць. Так плёну ў працы не будзе. Трэба ўсім пранікнуцца вялікай ідэяй нацыянальнага адраджэння і на яе грунце весці пошукі шляхоў і спосабаў вырашэння канкрэтных жыццёвых праблем, а менавіта: як нам выйсці з эканамічнага і палітычнага крызісу, як наладзіць разумныя, дружалюбныя і ўзаемавыгадныя адносіны з рэспублікамі і інш.

*Успамінаю 60—70-ыя гады, калі вы былі адным з нямногіх заступнікаў адраджэння беларускай мовы, культуры свайго народа. І вось прыйшла перабудова. Стала як быццам лягчэй дыхаць. У многіх рэспубліках дзеячы культуры, пісьменнікі ўзначалілі рухі, новыя палітычныя партыі. Як мне вядома, у Беларусі з імем Гілевіча многія звязвалі надзеі, што калі б у нас вы ўзначалілі дэмакратычныя сілы на*

*перабудову, то за вамі пайшоў бы ўвесь народ. Што вы на гэта адказалі б?*

Народ? Ды яшчэ і ўвесь?.. Хай бы мы трохі асцярожней карысталіся такімі вялікімі словамі. Паспрабуйце ўявіць сённяшняе насельніцтва Беларусі. Хіба яно аб'яднана той ідэяй, аб якой я толькі што гаварыў, і хіба яно гатова за гэтай ідэяй пайсці? Народам з ідэяй мы станем тады, калі гэтак жа, як сёння, — толькі не ў рабочы час! — людзі запоўняць усю плошчу перад Домам урада і на ўсіх лозунгах над галовамі будзе значыцца адно і тое ж: «Вярніце нам нашу родную беларускую мову!», і ўсе да аднаго прамоўцы будуць у адзін голас патрабаваць: «Урад! Забяспеч нашых дзяцей беларускай школай!», і ніхто пры гэтым не засвішча ў натоўпе, не закрычыць «Далоў!»... На вялікі жаль, нам яшчэ далёка да гэтага. Яшчэ патрэбны доўгія гады адпаведнай выхаваўчай працы. Тым больш, што сёння ў нашым і без таго растурзаным грамадстве ўзмацняюцца тэндэнцыі сацыяльнага, палітычнага і нацыянальна-этнічнага расслаення. Слабасць гістарычнай і нацыянальнай самасвядомасці беларусаў пачалі заўзята і падспудна выкарыстоўваць агенты, так бы мовіць, «суседскага» шавінізму з усіх бакоў — у надзеі на будучую перакройку граніц нашай шматпакутнай Бацькаўшчыны. Ужо вядуць апантаную апрацоўку жывых душ. А нашы палітыкі, афіцыйныя ідэолагі на гэта ніяк не рэагуюць і ўсё яшчэ змагаюцца з беларускім нацыяналізмам. Ці адкрые Бог ім калі-небудзь вочы — не ведаю, можа, і не. Самаедства — наша вялікая нацыянальная трагедыя.

*А як вы ставіцеся да тых, хто на нацыянальнай ідэі ў апошні час зрабіў імя?*

Служэнне нацыянальнай ідэі — не спорт, дзе можна, зусім не маючы вядомасці, раптам паставіць рэкорд і «зрабіць імя». Хаця і ў спорце не так хутка і нечакана гэта адбываецца. Я паважаю і цаню ва ўсякай сферы дзейнасці тое імя, якое здабыта доўгімі

гадамі мэтанакіраванай, самаахвярнай, нястомнай працы, здабыта талентам, пакутамі і мазалём.

Гісторык з ласкі Божай Мікола Ермаловіч, хворы і амаль зусім сляпы, дзесяткі гадоў карпеў над кнігамі, якія толькі цяпер прабіліся да чытача і якімі мы захапляемся, — карпеў, дбаючы не пра ўласнае імя, а пра лёс Бацькаўшчыны, пра імя свайго народа. А выскачкі і кан'юнктуршчыкі, хцівыя спекулянты на папулярных ідэях, усюды аднолькава непрыемныя. Тым больш, калі гэта датычыць такой святой справы, як нацыянальнае адраджэнне.

*У рэспубліканскім друку калі-нікалі з'яўляецца інфармацыя аб тым, што ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі вельмі няпростая сітуацыя, што Рада СП губляе аўтарытэт... І ў першую чаргу таму, что старэйшае пакаленне пісьменнікаў не можа пазбавіцца ад стэрэатыпаў, а маладыя са сваім юнацкім максімалізмам не ўспрымаюць ужо іх...*

Пра аўтарытэт Рады Саюза пісьменнікаў нічога сказаць не магу — не з'яўляюся членам Рады і ў Доме літаратара бываю рэдка. А наконт стэрэатыпаў старэйшых пісьменнікаў і наватарства маладых... Усё гэта вельмі і вельмі адносна. У літаратуры заўсёды існавалі побач — таленавітае і бяздарнае, жывое і мёртвае, яркае і шэрае, — і гэта зусім не залежыць ад узросту. Так было, так ёсць і так будзе, і не трэба паддавацца на эмацыянальныя правакацыі розных аматараў калялітаратурнага шуму. Мяне сёння больш непакоіць і засмучае тое, што творчая праца беларускага пісьменніка, прыгожы плён гэтай працы трапляюць у яшчэ больш цяжкае становішча, чым было раней. Ёсць рэальная пагроза, што, набраўшы сілу, рынак зусім прыдушыць беларускае мастацкае слова, аддаўшы ўсе друкарскія станкі і паперу пад кнігі, якія прыносяць выдаўцам велізарны прыбытак і да беларускай літаратуры не маюць ніякага дачынення. Супрацьстаяць гэтай пагрозе мы, беларусы, яшчэ не навучыліся.

Здавалася б, у сучасных умовах беларуская літаратура і мастацтва — гэтыя нешматлікія жыватворныя крыніцы, якія будзяць і жывяць дух нацыі, стымулююць нацыянальнае Адраджэнне нашай Бацькаўшчыны, — павінны атрымліваць усемагчымую падтрымку ад грамадства, ад усіх яго здаровых, прагрэсіўных сіл. І дзеля справядлівасці трэба сказаць, што сёе-тое ў гэтым кірунку робіцца — і Міністэрствам культуры, і Дзяржкамдрукам, і Міністэрствам народнай адукацыі, і Саветам Федэрацыі прафсаюзаў рэспублікі, і іншымі. Разам з тым іменна ў гэты час супраць беларускай літаратуры, супраць усяго атрада яе творцаў быў зроблены на старонках часопіса «Политический собеседник» (№ 11 за 1990 год) грубы, абразлівы выпад. Маю на ўвазе адыёзны артыкул «Слова да вас, пісьменнікі». Проста неверагодна, што ў наш час магло нешта гэткае паявіцца ў афіцыйным партыйна-савецкім выданні. Ну а што далей? Як і трэба было чакаць — сігнал зверху пачулі. Неўзабаве мастоўская раённая газета «Зара над Нёманам» раздрукавала названы артыкул з «Политического собеседника». Не здзіўлюся, калі і яшчэ хто-небудзь перадрукаваў. Мастоўская газета зрабіла гэта «па просьбе сакратароў партарганізацый». Гэтая акалічнасць засмуціла мяне асабліва. Хто іх падбухторыў на гэткую няўдзячную ініцыятыву? Няўжо яны сапраўды падзяляюць такі дзікунскі погляд на родную літаратуру і на тых, хто яе стварае? На тых, хто клапоціцца пра хлеб духоўны, без якога грамадства гіне гэтак жа, як і без хлеба надзённага?

*Хацеў бы закрануць яшчэ адно важнае пытанне, аб якім і вы, і некаторыя іншыя народныя дэпутаты з болем і заклапочанасцю гаварылі на трэцяй сесіі Вярхоўнага Савета. Размова ідзе пра Закон аб мовах у Беларускай ССР. Вы і вашы паплечнікі рыхтавалі яго, прымалі, цяпер змагаецеся за яго ажыццяўленне. З чым жа звязаны такія цяжкасці?*

Пачну з відавочнага факта, які немагчыма ўспры-

няць інакш, як недарэчны парадокс: пасля ўступлення ў сілу Закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы рэзка пагоршылася становішча беларускамоўнай прэсы, газет і часопісаў. Мала таго, што пачалі выдавацца дзесяткі новых газет на рускай мове, у моры якіх патанаюць нешматлікія беларускія выданні, дык і многія з тых газет, што выходзілі дзесяткі гадоў па-беларуску, сталі з новага года двухмоўнымі. А беларускі часопіс «Служба быту» перайменавалі ў «Салон» і перавялі на рускую мову. А ў рэспубліканскай газеце «7 дней» былі закрылі беларускія старонкі. А беларускамоўны варыянт «Вячэрняга Мінска» перастаў існаваць. Падобныя прыклады можна доўжыць і доўжыць. З чыёй жа ласкі ўсё гэта робіцца? І дзеля якой мэты? Каму можа быць выгадна, каб гінулі мова і культура вялікага славянскага народа?

Звяртаюся ў думках да паважаных людзей — гаспадарнікаў, палітыкаў і проста грамадзян. Шаноўныя! Вы дбаеце пра эканамічную самастойнасць Беларусі, пра набыццё ёю дзяржаўнага суверэнітэту? І хочаце дасягнуць гэтага, не маючы самастойнасці духоўнай? Належачы іншаму — небеларускаму — духоўнаму свету? Будучы адарванымі ад нацыянальных традыцый і звычаяў? Ліквідаваўшы ў сваім штодзённым побыце ўсё, што вызначае самабытнае нацыянальнае аблічча? І можна ў такія цуды паверыць?

Адзіна верны шлях да самастойнасці — гэта адраджэнне нацыянальнай самасвядомасці, вяртанне да вытокаў нацыянальнай духоўнасці, да роднай мовы. Асабліва вялікая роля належыць менавіта мове. У нас у большасці на мову глядзяць як на сродак зносін — і толькі, абмяжоўваюцца яе камунікатыўнай функцыяй. А мова — гэта нешта непараўнана большае: у ёй — гісторыя краю, нацыянальная псіхіка, самапачуванне народа, яго годнасць, у ёй — і наша дзяржаўнасць... Пачытайце адну з найвялікшых і наймудрых кніг у гісторыі еўрапейскага Рэнесансу — Статут Вялікага княства Літоўскага, — напісаную на нашай

зямлі, нашымі мудрацамі і для нашага народа, для нашай дзяржавы. І напісаную нашай мовай! Пачытайце, паслухайце, як яна гучыць — наша мова XVI стагоддзя! Хіба ў ёй толькі карысная інфармацыя, а не жыццё, не душа, не гісторыя і лёс народа?

Адкуль у нас, беларусаў, пачварны нацыянальны нігілізм — зразумела: надта даўно былі гаспадарамі на сваёй зямлі, за стагоддзі прыгнёту гаспадарскі дух свабоды і незалежнасці быў з нас досыць-такі грунтоўна выбіты. Але ж пара, нарэшце, ачнуцца і расправіць спіну, і падняць галаву незалежна! І перастаць слухаць байкі запісных прапагандыстаў «інтэрнацыяналізму», якія ўсё клапоцяцца, усё сочаць, каб хаця мы, беларусы, не перабралі меру ў сваёй любові да роднай мовы. І каб хаця «адзіную афіцыйную» не пакрыўдзілі.

Што нам трэба рабіць, каб наша мова загучала паўсюдна? Маё перакананне — трэба спакойна, дзелавіта, з пачуццём дзяржаўнай адказнасці ажыццяўляць рэспубліканскі Закон аб мовах.

*Дарэчы, [redacted] які лёс ліста вядомых пісьменнікаў Беларусі да ЦК КПБ, выразна названага імі «Каму, якому народу служым?». Як кіраўніцтва партыі паставілася да гэтага звароту і да тых праблем, якія там узнімаюцца?*

На вялікі жаль, у друку пра якое-небудзь рэагаванне нічога не паведамлялася. Практычных дзеянняў амаль не відна таксама. Таму можна лічыць, што зварот не дайшоў да адрасата. Гэтак жа, як і ліст чатырох народных дэпутатаў БССР, у якім мы прасілі перадаць аддзяленню беларускай філалогіі БДУ корпус Гістпарта — каб было бачна, як КПБ шануе мову і культуру свайго народа. Цяжкае і балючае гэта пытанне — адносіны Кампартыі рэспублікі да найвялікшага і найкаштоўнага духоўнага скарбу нацыі. Праз усё сваё свядомае жыццё чакаю, калі ж «вядучая сіла грамадства» зразумее элементарную ісціну, што з народам трэба гаварыць на яго роднай мове,

што адвучваць мільёны людзей ад мовы Маці, выракацца яе — амаральна. Ні адзін народ у свеце такога не стрываў бы. Шмат большых і меншых грахоў на рахунку кіраўніцтва КПБ, шмат зроблена неразумнага, нямудрага, але, мабыць, найцяжэйшы грэх яго — вось гэты. Не разумеюць таварышы і таго, якая шкода праз гэта прычыняецца самой Камуністычнай партыі. Няйначай, як свядома чакаюць, калі ад яе адвернецца ўся патрыятычна настроеная беларуская інтэлігенцыя. Няйначай, як зацікаўлены ў гэтым. Ну даўно ж пара схамянуцца і на ўвесь голас сказаць народу, што Беларусь на вечныя векі будзе Беларуссю і што трэба далучацца да нацыянальнага адраджэння. Патрэба далучацца да нацыянальнага адраджэння. Пачынаючы літаральна з заўтрашняга дня. А яшчэ лепей — з сённяшняга.

*Вы прайшлі жорсткую барацьбу пры выбарах у народныя дэпутаты БССР. Ужо год працуеце ў Вярхоўным Савеце. А якія ў вас сувязі са сваімі выбаршчыкамі? Што гаворыце ім, аб чым раіцеся, да чаго заклікаеце?*

Мае выбаршчыкі — амаль без вынятку — простыя працоўныя людзі: хлебаробы, жывёлаводы, механізатары, настаўнікі... Сустракацца і гаварыць з імі ўсё цяжэй і цяжэй. Ім хочацца нармальнага чалавечага жыцця, як і тым рабочым у гарадах, што даведзены неразумнымі дзеяннямі дзяржаўных асоб да крайняй формы пратэсту — забастовак.

Да чаго заклікаць чалавека, які круглы год, не пакладаючы рук, сумленна, шчыра працуе, але які кажа: «Вось паглядзіце на мой абутак: сёння яшчэ прыйшоў на ферму, а заўтра ўжо... не ведаю, буду сядзець босы. І дзецям няма ў чым у школу пайсці. І хлеба 400 грамаў на душу даюць...» Тым не менш гаворым мы на сустрэчах пра тое, што трэба заставацца людзьмі і даражыць пачуццём сваёй чалавечай годнасці. Трэба сеяць збожжа, гадаваць жывёлу, выхоўваць і вучыць дзяцей.

А яшчэ, калі перада мною людзі пажылога веку,

прыгнутыя цяжарам пражытага і перажытага, з заскарузлымі далонямі, з невясёлымі вачыма, я думаю пра тое, як у нас у прэсе, на тэлебачанні, на розных форумах асвятляецца, падаецца гісторыя краіны і народа. Як ацэньваецца ўсё тое, чым жылі некалькі пакаленняў людзей? Вельмі шмат было цяжкага, змрочнага, нават жахлівага? Так, вельмі шмат. Трагічнай аказалася гэта наша гісторыя. Боль не зацíхне яшчэ доўга — можа, і праз дзесяцігоддзі. І што ж — ведаючы ўсё гэта, абліваць гісторыю свайго народа, сваёй дзяржавы граззю? Думаю: чаго ж хочуць аўтары, апантаныя ядавітай злосцю? Каб ім паверылі, што мільёны людзей — сялян, рабочых, настаўнікаў, урачоў, інжынераў, навукоўцаў — жылі хлуснёй і няпраўдай, кіраваліся ў сваім штодзённым побыце, ва ўчынках і паводзінах не цвярозым розумам, не адвечнай народнай мараллю, не чалавечым сумленнем, а д'ябальшчынай? Хто ім даў права гэтак глядзець на жыццё цэлых пакаленняў? Хто ў гэтых людзей спытаў і пачуў адказ, што ім сорамна за пражытае? Хто мае права закрэсліць, абвясціць марна, упустую, бяздарна патрачаным іх жыццё? Да якой жа бездані цынізму і святатацтва трэба апусціцца, каб дазволіць сабе такое!

Людзі, якія яшчэ і сёння — хай сабе і не так сытна, як хацелася б, — кормяць краіну, вартыя куды большай і павагі, і сардэчнай удзячнасці, і галоўнае — чалавечага клопату пра іх. У гэтыя дні яны зноў выходзяць на поле — сеяць. Каб было што сабраць восенню. Каб не давялося паміраць ад голаду. Чым дапаможам ім? Пустымі амбіцыйнымі спрэчкамі ў зале пасяджэнняў? Мітынгаваннем на люднай плошчы? Вось пра што з горыччу думаю, збіраючыся да сваіх выбаршчыкаў.

# «КАБ НЕ ЎМЕРЛІ...»

**Слова на адкрыцці першага
Міжнароднага кангрэса беларусістаў**
*25 мая 1991 г.*

Мы, што сабраліся сёння ў гэтай зале, з'яўляемся сведкамі і ўдзельнікамі падзеі сапраўды незвычайнай у гісторыі беларускага народа. Упершыню, нарэшце, мы здзяйсняем намер зрабіць тое, што іншыя славянскія народы зрабілі даўно: мы ўтвараем міжнародную асацыяцыю беларусістаў, дзеля чаго і склікалі гэты ўстаноўчы кангрэс. Тое, што мы парупіліся пазней за іншых, у самі́х нас, беларусаў, напэўна, выкліча, як і заўсёды, гаркавата-іранічную ўсмешку: маўляў, а калі і дзе мы паспяшаліся раней за іншых, хіба такое магчыма? Адкажу без іроніі: магчыма! І ў нашай адзінаццацівяковай гісторыі здаралася не раз. Прыгадайма навуковы і творчы подзвіг, здзейснены ўсходнеславянскім першадрукаром беларусам Францішкам Скарынай. Прыгадайма Статут Вялікага княства — гэты мудры звод законаў, роўнага якому ў сэнсе гуманнасці і справядлівасці, бадай, не знала ў тагачаснай Еўропе ніводная іншая дзяржава. Не сумняваюся, што з трыбуны кангрэса будзе нагадана і пра многія іншыя факты і падзеі, якія, стаўшы нашай гісторыяй, пацвярджаюць творчы геній беларускага народа, якія працавалі і працуюць на яго аўтарытэт у свеце, дапамагаючы набыць яму ўсё больш і больш сяброў. Мы шчыра радуемся і ганарымся, што колькасць прыхільнікаў беларускай мовы, літаратуры, культуры за межамі рэспублікі расце, што ў многіх і блізкіх і далёкіх краінах створаны або ствараюцца асацыяцыі беларусістаў, што ўклад Беларусі ў агульначалавечую духоўную скарбніцу будзе такім чынам прызнавацца на ўсё шырэйшых абсягах планеты. Мы гэтак жа шчыра ўдзячныя нашым шчырым і верным сябрам за іх павагу і клопат — тым больш удзячныя, што яны добра ведаюць, гаворачы словамі Багушэві-

ча, «аб нашай долі-нядолі», аб няпростым, пакутлівым і трагічным лёсе народа, з якім звязалі свае навуковыя і творчыя інтарэсы. Мушу наўмысна падкрэсліць гэты момант — наконт нашай асаблівай удзячнасці — таму, што прадмет іх даследчыцкай або іншай цікавасці — так бы мовіць, нявыйгрышны, нявыгадны. Трэба мець мужнасць, каб займацца народам і яго духоўнай культурай, яго мовай, калі гэтаму народу, пачаўшы колькі стагоддзяў назад і да гэтага часу, і сёння адмаўляюць у праве на самастойнае існаванне, прарочаць страту свайго ўласнага аблічча і не абяцаюць ніякай гістарычнай перспектывы пасля Чарнобыля. Кожны дзень нам вырысоўвае яе, гэту перспектыву, усё больш выразна. Можа, сённяшнія нашы дабрадзеі якраз гэта і маюць на ўвазе? Наўрад ці можна назваць яшчэ якую-небудзь цывілізаваную, з больш як тысячагадовай гісторыяй нацыю, якой бы столькі разоў прадказвалі гібель і зыход з гістарычнай арэны, як нам, беларусам. І не толькі зацятыя ворагі-асімілятары, але і тыя, якія былі настроены да беларускага народа зусім дружалюбна, глядзелі на нас са спагадай і спачуваннем. Нагадаю толькі адзін прыклад. Яшчэ ў сярэдзіне мінулага стагоддзя, калі царскі ўрад забараніў карыстацца беларускай мовай у касцёлах, вядомы беларуска-польскі навуковец і грамадскі дзеяч Адам Кіркор са шкадаваннем пісаў: «Беларускаму народу больш не зазвініць яго родная мова, і сам ён, як народ, прапаў». Гэта — роспачнае пачуццё сябра. А колькі прароцтваў зларадных! Нямала іх робіцца і сёння, нават з яшчэ большым раздражненнем і азлобленасцю ад таго, што прароцтвы ніяк не здзяйсняюцца. Нямудрыя, зусім нямудрыя гэтыя чорныя крумкачы-«прарокі»: маглі б ужо і зразумець, што іх прадказанні не здзейсняцца ніколі. Ніколі! З асаблівай упэўненасцю гэта хочацца падкрэсліць сёння, калі надзея на свой лёс, як бы цяжка яна ні ішла, акрыліла і падмацавала нашы адвечныя запаветныя

спадзяванні, наш непазбыўны, наш найгарачы клопат. Міжволі ўспамінаюцца словы, якія, неўзабаве пасля першай рэвалюцыі ў Расіі, з адчуваннем вялікага абнаўлення, вялікага пералому ў гістарычным лёсе беларусаў, сказаў наш выдатны этнограф Мікалай Нікіфароўскі: «Не з'елі нас раней, цяпер і падаўна не з'ядуць, калі мы дакрануліся да матухны-зямлі». Так, можам спакойна паўтарыць услед за гэтым слаўным сынам Бацькаўшчыны: цяпер, калі мы зноў дакрануліся да роднай матухны-зямлі, мы будзем жыць! І натуральна, што мы хочам, каб усе нашы сябры, беларусісты з іншых краін і зямель, і тыя, што прыехалі на кангрэс, і тыя, каму не выпала прыехаць, таксама пранікнуліся гэтым нашым настроем, гэтаю нашай верай, гэтым нашым энтузіязмам, — хочам, бо ўпэўнены, што гэта і ім надасць сілы і натхнення ў працы. Беларусь уступае ў новую паласу свайго гістарычнага развіцця,— гэта неадменны факт, усведамленне якога, не сумняваюся, хутка стане ўсенародным тут, у самой рэспубліцы, і ўсеагульным у свеце.

Аднак жа вернемся да пытання аб нашай удзячнасці тым, хто звязаў сябе, свой творчы лёс з Беларуссю. Паважаныя калегі, пытанне гэта зусім не другараднае, і я хацеў бы, каб мы, гаспадары сённяшняй сустрэчы, усёю душою яго адчулі і глыбока прадумалі. І каб яшчэ раз успалыхнулі ад сораму, што нас, надзеленых ад прыроды пачуццём удзячнасці, нярэдка прымушалі быць няўдзячнымі, апынацца ў становішчы людзей элементарна нявыхаваных і што мы мірыліся з гэтаю ганьбай і цярпелі яе. Адкуль ішоў гэты гвалт над нашымі прыроднымі чалавечымі пачуццямі, хто пазбаўляў нас нават права сказаць добрым людзям «дзякуй» — вядома: узаконеная і ўвасобленая ў дзяржаўных чынах нянавісць да беларускай мовы і культуры. Мы, старэйшыя з ліку нацыянальна свядомых працаўнікоў, усё жыццё пражылі ў акружэнні гэтай нянавісці, гэтай хамскай пагарды, гэтых цынічных насмешак і здзекаў. Незайздросная, прызнаемся, доля, нялюдскі і жорсткі час!

Якраз у тую пару Пімен Панчанка, паглядзеўшы і паслухаўшы аднойчы нашых высокачыноўных дзяржаўнікаў, сказаў прыкладна так: цяпер я ведаю, што трэба, каб стаць у Беларусі вялікім начальнікам, — апрача іншых спецыфічных якасцей, абавязкова трэба мець яшчэ і лютую нянавісць да беларускай мовы. Вядома, начальнікі мяняюцца, многія ўжо набываюць і павагу да роднага слова. Будзем спадзявацца, што само жыццё давядзе гэтыя прыемныя перамены да таго становішча, калі ўсе нашы дзяржаўныя асобы будуць адчуваць сябе адказнымі за лёс беларускай мовы і культуры як перад законам, так і перад уласным сумленнем. Але гэта здарыцца тады, калі Беларусь стане сапраўды суверэннай дзяржавай. Сёння яе суверэнітэт фіктыўны, папяровы, і яе ўрад таксама папяровы, пазбаўлены рэальнай самастойнай улады, і нават пры вялікім жаданні ён не можа стварыць умоў, якія б забяспечылі свабоднае развіццё беларускай мовы і культуры. Каб такія ўмовы сталі рэальнымі — трэба, каб стала рэальнай наша дзяржаўная самастойнасць.

Разам з тым, нават і ў сённяшніх умовах, ва ўмовах залежнасці, урад мог бы больш рашуча праводзіць моўную палітыку ў рэспубліцы ў інтарэсах народа, імем якога рэспубліка названа. І калі гэтага не відна, то вінаваты не толькі ўрад, але і ўсе мы таксама, бо недарэмна ж было некім разумным сказана: кожны народ мае той урад, якога ён заслугоўвае.

Мы ўсё плачамся і плачамся на сваю горкую долю, а трэба не плакацца, а дзейнічаць, трэба змагацца, трэба актыўна ісці ў наступ, расшыраць заваёвы, замацоўваць і абараняць дасягнутыя рубяжы.

Мы марым і летуценім, што нешта зробіцца само собой, пры дапамозе нейкай чароўнай палачкі, — а трэба не летуценіць, а дзейнічаць, трэба самаахвярна і самаахвярна, не шкадуючы сіл і часу, працаваць і выкладвацца ў гэтай працы даастатку.

Мы клюём на прынаду падкінутых нам хітрых,

падступных ідэй і тэорый, а трэба перш за ўсё думаць самім, думаць цвяроза і глыбока аб тым, хто мы і што мы на гэтай планеце і якім павінен быць наш уласны шлях з увагай на асаблівасці нашай гісторыі, нашага нацыянальнага характару і менталітэту.

Мы займаемся ганебным самаедствам, мы прадаём — як гэта было ў час выбараў народных дэпутатаў — самых лепшых, свядомых сыноў і дачок нацыі, — замест таго, каб усяляк дапамагаць ім, падтрымліваць, гуртавацца вакол іх і ісці да аднае вялікае мэты побач, плячо да пляча, локаць да локця.

Мы нярэдка хвалімся нашай прыроднай беларускай талерантнасцю, дэмакратычнасцю, верацярпімасцю, але сённяшняя атмасфера нашага грамадска-палітычнага жыцця, на вялікі жаль, не сведчыць на карысць гэтага,— наадварот: і дэмакратычнасці, і цярпімасці нам не хапае, нават у дачыненні да патэнцыяльных спадарожнікаў і аднадумцаў. Мы не хочам лічыцца з тым, што ідзе нялёгкі і балючы працэс перавыхавання многіх і многіх, можа соцень тысяч і мільёнаў людзей, у тым ліку і нашай намінальна беларускай, а на самой справе толькі прапісанай у Беларусі, інтэлігенцыі. Ідзе працэс пакаяння, і гэта пакаянне адбываецца не абавязкова на людной плошчы і са стуканнем кулаком у грудзі, яно можа мець месца і ў начной цішыні, калі чалавек сам-насам думае пра свой лёс глыбока і шчыра. Трэба верыць у пакаянне чалавека і не адрынуць нікога, хто сёння хоча і здольны сумленна паслужыць беларускай навуцы і культуры.

Паважаныя калегі!

Наш абавязак — шанаваць, цаніць і падтрымліваць усіх сяброў Беларусі, беларускай мовы, літаратуры, мастацтва і культуры — дзе б яны ні былі, ведаць і не забываць кожнага з іх, памагаць ім у іх вялікай самаахвярнай рабоце па прапагандзе і папулярызацыі духоўных скарбаў нашага народа, помнячы, што і ад кожнага з іх залежыць, як паспяхова будзе адбывацца наш

выхад у вялікі свет, а значыць — і як паспяхова будзе існці працэс нашага нацыянальнага адраджэння.

Пры гэтым будзем помніць, што самая лепшая наша дапамога замежным сябрам-беларусістам — гэта паспяховае вырашэнне нашых нацыянальна-культурных праблем тут, у Беларусі, гэта далейшае нарошчванне і яднанне нацыянальна-патрыятычных сіл у рэспубліцы, гэта наша плённая праца на ніве беларускай асветы і навукі, мастацтва і культуры. Ёсць пільная неабходнасць гаварыць пра павышэнне прафесійнага ўзроўню ўсёй гэтай нашай працы. Прафесійнага і, я дадаў бы, дзяржаўнага. Многае ў нас, будзем казаць шчыра, робіцца яшчэ на самадзейным узроўні, многае яшчэ гаворыць аб тым, што не пераадолена псіхалогія духоўнай правінцыі, культурна-мастацкай перыферыі. Шырокім колам нашай грамадскасці, у тым ліку і навуковай і творчай, яшчэ вельмі не хапае пачуцця нацыянальнай годнасці, усведамлення, што мы, беларусы, беларускі народ — гэта асобны духоўны свет і што цэнтр гэтага духоўнага свету — тут, на нашай роднай зямлі, а не дзе-небудзь на ўсход ці на захад, на поўдзень ці на поўнач ад яе. Трэба рашуча пазбаўляцца гібельнай для нас псіхалогіі жыхароў «Северо-Западного края», якая прышчэплівалецца нам вось ужо роўна два стагоддзі і з якою мы ніколі не здабудзем духоўнага, а значыць, і эканамічнага і палітычнага суверэнітэту. Між тым у нас ёсць такія высокія ўзоры свядомага служэння Бацькаўшчыне — служэння таму, «каб не ўмерлі».

Янка Купала і Якуб Колас, Максім Багдановіч і Максім Гарэцкі — абмяжуюся толькі галіной літаратуры і толькі гэтымі чатырма вялікімі постацямі — нам, наследнікам сваім, далі прыклад, па-першае, сапраўды дзяржаўнага, па-другое — сапраўды культурнага, на сусветным узроўні, думання і разумення свайго народа, яго гістарычнага лёсу, яго шляху да лепшай будучыні. Можа быць, у гэтым і наша шчасце, і наш паратунак, што ў нас заўсёды былі людзі-

маякі, людзі-светачы, людзі-волаты, на чыю дзяржаўную і чалавечую мудрасць, на чый творчы або навукова-даследчыцкі талент можна было арыентавацца і абаперціся. На вялікі жаль, не ўся іх творчая спадчына сабрана, выдадзена і належным чынам прапагандуецца, а ў дачыненні да многіх з іх трэба сказаць, што мудры плён іх творчасці яшчэ наогул не даступны шырокім колам насельніцтва, у тым ліку, вядома ж, і нашым сябрам — замежным беларусістам. О, колькі слаўных імён нам яшчэ трэба вярнуць [redacted] небыцця, узвысіць і паказаць свайму народу і свету ва ўсёй іх велічы і бляску! Не стану тут гэтыя імёны называць, бо, на абсягу гісторыі ад Кірылы Тураўскага і да нашых дзён, іх вельмі-вельмі шмат, іх столькі, што нельга не прасякнуцца радасным прадчуваннем, якая вялікая, прыемная, самаахвярная праца ўсіх нас чакае!

Вось і давайце ж браць прыклад з іх. Давайце следаваць іх мужнасці і мудрасці, іх нястомнасці і самаахвярнасці, іх чалавекалюбнасці і дэмакратызму. Хай нас ніколі не пакіне тая высокая вера, якая свяціла ім і вяла іх наперад. Найвялікшы і найслынны сярод іх яшчэ ў 1914 годзе пісаў: «Будзіцца самапачуццё народнае, падымае старонка наша вочы к сонцу і распрастоўвае свае магучыя плечы. Мілаванне свайго роднага слова, сваёй адзінай Бацькаўшчыны Беларусі бярэ верх над адступніцтвам і прадажніцтвам сябе ў чужую няволю. Калі зірнём мы на тое, што за некалькі год зроблена намі, беларусамі, над падняццем свайго нацыянальнага багацтва, то адно толькі душа можа радавацца. І ўсё гэта робіць сам народ — ці сваёй шчырай працай для Бацькаўшчыны, ці сваімі запрацаванымі капейкамі... (...) Мы не знаем ні казённых падачак, ні купленых працаўнікоў. Працуем для ідэі і будуем самі сабе новае, лепшае жыццё.

Дык працуйма ж і далей! Сейма на роднай зямельцы здаровыя зярняты праўды, брацтва і свабоды, будзіма жывога народнага духа з магутным клікам: к

сонцу і праўдзе! Будзем мець буйны ўраджай і багатае жніво!».

Даўно гэта было сказана, а гучыць так, як бы вырвалася з душы паэта толькі што, сёння, і адрасавана нам з вамі. Прымем жа гэты купалаўскі запавет да сэрца і — у добры час за работу!

## У ДЗЯРЖАВЕ — ДЗЯРЖАЎНАЯ МОВА

Адказы на пытанні журналісткі
Таццяны Дзмітрусёвай.
«Добры вечар» *за 29 мая 1991 г.*

*У самым пачатку звароту Рэспубліканскай рады ТБМ да народных дэпутатаў гучыць трывожнае: «...аснова культуры народа — нацыянальная мова — у небяспецы!». Але, ведаеце, у адказ так і чуецца з высокіх інстанцый амаль абурэнне: «Зараз усё і ўся ў небяспецы». Ці не так? І ў той жа час...*

Мова наша даўно ў заняпадзе, а значыць — і ў небяспецы. Такое становішча склалася не сёння, ды і не ўчора. Яшчэ ў канцы 50-ых пачалося, а ў наступныя гады і дзесяцігоддзі працягвалася інтэнсіўнае звужэнне ўжывання беларускай мовы ў дзяржаўных установах, у школах, у побыце. І засталіся ў грамадскім жыцці літаральна «астраўкі», дзе мова родная працягвала жыць. Найперш — у асяроддзі творчай і навуковай інтэлігенцыі.

Наконт «усё і ўся ў небяспецы»... Маюцца на ўвазе і эканамічная, і экалагічная, і палітычная сферы. На гэта хацеў бы сказаць вось што: у небяспецы перш за ўсё сам чалавек, яго чалавечая годнасць. Разбураюцца маральныя апоры, а на іх трымаўся чалавек у самыя складаныя перыяды гісторыі, у самых цяжкіх умовах. Трымаўся, таму што помніў, ведаў, верыў: «Я чалавек. Я не павінен ператварацца ў нелюдзь. Я павінен застацца чалавекам!». Вось з гэтага ўсё і пачынаецца. Мы радуемся дэмакратызацыі грамадства, але дэмакратызм без маралі і культуры можа даць жахлівыя

вынікі. Таму і лічу, што найперш нам трэба дбаць пра духоўнасць чалавека, пра яго культуру.

На сённяшняе становішча з нашай роднай мовай існуюць розныя погляды. Адзін — зусім песімістычны. Другі — бяспечна аптымістычны. Трэці — занепакоена-самакрытычны. Я падзяляю апошні: ён больш карысны, бо падштурхоўвае да канкрэтных і актыўных дзеянняў.

На жаль, ёсць у нас такая агульная рыса: зрабіць крыху ў той ці іншай справе і — заспакоіцца, запэўніцца, што далей усё ўжо будзе добра. Прыкладаў таму можна прывесці шмат. Класічны сярод іх — усенародны «шапказакідальніцкі» настрой напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны. Ні ў якім разе нельга паддавацца эйфарыі. Трэба больш цвяроза — больш крытычна — глядзець на з'явы. Нам жа іншы раз кінуць прыгожы лозунг-абяцанне — і мы надзіва лёгкаверна прымаем яго за рэальнасць. Так было і з абяцаннем камунізму...

*Сёння, калі да нас многае, што называецца, «дайшло», калі мы нібыта прачнуліся і, як вы кажаце, крытычна паглядзелі на сваё жыццё, ад многіх заклікаў, абяцанняў зрабілася б смешна, калі б... не было так горка.*

Вось і давайце заўсёды і ва ўсім будзем рэалістамі. У той жа сітуацыі з моваю. Здаецца, гэта цудоўна — прынялі Закон, разумны, памяркоўны. Але колькі ўжо разумных законаў мы ў свой час прынялі... Дзейнічаць яны павінны. На жаль, і пасля прыняцця Закона аб мовах не адбылося пакуль тых значных, істотных у станоўчым плане перамен, што надавала б нам аптымізму. Наша родная мова ўсё яшчэ не заняла свайго належнага месца, заканадаўча адведзенага ёй у суверэннай рэспубліцы.

*Тым не менш грамадскасць Беларусі і, у прыватнасці, ТБМ зрабілі і робяць шмат для адраджэння нашай нацыянальнай культуры і мовы. Якія дасягненні гэтай дзейнасці вы лічыце найбольш значнымі?*

Так, творчыя, навуковыя, грамадскія сілы, безумоўна, ужо зрабілі нямала. Што з дасягнутага я адзначыў бы найперш? Тое, што адбыўся пэўны зрух у самой свядомасці насельніцтва. Але ўдакладняю: зрух невялікі. Зроблены толькі першыя крокі. Што называецца, маем пакуль вельмі сціплыя дасягненні. Толькі не трэба кідацца ў адчай: маўляў, вынікаў амаль няма. Не, вынікі ёсць. Але, паўтараю, — пакуль сціплыя. Ці ж не дасягненне тое, што людзі ўсё больш натуральна ўспрымаюць гутарку па-беларуску і самі патрошку перастаюць саромецца гаварыць на роднай мове? Памятаеце ранейшую рэакцыю на тое, што чалавек размаўляе па-беларуску? Гэта ж ячшэ зусім нядаўна было: глядзелі на цябе, як на замежніка або як на чалавека, які хоча такім чынам вылучыцца... Дык вось пачынаем пазбаўляцца такога рэагавання. Мова ў Беларусі, асабліва ў нашай сталіцы, пачынае гучаць. Праўда, да вялікага пералому пакуль далёка. Усім нам яшчэ належыць пераадолець псіхалагічны бар'ер, які «ўзводзіўся» так доўга. І трэба дабівацца, каб менавіта ў шырокіх масах насельніцтва адбыўся гэты пералом. Трэба, каб чалавек перастаў меркаваць так: «Калі я гавару па-беларуску, дык выгляджу малакультурным або паводжу сябе нясціпла». Трэба, каб мова гучала натуральна. І — паўсюдна.

*На жаль, не толькі рускамоўнае, як цяпер гавораць, насельніцтва, але і самі беларусы (і такіх нямала!) выказваюць даволі актыўную незадаволенасць Законам аб мовах. Якія таму галоўныя прычыны, на вашу думку?*

Самая галоўная з іх — гэта выхаваны намаганнямі партыі і ўрада вялікай дзяржавы нацыянальны нігілізм. Непаважлівае стаўленне да сябе як да нацыі. Нацыянальная і гістарычная несвядомасць. Будзем гаварыць шчыра: усё пачалося з тэарэтычнай устаноўкі дзяржаўных вярхоў на тое, што склалася новая гістарычная супольнасць людзей — савецкі народ. Але

савецкі народ — гэта мноства розных народаў. І кожны з іх са сваёй гісторыяй, культурай — са сваім абліччам.

Здавалася б, ёсць усе спрыяльныя фактары для росквіту нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа: БССР— член-заснавальнік Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, прадстаўлена ў ЮНЕСКА. Але ў гэтым і парадокс! На міжнароднай арэне мы — дзяржава, а ў сябе дома... нішто! Дзесяцігоддзямі ў нас ішла бязлітасная русіфікацыя. І не трэба шукаць іншых слоў... Няўхільна пераводзіліся на рускую мову школы, ВНУ, міністэрствы, нават друк. І самі беларусы пачалі ўсё больш і больш саромецца роднай мовы, менш і менш карыстацца ёю. Любую краіну свету возьмем для прыкладу — і нідзе не ўбачым, каб яе жыхары саромеліся сваёй мовы. Такое проста немагчыма! А ў нас нейкай недарэчнай нормай стала далучаць сябе да іншай культуры, выракаючыся роднай. Гэта ненатуральна і ў чыста чалавечым плане. Гэта — разбурэнне і нявечанне душы чалавечай. Ад культурных набыткаў іншых народаў трэба браць, але ў меру і дзеля росквіту нашай уласнай, беларускай культуры. Так робяць у свеце ўсе.

Яшчэ прычына незайздроснага становішча нашай мовы ў недастатковым узроўні агульнай культуры. Калі б мы клапаціліся аб гэтым... Сапраўды культурны чалавек ніколі не зможа быць абыякавым, а тым больш — непаважлівым да гісторыі свайго народа, да ўсёй яго духоўнай спадчыны. Ён проста не дазволіць сабе гэтага! Настойліва паўтараю: наш найпершы клопат — клопат пра агульны стан культуры. І пачынаць неабходна з гэтага — з выхавання чалавека, з пастаяннага клопату пра яго культурны ўзровень.

*У рэспубліцы, у прыватнасці ў Мінску, працуюць ужо і адкрываюцца новыя дзіцячыя садкі, вучэбныя класы, цэлыя школы, дзе выхоўваюць, вучаць дзяцей на роднай мове. І дзеці ставяцца да гэтага са шчырай радасцю! А прыходзяць яны дамоў, выходзяць на*

*вуліцу, пачынаюць размаўляць па-беларуску і сустракаюць, мякка кажучы, неразуменне. Адкуль гэта, мы ўжо ведаем. А вось як гэтаму процістаяць?*

Па-першае, хачу пагадзіцца: нашы дзеці ў садках і школах ахвотна, з вялікім жаданнем вучаць беларускую мову. Дзіцячая душа не памыляецца ў сваіх адчуваннях. Значыць, і ў адчуваннях роднага. І гэтае дзіця апынаецца ў іншамоўным асяроддзі. Што рабіць? Выйсце ўсё тое ж: мова павінна гучаць паўсюдна і натуральна. Гэтак жа, як і руская, калі такою можна назваць мову, на якой зараз гаворыць большасць нашага насельніцтва.

А найперш родная мова павінна загучаць у дзяржаўных установах, пачынаючы з самых высокіх. Пакуль гэтага не здарыцца, пакуль беларуская мова на практыцы не набудзе статус дзяржаўнай, усё застанецца на ўзроўні самадзейнасці. Атрымліваецца, што мы свой духоўны храм рамантуем не капітальна, а «касметычна» — прыхарошваем звонку — і толькі. Што называецца, на нізах нешта робіцца, зрушваецца з мёртвай кропкі, а вярхі... Не хапае прыкладаў зверху. І першая, і другая, і трэцяя, і пятая, і дзесятая асобы кіраўніцтва рэспублікі не лічаць абавязковым для сябе выконваць Закон аб мовах. Мала таго, нават проста размаўляць па-беларуску або не жадаюць, або не ўмеюць. Хутка ўжо год, як уступіў у сілу Закон аб мовах, а ўлады зусім не спяшаюцца ажыццяўляць яго. Мяне гэта вельмі засмучае. А час ідзе. І трэба сказаць, што кіраўніцтва з-за такіх адносін да Закона, да мовы свайго народа вельмі шмат траціць у вачах грамадскасці. Праўда, яна і сама пакуль не поўнасцю актывізавалася. Але ж ці не таму, што большасць па-ранейшаму ўсё пазірае ў бок кіраўніцтва?

*Вам даводзіцца шмат ездзіць па рэспубліцы, сустракацца з самымі рознымі людзьмі і як пісьменніку, і як народнаму дэпутату. Што вы сказалі б пра адносіны да беларускай мовы, да Закона аб мовах вясковых людзей і гараджан?*

Тут неабходна звярнуцца да гісторыі нашай Беларусі. Перажыты і росквіт мовы — калі яна была дзяржаўнай у Вялікім княстве Літоўскім, і заняпад, і гібенне — пад прыгнётам спачатку польскіх феадалаў, а затым — расійскага царызму. Сітуацыя акрэслівалася дакладна: горад пачаў гаварыць часткова на польскай, часткова на рускай і ўсё менш і менш — на беларускай. Вёска ж доўгі час заставалася захавальніцай і носьбітам роднай мовы. На вялікі жаль, за апошнія гады яна таксама змянілася. Маладыя інтэлігенты, спецыялісты самых розных прафесій, прыходзячы ў вёску з горада, прыносяць з сабою і «гарадскую» мову. Вось паслухае даярка ці механізатар заатэхніка або інжынера, які гавораць «па-гарадскому», і самі ўжо стараюцца размаўляць на новы лад. Распаўсюджаны прыклад: карэспандэнт радыё звяртаецца да вясковага чалавека па-беларуску, а той стараецца адказваць яму па-руску, як умее, вядома. Ну ці ж натуральна гэта?

Таму сёння і ў горадзе, і ў вёсцы нараджаюцца сілы, якія становяцца ўжо нацыянальна свядомымі, якія імкнуцца вярнуць народу яго найкаштоўную нацыянальную спадчыну. Асабліва адчуваецца гэта ў Мінску. Усё больш людзей вітаюць з'яўленне Закона аб мовах і хочуць яго ажыццяўлення. Лічу, што ў нашай дзейнасці трэба трымаць курс найперш на горад. Ён вінаваты перад вёскай за тое, што, убіраючы ў сябе яе людзей, пазбаўляе іх звыклага гучання мовы. З яго і трэба пачынаць вяртанне ўсім нам пачуцця нацыянальнай годнасці.

*Як вы ўспрынялі з'яўленне ў Мінску двухмоўных перыядычных выданняў? Як ставіцеся да гэтай з'явы цяпер?*

І спачатку ўспрыняў, і цяпер гляджу на гэтую з'яву адмоўна. Нават калі гэта толькі часовае выйсце. Кажуць, што прычына такога дзіўнага суіснавання дзвюх моў у адным выданні — недахоп журналісцкіх кадраў і няштатных аўтараў, якія свабодна валода-

15. Зак. 5434.

юць беларускай мовай, а галоўная — вялікая колькасць чытачоў, якія не ўмеюць або не жадаюць чытаць па-беларуску (па ўжо вядомых прычынах). Наконт апошняга пагадзіцца не магу. У Беларусі напісанае пабеларуску разумеюць амаль усе. Таму і лічу ненармальнай гэту з'яву — руска-беларускія выданні на Беларусі.

І мірыцца з такім становішчам нельга. Пакрысе гэтым выданням неабходна пераходзіць цалкам на дзяржаўную мову. А выданняў на расійскай мове ў нас хапае. Трэба ж думаць і пра духоўны суверэнітэт нацыі...

*Якія надзеі, планы звязваеце вы з маючым адбыцца II з'ездам Таварыства беларускай мовы?*

Спадзяюся, што другі з'езд ТБМ дапаможа мабілізаваць патрыятычныя сілы на вялікую працу па адраджэнню беларускай культуры і нашай роднай мовы ва ўсіх сферах грамадства. Веру, што з'езд паслужыць таму, каб усе грамадзяне як мага мацней пераканаліся ў неабходнасці такой работы. Гэта грамадзянскі, ды і проста чалавечы абавязак кожнага жыхара рэспублікі. Бо гэта ў інтарэсах нашага беларускага народа, яго шматвяковай культуры. Гэта ў інтарэсах і ўсяго чалавецтва. Падкрэсліваю: захаванне духоўнасці нацыі, яе культуры, мовы — у інтарэсах усяго чалавецтва. Чым больш у адной агульнай палітры фарбаў, тым ярчэйшай і багацейшай робіцца яна. Няцяжка ўявіць, як бы мы збяднелі, калі б раптам на ўсю планету — адна культура, адна мова. У самой прыродзе чалавека закладзены паважлівыя адносіны і да сваёй нацыянальнай культуры, і да культуры іншых народаў. Адсюль — незлічонае багацце культур, мастацтваў, моў — тое, што называюць «гармоніяй адрозненняў». У гэтым — агульначалавечая мудрасць, разумная арганізацыя супольнага жыцця на планеце.

## II

## «ПАКУЛЬ МАЁ ДЗІЦЯ ПРЫБЯГАЕ Ў СЛЯЗАХ...»

*У лістападзе 1965 года ў Мінску праходзіла Усесаюзная канферэнцыя па мастацкаму перакладу, у якой удзельнічалі многія вядомыя паэты і пісьменнікі бадай што з усіх рэспублік Саюза, у прыватнасці — Мікалай Ушакоў, Дзмітрый Кавалёў, Грэгор Віеру, Юлій Ванаг, Рыгор Кочур, Якаў Хелемскі, Олеў Йнгі, Мікалай Любімаў, Вільгельм Левік, Яўген Мазалькоў, Вагаб Рузіматаў, Арсеній Астроўскі, Агей Гатаў і іншыя. На канферэнцыі ўзялі слова і беларускія пісьменнікі, у тым ліку і аўтар гэтых радкоў. Запомнілася: калі пасля выступлення я выйшаў на падворак Саюза пісьменнікаў, адзін з маіх добрых знаёмых, які ўсё жыццё дакладна арыентаваўся, дзе можна голасна, а дзе лепей пусціць шэптам, сунуў свае пальцы ў маю чупрыну і спагадліва сказаў: «Пашкадуй гэту сваю кучаравую, у цябе ж усё-такі сям'я...»*

*Захавалася стэнаграма маёй прамовы, копію якой мне тады ж перадала кансультант СП БССР Т. К. Іваніцкая. На фоне сучасных размоў пра лёс нашай мовы і культуры ў маім тагачасным выступленні няма нічога «страшнага». Але гэта з вышыні нашага сёння. А тады, дваццаць пяць гадоў назад, праўдзівае слова пра стан беларускае мовы, беларускае школы, беларускае кнігі ўспрымалася як страшная палітычная крамола, што я і адчуваў на сабе цягам доўгага-доўгага часу. Тым больш, што і далей я зусім не прыслухоўваўся да парад грамадзян добранамерных...*

*Прапаную ўвазе чытачоў стэнаграму — у перакладзе на беларускую мову — майго выступлення на Усесаюзнай канферэнцыі, з якога ў апублікаваную тады ж справаздачу трапіла толькі некалькі радкоў (гл. «Літаратура і мастацтва» за 23 лістапада 1965 г.).*

Маё выступленне крыху «скараціў» Агей Рыгоравіч Гатаў, таму што я хацеў прывесці лічбы, якія назваў ён, і цяпер ужо няма сэнсу іх паўтараць. Але без некаторых лічбаў мне ўсё ж не абысціся.

Вядома, у нас у Беларусі ёсць поспехі ў развіцці мастацкага перакладу, перш за ўсё — у плане культуры перакладчыцкай працы. Так, у гэтых адносінах прагрэс відавочны. Асабіста я, напрыклад, ганаруся тым, што працую ў адным атрадзе з такімі адмысловымі майстрамі мастацкага перакладу, як Аркадзь Куляшоў, Юрка Гаўрук, Язэп Семяжон, Максім Танк, Уладзімір Дубоўка, Максім Лужанін і іншыя нашы выдатныя паэты-перакладчыкі. Аднак, таварышы, я хачу завастрыць увагу на адным балючым пытанні, якое мяне асабіста і, я ведаю, усіх нас, беларускіх пісьменнікаў, вельмі хвалюе.

Агей Рыгоравіч пытаецца, што ж здарылася ў Беларусі, чаму ў параўнанні з іншымі рэспублікамі і наогул з лічбамі, сярэднімі па Савецкаму Саюзу, у нас гэтыя лічбы больш чым дзіўна мізэрныя? Сапраўды, я таксама чытаў той даведнік, на які спасылаўся Гатаў. Паводле гэтага даведніка, у сярэднім па Саюзу кнігі замежных пісьменнікаў складаюць 11 працэнтаў ад ўсёй мастацкай літаратуры, а ў нас у Беларусі — толькі 3—4 працэнты. Вельмі дзіўна, чаму ж гэта ў Беларусі ўсяго толькі 3—4 працэнты? Каб адказаць на гэта пытанне, я пастараюся сёе-тое растлумачыць нашым гасцям, якія здзіўляюцца, чаму ў Беларусі такое становішча з мастацкай перакладной літаратурай.

У Беларусі такія класічныя творы сусветнай літаратуры, без якіх немажліва ўявіць існаванне нацыянальнай культуры, у апошні раз выдаваліся 30—35 гадоў таму назад. Напрыклад, кнігі Бальзака на беларускай у апошні раз выдаваліся ў 1938 годзе, Сэрвантэса — у 1938-м, Скота — ў 1934-м, Стывенсана — у 1938-м, Дэфо — у 1934-м, Войніч — у 1937 годзе і г. д. і г. д. Знакамітыя кнігі Жуля Верна, як і

Фенімора Купера, і Майна Рыда, і Марка Твэна, у апошні раз былі выдадзены па-беларуску перад вайной. Адным словам, пералічваць можна вельмі доўга. Усе найлепшыя кнігі гэтых пісьменнікаў я прачытаў у дзяцінстве на сваёй роднай мове і быў бясконца шчаслівы ад гэтага. А цяпер іх на беларускай мове няма. Шэсць раманаў Жуля Верна былі выдадзены да вайны на беларускай, а пасля вайны не было надрукавана ні радка! Гэтаксама быў я шчаслівы ў той далёкі час, чытаючы на сваёй роднай мове шматтомны збор твораў Максіма Горкага, кнігі Шолахава, Фадзеева, Астроўскага... Усё гэта тады выдавалася ў нас у перакладзе на беларускую. І я вам скажу, што маё пакаленне — гэта тое пакаленне, якое дало шмат піянераў-герояў, такіх, як Марат Казей, і памаглі выхаваць гэта пакаленне патрыятычныя кнігі, якія мы чыталі на сваёй роднай мове.

Што ж здарылася пасля? Гэта сапраўды горка: за дваццаць пасляваенных гадоў у нас выдадзена каля сотні назваў кніг замежных пісьменнікаў, — прыкладна столькі, колькі за адзін 1934 год. Здарылася штосьці невясёлае.

Што ў нас цяпер у перакладах выдаецца? Або рэчы выпадковыя, або юбілейныя. Прыязджаў балгарскі пісьменнік Стаян Даскалоў, пабываў у выдавецтве ў Матузава, дамовіўся аб выданні яго рамана. І хоць я лічу, што з балгарскай літаратуры трэба перакладаць больш цікавыя рэчы, але справа зроблена, ёсць дамоўленасць, і раман у нас выйшаў. Гэта — прыклад выдання выпадковага. З нагоды юбілею пасля вайны ў нас былі выдадзены Байран, Шэкспір, Гейнэ, Міцкевіч, Славацкі... Так, гэта — дзякуючы юбілеям. Што такое юбілейнае выданне? Мне асабіста здаецца, што гэта ў пэўнай ступені паказуха. У нас яна вельмі распаўсюджана, і хоць Камуністычная партыя ўвесь час змагаецца з ёю, з пусканнем пылу ў вочы, але ў Беларусі ў кнігавыдавецкіх справах паказуха жыве. Перакладчыкі, вельмі паважаныя людзі, працуюць сум-

ленна, але як толькі справа даходзіць да выдавецтва — паяўляецца паказуха. Учора за гэтай трыбунай абураліся, чаму такі маленькі тыраж кнігі Шэкспіра на беларускай мове — 1500 экземпляраў. Для паказухі — дастаткова. Хопіць, каб звазіць у Лейпцыг на кірмаш, у Маскву на ВДНГ... Але хіба можна гаварыць, што дзякуючы такому тыражу гэта выданне з'явілася сур'ёзным укладам у справу развіцця беларускай нацыянальнай культуры? Яно можа стаць такім укладам, калі пойдзе шырока ў масы. А для гэтага тыраж павінен быць не менш 60 тысяч экземпляраў — з разліку: у рэспубліцы 20 тысяч бібліятэк і кожная з іх павінна мець тры экземпляры кнігі Шэкспіра на беларускай мове.

Кажуць аб тым, што ўсё ўпіраецца ў Кнігагандаль. Няма, ці бачыце, галавы, разумнейшай за Кнігагандаль, каб растлумачыць, што кожная наша бібліятэка павінна мець кнігі, якія з'яўляюцца гордасцю чалавецтва і павінны быць на мове нашага народа.

Што ж здарылася? Чым усё гэта растлумачыць?

Галоўная прычына, пра якую трэба гаварыць на ўвесь голас, — гэта грэблівыя адносіны да беларускай мовы і культуры, якія назіраюцца ў рэспубліцы, і перш за ўсё — у школах рэспублікі. Што адбываецца ў нас у школах Беларусі? Беларускім таварышам гэта вядома, але, напэўна, не ўсё вядома нашым гасцям з іншых братніх рэспублік.

Сёння ў гарадах рэспублікі беларускіх школ няма. Няма такіх школ, у тым ліку і ў сталіцы БССР — у Мінску, у якіх бы ўсе прадметы выкладаліся на беларускай мове. У лепшым выпадку ёсць школы, дзе беларуская мова выкладаецца як прадмет, і то ён самы апошні па колькасці гадзін і па агульных да яго адносінах. Ёсць у нас школы на англійскай мове, на нямецкай, на французскай, але школ, дзе б усё навучанне і выхаванне вялося на беларускай мове, — такіх школ няма. І гэта не толькі ў Мінску, але і ва ўсіх гарадах Беларусі.

Гэтым летам я трапіў у такую, здавалася б, глыбінку — Браслаўскі раён. І там вясковая школа — руская, усё выкладанне ў ёй вядзецца на рускай мове. У нас цяпер справы дайшлі да таго, што паступіла інструкцыя — беларускую літаратуру ў школах выкладаць на рускай мове. Цяпер Купала, Колас, Кузьма Чорны і іншыя нашы пісьменнікі вывучаюцца беларускімі дзецьмі на рускай мове. Што гэта такое? (Ажыўленне ў зале). Ды Купала і Колас у труне перавярнуліся б, дальбог, калі б даведаліся, што іх творы беларускія дзеці вывучаюць не на роднай мове! А чаму нашы дзеці пазбаўлены магчымасці чытаць усе лепшыя творы сусветнай літаратуры па-беларуску? Чаму ўжо трыццаць гадоў гэтыя творы ў нас не выдаюцца?

Таварышы, мы, беларусы, здаўна і вельмі моцна любім рускую мову, рускую літаратуру. Але няўжо трэба, каб у імя гэтай любові мы ахвяравалі роднаю мовай? Каму і дзеля чаго патрэбна такая ахвяра? Рускі народ гэтага не патрабуе, руская мова ў інтарэсах свайго развіцця гэтага не патрабуе. Чаму ж тады гэта адбываецца?

Чытацкая база на беларускай мове звужаецца катастрафічна, скажам адкрыта. Што такое наша беларускае нацыянальнае выдавецтва? Па ідэі, яно павінна існаваць іменна як нацыянальнае выдавецтва, г.зн. перш за ўсё павінна задавальняць патрэбы ў развіцці беларускай нацыянальнай культуры. Але яно перастала быць такім. Па маіх падліках, пяць шостых ці, прынамсі, чатыры пятых паперы з усяго выдавецкага плана пажырае не нацыянальная культура. Як жа можна гаварыць аб развіцці перакладчыцкай справы, калі мы знаходзімся ў такім становішчы, калі беларускія пісьменнікі чуюцца вельмі заціснутымі і з выданнем сваіх арыгінальных твораў?

Нядаўна Юрка Паўлавіч Гаўрук расказваў мне, колькі пакут прыйшлося зведаць яму, пакуль ён дабіўся выдання шэкспіраўскага «Гамлета» на беларускай мове.

Адказны таварыш так заявіў Гаўруку: «Навошта Шэкспір на беларускай мове, калі ёсць на рускай?» Што гэта: свядомая дыскрымінацыя ці тупасць — узровень той дамачкі, якая паблытала Драйзера са штапелем? Ну як яму даказаць — навошта? Між іншым, учора Яўгеній Сямёнавіч Мазалькоў напомніў нам, што ў славянскім свеце першым прафесіянальным перакладчыкам быў беларус — Скарына.

Наступнае пытанне — дзе друкавацца? Нашы перакладчыкі хочуць і могуць працаваць плённа, але — дзе друкавацца? Вось выдавецкі план: адна кніжачка з Якуціі і чатыры з братніх сацыялістычных краін. Усяго — пяць кніжак. Скора паедзем у Таджыкістан, на Дэкаду. Павязём з сабой адзін зборнічак таджыкскай паэзіі на беларускай мове. А таджыкі выдалі сем кніг беларускіх паэтаў. Як жа наш кнігагандаль, наш Камітэт па друку на гэта глядзяць? Маім таварышам сорамна туды ехаць. Друкавацца няма дзе. Заўтра Юрка Паўлавіч перакладзе Шылера, але — хто яго будзе друкаваць? Наша выдавецтва задыхаецца. Каб надрукаваць у «Маладосці» вершы, трэба чакаць каля года. Патрэбен новы часопіс. Таварыш Семяжон сказаў праўду — трэба дабівацца выдання добрага ілюстраванага часопіса, для гэтага ў нас сілы ёсць, і наша канферэнцыя можа ў гэтым дапамагчы нам, і тады ў выданні перакладной літаратуры ў Беларусі адбудуцца перамены.

Коратка пра ганарарную палітыку. Колькі атрымлівае беларускі перакладчык за сваю нялёгкую працу? Прывяду толькі адзін прыклад — наконт выдання падрыхтаванай мною анталогіі сучаснай балгарскай паэзіі «Ад стром балканскіх». Восем гадоў я працаваў над гэтаю кнігай. Ездзіў на тры месяцы ў Балгарыю, вывучаў мову, літаратуру, гісторыю, адбіраў вершы. Пераклаў, як было дамоўлена ў выдавецтве, каля дзесяці аркушаў. Хацелася прадставіць гэту паэзію па-сапраўднаму. І вось — замест дзесяці далі толькі пяць аркушаў. На маё горкае пытанне: як жа так? —

адказалі: не можам, фінансісты бяруць за горла. Так і сказалі ў выдавецтве, што задыхаюцца і не могуць дазволіць сабе такую раскошу. У выніку — палавіна анталогіі пайшла без аплаты перакладчыку: на пяць аркушаў падпісалі са мной умову, а чатыры — на грамадскіх пачатках, безганарарна. І я з радасцю згадзіўся, бо мне важна, каб кніга была выдадзена непакалечаная. І балгары ганарацца гэтай кнігай. Я вазіў яе ў Балгарыю, яны вельмі ганарацца (апладысменты). Як бачыце, палавіна маёй працы пайшла за так. Калі ўлічыць, што ў нас стаўкі для паэта-перакладчыка — 40 капеек і 70 капеек, вышэйшых я не весяю, бо не карыстаўся больш высокімі, дык мне, так бы мовіць, можна трохі і паспачуваць...

Я хачу, каб мы ўсе зразумелі, пра што гаворка, стварылі нейкую агульную думку і паставілі перад адпаведнымі інстанцыямі пытанне аб тым, што ў нас вельмі дрэннае становішча з беларускай мовай, і ў школах — перш за ўсё. Гэта свістапляска з беларускай мовай, перш за ўсё ў школах, павінна быць спынена! (Апладысменты.)

Вось дэталь, ці факт, які можа адкрыць вочы, наколькі далёка ў нас гэта зайшло. «Литературная газета» прывяла такі прыклад з работы нашых бібліятэк. У вёсцы Уваравічы на Гомельшчыне маладая дзяўчына-бібліятэкар нічога не чытала з беларускіх кніжных навінак. У апраўданне заявіла, што не любіць беларускую літаратуру. Нарадзілася і вырасла ў Магілёве, там скончыла тэхнікум, працуе ў бібліятэцы, атрымлівае зарплату, а аддачы для беларускай культуры — ніякай! Чаму ж гэта магчыма, што чалавек, які вырас у Беларусі, заяўляе, што беларускую літаратуру не любіць? (Голас з месца: «Выхавалі так!») Я не магу сабе ўявіць, каб, скажам, у Разанскай вобласці, у раённым цэнтры бібліятэкар заявіў, што ён не любіць рускую літаратуру. Чаму ж такое магчыма ў Беларусі? І вы думаеце, што пасля выступлення газеты

будуць прыняты меры, што тую бібліятэкарку звольняць з працы і скажуць памяняць прафесію?

Расказвалі, што Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў у сваю бытнасць першым сакратаром ЦК дзесьці ў прыватнай гутарцы ў Латвіі заявіў: вы, латышы, нацыяналісты, вы бярыце прыклад з Беларусі. Беларусы першымі прыйдуць у камунізм, таму што вы трымаецеся за родную мову, а беларусы паказваюць прыклад інтэрнацыяналізму. Я не ведаю, як хочацца таварышу Хрушчову, але асабіста мне не хочацца быць ні бліжэй, ні далей за латышоў. Мне хацелася б быць у адным шэрагу з усімі братнімі народамі Савецкага Саюза. (Апладысменты.)

Дык вось: да той пары, пакуль не спыніцца гэта непрыгожая свістапляска з беларускай мовай у школах рэспублікі, і не толькі ў школах, да той пары, пакуль маё дзіця будзе прыбягаць з вуліцы ў слязах і крычаць мне: «Нашто ты вучыш мяне беларускай мове, мяне хлопчыкі б'юць кулакамі, калі я гавару пабеларуску!» — да той пары, выбачайце, я не вельмі веру ў магчымасці паспяховага развіцця беларускага мастацкага перакладу ў нашай рэспубліцы. (Апладысменты).

## СБЛИЖЕНИЕ? ДА!
## НО КАК МЫ ЕГО ПОНИМАЕМ?

### Предварительное пояснение автора

*В марте 1967 года «Литературная газета» пригласила меня принять участие в разговоре, начатом на ее страницах диалогом таджикского поэта Мирзо Турсун-заде и московского критика Ю. Суровцева. Я согласился и написал небольшую статью под заглавием «Сближение? Да! Но как мы его понимаем?». Статья была принята, одобрена, подготовлена к печати, даже присылали мне на вычитку корректуру, но... увы, публикация все же не состоялась. «Видимо, для такого выступления еще не пришло время», — из-*

*винительно-сочувственно ответила мне по телефону сотрудница редакции. Ну что ж, время действительно было не благоприятствующее разговору начистоту. Но теперь, слава Богу, в этом отношении оно резко изменилось к лучшему. Время изменилось, а статья... актуальности, к сожалению, все еще не потеряла. Потому и предлагаю ее читателям. Кроме того, это нужно сделать и ради восстановления справедливости: должны ведь современные молодые люди знать, что и тогда, четверть века назад, не все восторженно поддакивали да хлопали в ладоши, слушая громкие слова об «окончательно решенном национальном вопросе», не все жили, закрыв глаза на реальные проблемы в сфере духовной, в области взаимодействия национальных культур, которое по существу является вопросом политическим. Это нужно, подчеркиваю, новым поколениям читателей, нашим преемникам, — для их более уверенного участия в созидательной работе на благо человека и человечности.*

*Статью предлагаю в том же самом виде, не изменив в ней ни единого слова.*

В диалоге Мирзо Турсун-заде с Ю. Суровцевым («Литературная газета», № 11) затронуты вопросы, которые волнуют многих литераторов, в том числе и нас, белорусов. Это вопросы, уходить от которых нельзя, потому что они выдвигаются самой жизнью и их должно решать.

Из множества верных мыслей и замечаний, высказанных в диалоге, я целиком разделяю мнение маститого поэта о том, что «между декларациями насчет единства и многообразия и реальным изучением этого единства и многообразия существует, к сожалению, определенный разрыв». Да, в декларациях у нас недостатка нет, а что касается изучения — дело, действительно, идет туговато. Хотя, кажется, все понимают, что только конкретное изучение процессов, происходящих в советской литературе в целом и каждой на-

циональной литературе в отдельности, позволит сделать необходимые теоретические обобщения и практические выводы для дальнейшего развития «единой и многообразной».

Именно потому мне и хотелось бы поделиться некоторыми соображениями, имеющими непосредственное отношение к теме диалога.

У нас все больше и в общем справедливо говорится о взаимном сближении литератур и еще шире — культур всех народов Советского Союза. Подчеркивается, что в основе этого сближения лежат общие закономерности социально-исторического развития различных народов, общность их жизненных интересов и устремлений, общность благородных целей. В плане теоретическом ничто здесь не может быть подвергнуто сомнению — все верно, общие закономерности есть. Ну а как этот процесс сближения выглядит на практике, в чем его сущность и каковы его особенности? Соответствует ли практика теории в каждом отдельном случае — применительно к литературно-художественной и культурной жизни каждой нации и народности? Достаточно ли мы знакомы с реальным положением дел на местах? Да и все ли мы одинаково понимаем и представляем, как должно проходить это сближение и к чему оно приведет? Ведь в жизни сколько угодно приходится слушать заявлений людей, которым все это видится очень просто: сольем все воедино, перейдем все на один язык, и литература будет вся на одном языке, и мудрить тут нечего. Мне могут возразить: так вы говорите о каких-то людях непонимающих, ограниченных, что ли; а мы руководствуемся партийным принципом, по которому взаимное сближение национальных культур должно служить взаимному обогащению и дальнейшему расцвету этих культур и не имеет ничего общего с ассимиляцией национальных языков, растворением одной национальной культуры в другой, поглощением духовных сокровищ одного народа другим. Увы, именно

эти оптимистически настроенные дяди, для которых все ясно, нередко [redacted] осуществляют на практике сближение национальных культур, и делают это, разумеется, в силу своего понимания. Это они нередко занимают «культурные» должности на селе, [redacted] районном городке и большом городе! И [redacted] результате... что получается в результате — мне трудно дать определение, только, кажется, не то, что провозглашается в декларациях.

Определенные характерные явления в той или иной национальной литературе не должны оставаться незамеченными, если мы серьезно озабочены изучением опыта всех братских литератур [redacted] целях их же дальнейшего роста и развития. Тем, кто слабо знаком с условиями литературной жизни в Белоруссии, наверное, покажется странным, почему в современной белорусской поэзии (да и не только в поэзии) так сильно звучит мотив национального самоутверждения, особенно в стихах о родном языке. [redacted] лирике это сейчас один из ведущих мотивов. Казалось бы, а что тут удивительного? Разве это противоречит идейным основам советской литературы? Или тому сближению, о котором мы так много говорим? Нет, конечно, не противоречит. Но почему же, интересно, этот мотив не звучал так отчетливо раньше, например в 30-е [redacted] 40-е годы? Почему именно теперь зазвучал он с необычайной силой? Чем это вызвано? Что изменилось [redacted] жизни республики или страны? Сейчас у нас нет, пожалуй, ни одного поэта — от самых старших до начинающих, — кто не писал бы на темы национального самосознания, будь то стихи о родном языке или о белорусской народной песне, о видных деятелях национальной истории и культуры или о Белоруссии вообще, о ее земле и людях. Вот некоторые строки из опубликованных стихов о языке. У М. Танка (перевод везде подстрочный): «А песни поете на каком языке? Говорите, что на многих, только не на своем?..» У П. Панченко: «Говорят, мой язык отживает век свой ти-

хий: ему исчезнуть пора. Для меня же он вечно живой — как роса, как слеза, как заря... Плачу я, иль пою, или беседую с матерью — язык свой, песню свою я к груди прижимаю». У Р. Бородулина: «Утверждают историки и языковеды, что стираются грани наций и будто бы обязательно должен отмереть как пережиток язык моей матери — белорусский язык». У Г. Буравкина: «Слова жудостно умирают, угасают, как светляки... Люди, люди! Ну что же вы, люди, не спасаете их, родных?» Подобных примеров можно привести десятки. Не трудно заметить, что эти стихи написаны очень искренне, взволнованно, иногда они звучат как объяснения в любви, иногда как клятва, иногда как страстная речь в защиту. Я написал «в защиту» и задумался: а почему, собственно, родной язык нуждается в такой поэтической защите и от кого его надо защищать? Кто на него нападает? Да вроде бы никто не должен сметь. Ведь его право на жизнь гарантировано Конституцией. Так что же, поэты выдумывают? Нет, конечно. Ничего они не выдумывают. Эти чувства и настроения продиктованы им жизнью. Ага, значит, сама жизнь побуждает поэтов поднять голос в защиту родного языка. Но что значит — сама жизнь? Разве общество не управляет важнейшими жизненными процессами? Разве они развиваются у нас без руля и без ветрил?

Вопросов возникает много. Чем больше думаешь, тем больше вопросов. И одним из самых главных для нас, литераторов, является, несомненно, вопрос о языке. Давно и все согласились на том, что перспектива развития национальной литературы — это перспектива развития языка данного народа, потому что язык — первоэлемент литературы, начало всех ее начал. Следовательно, забота о языке для писателя — одна из главнейших, если не самая главная. Писатель должен все время обогащать и развивать свой язык, используя неисчислимые сокровища живой народной речи. Но вот у нас в Белоруссии сложилась такая си-

туация, что, если писатель хочет услышать настоящий белорусский язык, он должен поехать в деревню, потому что в городе такового не услышишь. У белорусских писателей нет того счастья, которым распологают, скажем, их русские или эстонские коллеги,— каждый день, каждый час и на каждом шагу слышать живую речь своего народа, постоянно находиться [redacted] ее стихии. Нужно ли объяснять, как это сказывается на творчестве?

Недавно на собрании писателей, посвященном обсуждению белорусской прозы за 1966 год, один из наших старейших литераторов Я. Скрыган приводил примеры, каким ужасным, отвратительным языком пишут некоторые молодые, да и не только молодые белорусские прозаики. Что ни предложение — все калька с русского, притом не с настоящего русского, а с какого-то безобразного чиновничьего волапюка. Слушаешь такое [redacted] думаешь: что же будет дальше, как сложится дальше творческая судьба этих писателей? Может быть, им лучше перейти на русский язык? Но ведь русского они тоже не знают, только по книгам...

Или возьмем другой пример. Полтора года назад на всесоюзном совещании по вопросам художественного перевода в Минске очень много говорилось о непостижимо мизерном количестве переводов, издаваемых в последние годы на белорусском языке. Так, в 1965 году в Белоруссии было издано всего пять книг зарубежных писателей. Такое положение было оценено участниками совещания как совершенно ненормальное. Все высказали надежды, что будут сделаны соответствующие выводы. И они были сделаны. В нынешнем, 1967 году из всей зарубежной литературы на белорусском языке выходит уже не пять, а... только одна книга: небольшой томик болгарских рассказов. Простите, но это в несколько раз меньше, чем в проклятом 1913 году, когда белорусский язык не только не являлся государственным, но был по существу под запретом — даже школ белорусских не было.

За небольшим исключением, все крупнейшие писатели мира издавались на белорусском языке [redacted] последний раз более тридцати лет назад. Между прочим, те же симпатичные дяди, для которых по данному вопросу все ясно, [redacted] ответ на несмелый ропот писателей заявляют: а зачем, собственно, переводить на белорусский, если у нас все умеют читать по-русски? Зачем на белорусском Шекспир, Сервантес, Гёте, Бальзак, Диккенс, если все они есть на русском! Ну как им объяснить, этим товарищам, зачем нам нужен белорусский Гёте? Как объяснить, если им и так все совершенно ясно? Нет, вряд ли они могут понять такое. Но кто-то должен понимать, что народ имеет право читать лучшие творения мировых писателей на своем родном языке? И кто-то должен понимать, что без художественных переводов значительно замедляется, ограничивается и сдерживается развитие национальной литературы и литературного языка, что художественный перевод всякой литературе жизненно необходим, если, конечно, она не думает умирать завтра. Этим «кто-то», мне кажется, могло бы быть руководство Союза писателей СССР — никто другой лучше его не может понимать ненормальности такого положения с художественными переводами. Но — известно ли все это руководству Союза писателей? Известно ли ему, что в 1934 году было издано на белорусском языке зарубежных книг ровно в сто раз (!) больше, чем [redacted] 1967 году (куда же мы идем?)? Известно ли ему, что произведения писателей братских республик у нас переводятся, как правило, только в связи с юбилеями и к литературным декадам, т.е. не по естественным запросам, а по праздничным программам, а потому нередко в спешном порядке, небрежно, формально, лишь бы числилось? Известно ли ему, что школьники белорусских городов изучают белорусского Купалу, Коласа, Черного и других не в оригинале, а в переводе на русский, точно так же, как Сервантеса или Марка Твена? А если все это ему известно —

где же его голос? Можно ли умалчивать о подобных явлениях, которые разрастаются в исключительно острые проблемы развития одной из национальных литератур? (Я говорю «одной», потому что не знаю, как с этим вопросом в других республиках.) Ведь сколько бы мы ни уходили от таких жизненных проблем — от них не уйдешь, и рано или поздно их придется решать. Так, видимо, лучше все-таки решать их своевременно.

Или вот еще одна сторона этой же проблемы. Все последние годы справедливо упрекают белорусскую драматургию в отставании — совсем мало оригинальных пьес поступает в театры (не говоря уже о их качестве). Кадры драматургов растут очень слабо. Но опять же возникает вопрос: а могут ли выявляться и развиваться кадры национальной драматургии в сложившейся ситуации, когда из одиннадцати государственных театров республики только три являются белорусскими? Кто будет выявлять, поддерживать и растить эти кадры?

В диалоге Мирзо Турсун-заде и Ю. Суровцева затронута проблема воспитания молодого поколения, говорится о том, как важно появление хороших книг на эту тему. Задумал было и я написать поэму о фабрично-заводской молодежи, о ее жизни и труде, о тех проблемах, которые ее волнуют. Начал ближе знакомиться с «темой» будущей книги и — стал в тупик. Лучшие молодые рабочие, техники, инженеры, хорошие производственники и общественники, поразили меня непонятным нигилизмом и даже пренебрежением по отношению к своему родному языку и культуре. Белорусских писателей читают мало, да и тех в переводе на русский, белорусской музыки почти не знают, искусства тоже, о национальной истории имеют невероятно смутное представление (некоторые даже не знают, когда образовалась БССР — государство, в котором они живут). И стало мне от всего этого грустно. Как же писать с них положительные обра-

зы? Иваны, не помнящие родства (они же хорошие производственники), — и вдруг положительные герои книги? Какие же они положительные? А еще мне стало ясно, что надо проводить — умно и терпеливо — большую работу среди молодежи, особенно городской, по воспитанию у них чувства национального достоинства, национальной гордости, иными словами, надо пробуждать у них — как ни странно это звучит сегодня — национальное самосознание. Видимо, это понимают и все белорусские писатели, и потому-то белорусские национальные мотивы выходят в литературе на передний план. Нет нужды доказывать, что это никак не ослабляет интернационального звучания нашей литературы, всегда ей присущего. Ведь, говоря словами Мирзо Турсун-заде, нельзя представлять дело так, «будто бы интернациональное («общее») существует где-то «над» или «около» национального, а национальное — это, мол, что-то такое, что обитает «рядом» с интернациональным».

Очень хотелось бы надеяться, что эти проблемы не будут обойдены вниманием на IV Всесоюзном съезде писателей.

## ГУМАНИЗАЦИЯ ВСЕГО И ВСЯ[1]...

**Ответы на вопросы корреспондента «Известий» Н. Матуковского.**

*Каким вы видите сегодня место писателя на фронте перестройки?*

Более ста лет назад прозвучало — как наставление и завет всем, кто будет иметь дело с душой человека: «сейте разумное, доброе, вечное...» Доброе — оно-то и есть вечное. К литературе, к писательству это относится в первую очередь. Лиру, которая (потревожу тень еще одного великого) не пробуждает в человеке «чувства добрые», — следует выбросить на свалку: к

1 По неизвестным автору причинам опубликованы не были.

чему она? Такая лира — бездушная, фальшивая — никогда не нужна была людям, особенно же — сегодня у нас. Постараюсь пояснить, почему «особенно». Потому что в течение всего XX века развитие истории шло через такие перипетии, которые способствовали ожесточению сердца человеческого. Любо не любо, но мы вынуждены признаться себе: милосердия заметно поубавилось в мире, у нас — не будем обольщаться — тоже. Слишком долго с человеком обходились не по-человечески, достоинство личности не только унижалось, но и растаптывалось, сама жизнь человеческая теряла значение наивысшей ценности из всего сущего на земле. Да и что могли значить один человек и его жизнь, если не церемонились с огромными массами людей, с миллионами жизней, с целыми народами! И это немилосердное отношение к человеку, особенно очевидное в таких социальных катаклизмах, как войны и массовые репрессии, с неизбежностью перешло в плоть и кровь нашего ежедневия, во всю нашу экономико-хозяйственную, культурно-идеологическую и прочую деятельность. Разве такие катастрофические события, такие ужасные народные трагедии, как чернобыльская авария, гибель Арала, отравление Байкала, обречение на смерть «неперспективных» деревень и несть этому числа, — разве все это не от бессердечия, не от жестокости, не от равнодушия к людям? Разве это исходило из чувства заботы о человеке, о его жизни, о его будущем?.. Вот почему гуманизация всего и вся — идеологической сферы, системы образования, способов и методов хозяйствования и т. д. — должна стать доминирующей всеобъемлющей идеей развития нашего общества, ибо вне этого теряет смысл все прочее. Отсюда и главнейшая, как я понимаю, задача литературы наших дней— самоотверженно содействовать гуманизации общества, работать на воспитание человечности, доброты, милосердия.

Впрочем, подлинная литература всегда понимала

свое призвание только так. Как говорится — ничего нового.

*Ваше отношение к той «писательской» полемике, которая ведется многими журналами в последнее время.*

Вопрос этот мне представляется более сложным, чем иные товарищи полагают. В целом эти разногласия идут в русле поисков истины, а конкретнее — поиска путей возрождения ленинской модели социализма, то есть — путей осуществления перестройки. Естественно, что несовпадения и различия во мнениях и взглядах здесь неизбежны. Еще бы! Столько наворочено в теории и практике целых десятилетий, столько разного наслоилось на стержне отечественной истории, столько всякого наскрещивалось в мыслях и чувствах человеческих! Огорчает, и сильно, в полемике коллег-писателей то, что ведет к разъединению усилий, — чрезмерные, поверхностные эмоции, невзвешенные, легковесные заявления, непродуманное обращение с фактами, необоснованные обвинения. В оправдание используется при этом известная формула: прежде чем объединиться... Да, конечно, объединение может быть только лишь на принципиальной основе. Но разве такой основы нет? Критерий общественной позиции каждого из нас — отношение к перестройке, и не просто отношение, а конкретная работа на обновление: есть она или нет? Впечатление таково, что кое-кто, сознательно или несознательно, ищет основу для объединения в стороне от этих критериев и принципов. Удивляет, с какой легкостью полемисты лишают друг друга «звания» сторонника перестройки. Доходит до попыток заронить сомнение у читателя даже в отношении самых выдающихся писателей, составляющих гордость современной русской литературы, писателей, которые трудились в духе перестройки всегда — начиная с первых опубликованных страниц. Теряют при этом сами же обвинители, потому что читатель не слеп и не глуп, он очень хо-

рошо чувствует правду, особенно ту, что исходит из сердца изболевшегося и обжигает его сердце болью. Рядом с этим заметно нежелание считаться с объективными условиями исторического времени и сведение причин многих народных бедствий к злокозненным промышлениям дьявола. Думаю, что помочь на пути к истине может только мудрость. И надеюсь, что с помощью большого читателя, имя которому — народ, эта мудрость будет обретена.

*Сейчас ведется много дискуссий по поводу национального и интернационального в литературе. Какова ваша личная позиция по этим проблемам?*

Прежде всего отмечу, что до недавнего времени на эту тему слишком много велось разговоров схоластических, пустопорожних. «Специалистами» по теме издана уйма толщезных фолиантов, в которых, однако, невозможно найти объективную картину реального положения вещей. Беда в том, что эти «специалисты» чаще всего способны лишь предписывать, а ведь литература в предписаниях не нуждается. Художники слова догмами руководствоваться не могут. Если литература того или иного народа развивается естественно, свободно, в подлинно демократических условиях — она непременно отображает все то, что составляет особенности его национального характера, бытового уклада, исторической судьбы, культуры. И чем более литература верна жизни своего народа — тем более она национально самобытна и — тем более интересна для читателей других стран и народов, т. е. тем более она интернациональна.

*Во многих республиках, в т.ч. и в Белоруссии, обострилась проблема национального языка. Одни говорят, что национальный язык надо сделать в республике единственно государственным, другие же говорят, что такое же место рядом с ним должен занимать и русский язык. У вас филологическое образование, вы четверть века преподавали в Белгосуниверситете, имеете*

*тысячи своих учеников. Что вы им исповедовали и исповедуете?*

В самом общем смысле — всегда, начиная с первых своих лекций, исповедовал одно и то же: надо знать, уважать и любить язык земли, где ты родился или волею судеб прижился. Потому что иное отношение к языку народа, которому ты принадлежишь или среди которого живешь, — не есть свидетельство высокого уровня культуры и не на пользу для тебя же самого. Незнание языка значительно ограничивает твои возможности приобщения к большому миру духовной жизни народа, к его культурным традициям. А уж всему народу терять свой язык и через это терять себя, обрекать себя на исчезновение с исторической арены — это и вовсе никуда не годится!.. К сожалению, слишком долго в общественной жизни республики преобладали настроения, способствовавшие развитию национального нигилизма. Теперь, можно сказать, начался процесс прозрения, постепенного осознания того, что дело зашло слишком далеко и требует, конечно же, самого серьезного пересмотра. Делаются — партийными и общественными организациями — и первые практические шаги к исправлению положения. Но, убежден, желаемого успеха не будет до тех пор, пока белорусскому языку не будет придан статус государственного. Иначе все будет оставаться на уровне не гарантированной законом самодеятельности. Государству правовому, а тем более — суверенному, каковым является БССР, это, простите, не к лицу. И совершенно не следует опасаться, что повышение статуса белорусского языка отрицательно скажется на положении и авторитете русского языка. Уверен, что у нас, в Белоруссии, ничего подобного не случится. Язык межнационального общения, язык нашего интернационального братства будет нам так же дорог, как и доныне. И знать его хуже мы себе не позволим.

*Многие писатели являются в то же время и*

*журналистами, работают в редакциях газет и журналов, на телевидении и радио. В связи с этим хочется спросить о вашём мнении по поводу открытых нападок на печать со стороны некоторых выступающих, дескать, слишком много критикует, слишком много вытаскивает «негатива»... Некоторые утверждали даже, что печать... нападает на партию, настраивает народ против нее. Насколько обоснованы такие утверждения?*

Дело, на мой взгляд, не в том, что «негатива» слишком много, [redacted] «позитива» маловато. Арифметический подход в идеологии — наследие прошлых времен, он не пригоден в принципе. Важно, как и во имя чего этот «негатив» подается. Ведь о трагично-тяжелых, печальных событиях можно сказать так — с такой очищающей душу человеческой болью, что рассказ не расслабит волю читателя, не деморализует его, не повергнет в отчаяние, а напротив — мобилизует его духовные, нравственные силы на сопротивление злу... А можно ведь над горем-бедой и позлорадствовать, цинично-пошло позубоскалить, с прозрачным намеком: это, мол, всё они, они виноваты, видите?.. Когда «негатив» идет от искреннего желания помочь общему делу, т.е. когда он пропущен через доброе, честное, чистое сердце, — зачем же его бояться? Иначе — как же мы его и все подобные ему «негативы» одолеем?.. Что касается обвинений в настраивании народа против партии... Хорошо бы не отождествлять нашу партию с ее отдельными представителями, если даже они занимают (или занимали) очень высокое положение. И если даже этих «отдельных» достаточно много. У меня, как говорится, перед глазами — коммунисты, совесть, честность и принципиальность которых — образец гражданского и человеческого достоинства. Знаю их и среди рабочих, и среди хлеборобов, и среди интеллигенции... Они безосновательные нападки на себя всегда отобьют.

*За что вы как писатель намерены дальше своим словом бороться, что будете утверждать, а что отвергать?*

Моя платформа — решительнее осуществлять перестройку во всех сферах общественной жизни. Применение своих сил вижу прежде всего в области культуры, национальных взаимоотношений, морали, экологии... Как и до сегодня, буду бороться за свободное развитие эстетической мысли, литературы и искусства, за то, чтобы над ними не довлело примитивно-вульгарное мнение бюрократа. Нужно завоевать новые условия для творческой личности, для труда и самоосуществления писателя, художника, артиста. Перемены к лучшему в этом отношении заметны, но главная работа — точнее борьба — впереди. Ведь долгие годы, в условиях застойного прагматизма и усиления бездуховности, отношение к деятелям литературы и искусства, а значит и к художественной культуре, вырабатывалось не очень почтительное, чтобы не сказать совсем откровенно: плевое. Подлинной заинтересованности в развитии этой культуры весьма и весьма не хватало. Такое отношение, распространяясь сверху донизу, неизбежно ослабляло и умерщвляло духовные начала в человеке, что для жизни общества чрезвычайно опасно. Надо вернуть литературе и искусству высокий авторитет и достойное положение в обществе, а это зависит не только от творческих успехов художественной интеллигенции, но и от заботливого, заинтересованного отношения к ней со стороны «потребителей». Пока же в печати еще можно и такое увидеть: «Хорошо этим писателям книжечки почитывать, ума набираться, а хлебушек-то наш едят!..» Самое ужасное то, что многие не понимают, сколь это ужасно. В том числе и те, кто по служебному положению своему должны это понимать. А они — довольны, потирают руки: правильно, мол, гвазданул рабочий этих писак!.. (Между прочим, и рабочие едят хлебушек, выращенный крестьянст-

вом, но — не в этом дело; попрекать куском хлеба тех, кто честно трудится, — кому же на ум придет?..)

Что прежде всего необходимо в нашей жизни отвергать и выкорчевывать? Ложь и лицемерие. Считаю, что этот порок за долгие десятилетия развился так, что стал самым тяжелым и самым опасным недугом нашего общества. Из лжи и лицемерия (а это и есть: говорим одно, а делаем другое) прогресс восходить не может. Прогресс, о котором ныне все заботы наши, может зиждеться только на Совести — на великой человеческой Совести. Да поможет литература человеку на этом единственно достойном его пути!

*1989, март.*

## ПЛЁН — БУДЗЕ, ДЫ ЯШЧЭ ЯКІ ПЛЁН!..

«Літаратура і мастацтва» *за 25 студзеня 1985 г.*

Пішу гэтыя радкі пад уражаннем ад незвычайнага фальклорнага вечара «Чатыры пары года», які адбыўся ў Доме літаратара ў Мінску. У надрукаванай праграмцы вечар так і названы: «фальклорны» — і гэта правільна, бо ўсё, што ўбачылі шчаслівыя гледачы на сцэне, — фальклор, беларуская народная творчасць, з тым, аднак, удакладненнем, што творчасць не наогул, а харэаграфічная, народны танец і скокі, з элементамі спеву, гульні, абраду. Яно і зразумела: вечар падрыхтаваны на кафедры харэаграфіі Мінскага інстытута культуры — спецыялістамі ў галіне менавіта танцавальнай народнай творчасці (загадчык кафедры прафесар Ю. М. Чурко, мастацкі кіраўнік курса, занятага ў вечары, выкладчык В. П. Бяляева).

Чаму я назваў вечар незвычайным, а гледачоў — шчаслівымі? Ці ёсць падставы для такіх высокіх эпітэтаў? Упэўнены, што ёсць. І справа, думаю, не ў асабістых эмацыянальных адносінах да таго, што дзеялася на сцэне. Эмоцыі — узнікаюць і праходзяць, а памяць і думкі — застаюцца. Што да памяці — дык

вечар пакінуў у душы след чагосьці святочнага, радаснага, менавіта незвычайнага, бо не часта даводзіцца штосьць падобнае бачыць, — з такім цудам сапраўднай народнай творчасці сустракацца. Шчыра кажучы, такога багатага вянка беларускіх народных танцаў на сцэне нешта і прыгадаць не магу. Ну і вядома: калі для гледача адкрываецца столькі незвычайнага, новага, цікавага, дабаўлю — радаснага і ўцешнага, то ў яго нараджаюцца і нейкія думкі. Падзялюся збольшага тым, пра што думалася ў зале і пасля, па дарозе дадому, мне — аднаму з нямногіх шчасліўцаў. (Ах як я спачуваю вам, дарагія калегі, — усім, хто меў запрашэнне на вечар і прамяняў яго на цёплае драманне перад чарговым тэлесерыялам! Як вы многа страцілі, мае паважаныя таварышочкі!..)

Дык вось, на сцэне Дома літаратара студэнты Інстытута культуры (пераважна — трэцяга курса) выконвалі — у сцэнічнай інтэрпрэтацыі — даўнія беларускія народныя танцы, а таксама харэаграфічныя кампазіцыі, сцэнкі, эцюды, пастаўленыя на аснове аўтэнтычнага харэаграфічнага і песеннага фальклору, народных абрадавых дзействаў, забаў і гульняў. У прыватнасці, былі паказаны — падкрэсліваю: у творчым узнаўленні — народныя танцы «Дожджык», «Рэпка», «Цапы», «Кабылка», «Мяцеліца», полькі «Праз нагу», «З падкіндэсам», «Матылёк», «Грабаўская кадрыля», «Танец з гладышом», вясельны танец каравайніц і іншыя. Ці ўсе яны, паважаны чытач, табе вядомы? Не ўсе? Мне таксама. Пра некаторыя даведаўся толькі цяпер, пачуў і пабачыў упершыню. Былі выкананы харэаграфічныя кампазіцыі і сцэнкі з выкарыстаннем сямейна-бытавых, земляробча-каляндарных абрадаў, зімовых, вясновых і летніх народных святочных гульняў, забаў, карагодаў, песень і нават дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва: «Масленіца», «Калыханка», «Першы гром», «Вербачка», «Чубры», «Вясёлае кола», «А ну, спаймай!», «А мы лён расчэшам», «Застолле», «Каравай», «Пераскачы, дарагі»,

«Скамарохі» і іншыя. Колькі, паважаны чытач, у гэтым дзівосным багацці для цябе незнаёмага, новага? Многа? Для мяне таксама. Многае з гэтага я спазнаў упершыню.

А як жа гэта мы з табою жывём, не ведаючы, што ў нас жа, на нашай жа роднай зямлі існуюць такія цуды мастацтва, створаныя нашымі дзядамі-прадзедамі? Як жа гэта мы маглі мірыцца, што такі прыгожы плён творчага генія народа знаходзіўся ў забыцці-занядбанні, не служыў людзям, новым пакаленням, творцам і гаспадарам будучыні? Ад думкі, што мы маглі б спазніцца і ўсё гэта магло б загінуць, беспаваротна, бясследна кануць у небыццё, — аж млосна робіцца. Страшна і на міг дапусціць у думках такое — цяпер, калі ўжо мы гэта пабачылі, калі ўжо яно перайшло ў нашы душы і сэрцы і стала часцінкай нашага духоўнага быцця. Ну, добра, — пранізвае неспакойная думка, — гэта паспелі разумныя людзі ўратаваць, гэтаму загубіцца і згінуць не далі, а колькі ж такога загінула, колькі такога страчана для нацыянальнай і агульначалавечай культуры назаўсёды? Колькі?.. Не будзем сёння ўдавацца ў падобныя невясёлыя падлікі — хаця б таму, што страчанага не вернеш. Падумаем пра іншае — пра тое, дзеля чаго я, шчыра кажучы, і прамаўляю гэта невялікае слова. Пра тое, што яшчэ у нашым народзе жыве, што яшчэ ў яго духоўным побыце і ў памяці захоўваецца — хоць прызабытае, прымёрлае, прызасыпанае пыламтрухою часу, смеццем модных этыкетак наноснай — і танцавальнай, і песеннай, і бытавой — псеўдакультуры. Пра тое, што ячшэ можна — ячшэ не позна — адшукаць, знайсці і творча выкарыстаць, даць новае, у новых грамадскіх умовах, жыццё, і такім чынам вярнуць народу ягоныя ж скарбы, узбагачаныя талентам новых, маладых пакаленняў.

Фальклорны вечар «Чатыры пары года» вельмі пераканаўча засведчыў, што, па-першае, у народным побыце яшчэ можна апытаць шмат каштоўнага харэ-

аграфічнага і іншага відовішчнага фальклору, — акцэнтую ўвагу на гэтых відах народнай творчасці, паколькі да апошняга часу на Беларусі збіраўся пераважна фальклор вусна-моўны, славесны (казкі, песні, прыказкі і г. д.), а па-другое, што гэты фальклор можна і трэба — абавязкова трэба! — браць на ўзбраенне, каб жывіць ім сучаснае нацыянальнае мастацтва, сучасную духоўную культуру. Нават сціплы студэнцкі канцэрт паказаў, якія багатыя запасы паэзіі, хараства, мастацкай фантазіі ў простых, немудрагелістых народных скоках, абрадах, гульнях, у карагодах і песнях і як усё гэта можа хораша паслужыць эстэтычнаму выхаванню сучаснікаў, калі паставіцца да справы творча, зацікаўлена, з натхненнем, калі кіравацца высокімі патрыятычнымі мэтамі.

Такім чынам, гаворка ідзе пра тое галоўнае, з чаго трэба сыходзіць, вырашаючы пытанні далейшага развіцця нацыянальнай харэаграфічнай культуры на сучасным этапе. Самабытныя, непаўторныя ў сваёй прыгажосці кветкі гэтай культуры могуць прарастаць толькі з роднага долу, падымацца толькі на роднай глебе, у якой бездань спажыўных сокаў — тых, што не дадуць ім зачахнуць, завянуць. Глыбока засвоіўшы гэту зусім не новую ісціну, зрабіўшы яе сваім непахісным перакананнем, творчым прынцыпам, можна гаварыць і пра ўсё іншае, што неабходна ўлічваць і на што трэба звярнуць увагу ў непасрэднай творчай працы са студэнтамі — будучымі мастацкімі кіраўнікамі харэаграфічных калектываў, у дзейнасці галіновай навукова-даследчай лабараторыі беларускай танцавальнай творчасці, якая адкрылася пры Мінскім інстытуце культуры.

У пастаноўках, паказаных удзельнікамі фальклорнага вечара, было багата выдумкі — і ў інтэрпрэтацыі ідэі твора, і ў дэталях пластычнага вобраза, і ў элементах сюжэтных, — выдумкі ўдалай, дасціпнай, вясёлай, часам нават гарэзлівай, аднак такой, што не разыходзіцца з агульным тонам высокай маральнасці

народнага мастацтва. Нідзе і ні ў чым ніякага намёку на пошласць, — і таму на сцэне ўвесь час панавала атмасфера цнатлівасці, свежасці, чысціні, той натуральнай, прыроднай, я сказаў бы, «дзіцячай нявінасці», якая адвеку характарызуе змястоўную сутнасць беларускага фальклору.

Харэаграфічныя кампазіцыі і сцэнкі — творы па сваёй мастацкай прыродзе сінкрэтычныя, якія спалучаюць і пластыку рухаў, і музыку, і міміку, і абрадавае пераапрананне, і элемент гульні, і спеў, і сям-там, сяды-тады — слова. Дык вось наконт слова, дакладней — наконт культуры слова: пра яе трэба клапаціцца гэтак жа, як і пра ўсё астатняе ў пастаноўцы. Пачынаючы з назваў. Калі ўжо гэта творы беларускія і на беларускай фальклорна-харэаграфічнай аснове — то давайце і назавём па-беларуску: не «Івушка», а «Вербачка», не «Танец з крынкай», а «Танец з гладышом» і не «Бабачка», а «Матылёк». Няма ў нашай мове і слова «ражаныя» (па-руску — «ряженые», ад «рядить, наряжать»). На вяселлях пераапранутыя ўдзельнікі абраду называліся ў нас або «цыганы», або «скамарохі» — думаю, што апошняе магло б ужывацца і ў дачыненні да ўсякай іншай гурмы вясёлых пацешнікаў у смешных апратках і масках. Культура мовы — гэта і культура мыслення, і культура працы, вытворчасці, і культура ўзаемаадносін, культура пачуццяў. Тут поўнае, непадзельнае адзінства. Без культуры мовы — адзінства цэлага разбураецца. Аднабокая ж культура — гэта, выбачайце, не культура. Вось чаму выхаванне ў студэнтаў глыбока шаноўных, любоўных і беражлівых адносін да мовы — задача таксама архіважная, жыццёва актуальная ў найвышэйшай ступені.

Усе, без вынятку, кампазіцыі, сцэнкі і танцы фальклорнага вечара «Чатыры пары года» пастаўлены студэнтамі, — вядома, пад кіраўніцтвам і з удзелам выкладчыкаў, прафесійных харэографаў і канцэртмайстраў. Аднак жа студэнтамі — яны і паста-

ноўшчыкі, і выканаўцы. Гэта не можа не радаваць. Таленавітая моладзь ідзе ў мастацтва! Вучыцца, узбагачае сябе ведамі, вопытам, развівае свае задаткі, каб з цягам часу стаць руплівцамі роднай культурнай нівы, панесці «галоўную вахту» на службе народу, Бацькаўшчыне, чалавецтву. Вось чаму, думаючы пра шчыры энтузіязм гэтых маладых людзей і іх настаўнікаў, пра адзіна правільны агульны накірунак іх творчых пошукаў, хочацца ад душы прывітаць іх першыя крокі і выказаць пажаданне-ўпэўненасць: «Працуйма, сябры! Плён будзе, ды яшчэ які плён!..»

# ЗМЕСТ

## I

Масава-палітычнае выданне

Гілевіч Ніл Сямёнавіч

ВЫБАР

Публіцыстыка, выступленні, інтэрв'ю

Рэдактар В. Ц. Вольскі
Мастак і мастацкі рэдактар Г. І. Мацур
Тэхнічны рэдактар і камп'ютэрная вёрстка С. Л. Сармант
Аператар Т. А. Касцяневіч
Карэктары Р. П. Іваненка,
Н. М. Масарэнка, Л. П. Жыткавец

Выданне падрыхтавана да друку
на камп'ютэрнай сістэме выдавецтва «Беларусь».

Падп. да друку з арыгінала-макета 04.10.93. Фармат 70×100 1/32. Папера афсет. Гарнітура тып Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 10,07. Ум. фарб.-адб. 10,4. Ул.-выд. арк. 11,2. Тыраж 5 000 экз. Зак. 5434.

Ордэна Дружбы народаў выдавецтва «Беларусь» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 2. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Друкарня «Перамога». 222310, Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11.